# МАЛАДОСЦЬ

падпісныя індэксы
індывідуальны - 74957
ведамасны - 749572
льготны - 00731
льготны
для настаўнікаў - 00592

ISSN 0131 2308
05/2017

05

Маладосць 05/2017

Таму, хто думае

у нумары:

Пяць стагоддзяў беларускага кнігадрукавання за адзін «маладосцеўскі» год

У кожным нумары 2017-га

Хрэстаматыйнае і малавядомае

Ад Скарыны да...

Спецыяльны праект

# «Варштат»



**АДРАС РЭДАКЦЫІ**
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а. info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Тэл.: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72. maladost@zviazda.by

**http://zviazda.by/be/edition/maladosc**
**Група VK: https://vk.com/club75787481**

*ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ:*

*00592 — індывідуальны льготны для настаўнікаў*

*74957 — індывідуальны*

*749572 — ведамасны*

*00731 — ведамасны льготны*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 16 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп’ютарная вёрстка: *Н.І. САВЕЛЬЕВА*
Дызайн вокладкі: *А.У. ГАЛОТА*
Стылістычны рэдактар: *Г.І. ВЕРАБЕЙ*

Падпісана да друку 16.05.2017. Фармат 84×108 1/16. Папера лёгкамелаваная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк.17,15. Тыраж 1425 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП №02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь

Змест



Кацярына Захарэвіч

## Прызнанне

Маленькая Касечка марыла пра Полацк. Не з'ездзіць у Полацк (бо час ад часу ездзіла туды на экскурсіі). Не жыць у Полацку (бо калі жывеш у горадзе мары, ён пачынае быць горадам школы / працы / дома / слоты / холаду / спёкі, а марыць больш няма пра што).

Касечка марыла пра свой Полацк. Побач. Каб захацеў — адчыніў дзверы, і вось ты ўжо не ў двары свайго дома, апанаванага лужынамі і машынамі, а на вузенькай вулцы Полацка, дзе прыемна-жоўта расплёхваецца сонца і заўсёды камфортныя +23° па Цэльсію. Ці дастаць з кішэні ўласны маленькі Полацк у цёплым шкляным шарыку і глядзець на сонечнае святло і +23°C зверху, назіраць за маленькімі кропачкамі людзей, хацець апынуцца разам з імі ў гэтым шарыку і вар'яцець ад думкі, што для кагосьці, магчыма, і Касечка — такая ж дробная кропка сярод іншых пад шкляной абалонкай.

Але Полацка не было. Дакладней, ён быў недзе далёка, нязменны ў маштабе, і з людзьмі, нашмат бліжэйшымі яму, чым Касечка. Ён быў нібы рок-зорка, якая, здаецца, любіць цябе, як частку натоўпу слухачоў, але абсалютна абыякавая, калі ты адзін.

Як часам здараецца пры неўзаемнасці пачуццяў, паступова Кася адыходзіла ад сваіх мар пра Полацк. Аказалася, што навокал існуюць іншыя гарады, не менш насычаныя жыццём і людзьмі, не менш залітыя сонцам, не менш прыгожыя і часам нават больш перспектыўныя. Новыя далягляды адкрылі новыя мары, а вяршыняй іх стаў Мінск. Колькі сіл прыклала Кася, каб заваяваць гэта непрыступнае сэрца, — не можа падлічыць нават яна сама.

І вось яны побач — Кацярынка і Мінск — ужо шмат гадоў. Касечкіна падлеткава-баязлівае захапленне рок-зоркай з імем Мінск знікла падчас больш блізкага знаёмства. Ён стаў горадам універсітэта / працы / недома / слоты / холаду / спёкі… Заставалася шэрая, як і неба вялікага горада М., звычка быць разам. І надзея: «А можа, ён зменіцца? Можа, я ўсё яшчэ знайду яго сэрца і ўвайду ў яго, займу там сваё месца — цэнтральнае?»

Так працягвалася б бясконца, але Полацк нагадаў пра сябе. Як у лепшых меладрамах: гэта была звычайная працоўная сустрэча. Яна, якую ён памятае нязграбнай дзяўчынкай-падлеткам, вырасла і стала Сабой. Ён — не такая ўжо рок-зорка, як здавалася ёй маленькай. Вулкі былі не залітыя сонцам, а замеценыя снегам, прадзьмутыя ўсімі магчымымі вятрамі. Людзі — звычайныя — у маштабе 1:1, і не хацелася прыдумляць пра кожнага з іх чароўную гісторыю, бо ўжо даўно вядома, што чараўніцтва не існуе.

Але было галоўнае — адчуванне казкі, якую Кася любіла калісьці даўно, якую, думала, забылася, і якую, аказваецца, памятае. Кожнае слоўца, кожны вобраз — памятае. І казка памятае Касю. І Кацярынка зразумела, што пакуль у яе ёсць Полацк, яна можа быць Касечкай — забыцца пра іншыя гарады, пра неабходнасць кагосьці заваёўваць і змагацца за выгоднае месца.

Чуеш, Полацк? Я ўсё яшчэ люблю цябе!




**Канстанцін Касяк**

# У лабірынце нельга рухацца назад...

Мне ўвесь час муляе адна тэма, ад якой я ніяк не магу пазбавіцца, — Власт з яго неразгаданай фантазіяй «Лабірынты». Простая, але разам з гэтым вельмі ёмістая назва. У ёй наша ўсё…

І тут нават не толькі і не столькі пра сюжэт гэтай аповесці, якую ўсе ахвочыя ўжо прачыталі ўдоўж і ўпоперак, колькі пра саму сітуацыю. Гэты твор бадай што самы знакаміты з яго творчай спадчыны і найбольш чытаны. Там і цікавы сюжэт, і недаказанасць, і гульні з чытачом. Сумняваюся, што нехта, акрамя адмыслоўцаў або вельмі апантаных, возьмецца таксама чытаць «Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі» або пачне вывучаць слоўнік, ім складзены.

Ластоўскі, відавочна, быў дэміургам, які ствараў тое, чаго не хапала ў нашай літаратуры. А калі глядзець шырэй, то і ў культуры. Я думаю, што каб Власта з яго неверагоднымі здольнасцямі скінулі з парашутам над якой-небудзь далёкай зямлёй, заселенай невядомымі плямёнамі, дзе не бывала нага белага чалавека, дык ён бы лёгка, пазнаёміўшыся са звычаямі абарыгенаў, стварыў ім «з нуля» адметны культурны пласт, а мо нават і дзяржаву.

Ластоўскі быў шматстаночнікам: мог пісаць і прозу, і вершы, і эсэ, і артыкулы. І чым глыбей цікавішся яго спадчынай, тым болей разумееш, што яна сама па сабе ўжо і ёсць лабірынт. У які ты ўвайшоў доўгачаканым госцем.

Спачатку падаецца, што ўсё вельмі проста і зразумела, адназначна і прадказальна. Як у іншых. Але з кожным новым крокам наперад узнікае адчуванне, што насамрэч ты не ведаеш нічога. Ці амаль нічога.

Гісторыя Беларусі агулам, ды гісторыя Власта ў прыватнасці, гэтым і цікавыя: на паверхні ляжаць толькі простыя рэчы. Гэта, як уваход у той лабірынт: дзверы бачаць усе, але не кожны адважыцца ў яго зайсці. Тэма старая, праверaная, яшчэ з часоў Старажытнай Грэцыі. Да канца дойдуць тыя, хто не шукае простых адказаў.

Власт згадваецца ў маіх тэкстах вельмі часта, пра яго я напісаў болей, чым пра каго іншага. Здаецца, і яго літаратурную спадчыну перачытаў ужо ад вокладкі да вокладкі, але ўсё адно знаходзіцца нешта новае. Невялікія дэталі, дзякуючы якім збіраецца пазл.

З нашага часу добра бачныя памылкі, якія ён зрабіў у сваіх тэкстах. Часам можна нават вызначыць, свядома гэта было зроблена, наўмысна або не. Як-ніяк самавук. І здавалася б, можна было б ужо і супакоіцца, сказаць «Бывай, Ластоўскі!», але нешта прымушае зноў чытаць яго і пра яго, наведваць мясціны, дзе ён бываў.

Памятаю, гадоў пяць таму, як прыехаў у Вільню, першым чынам пайшоў па «беларускіх» мясцінах. Усе яны так ці іначай звязаны з ім. Пра гэта я напісаў потым тэкст «Па слядах

> Власт ехаў у савецкі Мінск з Коўна цягніком праз Рыгу, таму, канешне ж, адзначыў у сваім травелогу і Полацк, і Віцебск. У апошнім на вакзале ён убачыў, як маленькі хлопчык, чакаючы свой цягнік, робіць хатняе заданне: вучыць на памяць верш Якуба Коласа «Маці»

З Властам Полацк павязаны вельмі моцна: адсюль ідзе і яго Крыўя, якую ён разглядаў у якасці магчымай альтэрнатывы, тут разгортваюцца падзеі яго «Лабірынтаў», тут ён у мясцовым ГПУ адшукаў Крыж Ефрасінні Полацкай

Ластоўскага», які быў надрукаваны ў «Маладосці». Потым было Коўна — горад, дзе ён выдаў «Крывіча». Часовую літоўскую сталіцу я пабачыў праз дзевяноста гадоў пасля таго, як Власт там запачаткаваў свой легендарны часопіс. Выдатнае месца для чалавека, што вырашыў засяродзіцца на культурнай і навуковай дзейнасці. Аздабленнем яго прац, у прыватнасці «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі», займаўся сусветна вядомы руска-амерыканскі мастак Мсціслаў Дабужынскі. Ён у той час таксама жыў у Коўне, а памёр ужо пасля вайны ў Нью-Ёрку.

Асабіста мне ковенскі перыяд жыцця Власта бачыцца найбольш значным і прадуктыўным у ягоным жыццяпісе. Менавіта тады ж і з'явіліся «Лабірынты» — у другім нумары «Крывіча»…

Акрамя гэтай фантастычнай аповесці, мне вельмі падабаюцца ўспаміны Ластоўскага пра паездку ў БССР, калі ён наведаў знакамітую моўную канферэнцыю ў 1926 годзе ў Мінску. «Нарабіў слядоў» тады шмат, паспеў пабываць і на святочным вечары ў Якуба Коласа, які адзначаў 20-годдзе сваёй творчай дзейнасці.

Власт ехаў у савецкі Мінск з Коўна цягніком праз Рыгу, таму, канешне ж, адзначыў у сваім травелогу і Полацк, і Віцебск. У апошнім на вакзале ён убачыў, як маленькі хлопчык, чакаючы свой цягнік, робіць хатняе заданне: вучыць на памяць верш Якуба Коласа «Маці». Мо ў гэты самы момант Власт і захацеў вярнуцца на Радзіму? Тым больш над яго галавой хмары ў Літве ўжо згушчаліся…

Полацк… Наш старажытны беларускі горад. Наша крыўская Мекка. Шчыра не разумею, чаму так называюць Вільню. Да сапраўдных крывічоў яна мае вельмі аддаленае дачыненне. А з Властам Полацк павязаны вельмі моцна: адсюль ідзе і яго Крыўя, якую ён разглядаў у якасці магчымай альтэрнатывы, тут разгортваюцца падзеі яго «Лабірынтаў», тут ён у мясцовым ГПУ адшукаў Крыж Ефрасінні Полацкай, калі ўжо перабраўся ў БССР на сталае месца жыхарства.

Як бы хто яму падказаў, дзе шукаць. Толькі ўявіце сабе: у сакавіку 1927 года Власт пераязджае ў Мінск, атрымлівае добрыя пасады, пачынае працаваць, а потым імчыцца ў Полацк, дзе знаходзіць Крыж. Проста неверагодна! У 1928-м ён вяртае Крыж, які праз год перадаюць ужо ў Беларускі музей у Магілёве.

Але ж гэта не апошняя загадка. У сваіх успамінах пра візіт у сталіцу савецкай Беларусі Ластоўскі добра апісаў усе тагачасныя падзеі, працэсы, асоб і установы. БДУ, Інбелкульт, Маладняк і гэтак далей. Шмат карыснай і цікавай інфармацыі. Забыўся (а мо і не ведаў) адзначыць, што ў Ленінскай бібліятэцы ў вольным доступе былі нумары часопіса «Крывіч». Пра гэта ў сваіх успамінах згадвае іншы вядомы гісторык — Мікалай Улашчык, што з'яўляецца таксама добрым паказчыкам атмасферы таго часу.

Але самае неверагоднае — гэта калі даўні знаёмы нечакана піша табе, што бачыўся і гаварыў з унукам Власта. І скідвае спасылку на яго старонку ў Facebook. Аказваецца, жыве сабе ў Вільні дзядок, знаны навуковец, даследчык. І проста не верыцца, што ён змог ацалець пасля ўсіх рэпрэсій.

Глядзіш фота, профіль, лайкі ставіш. Дадаць у сябры неяк не адважваешся. Усё ж гэта не абы-хто, а унук самога Ластоўскага! Сын дачкі Власта ад першага шлюбу. Яна, дарэчы, напісала аўтабіяграфічны раман пра сваё няпростае жыццё. Талент ёсць, бо яе маці — знакамітая літоўская дзіцячая пісьменніца Ладзіну Пяледа. У рамане дачка Власта згадала, канешне, і свайго бацьку. Шкада, няма перакладу гэтай кнігі хаця б на рускую мову. Яе і ў электронным выглядзе знайсці немагчыма, хіба што адшукаць у якой букіністычнай краме ў Вільні чарговым наездам. Выдавалася яна даўно — у 1990-я.

Але арыенцір зададзены. Чым далей чытаеш, камунікуеш, цікавішся, тым болей ясная карцінка. І асэнсаванне таго, што **ў лабірынце нельга рухацца назад...**



### Яна Мусвідас

## «Маё сэрца, аста ла віста»

«Пераезд» — ад аднаго слова кідае ў дрыжыкі. За мае дзевятнаццаць гадоў я змяніла каля пятнаццаці кватэр (плюс/мінус дзве). Можна падумаць, што я з сям'і ваенных, але справа зусім не ў гэтым.

Мае бацькі працуюць у галіне культуры, і нашы пераезды звязаны з іх дзейнасцю толькі часткова. Паглыбляцца ў падрабязнасці кожнай «перапраўы» не хочацца, але ўсё ж яркія моманты я вылучу. Самым складаным і глабальным быў пераезд з Брэста ў Мінск. Мне тады было восем гадоў. Памятаю, як на велізарнай фуры наша сям'я пераадольвала кіламетры да новага гняздзечка.

На долю жыцця ў Мінску прыйшлося ўсяго пяць кватэр, і тое крайнія дзве змясціліся ў апошнія восем месяцаў. Аб гэтым перыядзе свайго жыцця і яго ўнутраных перыпетыях я і распавяду ніжэй.

Нягледзячы на частую змену жылля, я заўсёды жыла ў цэнтры горада, Брэст гэта быў ці Мінск. Раён быў заўсёды адным з прынцыповых пытанняў. Гэта ж так зручна — выйсці з кватэры і ў лічаныя хвіліны апынуцца ў «сэрцы» горада, плюс у такіх мясцінах заўсёды выдатная інфраструктура і асвятленне вуліцы 24/7. Я думала, што нішто і ніколі не зможа прымусіць мяне пакінуць мой любімы цэнтр. Але, як сцвярджае рускі выраз: «Любовь зла». Мой малады чалавек не аматар «твару» сталіцы.

Варта прызнацца, я вельмі доўга настойвала на сваім, патрабавала ўтульную кватэрку дзенебудзь у раёне Нямігі ці хаця б побач з цэнтральнай часткай праспекта Незалежнасці. Замест аргументаў я толькі распавядала пра эпізод з майго любімага серыялу «Секс у вялікім горадзе», дзе адна з гераінь — Міранда — са слязамі на вачах пакідае сваю невялікую стыльную кватэрку ў чароўным Манхэтане дзеля сямейнага дома ў Брукліне. Мая змена станцыі метро «Якуба Коласа» на «Партызанскую» здавалася не меншай трагедыяй.

У Заводскім раёне, дзе асноўная славутасць — універмаг «Беларусь», я пражыла нядоўга — усяго паўгода. Мы з маім маладым чалавекам загадзя ставіліся да гэтай кватэры як да перавалачнай станцыі, таму што яна засталася ў свой час адзіным варыянтам. Мы пераязджалі ў канцы жніўня: у гэты сезон усё іншагароднія студэнты шукаюць сабе кватэры, і сярод гэтай канкурэнцыі простая маладая мінская пара не знайшла больш цікавага варыянта.

Наступны наш пераезд прыйшоўся на сакавік. Цяпер да выбару раёна мы падышлі куды больш адказна. Я ўсё яшчэ мроіла пра цэнтр, пакуль рыэлтар прапаноўваў утульныя аднапакаёўкі ў «элітным» мікрараёне Лябяжы. «На што мне ваша элітнасць, — думала я, — калі побач нават метро няма і мой хуткі шлях у горад пад пытаннем». Ніякія Лябяжыя мяне дакладна не задавальнялі.

Такім чынам, я апынулася ў самай Каменнай Горцы нашага горада. Змяніла сэрца на менш душэўную частку цела. Затое да метро 30 секунд, новы дом абаронены плотам з відэаназіраннем і паркоўкай, а не як тыя сведкі савецкага часу, якія так мяне прыцягвалі ў цэнтры. Прадала душу за камфорт? Не думаю, я б і сёння з радасцю вярнулася ў «сэрца» Мінска, нягледзячы на нянавісць да пераездаў, але я аддала перавагу каханаму сэрцу і цяпер яно побач са мной на дзясятым паверсе, у кватэры з трохзначным нумарам, за трывалымі металічнымі дзвярыма.



**Ігар Палынскі, журналіст, лідар рок-гурта «Sumarok»**

# «за кліента поле заару» ці «прыпаўзуць, нікуды не падзенуцца?»

**сёння будзе злы тэкст. ну, як злы — злаваты. але са спадзевам на зрухі да лепшага. магчыма, вы скажаце: разбубнеўся!.. але, на маю думку, тэма, на якую мы зараз паразважаем, неверагодна важная.**

карацей, перадгісторыя. мая жонка заўсёды хацела швейную машынку. і тут — акцыя ў адной з сетак электратавараў: за прыстойныя грошы прадаецца някепскі апарат, які пастаўленым задачам адпавядае.

прыйшлі туды, і здалося, што мясцовыя кансультанты зробяць абсалютна ўсё, абы прыцягнуць тваю ўвагу. космас! выйшлі з вялікай каробкай і спусцелым гаманцом. бонусам яшчэ іголак нейкіх далі, зніжкі на ніткі прапанавалі… мы задаволены, гаспадары ў прыбытку.

час ішоў, іголкі ламаліся, ніткі скончыліся… пайшлі ў адну з універсальных крам, што ў нашым горадзе. вельмі папулярную, варта сказаць! там усялякія такія штукі прадаюцца. а жонка мая сама ж толькі пачала ў гэтай справе разбірацца, і, вядома, ёй спатрэбілася кансультацыя.

настолькі незадаволенага позірку я ніколі не бачыў! увесь выгляд паненкі, што стаяла за прылаўкам, яскрава дэманстраваў: «адваліце ад мяне! дайце спакойна дастаяць сорак хвілін да заканчэння змены! не чапайце! прэч!..»

але нам патрэбны быў тавар. нібы абцугамі мы выцягнулі з прадаўшчыцы інфармацыю і набылі тое, што трэба.

гаспадары той крамы, мяркую, зацікаўлены ў тым, каб пакупнікі нешта ў іх набывалі, а ў ідэале — вярталіся зноў. ды нешта такога жадання не ўзнікла. лепей скатацца ў суседні горад, дзе ў адным з гандлёвых цэнтраў у маленькім шапіку працуюць дзве жанчыны, якія раскажуць усё, што ведаюць, — толькі пакажы зацікаўленасць. яшчэ і пра навінкі раскажуць, добрага дня пажадаюць, а ў наступны раз — прыгадаюць і нават зніжку зробяць…

тая ж сітуацыя і са, скажам, запраўкамі. за стырном я адносна нядаўна, а ў розных сетак — розныя правілы, паспрабуй ты ўсе ведаць адразу. толькі ў адной персанал зробіць усё, каб ты вярнуўся: патлумачаць на пальцах, пра дысконтныя праграмы раскажуць, кавы прапануюць, а ў іншай у адказ на пытанне, як працуе падпампоўка шын, паглядзяць, бы на недалёкага.

дзе ж нестыкоўка ў стасунках прадаўца і пакупніка? трапна на гэта пытанне адказала жанчына, з якой мы сутыкнуліся ў дзвярах той, другой, крамы. «панабіраюць па абвестках!» — бурчэла яна пад нос, маючы на ўвазе, вядома, персанал. гэта не проста не заахвочаныя ў добрых продажах людзі — выглядае, што яны шчыра ненавідзяць сваю працу. вось і атрымліваецца, што ў Беларусі, у самым сэрцы Еўропы, адчуваеш сябе лішнім там, дзе павінен быць цэнтрам мікрасусвету, абмежаванага тэрыторыяй пэўнай гандлёвага аб’екта.

іншая сітуацыя ў той, першай, краме, дзе мы набывалі саму машынку: тэматычных крам у рэгіёне болей чым дастаткова, канкурэнцыя вялікая, менеджары гэта разумеюць, таму і прымаюць на працу людзей адэкватных, вучаць іх, як трэба весці гутарку з кліентам. няхай іх усмешкі штучныя, добразычлівасць вышкаленая, аднак з такой крамы ты і сам выйдзеш з усмешкай.

а ўявіце, што будзе, калі ўсе вакол будуць усміхацца!..

p.s. прыгадаўся яшчэ выпадак. паўстала патрэба набыць абутак, зайшоў у краму — таксама адну з вялікай сеткі. кансультантка была настолькі ветлівай, што не вытрымаў — папрасіў на выхадзе кнігу скарг і прапаноў. прынеслі імгненна, але тут жа побач з’явілася і менеджар: «можа, мы вырашым пытанне без запісу?» я толькі ўсміхнуўся і напісаў у кнізе шчырую падзяку супрацоўнікам крамы з прапановай матэрыяльна заахвоціць кансультантку, што абслугоўвала мяне, бо гэта было натуральна крута. сябры, ведаю, што і вы нярэдка кажаце: «вось гэта сэрвіс!» не цурайцеся напісаць пра гэта ў кнізе. яны робяць нам прыемна — давайце будзем рабіць прыемна ім.



**Дзмітрый Шулюк**

# Права выбіраць

*Кожны чалавек мае права на свабоду перакананняў і на свабоднае іх выражэнне; гэта права ўключае свабоду бесперашкодна прытрымлівацца сваіх перакананняў і свабоду шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю і ідэі любымі сродкамі і незалежна ад дзяржаўных граніц.*

Я хачу нагадаць вам, што нікога не прымушаю верыць мне. Мае думкі, высновы, светабачанне нічым не лепшыя за вашы думкі, высновы, светабачанне. Я агучваю свае. І не перашкаджаю вам агучваць свае ў адказ. Гэта ваш выбар. Вы выбіраеце, што чытаць, як чытаць, ці прымаць прачытанае ў сваё жыццё, ці не. Вы выбіраеце ці рэагаваць, ці не. А з другога боку старонак выбіраю я. Якія кавалачкі для тэксту ўставіць са сваіх успамінаў, якія — прыдумаць, якую музыку згадаць, як. Гэты раз я выбраў «Гражданскую оборону», бо… у мяне ёсць права выбіраць.

Достойна доля того, кто правый.
Широкий выбор, благое благо.
Вершить заслоны, смотреть под ноги
И оставаться стерильным гостем.

Права выбіраць пачынаецца не адразу. Адразу цябе кідае ў павуцінне абставін. Ты не выбіраеш краіну, у якой нарадзіўся. Не выбіраеш прозвішча. Не выбіраеш сям'ю. Гэта дэтэрмінаваная частка цябе. І з гэтай часткі, з гэтага павуціння пачынаецца твой шлях. То бок, тое, што ты не выбіраеш кропку адліку, не ўплывае на тваё магчымасці выбіраць далей. Пастаянна выбіраць. Адзін з галоўных выбараў — гэта выбар для сябе наяўнасці выбара. Зразумела, што вакол заўжды іншыя людзі, правілы, часам стэрэатыпы, часам рэлігійныя догмы, прыродныя катаклізмы, эканамічныя і палітычныя дотыкі і пранікненні. Гэта ўсё сціскае маштабы выбару. Сціскае так, што з'яўляюцца гіпотэзы адмаўлення ад свабоднай волі і пакланенне лёсу і прызначэнню. Сціскае так, што рукі падаюць уніз і больш не могуць падняцца. Жыццё ператвараецца ў ціхія крокі па дарозе з шэрай цэглы.

Стихнет ли вой — дождик пошёл.
Словно зимой, всё — поперёк.
Кашель повис чёрной струёй.
День по колено увяз в немоте.

У адзінаццатым класе я прызнаўся, што пішу вершы. Я не мог гэта больш утрымліваць у сабе. Я напісаў вершык аднакласніцы. Прыгожай. Шэравокай. Яна была здзіўлена. Усе былі здзіўлены. Яна была задаволена. А мне падалося — гэтага мала. Я хацеў знайсці сваю музу. Тую, каму буду пісаць верш за вершам, песню за песняй. З кім буду гуляць вечарам, ноччу, пад зорным небам ці месячным святлом. На ролю музы ў мяне была падрыхтавана дзяўчына з дзясятага класа. Яна мне вельмі падабалася знешне. З амаль першага позірку. З першага свядомага позірку. З таго позірку, пасля якога я спытаў, хто гэта. Тады я быў у сёмым класе. Сваё рамантычнае захапленне я насіў у сабе чатыры гады. Прыкладна столькі ж часу я насіў у сабе тайну пра тое, што спрабую пісаць.

Пули сильнее великих умов,
Ржавые гвозди сильнее пророков,
Палые листья сильнее ветвей.

Заставалася некалькі месяцаў вучыцца ў школе. Усяго некалькі месяцаў выпадковых нямых сустрэч у калідоры і пастаянных пошукаў-позіркаў. Напэўна, у мяне быў выбар. Пакінуць гэта юнацкай рамантычнай марай ці зрабіць крок і праверыць сябе і свет на наяўнасць жыцця. Я праверыў. Я падышоў да яе і сказаў, што пішу вершы. Спытаў, ці дазволіць яна мне напісаць пра

яе. Дазволіла. У гэты ж вечар я спісаў так званымі вершамі цэлы дванаццаціаркушны сшытак. Я быў задаволены. Я не быў шчаслівы. Зараз я гэта ведаю. Тады не ведаў. Не ведаў, што знайсці прадмет для сваіх пачуццяў/эмоцый — гэта яшчэ не шчасце. Не ведаў, што пачуць пасля ад сяброўкі гэтага прадмета: «У неё есть парень», — не гора. Я стварыў ілюзію для сябе, зрабіў да яе крок — і яна не знікла. Зрабіў другі і атрымаў урок. Важны ўрок. Я мог бы жыць далей і згадваць гэту ілюзію, песціць яе. Але я выбраў шанец атрымаць шанец альбо атрымаць пляскач. Атрымаў.

Они сражались за Родину —
Свирепо целовались на виду у всей
Вселенной,
Бродили, яко по суху, по талой воде,
Сеяли зной, пожинали апрель.

Я не выбіраў, каб у мяне была старэйшая сястра і малодшы брат. Я не выбіраў першую свядомую частку жыцця ў вёсцы. Не выбіраў, каб мяне хрысцілі ў каталіцкім храме. Не выбіраў першую і наступных настаўніц і настаўнікаў, і выкладчыкаў, і аднакласнікаў. Я шмат чаго не выбіраў. Як і вы. Але хоць я і не выбіраў гэтыя краявіды, гэта неба, гэты вецер, я выбіраю, куды ісці: супраць ветру ці з ім. Я выбіраю, калі мне глядзець на неба і якім яго бачыць. Я выбіраю наступны арыенцір на даляглядзе. За даляглядам. Я выбіраю кожнае слова на гэтай старонцы.

Забудем на время и выключим день.
Закружится небо в высокой траве.
И кто-то тихонько заплачет внутри.
Пусть ветер поганит мои волоса.
Другие деревья по горло в воде.
Какое мне дело — я буду молчать.

Права выбіраць. Яно пачынаецца ўжо там, дзе гучыць права на жыццё. Кожны чалавек кожнае імгненне свядома ці падсвядома робіць выбар. Выбірае жыць далей. Ці не. Гэта гучыць не вельмі прыемна. Але толькі для тых, хто не выбірае, хто абавязаны аддаць свой выбар абставінам вакол. Абмежаваць яго выбарам ежы і вопраткі. Выбраць можна выбраць любую новую галіну ведаў ці новы занятак і навучыцца гэтаму чаму-небудзь з дапамогай бясплатных курсаў ці матэрыялаў з публічных бібліятэк. Выбраць новую мову для вывучэння. Выбраць… Толькі адразу патрэбна выбраць. Выбраць цяжкае рашэнне ісці не па шэрай цэгле, а па вясёлцы. Думаць кожнае імгненне. Верыць у сябе. Выбраць цяжкае рашэнне: прыняць на сябе адказнасць за сваё жыццё.

Мой разум оказался в тупике.
Он надоел, как день и ночь.
И я его швырнул куда-то прочь,
Как бумеранг, как женский вой.

Завяршаўся мой апошні школьны навучальны год у якасці настаўніка. Я яшчэ не ведаў, што ён апошні. Бо я не ведаў, куды мне пайсці. Не ўяўляў. Год за годам я заставаўся тут працаваць па той самай прычыне. Страх. Я баяўся ўзяць на сябе гэты крок. Гэту рызыку. Сысці ад таго, што ёсць. Туды, дзе, магчыма, нічога няма. І мне было яшчэ не сорак гадоў, нават не трыццаць. Страх перад выбарам прыходзіць не з узростам, ён на працягу ўсяго жыцця побач. Чакае, пакуль ты прывыкнеш. Прывыкнеш да гэтага жудаснага жытла, да гэтых калег, якія збольшага людзі нядрэнныя, але далёкія табе, да гэтай загружанасці, якая забірае ўсе думкі пра тое, што можна жыць. Я прывык. Я баяўся адыходзіць ад гэтай кармушкі з сенам на пошукі ўяўнай зялёнай травы. Але я адышоў. Зараз я ў Мінску. Зараз я пішу. Калонку, прозу, паэзію. Зараз мне не трэба шукаць час для творчасці, бо гэта частка маіх абавязкаў. Я выбраў тое, што я люблю. Я выбраў: ісці са сваім ветрам. Я выбраў пяшчотна кранаць плямісты твар сонца сваімі пальцамі. І абставіны пайшлі мне насустрач.

*«Гражданская оборона» — савецкі, а пасля расійскі панк-гурт. Вельмі вядомы гурт. Таму замест даведкі яшчэ адна цытата:*

*Я всё это видал и слыхал уже не раз.*
*Я сугубо наблюдал, закрываясь лицом.*
*И все песни мои одинаковые*
*И похожи на гражданскую оборону...*



**Анхела Эспіноса Руіз**

# Ідыёты

У мяне заўжды была безліч праблем са сном, з ранняга дзяцінства. Бацькі распавядаюць (не без пэўнага гневу), што я цэлыя тры месяцы пасля нараджэння практычна не спала, а ўсё дзяцінства то гаварыла ў сне, то хадзіла, нават на піяніна аднойчы грала. Альбо папросту не спала.

У дарослым узросце, вядома, сітуацыя не палепшылася, а нават наадварот, і з падлеткавых гадоў увайшлі ў спіс балячак вельмі рэалістычныя сны, добрыя і кепскія, якія перашкаджаюць адпачываць як след. Гэтыя сны бываюць вельмі розныя: то фантастычныя, то настальгічныя, то з рамантычна-эратычнай катэгорыі. Чалавек я... Як вам сказаць? Па-руску кажуць «з прыветам», а я прызнаюся, што «са шчырай павагай і найлепшымі пажаданнямі ад мяне і ўсёй нашай сям'і вітае вас сардэчна ваш пакорны слуга». Сны, такім чынам, не заўсёды адэкватныя і разумныя, што я зараз дакажу.

Жыў аднойчы чалавек, у якога я жарстна (і, на вялікі жаль, дурнавата) закахалася пасля жахлівага безэмацыйнага перыяду. У той час я была падобна да шэрых камянёў. Не хачу гаварыць пра гэты перыяд — гэта сорам для паэткі. Закаханасць у гэтага чалавека пачалася з гульні прыгожых слоў. Гэта быў калега, таму гульня выходзіла зусім неблагая, і словы хутка згарэлі на паперы, згарэлі і мы, планавалі, дзе бачыцца ды як, што было вельмі складана... Гісторыя тая скончылася часовай трагічнасцю. Мы сябруем. Дык сніўся мне гэты чалавек нядаўна, нягледзячы на тое, што ў мяне з'явілася нетрагічнае каханне, настолькі жарстнае і пяшчотнае, наколькі і разумнае. Вернасць высока знаходзіцца ў маёй маральнай сістэме, але сны мы не кантралюем. Сніўся колішні аб'ект кахання ў пустым тэатры класічнага стылю: прыгожая драўляная сцэна, чырвоныя крэслы, а над намі — зорнае неба. Відаць, па-першае, тэатр знаходзіўся ў далёкай вёсцы, бо нават не памятаю, калі — гарадская ў чацвёртым пакаленні — апошні раз бачыла такую колькасць зорак, разам узятых. Па-другое, можна падумаць, што падчас еўрарамонту забылі столь дабудаваць. Значыць, сядзім мы побач у чырвоных крэслах і размаўляем. Згадвае ён трэцяга чалавека, маўляў, блізкага сябра, які адкрыў яму праўду пра жыццё: мы з ім, закаханыя, што не бачыліся ўжывую ніколі, у сусвеце, як дзве каметы, якія сустракаюцца ў цемры ночы; з зямлі падаецца, што пара нябесных цел цалуецца, — прабачце за лішнюю лірычнасць, я цытую чалавека, які гэта гаварыў у сне, — а насамрэч паміж імі некалькі тысяч светлавых гадоў: каметы ніколі не сустракаліся і ўжо не сустрэнуцца. Пасля гэтых слоў я перасела да яго ў крэсла (дакладней, да яго на калені), а на маё пытанне, ці не раблю я яму балюча, ён мяне пацалаваў. Я так разумею, не балюча. *Et puis l'amour a fait le reste.* Каханне скончыла сваю справу. І я прачнулася. Вось вам прыклад таго, чым займаецца мая фантазія, калі я сплю.

Змест гэтых сноў — не адзіная праблема майго адпачынку. Нашмат горш, калі прачынаюся ад вельмі інтэнсіўнага сну, а яго ўвогуле не памя-

Чалавек я... Як вам сказаць? Па-руску кажуць «з прыветам», а я прызнаюся, што «са шчырай павагай і найлепшымі пажаданнямі ад мяне і ўсёй нашай сям'і вітае вас сардэчна ваш пакорны слуга»

Сніўся колішні аб'ект кахання ў пустым тэатры класічнага стылю: прыгожая драўляная сцэна, чырвоныя крэслы, а над намі — зорнае неба. Відаць, тэатр знаходзіўся ў далёкай вёсцы, бо нават не памятаю, калі — гарадская ў чацвёртым пакаленні — апошні раз бачыла такую колькасць зорак, разам узятых

таю, як здарылася ўчора. Пятая гадзіна раніцы, я ў ложку, ледзь дыхаю (ад страху? ад жарсці?), а што было — не памятаю. Затое перад тым, як я заснула зноўку, у маёй галаве нарадзілася думка, якой я не магу пазбавіцца. І не да канца хачу пазбавіцца, бо я палічыла яе вартай калонкі ў часопісе *Маладосць*: ідыётаў на свеце ёсць два тыпы. Папрашу, вядома, не крыўдзіцца, калі нехта пазнае сябе ў любым з іх. Вы чыталі *Ідыёта* ці *Сон смешнага чалавека* Дастаеўскага? А *Дон Кіхота* чыталі? Аднаго пошуку ў інтэрнэце дастаткова, каб пераканацца, што да ідыётаў я стаўлюся прыхільна. Такім чынам, якія ідыёты сустракаюцца? Выглядае класіфікацыя, на маю думку, прыкладна так:

1. Ідыёт, які ўсё ж такі паспрабаваў. Гэты ідыёт жыве ў памежжы між дзвюма ўзаемазалежнымі дзяржавамі: Геройствам і Вар'яцтвам. Я упэўнена, што вы разумееце, пра каго я пішу. Гэта той ідыёт, які паверыў у свае сілы, а сілы яму здрадзілі. Альбо чалавек. Альбо лёс. «Якім жа я быў ідыётам. Памыліўся».

2. Ідыёт, які пабаяўся паспрабаваць і не зрабіў гэтага. Чалавек-пытанне, які, верагодна, ніколі не даведаецца, ці ўпусціў шанец свайго жыцця, ці пазбегнуў вялікай бяды. Вядома, некаторыя людзі адчуваюць страх перад кожным крокам, але часта гэтыя, так бы мовіць, ідыёты — людзі са стабільнай псіхікай, перад якімі ставіцца пытанне жыцця альбо смерці. Не кожны народжаны стаць героем. Гэта я зразумела пазней.

Мяне з малога навучылі думаць, што першы ідыёт меней ідыёцкі за другога, бо ён ведае адказ на сваё пытанне і не шкадуе, што згубіў магчымасць нешта зрабіць заўчасна. Вучылі думаць, што трэба заўсёды спрабаваць, бо «а раптам атрымаецца», бо «адмова ў цябе ужо па дэфольце ёсць, а раптам атрымаеш згоду». Ніхто не казаў, з іншага боку, пра складанейшыя выбары ў жыцці. Пра выбары, якія уплываюць на жыццё іншых, блізкіх нам людзей, а не толькі на нашу долю. Каб раней папярэдзілі, жылося б мне нашмат лягчэй, чым было. Таму я тут і папярэджваю: не ўсё так адназначна, не варта так сурова асуджаць іншых ідыётаў.

Я ідыётка першага тыпу. Прабачце за непрыгожае гучанне гэтага сказа. Я лятаю адна ў далёкія краіны з 15 гадоў. Я тая дзяўчына, якая падумала: «А я стану беларускім філолагам», кінула сваё іспанскае жыццё і пераехала ў Варшаву ў магістратуру (невядома, наколькі перспектыўную). Я сабралася да гэтага каханка, так! Думала з'ехаць хто ведае куды, зайсці ў мясцовы ЗАГС, шукаць працу, дзе яе няма, і змагацца з сотняй праблем (хаця паспяхова, мабыць, ігнаравала гэтыя праблемы, калі прымала рашэнне). Сам каханы вагаўся, баяўся цяжкасцей. Не цяжкасцей у сваім жыцці, а ў маім. Гэта доўгая гісторыя са шматлікімі нюансамі. А я вырашыла збегчы да яго ўсё адно! Ідыятызм.

А ведаеце, як гэта скончылася? Прадчуваеце? Я разабралася, калі ў нас з'явіліся сілы сябраваць зноў (дужа цёпла і проста добра выйшла, дарэчы): ён упусціў шанец сустрэць мяне і трымаць у руках. Я абавязана апісаць гэта без падрабязнасцей з-за павагі да яго, таму толькі скажу, ён схлусіў мэтанакіравана, што я не патрэбна. Каб не нашкодзіць мне і маім агульным магчымасцям у жыцці. А я паступіла вучыцца ў Варшаву.

Ведаеце, я хваравіта шчыры чалавек. Разумею, што хлусня патрэбна на свеце, але я з цяжкасцю разумею, калі яна неабходна. Хлусіць я не люблю: рукі ў поце, галава ў дрымоце, сэрца б'ецца з хуткасцю святла, а потым віна месяцамі не адпускае. Але рэтраспектыўна... Так, я разумею, навошта схлусіў мой самы дарагі ідыёт другога тыпу. А сёння я магу сказаць, што я яму нават крыху ўдзячная, бо мне ўсміхнуўся лёс. Можа, не ідыёт.

У маёй галаве нарадзілася думка, якой я не магу пазбавіцца. Бо я палічыла яе вартай калонкі ў часопісе Маладосць: ідыётаў на свеце ёсць два тыпы



**Святлана Курганава**

## Стаць чалавекам

Ён — знакаміты амерыканскі фантаст, які нарадзіўся ў вёсцы Пятровічы Горацкага павета Смаленскай губерні. Першапачаткова прозвішча яго сям'і гучала як Озимовы. А ў Амерыцы ён стаў Айзэкам Азімавым — адным з Вялікай Тройкі пісьменнікаў-фантастаў Залатога стагоддзя фантастыкі.

Гэта мэтр, творы якога трэба прачытаць, каб зразумець, што такое фантастыка таго перыяду.

У той час немагчыма было быць проста пісьменнікам-фантастам. Пісьменнік-фантаст — гэта навуковец, радзей аматар навукі. Азімаў скончыў хімічны факультэт Калумбійскага універсітэта, імкліва атрымаў навуковую ступень і ў 1979 годзе стаў прафесарам у сваёй альма-матэр.

Першыя апавяданні Азімаў прыносіў Джону Вуду Кэмпбэлу — рэдактару часопіса «Astouding SF» і свайму будучаму сябру. Рэдактар *ствараў* фантастаў таго часу, літаральна выгадоўваў пісьменнікаў — паступова, па адным радку, па адным тэксце. Цяпер мы ведаем Азімава як Мэтра з Тройкі Вялікіх. Але Кэмпбэл адхіліў першыя восем яго прац. Што не сапсавала іх адносін, між іншым.

Доўгае жыццё — не шчасце, калі побач ужо не засталося нікога з тых, хто быў блізкі. Калі, вядома, у робата могуць быць блізкія

Айзек Азімаў — стваральнік трох законаў робататэхнікі, якія сталі пастулатамі ўсёй навуковай фантастыкі:

1. Робат не можа нанесці шкоду чалавеку або сваёй бяздзейнасцю дапусціць, каб чалавеку была нанесена шкода.

2. Робат павінен падпарадкоўвацца ўсім загадам чалавека, акрамя тых выпадкаў, калі гэтыя загады супярэчаць Першаму Закону.

3. Робат мусіць клапаціцца пра сваю бяспеку ў той меры, у якой гэта не супярэчыць Першаму або Другому Закону.

Сфармуляваў гэтыя законы менавіта Кэмпбэл, абапіраючыся на творы Азімава пра робатаў. Праўда, абодва ўпарта саступалі аўтарства адзін аднаму.

Яго першым апавяданнем пра робата быў «Дзіўны прыяцель». Затым ён напісаў яшчэ шмат твораў. І — «Двухсотгадовы чалавек». Калі аўтар казаў пра свае любімыя апавяданні, то ён заўсёды даваў тры назвы, сярод якіх нязменна была і гэтая.

«Двухсотгадовы чалавек» — быццам эскіз рамана ў васемнаццаці старонках. Тут праходзіць не адно дзесяцігоддзе, паспявае змяніцца не адно пакаленне. Адбываецца занадта шмат усяго, калі, вядома, мае значэнне тое, што людзі навокал не толькі жывуць, але і паміраюць, і дзеці іх, у сваю чаргу, паміраюць таксама.

А калі значэнне маюць толькі тыя, што былі побач усё жыццё, і тыя, каго можна пазнаць сярод іншых падобных, то…

То не так ужо і шмат тут адбываецца.

Гэтая аповесць кажа пра свабоду і рабства, чалавечнасць, вернасць сваім ідэалам, вечнасць і цану мары.

Робат серыі NDR кампаніі «Ю. С. Робатс» трапляе ў дом Джэральда Марціна (*Сэра*). Яго дачка — *Маленькая Міс* — называе робата Эндру. Спачатку Эндру выконвае працу па дому, а потым высвятляецца, што робат мае творчыя здольнасці.

Аднойчы ён зробіць для цікаўнай дзяўчынкі маленькую цацку з драўлянага бруска. І потым у хатняй майстэрні ён стане ствараць, працаваць з дрэвам больш.

У той час немагчыма было быць проста пісьменнікам-фантастам. Пісьменнік-фантаст — гэта навуковец, радзей аматар навукі. Азімаў скончыў хімічны факультэт Калумбійскага універсітэта, імкліва атрымаў навуковую ступень і ў 1979 годзе стаў прафесарам у сваёй альма-матэр

*— Ты ствараеш цудоўныя рэчы, Эндру, — сказаў Сэр.*

*— Я атрымліваю асалоду, калі раблю іх, сэр, — адказаў Эндру.*

*— Атрымліваеш асалоду?*

*— Гэта прымушае токі ў маіх пазітронных блоках нейкім чынам праходзіць шляхі з меншым супраціўленнем. Я чуў, як вы ўжываеце словы «атрымліваць асалоду», і абставіны, калі вы іх прамаўляеце, супадаюць з маімі. Я* ***атрымліваю асалоду****, калі раблю гэтыя рэчы, сэр.*

Гэта нечакана для робата, які не павінен мець пачуцці, фантазію. Нечакана і для яго стваральнікаў, якія прапануюць гаспадарам яго замяніць. Але Сэр адмаўляецца. І Маленькая Міс ніколі не дазволіла б такога.

З таго часу Эндру на вырабах з дрэва зарабляе шмат грошай для сям'і свайго гаспадара.

Але што самае каштоўнае для нас, людзей? Што мы беражом, што імкнёмся атрымаць, за што гатовы змагацца?

*— Я хачу аддаць іх [грошы] вам, сэр.*

*— Я не вазьму іх, Эндру.*

*— У абмен на тое, што вы можаце даць мне, сэр.*

*— Вось так? І што ж гэта, Эндру?*

*— Мая свабода, сэр.*

*— Твая ...*

*— Я хачу купіць сабе свабоду, сэр.*

Эндру пачынае насіць вопратку.

Эндру выпускае на рынак свае распрацоўкі чалавечых пратэзаў.

Эндру піша кнігу па гісторыі робатаў.

Эндру святкуе сваё стопяцідзесяцігоддзе. Эндру — самы стары робат.

Эндру хоча стаць чалавекам. Усё, што ён рабіў дагэтуль, было дзеля гэтага жадання, дзеля мары. А робаты могуць марыць?

Калі ты ўмееш марыць, то, можа, ты ўжо і не робат?

Доўгае жыццё — не шчасце, калі побач ужо не засталося нікога з тых, хто быў блізкі. Калі, вядома, у робата могуць быць блізкія. Адзінае, што застаецца, — гэта мэта, дзеля якой можна жыць. Калі, вядома, робаты жывуць, а не функцыянуюць.

Сусветная супольнасць магла б прызнаць чалавекам таго, хто падобны да чалавека, складаецца з тых жа матэрыялаў, што і чалавек, і можа ствараць, як і чалавек. Але сусветная супольнасць супраць. Ім і так ужо давялося даць Эндру свабоду і ўнесці ў заканадаўства артыкулы, якія абараняюць правы робатаў. Сусветнай супольнасці Эндру стаў упоперак горла.

Але калі ён робіцца вынаходнікам сусветнай значнасці, калі ён стварае тое, што падаўжае жыццё людзям, калі ён закладае пачатак новай навукі, ці сапраўды нельга выканаць маленькую мару аднаго робата — самага старога і ўнікальнага па-свойму?

Як аказалася — не.

Што значыць вернасць сваёй мэце, сваім ідэалам? Эндру плаціць за гэта немагчыма вялікую цану.

*— Ты хочаш сказаць, што памрэш, Эндру? Але ты не можаш. Гэта парушэнне трэцяга закону.*

*— Не, — запярэчыў Эндру. — Я выбіраў паміж смерцю свайго цела і смерцю сваіх імкненняў і жаданняў. Дазволіць свайму целу жыць за кошт смерці маіх ідэй — вось што парушыла б трэці закон.*

Эндру святкуе сваё двухсотгоддзе.

У жыцця ёсць такая ўласцівасць — заканчвацца. Вельмі сумная ўласцівасць, да якой Эндру не прывык за сваё доўгае жыццё.

Яго жыццё таксама заканчваецца.

Проста разгарніце зборнік Айзека Азімава, у якім будзе гісторыя Эндру — гісторыя аднаго нонканфарміста, які гатовы быў адстойваць свае правы да канца.

Будзьце цвёрдыя ў сваіх рашэннях. Захоўвайце ў *сваёй* вечнасці душы *сваіх* людзей.

# Таццяна Гулевіч: «Думала, пасля акадэмікаў мне ўжо нічога не страшна»




**Праз яе рукі прайшло нямала маладых журналістаў. Гэты чалавек зрабіў шмат для дзяцей, ніяк з журналістыкай не звязаных. Такая яна, Таццяна Гулевіч, настаўнік радыёжурналістыкі ў Мінскім дзяржаўным палацы дзяцей і моладзі, былы кіраўнік дзіцячай радыёняні «Мэры Попінс» на канале «Культура» Беларускага радыё. Гукааператар па адукацыі, радыёжурналіст па прафесіі, педагог і выхавацель па прызванні — цікава часам складваецца лёс. Размова з такім рознабаковым чалавекам атрымалася цікавай: Таццяна распавяла пра дзіцячыя ўражанні і любоў да радыё, нялёгкі шлях карэспандэнта-пачаткоўца, працу прафесійнага журналіста і, вядома, пра дзяцей — сваіх і чужых. Гутарку вяла Марыя Свіст.**

**— З чаго пачаўся ваш шлях на радыё? І чаму менавіта радыё?**

— У журналістыцы я не лічу сябе выпадковым чалавекам, таму што выбар гэтай прафесіі адбыўся ўжо ва ўсвядомленым, сталым узросце. А радыё, можна сказаць, вяло мяне па жыцці з пяцігадовага ўзросту. Я расла ў вёсцы ў Стаўбцоўскім раёне. Кожная мая раніца пачыналася з перадачы «Сельская раніца». І я паўтарала ўслед за радыё: «Добры дзень, шаноўныя слухачы, у студыі Мікалай Чырык!»

Потым, памятаю, аднойчы ехалі з татам у трамваі, і тут гучыць аб'ява: «Наступны прыпынак "Вуліца Чырвоная"». І я крычу: «Тата, тата, гэта ж адрас Дома Радыё, "Чырвоная, 4"!» І ён мне паказвае гэтую вышку — сёння сімвал АНТ. Яна выглядала ў маім дзяцінстве крыху інакш: да яе былі прымацаваны велізарныя антэны. Але дзіцячыя фантазіі малявалі там нейкія крэслы і даходзілі да таго, быццам Мікалай Чырык карабкаецца па гэтай вышцы і вяшчае адтуль, з вышыні.

**— Атрымліваецца, вы з самага дзяцінства цвёрда вырашылі адправіцца на радыё?**

— На самай справе, калі я вучылася ў школе, то марыла, як і многія дзяўчынкі тады, стаць настаўніцай. Але на выпускным вечары я пасварылася з лепшай сяброўкай, і мы не панеслі разам дакументы на паступленне ў педагагічны каледж, як збіраліся. Я аддала дакументы ў Мінскі электратэхнікум сувязі (*цяпер — Вышэйшы дзяржаўны каледж сувязі*). Абрала самую крутую спецыяльнасць: «Радыёсувязь, радыёвяшчанне і тэлебачанне». Можна сказаць, гэта таксама было наканаванне: калісьці ў дзяцінстве я разбіла татаў транзістарны радыёпрыёмнік і сабрала яго зноў так, што ён яшчэ два разы ўключыўся пасля гэтага.

Так я і прыйшла на радыё — гукааператарам і ўбачыла жывога Мікалая Чырыка і многіх іншых, на чыіх галасах расла, пасля чаго, вядома, не закахацца ў прафесію радыёжурналіста я проста не магла.

**— На ваш погляд, ці неабходна наогул журналісцкая адукацыя? Ёсць шмат прыкладаў, як, здавалася б, выпадковыя людзі траплялі ў прафесію.**

— Мне складана адказаць, таму што я ведаю сапраўды такія прыклады. Мой муж стаў журналістам, маючы дыплом фізіка. Але гэта хутчэй выключэнне, я не шмат ведаю выпадкаў,

каб чалавек з тэхнічнай спецыяльнасцю адразу станавіўся супрацоўнікам рэдакцыі. Таму я магу сказаць толькі за сябе: менавіта дыплом журфака выратаваў мяне ад беспрацоўя, калі штат гукаапаратараў на радыё быў скарочаны з-за пераходу на лічбавае вяшчанне.

**— Як працягвалася ваша кар'ера ўжо як радыёжурналіста?**

— Кажу шчыра: манна нябесная на мяне не сыпалася. Каб чагосьці дасягнуць, дарасці да чагосьці аўтарскага, першыя месяцы я проста «бегала па запісах»: рыхтавала рэпартажы для вядучых, для мадэратараў, для аўтарскіх праграм. Як кажуць, журналіста ногі кормяць. Я не магу сказаць, што я гэта не любіла: мне заўсёды падабалася рабіць менавіта «жывыя» рэпартажы. Я пачынала сваю кар'еру разам з «Рэпарцёрам-сямёркай» (стары дыктафон), які важыў кілаграмы чатыры. І калі па сумётах зімой перамяшчаешся з адной ускраіны горада на іншую, вельмі складана разабраць, ты «Рэпарцёр» нясеш, ці ён цябе на сабе цягне. Але пачынала менавіта з гэтага, з простага.

На заданні адпраўляюць пачаткоўцаў вельмі рэдка, тэмы неабходна шукаць самім! Заўсёды трэба самім прапаноўваць нешта, і цяпер нічога не змянілася. Адправіць на заданне маглі толькі на прэс-канферэнцыю. Прэс-канферэнцыі ніколі не любіла.

**— У выніку вы дараслі да ўласных праектаў — «Навуковыя вандроўкі», «Расклад на паслязаўтра», «Сямейнае радыё для тых, хто дома». Але як з'явілася ідэя стварыць «Мэры Попінс» — праграму для дзяцей, своеасаблівую радыёняню?**

— На самай справе гэта была замова: дырэктар канала «Культура» — на той момант Кацярына Іванаўна Агеева, цудоўная жанчына — проста сказала: «Таня, паспрабуй». Тады дзіцячую праграму прасілі радыёслухачы. Яны тэлефанавалі і пыталіся: а што ж на канале «Культура» ёсць для дзяцей? Адказу не было, для дзяцей не было нічога.

У «Мэры Попінс» было шмат усяго: пяць разоў на тыдзень па пяцьдзясят пяць хвілін трэба ж нечым напоўніць! Таму ствараўся расклад на тыдзень, кожны дзень — тры-чатыры рубрыкі, і штогод, да новага сезона, яны змяняліся. Ёсць і рубрыкі, якія я магу назваць старажыламі, напрыклад, дзіцячы радыётэатр. Пачыналі мы з трансляцый пастановак з фондаў Беларускага радыё, а потым прыйшлі да таго, што ў нас у прамым эфіры артысты чыталі «Гары Потэра» па-беларуску. Гэтая рубрыка жыве з самага пачатку «Мэры Попінс» — першага верасня 2008 года. Але асаблівасцю было тое, што па-за межамі вяшчання ствараліся нейкія праекты, не звязаныя з прафесіяй журналіста.

**— Раскажыце падрабязней, што гэта за праекты?**

— «Мэры Попінс» была працай каманднай, а гэтыя праекты — маёй ініцыятывай. У 2010 годзе мы выступілі як аргкамітэт «Скарбаў прабабулінага куфэрка»: дапамаглі дзеткам з Беларусі прыняць удзел у міжнародным конкурсе Еўрапейскага вяшчальнага саюза. У 2011 годзе ўпершыню правялі дабрачынную акцыю ў Кобрынскім дзіцячым доме. Потым замахнуліся на конкурс чытальнікаў «Паэтычны ветразь». А затым яшчэ два гады стварылі праекты для дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі. Першы год гэта былі дзеці, пазбаўленыя бацькоўскай апекі, а другі год гэта быў ужо сумесны праект з Асацыяцыяй дапамогі дзецям-інвалідам.

І ёсць вялікая колькасць дзяцей, якія лічаць, што на радыё трапіць нерэальна, што гэта быццам для абраных. І ўсе мае праекты паказвалі, што радыё даступнае. І нароўні са звычайнымі дзецьмі на радыё могуць апынуцца дзеці з не вельмі простымі лёсамі.

**— Вам ў нейкім сэнсе ўдалося рэалізаваць сваю школьную мару і стаць педагогам. Як гэта атрымалася?**

— Так супалі зоркі: у 2013 годзе ў Палац патрэбен быў педагог, які мог бы весці гурток «Асновы радыёжурналістыкі», і я ўзялася. Але педагогам я была яшчэ на радыё, таму што дзіцячая праграма «Мэры Попінс» вучыла школьнікаў рабіць першыя сюжэты. І я магу назваць пайменна, хто з дзясятага класа пачынаў супрацоўнічаць з праграмай, рабіць нейкія першыя інтэрв'ю — дзіцячыя, з наіўнымі такімі пытаннямі, якія зачытваліся па паперцы. І потым яны спрабавалі, натхняліся, паступалі ў



Інстытут журналістыкі, потым прыходзілі студэнтамі на практыку... Увогуле, у мяне ўжо будзе другі выпуск у гэтым годзе, які неяк супрацоўнічаў з «Мэры Попінс». Гэта ж таксама было навучанне: як напісаць падводку, адводку, як выбудаваць сюжэт, часам даводзілася вучыць беларускай мове, таму што такая спецыфіка нашага радыё: вяшчаць на беларускай мове. Так што школьнікаў-студэнтаў я пачала вучыць задоўга да таго, як з'явіўся ў маім жыцці Мінскі палац дзяцей і моладзі.

**— І чым займаецеся ў Палацы?**

— У асноўным усё тое ж: вучу дзяцей нейкім асновам журналісцкай прафесіі. Але і тут усё сур'ёзна: дзеці з маёй дапамогай самі складаюць радыёпраграмы, якія транслююцца тут жа, у Палацы. Калі атрымаецца, буду весці яшчэ які-небудзь новы гурток па тэхніцы мовы і камунікатыўных навыках. Ну, гэта ўжо планы на наступны навучальны год.

**— Што самае складанае ў працы з дзецьмі, якія прыходзілі да вас у эфір або якія прыходзяць да вас вучыцца?**

— Самае складанае ў працы з дзецьмі — гэта іх непрадказальнасць. Кожны дзень, кожную гадзіну і кожную хвіліну, калі ты маеш зносіны з дзіцем, ты як быццам ідзеш па краі прорвы. Гэта тонкая мяжа, дзе ў патрэбны момант проста балансуеш. Трэба мець восьмае, дзясятае пачуццё, але гэтая дзіцячая непасрэднасць і непрадказальнасць прымушае заўсёды быць у тонусе.

Здавалася б, пасля таго як у «Навуковых вандроўках» я магла трыццаць хвілін гутарыць на належным узроўні з акадэмікамі НАН, мне ўжо павінна быць нічога не страшна, але гэта не так: з дзецьмі складаней.

Самае галоўнае — адчуць, чым дыхае твой вучань, і прыняць гэта, нават калі яно табе, магчыма, чужое. У Палац не заўсёды прыходзяць па веды, часам прыходзяць проста па зносіны. Значыць, гэта таксама неабходна. І важна быць карыснай, таму што калі педагог бескарысны, да яго больш не прыйдуць.

**— Як вы гаварылі, ваш муж таксама журналіст. У сувязі з гэтым пытанне: сям'я журналістаў — гэта добра ці дрэнна?**

— На мой погляд, гэта добра: дзве палавінкі ведаюць спецыфіку працы адно аднаго. І яны даруюць адно аднаму недасолены суп або позняе вяртанне з працы. Сям'я журналістаў — гэта дом, дзе адзін добра разумее другога.

**— Што б вы пажадалі тым дзецям, якія захочуць выбраць шлях журналіста?**

— Я хачу сказаць, што ўсё, за што я бралася ў гэтым жыцці, усё, што я спрабавала: першую прафесію, другую прафесію, працу ў Палацы — я заўсёды раблю з любоўю, з душой. І папракнуць мяне ў тым, што я не аддаюся да канца справе, нельга. Магчыма, гэта цяпер не модна, але мне б хацелася, каб у гэтым жыцці было як мага больш людзей, якія, калі пачынаюць нейкую справу, аддаюцца ёй цалкам.

# Дабро перамагае: закон жанру

## *размова пра ўсё-ўсё з Аленай Масла*

### Пра бэзавае Мілашова

Калі б папрасілі ахарактарызаваць родныя мясціны адным словазлучэннем, то гэта было б:

— Бэзавы водар.

Паны Мілашы былі прафесійнымі заводчыкамі бэзу. Таму бэз расце і ў Мілашове, і ў Чарэі. Усё мілашоўскія мясціны. Мілашова—Ідолта — гэта адзін комплекс, адзін фальварак. З нашага боку — школа і касцёл, на паўвостраве — стары касцёл і сядзіба. Дык вось, на месцы Мілашова, калі Іосіф Мілаш купляў уладанні ад Сапегі, былі прос-та землі, а закладаў фальварак ужо яго сын Яўгеніюш. Адам — другі сын — атрымаў у спадчыну Чарэю.

Жыццё, вядома, мяняецца, вёска мяняецца. Людзі мяняюцца. Нават бэз — і той ужо трошкі іншы. У хату насупраць нашай заехалі новыя жыхары, пабудаваліся — і выкарчавалі бэз. Казалі, быццам ён увесь гнілы стаў усярэдзіне, але яшчэ пытанне, ці так яно там было. Праўда, будзем на лепшае спадзявацца. Бэз — ён не такі просты. Які дубчык застанецца — і ён прарастае зноў.

А то быў час чаромхі і бэзу. Чаромха толькі адбуяе, і тут — бэз як дасць! А побач лес, там і сон-трава, і ландышы. Таму апошні месяц перад школьнымі канікуламі для мяне трывала асацыюецца з водарам кветак. Бо ўвесь час насілі тыя кветкі на святы, хадзілі на іх у лес любавацца.

У кожнага ёсць свае асаблівасці — і ў пісьме, і ў памяці. Пачынаеш згадваць, пісаць, і ўсплываюць дробязі, дэталі. Увогуле, у мяне ў маленстве было шмат прыгод. Была я вельмі дапытлівая, але шкадлівая не была, увесь час хацела зрабіць штосьці добрае.

Памятаю, пэўны час мы жылі ў васьмікватэрным доме. А я ж была памочніцаю, любіла дапамагаць, хадзіла з бабуляй палоць грады. А грады былі не адмежаваныя, ля таго дома, там расла зяляніна: цыбулькі, кроп. Прычым увесь час мы з бабуляй удвух, а побач цёця Надзя — заўжды адна. Мне так шкада яе было. І калі тое маё шкадаванне дасягнула апагея, я пайшла і сама выпалала ейныя грады. Цёця Надзя прыйшла пасля — і ніводнай зялёнай цыбулькі не пабачыла. То бацькі ўвосень сплочвалі ёй рэпарацыі з сваіх град.

### Пра чытанне і кніжнасць

Бацькі-настаўнікі — гэта шмат кніг у хаце. І метадычная літаратура, і мастацкая. Поўныя шафы. У нас адна такая, з рыпучымі дзверкамі, дасюль захавалася. Увогуле, гэта не пустыя словы, што найлепшы падарунак — кніга. На ўсе святы нам бацькі дарылі кнігі, мы з Наталляй (**сястра А. М. — пісьменніца Наталля Бучынская*) адна адной дарылі кнігі.

Нам прывівалася павага да кнігі і да пісьменнікаў. Кніжны свет быў нечым на ўзроўні космасу. Адпаведна, касманаўты і пісьменнікі — прафесіі як бы аднаго рангу, адной грандыёзнай значнасці.

Тата быў працяглы час дырэктарам школы, і ў нас, апроч цукеркавых падарункаў, на святы заўжды дарылі кнігі. Школа, дарэчы,мела моцныя традыцыі, працавалі там сапраўды моцныя Людзі, якія ўвесь час не ленаваліся ствараць для дзяцей святы. Я дзіву даюся: у іх жа ў кожнага была і прафесійная дзейнасць, і гаспадарка. І да працы яны здалёк дабіраліся. І пры ўсім тым — якія ў нас ладзіліся святы! Свята ўраджаю, навагоднія карнавалы. Калі я пасля гадавала дзяцей у сталіцы, шукала нечага падобнага — я і ўразілася, што ў Мінску пра такое папросту не чулі. А ў нас былі конкурсы на лепшы касцюм, прычым касцюмы рабілі самі, не набывалі. Пасля касцюмы абаранялі, і за лепшую абарону нам дарылі кнігі. Школа вяла сваю гаспадарку, здавала лішкі, каб на тыя грошы і арганізоўваць экскурсіі, і самым лепшым дарыць каштоўныя падарункі. У склад апошніх зноў-такі абавязкова ўваходзілі кнігі.

Дэфіцыту кніг у нас не было. Вядома, існавала такая літаратура, якую ўсім было цяжка прыдбаць, — самвыдат які-небудзь, скажам. Але Мёрская кніжная крама на той час з'яўлялася проста скарбонкай. Былі такія перыферыйныя крамы-скарбонкі. І да нас ездзілі мінчукі, ведаючы пра гэта, — па кнігі. Таму праблем не было, і на гэта рабіўся акцэнт: трэба дарыць дзецям добрыя кнігі.



Сябры маленства — яны ж героі аповесці «Золатка, бяжы!». Мы трымаемся з Колькам за ручкі.

Мы ўвесь час чыталі, абменьваліся кнігамі, хадзілі ў бібліятэку. Бібліятэка, праўда, хутка стала маленькай, але бібліятэкары прывозілі навінкі з раёнкі.

Наогул, дома панавала атмасфера прыдумляння. У нас было прынята святкаваць дзіцячыя дні народзінаў, запрашаць нашых сяброў. І не проста пасядзець, паесці ды папіць, абавязкова была нейкая забаўляльная праграма. Да гэтай пары дома стаяць такія даўнія-даўнія табурэты, добра збітыя. Яны ў нас выкарыстоўваліся замест сцэны. Мы на тую сцэну станавіліся і дэкламавалі падрыхтаванае.

Тата ў нас быў тады адмысловым майстрам па карнавальных касцюмах. Змайстраваў іх мноства, але мне найбольш запомнілася, як мы з ім рабілі Ваўка, — я Ваўком была. Тата неяк скруціў тую ваўчыную пысу, сшыў неяк, мы пафарбавалі ўсё. І гэтая атмасфера прыдумляння, канечне, дадавалася да чытання, да фантазій. Дапамагала фантазіям рэалізавацца наяве.

Чытала я запоем. Самыя яркія ўражанні засталіся, напрыклад, ад кнігі *Волкава «Волшебник Изумрудного города»*. Памятаю той вечар, чым пах тата, калі прынёс гэтую кнігу. Іх якраз прывезлі ў краму, і каштавала кніга дорага, можа, сем рублёў. І ў нас гэтая кніга была ў першых у хаце. Толькі іх прывезлі — і тата адразу пайшоў купляць.

Па вастрыні ўспрыняцця яшчэ добра згадваецца кніга *Змітрака Бядулі*, зборнік яго казак і апавяданняў *«Дзень добры!»*. Мне яе падаравала, падпісаўшы, школа за ролю Снягуркі: упершыню даверылі дапамагаць Дзеду Марозу. Да важных кніг варта аднесці і *зборнік казак Андэрсена*, прычым казкі там былі не самыя растыражыраваныя, не самыя папулярныя. Я гэтую кнігу брала пачытаць у сяброўкі Вольгі, і выданне, як разумею, было нейкае рэдкае, бо толькі зусім нядаўна я знайшла тыя самыя творы ў двухтомніку казак Андэрсена. Складаны там свет. І яшчэ нельга не згадаць *Пройслераву «Маленькую Бабу Ягу»*. Вельмі любіла і *«Прыгоды Тома Соера»*, бо сама ў дзяцінстве была да яго падобная.

## Пра натхненне і шляхі да яго

Самае першае натхненне было настолькі яркім і незабыўным, што яно мне шмат пасля збіла ў маіх жыццёвых настройках — у сэнсе таго, як пісаць. Першая казка мая называлася «Зорачка». Не помню, якімі пачуццямі я жыла ў той час, але я ўвесь час летуценіла, шмат чытала. З аднаго боку, я — чалавек, скіраваны на стасункі з іншымі людзьмі. Таму, вядома, любіла гуляць з аднагодкамі. Але разам з тым вельмі любіла і бываць у самоце. І я помню: зайшла ў хату, села за стол — і напісала казку. То бок, яна прыйшла да мяне ад кропкі да кропкі, рэдакцый там не было. Гэтую казку я адправіла ў «Сцяг працы». Думаю, менавіта так пішуцца вершы. Сама я таксама імкнулася вершы складаць, але ў мяне вершаскладанне не пайшло. Можа, каб была якая літшкола, які літгурток, то ўсё было б іначай. Але я не хадзіла ні ў якія літгурткі, неяк усё жыццё сама па сабе. Зараз думаю — можа, гэта і кепска. Але так ужо склалася.

Памятаю, як напісалася другая казка, абсалютна так. Называлася «Воблачка». І, з аднаго боку, гэта было такое моцнае, незабыўнае ўражанне, перажыванне, якое я прос-

та помню ва ўсіх дэталях да гэтага дня. Увесь гэты накал энергіі, усю тую энергетыку, калі прыйшоў, сеў, запісаў. З іншага боку, гэта мяне і збіла з толку, бо пазней, калі ў мяне так не адбывалася, я проста думала, што зусім нічога не магу. У школе мне пісалася, я друкавалася часцяком, таму што марыла паступіць на факультэт журналістыкі. Калі пастунала, дык мела недзе сто публікацый, а рэкамендацыі, можа, ад шасці рэдакцый. Адным словам, дужа падрыхтаваная была абітурыентка.

Але разам з тым пасля школьнага юнацтва казкі да мяне не прыходзілі. І я жыла ў разгубленасці. Не тое, каб хадзіла ды смуткавала ўвесь час, але непаразуменне жыло ўнутры. Я ўпрост не магла ўцяміць, што са мною здарылася. Нешта я рабіла, занатоўвала, ажно цэлую тэчку нарыхтавала. Пісала нешта іншае, займалася журналістыкай, найбольш — сям'ёй ды дзецьмі. Усё-такі пачатак майго сямейнага жыцця прыйшоўся на пачатак дзевяностых. Уявіце: тыя часы — і маладая сям'я, двое маленькіх дзяцей з розніцай у год і дзевяць месяцаў. Таму і гэтаму шмат часу — і вельмі цікавага часу — было прысвечана. Нейкія задумы былі — вядома, вусна: увесь час дзецям нешта ба́ялася, расказвалася. Нешта і запісвалася, але не было вось такіх азарэнняў, як тады, з першымі казкамі, ці пазней з тымі творамі, што выходзілі. Хаця я, канечне, час ад часу друкавала свае апавяданні ў «Вясёлцы».

А ўвогуле, у мяне ж не так і многа кніг, бо не так даўно пачала актыўна друкавацца. Змянілася ўсё пасля першай паездкі ў Швецыю: мяне найперш уразіла сама краіна. Нашы сябры жылі там, мянялі месца працы. І ў час адпачынку яны ездзілі па ўсёй Швецыі, праходзілі субяседаванні. А машына ў іх вялікая, то і яны сваю сям'ю пасадзілі, і мы сваю — і разам паехалі. Бачылі мы шмат, ехалі праз усю краіну, да самай далёкай поўначы. Уразіла яшчэ, што Швецыя — краіна Астрыд Ліндгрэн. На той момант пра яе не так шмат гаварылі ў нас, як зараз. Ведалі, вядома, Карлсана, але, скажам, у біяграфію я не ўнікала. А там… мяне проста ўразіла — жаночы такі момант — што ў 37-гадовай Ліндгрэн упершыню выйшла кніга. То бок, вось — у 37 гадоў, значыць, можна перайначыць свой лёс. А на той момант я чаго толькі не паспрабавала — працавала і на радыё, і ў дзіцячай журналістыцы (бо душа да таго гарнулася) — часопіс «Качели», «Піянер Беларусі», «Переходный возраст». Нават прадпрымальніцкі досвед быў — свая фірма, займаліся мы там дызайнам і, дарэчы, паспяхова. Але ўсё адно: калі робіш не сваю справу, якія б там ні былі поспехі, — усё адно не тое, не тое! Зарабляць зарабляеш, але ўвесь час хочацца апраўдацца: не, гэта не маё, несапраўднае, гэта ўсё часова.



Дзень, калі да нас прыходзіў фатограф. Нас з сястрой прыбралі і павялі фатаграфавацъ. На мне белыя калготачкі. Як ішлі назад, дадому, трэба ж было мне паваліцца і выпацкаць іх у зялeніва. От тую горыч да гэтай пары памятаю — белых калготак было не дакупіцца.

І менавіта вярнуўшыся са Швецыі, я палезла ў свае тэчкі. Шукаць тыя пачаткі, канцы, сярэдзінкі. У маім працоўным стале, трэба сказаць, свой парадак, там ніхто не разбярэцца. Заўжды пачынаю пісаць ад рукі. Ведаю, што калі не пайшло ад рукі, то надалей не напішацца. Пасля, канечне, пераходжу да камп'ютара. Але прайсці павінна вось так, праз асадку.

Таму стала збіраць тэчкі, дапісваць. Гэта ўсё склала кнігу «*Таямніца закінутай хаты*».

## Пра сям'ю і падтрымку

Мяне заўжды падтрымлівалі ў сям'і, з павагай і цікаўнасцю ставіліся да таго, што я раблю. Сям'я тут у шырокім сэнсе: маю на ўвазе бацькоў, бабуль, мужа... Сям'я ў нас настаўніцкая, але вясковая, то заўжды патрэбна была праца па гаспадарцы, на гародзе. Процьма гаспадарчай працы, у якой мы, дзеці, бралі самы актыўны ўдзел. Але старэйшыя з вялікай увагай ставіліся да нашых заняткаў — і да вучобы, і да таго, што «Лена піша». Гэта было святое. Цяпер, калі згадваю гэта «Лена піша» ў выкананні сваёй бабулі Амілі з хворымі нагамі — яна лезла ў склеп па бульбу, але мяне не чапала, каб не перабіваць, — мяне гэта ўражвае проста да слёз, да пякучага сораму.

Калі я пісала гэтыя казкі, збірала іх, усё думала: дзеля чаго? І тут мне патэлефанавалі з малой радзімы настаўнікі. Сказалі: «Чаго ж ты, Лена, маўчыш, што твае творы ў падручніку?» І гэта мяне неяк сабрала. Тады я адважылася занесці зборнік у выдавецтва. Бо раней здавалася ўвесь час, што нехта павінен паклікаць, прапанаваць. А як не клічуць і не прапануюць — ну, значыць, ёсць лепшыя за цябе.

Вось такім чынам дзве кніжкі адразу і выйшлі.

## Пра рэдактараў

Асабліва добрым словам хачу згадаць *Анатоля Казлова*. Кожнаму аўтару, кажуць, трэба знайсці свайго рэдактара. І я пэўны час бачыла, што пішу казкі нейкія нефарматныя. Ды і думалася: дзе ўвогуле друкаваць казкі? «Вясёлка» або «Бярозка» — танюткія часопісы, а ў мяне казкі доўгія, нават паводле памеру не фармат... Таму я неяк патузалася-патузалася — і патэлефанавала ў «ЛіМ». Казлоў сказаў: «Калі ласка, прыносьце». І адразу, з даверам — на паласу. А пасля была і публікацыя ў «Маладосці» дзякуючы *Раісе Андрэеўне Баравіковай*, якая і сама любіць гэты жанр. Яшчэ быў у маім жыцці *Алесь Наварыч*, што разбіў бязлітасна адну маю казку, — і падараваў каштоўны ўрок стылістыкі. Паслухала яго, падрэдагавала сама, улічыўшы заўвагі, прынесла зноў. І вось, Алесь Наварыч (а ён быў у «Бярозцы» літрэдактарам) сядзіць, глядзіць на мяне — што, зноў прыйшла? Стаў чытаць — з раздражненнем, тады з цікаўнасцю. А пасля кажа:

— О! Вы здольны вучыцца!

Я выйшла з хаты насустрач прыгодам. А дом той — васьмікватэрны двухпавярховы.



## Пра тое, што пішацца, і законы жанру

Апошняе, што прабілася, — гэта аповесць, якая пакуль называецца «*Золатка, бяжы!*». Назва пад пытаннем, хутчэй за ўсё памяняю. Там галоўная гераіня — дзяўчынка Алінка. Ал**і**нка, а не Ал**е**нка — таму што гэта, вядома, успаміны, але яны як бы адбываюцца непасрэдна перад табой. Як быццам высаджваешся на тую планету, што засталася там, колькі гадоў таму, і пражываеш, і перажываеш. Паглыбляешся да таго, што памятаеш, як пачувалася пад шатамі клёнаў, згадваеш тэмпературу паветра, што атуляла. Якімі на дотык былі хрушчы, якія ў іх калючыя лапкі. Гэта нешта дзівоснае. Часам пытаюць: «ці хацелі б пражыць жыццё нанова?» Я цяпер ведаю: такая магчымасць ёсць. Пачынаеш пісаць — і пражываеш.

Яшчэ пішацца адна рэч, аповесць, называецца «*Партал*» — і кідаць шкада, і разам з тым пра-

жываць яе цяжка. Тэма цяжкая. Зараз вельмі шмат анкалагічных хворых, і сярод тых, каго гэта бяда закранула, і мае знаёмыя, мае сябры. Пасля адной паездкі ў Латвію з сяброўкай я неяк усё так прачула, узаемасувязі гэтыя — і паўстала тая аповесць. Яна амаль гатова, а я не разумею, як перажыць, як дапісаць гэта. Не пражыўшы, не прапусціўшы праз сябе, — не напішаш.

У жыцці — як у казцы. Вядома, на казачнага героя звальваецца столькі выпрабаванняў, паспрабуй яшчэ дайдзі да шчаслівага фіналу. Колькі трэба яму пераадолець, колькі трэба страціць, расчараваўшыся ў сябрах, у братах!.. Але мяне ў казцы заўжды падкупляе тое, што дабро павінна ў выніку перамагчы. Дабро перамагае — закон жанру. І я веру, што і ў жыцці — так. Дабро перамагае.

І калі ствараеш свой міні-свет, менавіта жанр казкі дазваляе табе, гаспадару, зладзіць усё так, як належыць. Так, як яно павінна быць. Сцвердзіць мадэль жыцця, у якую ты верыш. Тым мне гэты жанр і падабаецца.

Я перакананая, што аўтар мае права пісаць, не думаючы пра чытача. Таму што ёсць тое, што жыве толькі ў табе. Свет вялікі, а ты ў сябе адзін. Іншая ўжо справа, ці будзе гэта запатрабавана пасля. Зараз у мяне такі перыяд, калі пачынаю задумвацца пра чытацкае ўспрыняцце. У сваёй апошняй кніжцы, што выйшла, — «*Мяне завуць Лахнэска*» — я нават ўяўляла сабе, які фармат кніжкі хачу зрабіць, якія карцінкі хачу бачыць, колькі знакаў мусіць быць на старонцы. Увогуле, згаданая гераіня досыць незвычайная, і я неяк не рашалася аддаць яе кудысь. Пачуўшы пра праект «ЗаЧтение», прапанавала арганізатарам зладзіць тэставыя чытанні. То знайшліся ахвотнікі, дзеці з бацькамі, якія хадзілі, чыталі, запаўнялі анкеты. Праўда, пакуль я дабралася да тых анкет, у мяне на руках ужо быў напісаны тэкст. І тады я з прыемнасцю пабачыла, што заўвагі, якія былі ў анкетах, змагла сама выправіць.



Алена і сябры.

Працую і над працягам кнігі «*Пацучок Фэля падарожнічае*» — гэта «Вясёлка» папрасіла штосьці новае да іх юбілею. Спадзяюся, усё дапішацца. У гэтай гісторыі я таксама думаю пра чытачоў: каб ім было смешна, каб ім было весела. Хочацца рабіць «працоўныя» кнігі, каб працаваць з дзецьмі, каб ім было няцяжка чытаць.

## Пра кнігі і чытачоў

Але кнігі, канечне, павінны быць рознага ўзроўню, для рознага чытача (бо і людзі не аднолькавыя). Вялікая выдавецкая памылка — не ўлічваць розны узровень чытацкай аўдыторыі. Іншаму дай добрую кнігу — дык ён яе проста не зможа зразумець, не знойдзе там нічога для сябе. А развівацца і чытаць трэба ўсім. Таму кнігі мусяць быць рознага ўзроўню, але на кожным узроўні адназначна якасныя.

Думаю, калі пішаш, той настрой і шчырасць, з якімі ствараеш новы свет, павінны даходзіць да чытача. Сама часам чытаю лёгкае — бульварнае — чытво. Вядома, захапляе. Але пасля — пачуццё спустошанасці. Ты не толькі нічога з кнігі не атрымаў, ты яшчэ і сваё аддаў, быццам цябе высмакталі. Для мяне было б найвялікшай прыемнасцю, найлепшым шчасцем, калі б пасля маіх кніг у людзей нешта адгукалася ў душы.

Сённяшнія дзеці жывуць у вельмі эмацыянальна напружаным асяроддзі. Я зараз гэта добра адчуваю на аўтарскіх сустрэчах: дзеткі, быццам тыя кацяняты, горнуцца да мяне, да чужога чалавека, лезуць пад рукі, каб іх пагладзілі. У сённяшніх людзей — як мы жывём! —

адно на аднаго часу няма. Нейкае грамадства недалюбленых. Толькі ў садок — у школу — на працу. Нават пагаварыць няма калі. І таму моманты шчырасці, цеплыні, душэўнасці, якія атрымліваецца перадаць чытачу, — гэта і ёсць самае сапраўднае, самае патрэбнае. Душа чалавека ўвесь час, у любую эпоху шукае цеплыні, і калі некаму стане цяплей ад тваёй кніжкі — гэта, канечне, здорава.

## Праекты, планы і галоўнае

З апошніх праектаў, што мы ладзілі з артстудыяй «Казка», — гэта беларуская народная казка. Нарадзілася ідэя неяк спантанна. Справа ў тым, што я была госцем на выставе малюнкаў дзяцей-аўтыстаў, і там дэманстраваліся працы *Святланы Ціхановіч*. Яна біёлаг — і робіць лялькі. Яе работы мяне скарылі, бо лялькі гэтыя былі — героі беларускіх казак. Я глянула і зразумела, што трэба абавязкова сабраць слухачоў і гледачоў і прысвяціць вечарыну нашай казцы і цудоўнай аўтарцы лялек.

А вось «Літаратурная Масла(Е)ніца» сёлета сарвалася: вельмі разышліся вірусы. Я хварэла сама. Але з Масленіцай мне ўжо сам Бог загадаў. То мы запрашаем творцаў, задаём фармат выступленняў. А творчага ж чалавека толькі запрасі — ён выдасць феерверк неспадзяванак творчых! Ну, і смажым бліны ды частуемся. Ад каго толькі нашы гледачы не частаваліся блінамі — і ад Шніпа, і ад Спрынчан, і ад Малішэўскага, ад Клімковіч — ад усіх!.. Выступіў чалавек, сеў і бліны пячэ. Вось такі ў нас смачны фармат.

У *МілашОўска-Мілашаўскіх чытанняў* летась быў юбілей. Ужо пяты раз яны адбыліся. Заўжды гэта па два разы на год: адзін раз у Мінску, адзін раз на малой радзіме. Заўсёды стараюся туды завезці некага цікавага.

Зараз хачу ў Мінску паказаць відэазапіс, як мы ладзілі пярэзвы ў сябе, у Мілашове. Яно ж як бывае: пачынаеш нешта рабіць — і нечакана даеш імпульс чамусьці новаму. Так далі імпульс нашаму дзядулю: ён да ўнучкінага вяселляператварыў пуню ў галерэю. І мы там ладзілі выставу карцін і *Крысціны (*Крысціна Баранава, дачка А.М.)*, і *Аксаны Аракчэевай*, акурат праз тыдзень пасля Крысцінінага вяселля. Каб вы бачылі, з якім імпэтам джгалі туды — не ішлі, не беглі, а джгалі — землякі, адно каб глянуць, што ж там у той пуні можа быць. Таму я вельмі хачу паказаць гэты запіс, расказаць пра гэта. Ну, і «Пуня» чакае падмацавання: трэба нейкую галерэйную дзейнасць весці.

Адным словам, працы стае. Я люблю нешта арганізоўваць, аб'ядноўваць людзей. Гэта ўсё цудоўна, але ты, атрымліваецца, выплёскваешся, а пісанне патрабуе шмат энергіі. Таму я з сваім імпэтам прыціхла трошачкі, бо і сустрэч з дзецьмі вельмі шмат. Яны многа даюць, але і адбіраюць сілы.

Зараз увогуле такі шчаслівы адрэзак жыцця, што я і пры справе, і на працы (працую ў праектах, але не ад званка да званка), і на волі. Дзіўнае адчуванне, так файна. Не ведаю, ці можа яно цягнуцца вечна.

## Пажаданне чытачам «Маладосці»

Не трэба прыдумляць сабе лозунгаў, не трэба даваць засмечваць сабе мазгі.

Любоў — ключавое слова. Трэба чуйна, з цікавасцю глядзець на свет і на людзей.

І вельмі важна ўсведамляць, што бегчы некуды — не значыць «ісці да сябе». Трэба вучыцца жыць, імкнучыся да гармоніі. Каб усім было вакол цябе ўтульна — так усё роўна не пражывеш, вядома, але спрабаваць варта.

І каб самаму галоўнаму чалавеку — таму, што ў цябе ўсярэдзіне, — было камфортна з табою. У Бібліі сказана: «Палюбі бліжняга свайго, як самога сябе». Першую частку разумееш заўжды. І раптам да мяне, ужо дарослай жанчыны, даходзіць: а як гэта — як самога сябе? Скажам, з паездкі я вязу падарункі ўсім. І амаль ніколі не хапае часу набыць штосьці сабе. Пра эгаізм мы тут не гаворым, проста знайсці суладдзе з сабой — гэта вельмі важна. Як можаш некага любіць, калі не ўмееш слухаць і рэалізоўваць сябе, калі не ўмееш сам быць шчаслівым?

Той, хто ведае, чаго хоча ад жыцця, можа ісці да сваіх мэт і іх дасягнуць. Таму навучыцца слухаць сябе, быць шчаслівым самому і рабіць шчаслівымі іншых — самае складанае і самае важнае ўменне.

І вось гэтага я б зычыла нашым чытачам.

*Запісала Маргарыта Латышкевіч.*

# Пра літаратуру і Палац кахання

## *Гутарка з Раісай Баравіковай…*

**…не магла не пачацца з пытання пра стаўленне да сучаснай маладой літаратуры і твораў аўтараў-пачаткоўцаў. Менавіта так і сфармулявала сваё першае пытанне да экс-галоўрэда «М» Кацярына Захарэвіч.**



— Безумоўна, я не старонні чалавек у сённяшнім літаратурным працэсе. Укруціўшыся ў яго ў дванаццацігадовым узросце (маю на ўвазе тое, што мой самы першы верш быў надрукаваны на старонках раённай газеты, калі я вучылася ў шостым класе), не здолела ўжо не прыкіпець да літаратуры. Спачатку займалася ў школьным літгуртку, потым, у старэйшых класах, уваходзіла ў літаратурнае аб'яднанне пры рэдакцыі Бярозаўскай раённай газеты, ім кіраваў бясконца шаноўны выдатны журналіст Яўген Васільевіч Сяленя. Гэта, можна сказаць, быў мой старт. Пяцьдзесят восем гадоў у літаратуры, ледзь не ўсё жыццё — дык як жа не цікавіцца тым, што адбываецца ў ёй сёння? Праўда, як і мае быць, усё адпавядае майму ўзросту. У нейкай ступені я, на жаль, не сучасны чалавек. Працуючы на камп'ютары, я не ў сеціве. Наўмысна не падключаюся да інтэрнэту. А якраз там у сваіх спрэчках-баталіях бавіць час большая частка літаратурнай моладзі. Згадаю выраз класіка Міхася Лынькова: «Дзярзайце, уюнашы». Маладыя творцы па-свойму «дзярзаюць», актыўна шукаюць свой шлях, смела эксперыментуюць у сваёй творчасці, з запалам адстойваюць свае пазіцыі і меркаванні. Мне падабаецца іх літаратурнае жыццё. Дзе і як магу, я ім заўжды дапамагаю. Сама ж усё больш і больш імкнуся да самоты, пазбягаючы ўсяго мітуслівага і мігатлівага, што замінае маёй уласнай творчасці. Як кажуць, жыццё ўжо на схіле. Пачалася мая чыста ўзроставая восень. Я шчаслівая бабуля, у мяне ўнучка і трое маленькіх унукаў, і яшчэ ёсць мілая мне чытацкая аўдыторыя, знаходжу час, каб быць частай госцяй у школах і ў гімназіях… Апошнія дзесяць—пятнаццаць гадоў даволі актыўна працую ў дзіцячай літаратуры і сярод дзетак знаходжу шмат прыхільнікаў сваёй творчасці. Ім за гэта вельмі ўдзячная. Дарэчы, і не толькі сярод дзетак. Дзесьці перад Новым годам атрымала ліст з Гомельшчыны, з вёскі Пірэвічы, што ў Жлобінскім раёне. Прыслала яго вельмі далікатная жанчына Ірына Сасна: «Паважаная Раіса Андрэеўна! Прачытала Вашу кніжку «Казкі з гербарыя». Такія яны цікавыя, лірычныя, прыгожыя… Агледзела кніжку з усіх бакоў. Яна, аказваецца, выйшла з друку ў 2008 годзе, і таму мае словы для Вас не адкрыццё. Але ж, думаю, добрае слова чытача аўтару ніколі не лішняе. Удзячная Вам за кніжку…». І як жа пасля такіх слоў мне не быць удзячнай дарагой чытачцы, што знайшла час і прачытаць кніжку, і напісаць гэты ліст. А галоўнае, тым самым абвергла міфічную думку, што, маўляў, цяпер літаратурай мала хто цікавіцца. Няпраўда. У нашай літаратуры многа цудоўных, таленавіта напісаных кніг, і яны знаходзяць свайго чытача, хай сабе не так масава, як гэта было ў часы кніжнага буму. Цяпер літаратура проста ў сваім часе. І як мы ўсе часта кажам, наш час няпросты — час змены эпох. Зямляне пакуль з цяжкасцю і даволі жорстка разбіраюцца з усім тым, што адбываецца, але вельмі тонкія і ўзвышаныя натуры, мысліцелі-адзіночкі прынікаюць да разумных і проста любімых кніжак. І дзякуй Богу, у нас ёсць кніжкі, якія могуць быць любімымі. Не дойдуць да чытача сёння, дык знойдуць яго заўтра, праз пэўны час. Гэта павінны разумець і маладыя пісьменнікі, таму што той, заўтрашні, дзень будзе цалкам належаць ім.

**— Як вы ўяўлялі сваё літаратурнае жыццё ў самым пачатку творчага шляху? Ці спраўдзіліся вашы ўяўленні?**

— Помню расчыненае акно ў яшчэ надта зябкі сакавік дзесьці ў сярэдзіне шасцідзясятых гадоў. Позні вечар. Мы з Таняй Дзмітрусёвай сядзім на падаконніку ў халодным пакоі толькі што пабудаванага інтэрната Магілёўскага лаўсанавага камбіната. Узбуджаныя, усхваляваныя пасля свайго першага семінара творчай моладзі, на які нас запрасіў незабыўны Аляксей Васільевіч Пысін. Нас захліствала адчуванне, якое, напэўна, бывае ў немаўляці, калі яно ўпершыню дакранаецца да бухматай вельмі прыгожай кветкі. Вось ён — дотык, як яму здаецца, да самай вялікай на яго шляху прыгажосці… На жаль, Таня Дзмітрусёва рана пайшла з жыцця. Тады ж, праз некалькі гадоў пасля таго нашага вечара, на адзін з яе вершаў быў напісаны надзвычай папулярны тым часам шлягер « Дзе тая малая, дзе?...» Ну, а наконт уяўлення свайго літаратурнага жыцця? Гэта быў мой жыццёвы выбар, які стаў прафесіяй. Я проста працавала ў аднойчы абраным рэчышчы. Што ж да сённяшніх пісьменнікаў-пачаткоўцаў, яны дзеці свайго часу. Тут, напэўна, мусім казаць пра тое, што ўсіх нас яднае — і маладых, і старэйшыя пакаленні. Як напісаў Максім Багдановіч, «усе мы ляцім да зор», і, трэба думаць, ад самага пачатку — з вялікім жаданнем стварыць і пакінуць штосьці вельмі вартае ў сваёй літаратуры. Хай сабе гэта будзе адзін толькі твор, але такі, каб прайшоў праз часы… Каб чытаўся і ў нейкім там, скажам, дваццаць трэцім стагоддзі так, быццам напісаны ён толькі ўчора.

**— Для пачаткоўца вельмі важная рэакцыя на першы твор. На вашу думку, якія павінны быць суадносіны паміж станоўчай і крытычнай рэакцыямі?**

**—** Тут справа вельмі тонкая. Як у Аляксандра Пушкіна: «Старик Державин нас заметил и, в гроб сходя, благословил». На маю думку, маладога аўтара трэба падхвальваць, не шкадаваць для яго творчасці прыгожых эпітэтаў, захапляцца яго добрымі радкамі, а пра недахопы казаць між іншым… Вельмі ўжо рэзкая крытыка можа назаўжды ў яго душы зачыніць веснічкі, праз якія пачаткоўца наведвае натхненне. Натхняюць добрыя словы. Мне чамусьці думаецца, што верш трымае нават не бездакорнае майстэрства, а тая самая дадатковая энергія, якую могуць успрымаць праз нейкія нябесныя хвалі асобныя людзі. Гэтая энергія і завецца натхненнем, альбо яшчэ, як у Яна Парандоўскага, «механікай нябёсаў». Можна прачытаць верш з галавакружнымі метафарамі — і ён не кране. А часам пачуеш верш з такімі ўжо простымі словамі — і дрыжыкі пойдуць па скуры. Такія вершы і застаюцца надоўга ў гісторыі літаратуры — калі дрыжыкі па скуры. А ўвогуле, калі ёсць талент, ён вельмі хутка пойдзе ў рост, і малады аўтар не заўсёды будзе прыслухоўвацца да парад збоку (дарэчы, маладым уласціва вельмі сімпатычная фанабэрыстасць). Таленавіты малады пісьменнік, трошкі пасталеўшы, стане арыентавацца на ўласны густ, нават на інтуіцыю, дадзеную яму прыродай… А што да рэцэнзій, скажам, на першую кніжку, дык нярэдка ёсць проста выдатныя. Тут мне хочацца са свайго вопыту згадаць крытыка, літаратуразнаўца Івана Сцяпанавіча Шпакоўскага (Янку Шпакоўскага). Некалі ён пісаў для «Маладосці» рэцэнзію на маю першую кніжку вершаў «Рамонкавы бераг». Гэта была нават не рэцэнзія, а дыялог паміж Дабрамыслам і Злаілам, усё роўна як невялічкая сцэна з п'есы. Дабрамысл адзначаў радкі, якія яму спадабаліся, а Злаіл тут жа пярэчыў, адстойваў свой погляд… Гэта вельмі цікава чыталася, было надзвычай арыгінальна. Я да гэтага часу вельмі ўдзячная Івану Сцяпанавічу за тую рэцэнзію-дыялог…

**— Што павінна быць у літаратурным творы, каб вам было цікава яго чытаць?**

— Адказ на гэтыя пытанні вельмі кароткі: павінна быць проста цікавая кніга, ад якой ну ніяк не адарвацца. І такое здараецца! Ёсць людзі, якія зачытваюцца кнігамі, інакш не было б цікавасці да кніжных выставак, якія ладзяцца штогод.

**— За час працы галоўным рэдактарам ці з'явіўся ў вас адказ на пытанне, што робіць аўтара вядомым, запатрабаваным? Чаму, на вашу думку, добры аўтар і вядомы аўтар — не заўсёды тоесныя?**

— Тут, напэўна, не толькі я, а і шмат хто іншы адказаў бы, што вядомым пісьменніка рана ці позна робіць талент. І добрага аўтара ад дрэннага



адрознівае таксама талент. Ну, бывае, сустракаецца і такое, што добры аўтар і вядомы аўтар — не тоесныя паняцці. Падчас майго студэнцтва ў шасцідзясятыя гады мінулага стагоддзя ў інтэрнат Літаратурнага інстытута ў Маскве вельмі часта прыязджаў Коля Рубцоў з Волагды, здаралася, у валёнках у канцы сакавіка, калі на маскоўскіх вуліцах ужо звінелі ручаіны. У тых мокрых валёнках яго, можа, нават у ЦДЛ аднаго не пусцілі б… Затое ў інтэрнаце не было студэнта, які б не захапляўся яго паэзіяй! Рубцоў не быў эстрадным паэтам, што было модна ў той час, як і не быў паэтам, які праслаўляў савецкую ідэалогію. Ён проста меў вельмі магутны, вялікі талент. І пра сябе ён пісаў: «Стукну по карману — не звенит, стукну по другому — не слыхать, если только буду знаменит, так поеду в Ялту отдыхать…». Коля ведаў, што ён не «ўпісваецца», і ніяк не лічыў сябе знакамітым. Яго жыццё рана і трагічна скончылася, але засталася яго выдатная, шчымлівая, не крыклівая лірыка. Цяпер ён — прызнаны класік рускай паэзіі. У Волагдзе яму паставілі вялікі, прыгожы помнік. Яго імя ўваходзіць у школьныя падручнікі, выдаюцца і перавыдаюцца яго кнігі, зборы твораў, яго вершы перакладаюцца на іншыя мовы. Гучаць яны і па-беларуску ў цудоўным перакладзе паэта Уладзіміра Скарынкіна. Падобнае нярэдка здараецца ў літаратуры. Праўда, ёсць яшчэ адзін момант. Некаторыя літаратуразнаўцы лічаць, сыходзячы з уласных назіранняў, што пісьменнікі дзеляцца на два тыпы. Адны ў дошку разбіваюцца, шукаючы вядомасці і славы, а вядомасць хаваецца, збягае ад іх. Другія ж, наадварот, баяцца вядомасці, пазбягаюць усялякай увагі да сябе, але вядомасць за імі літаральна палюе: сам таго не жадаючы, пісьменнік на любым кроку аказваецца ў цэнтры ўвагі. Тут нешта амаль містычнае.

**— Абсалютная большасць крыніц вызначае тэмай вашых вершаў каханне. Што менавіта вы ўкладаеце ў гэтае слова — «каханне»?**

— На гэтыя пытанні адкажу мудрагеліста. У студэнцкія гады я напісала верш «Я — дзяўчынка на шары», які падабаўся кіраўніку нашага творчага семінара вядомаму расійскаму паэту і перакладчыку Льву Адольфавічу Озераву. Часам з чытаннем гэтага адна-го верша Леў Адольфавіч запрашаў мяне прыняць удзел у літаратурных сустрэ-чах, якія яму даводзілася весці. А потым неяк сказаў, кшталту: «А паспрабуйце што-небудзь напісаць пра каханне, вы ж маладая, а беларуская мова вельмі мілагучная, праз яе прыгожа можна пе-радаць самыя трапятлівыя пачуцці». Я адчувала, што пра каханне трэба пісаць асабліва. Ну, скажам, як у Міхася Страль-цова: «Нібы пра згубнае каханне пяе няўцямнае дзіця», альбо як у Аляксанд-ра Блока: «Ты — как отзвук далёкого гимна»… На той час у мяне не было ні згубнага кахання, ні некага, хто быў бы, як водгук далёкага гімна, але аднойчы я штосьці такое пачула ў сабе, даклад-ней расчула, што прарывалася адне-куль здалёку-здалёку. Зусім як у адным васьмірадкоўі з майго нядаўняга цыкла вершаў «Да графічных малюнкаў Напа-леона Орды»:

Я позіркам дамалявала,  
што мур за вежамі схаваў.

З нябёсаў поўня азірала:
масток драўляны, сонны стаў.
І там, дзе ўся ў плюшчы альтанка,
між чарады купчастых дрэў
спявала гордая шляхцянка,
і я расчула гэты спеў…

Магчыма, у маёй душы загаварылі гены. Мая мама ў сваім дзяцінстве пісала вершы папольску. Самыя розныя пачуцці, як быццам з нейкім навігатарам, уплятала я ў радкі, якія рабіліся вершамі, і гэтыя вершы, як цаглінкі, своеасабліваю кладкаю клаліся ў мой Палац кахання. Ну так, я не ў рэальным жыцці, а вершамі будавала свой таемны Палац і страсці, і шчасця, і разладу. І тут хачу працытаваць радкі яшчэ аднаго верша з ужо згаданага цыкла:

Скідвае восень агністае лісце.
Вечар навокал усё заімгліў.
Раптам здалося, што ў нейкім калісьці
мы ў гэтым палацы жылі…

На вялікі жаль, нішто не вечна. Самыя глыбокія і высокія пачуцці, як і само жыццё, бываюць зменлівыя. Палац, які яшчэ ўчора быў поўны салодкай радасці, можа абваліцца ў адначассе і, як гэта ў Напалеона Орды, ва ўсёй сваёй красе застацца толькі на малюнку, у маім жа выпадку — ён застаўся ў вершах.

**— Напэўна, у кожнага пісьменніка і паэта павінен быць мастацкі арыенцір, пункт апоры, якога ён прытрымліваецца, які не дазваляе цалкам падпарадкоўвацца меркаванням збоку… Што ёсць такі арыенцір для вас? Ці змяняўся ён з часам?**

— Я ніколі ні цалкам, ні збольшага не падпарадкоўвалася меркаванням збоку, наадварот, гэтае «збоку» дадавала мне яшчэ большай упартасці заставацца сабой. А калі ўсё ж пра арыенціры… У мяне на адной з кніжных паліц стаіць дзесяць-пятнаццаць кніжак паэзіі — гэта і сусветная класіка, і сучаснікі… Я іх лічу талісманамі. У іх ёсць закладачкі на пэўных старонках. У нейкага аўтара — два-тры вершы, у кагосьці тры-чатыры, але гэта тое, што я магла б назваць чарадзействам. Гэтыя вершы маюць такую моцную энергетыку, што яны, як жывыя, дыхаюць ёю. Асабіста мяне яны нейкім чынам сілкуюць нават фізічна, калі здараецца прастудны жар ці ўзнікаюць праблемы з ціскам. Чытаеш радок за радком — і лекуешся, усё сыходзіць на ніц, такая неверагодная незямная сіла ў вершах… На іх можна варажыць, яны могуць нешта падказваць, ад чагосьці засцерагаць. Увогуле, творчасць — паэзія, музыка, мастакоўскія палотны — гэта ўсё таямніцы не з нашага свету, з якога боку іх ні разглядвай — усё таямніца…

**— На вашу думку, наколькі пісьменніку і паэту дазволена быць звычайным чалавекам? І наколькі ён мусіць быць ідэалам? Наколькі — імкнуцца фарміраваць густ, а наколькі — падладжвацца пад яго? Наколькі аўтар піша для сябе, а наколькі — для чытача?**

— Мяркую, што на ўсе сто адсоткаў пісьменніку і паэту дазволена быць звычайным чалавекам. І як у кожнага чалавека, у яго здараюцца і пад’ёмы, і крызісы. Праўда, крызісы чыста не жыццёвыя, а творчыя… Калі хоць памры, а не пішацца, і гэта можа працягвацца тыднямі, нават месяцамі. Вось тут на поўную моц і раскручваецца псіхалогія творчасці. Пісьменнік шукае ранейшы настрой, той стан, калі яму лёгка і добра пісалася. У гэтым сваім пошуку ён здольны на многае. У асноўным гэта дзівацтвы, якія не заўжды можа зразумець чалавек, што жыве побач. Творца можа апранацца ў неверагоднае адзенне, нават пастаянна мяняць шторкі і шпалеры ў пакоі, дзе працуе, апускаць ногі ў халодную ваду, калі садзіцца за пісьмовы стол, а то і пасярод лета футравую шапку нацягваць на галаву, каб не даляталі ніякія гукі… І гэта самыя маленькія дзіўноты. Могуць быць і большыя. Усё залежыць ад таго, як доўга працягваецца творчы крызіс. Наконт ідэала? Пісьменнік можа быць у жыцці далёка не ідэальным чалавекам, і разам з тым яго творы могуць быць поўныя красы і самых высокіх сэнсаў. Тут, напэўна, спрацоўвае ўсё тая ж «механіка нябёсаў». І думаю, што найчасцей аўтар піша для сябе толькі дзённікі і пры жыцці ўсяляк іх хавае. Астатнія творы, безумоўна, для чытача, якія нярэдка пры сустрэчы з аўтарам можа стаць крыніцай натхнення.

## Святлана Воцінава

# Прыгоды руін

Як ні добра мецць нам замкі з іх сівымі легендамі і кульгавымі квэстамі, макіяжам скляпенняў і перманентам экскурсій, з прывідамі, сапраўднасць якіх выклікае рытарычныя сумненні, і самымі што ні ёсць несумненнымі білецёрамі на ўваходзе, а не-не ды і надакучыць усё гэта разам, як надакучвае ў пост вінегрэт. Вандроўнікам, ведаеце, дагадзіць немагчыма. Нам чым менш дагаджаеш, тым лепш. Нам даўніну, канечне, падавай, але, калі ласка, без соусу і відэльцаў. Мы яе так, рукамі, нішчымную, без аніякай пятрушкі. Бо смачней. Ежа для розуму, увогуле, рэч у сабе: часам абсалютна не ведаеш, чым у рэшце рэшт будзеш сыты. І сур’ёзнае, у межах прадстаўнічага «круглага стала» ці нават спецыяльна скліканай канферэнцыі, абмеркаванне праблем захавання гісторыка-культурнай спадчыны не заўсёды замяніць па вартасці (інтэлектуальнай каларыйнасці) ціхую размову пра маленькую каплічку (стагоддзя хаця б дзевятнаццатага), схаваную ад усіх вачэй недзе ў зарасніку беларускай глыбінкі.

Вадзім Каспяровіч, Саша Варабей, Саша Гаўрусёў.



Якраз такога кшталту размова адбылася з нагоды друкавання на вокладцы «М» фотапраекта «Нашы Руіны». Яго аўтара — Уладзіміра Цвірку, збіральніка даўніны, вандроўніка і энтузіяста, з ініцыятывы якога рэалізуюцца ў асяродку апантаных людзей ідэі наколькі простыя, настолькі і патрэбныя, я папрасіла расказаць пра тое, што першапачаткова нават мела імпэт даць назву гэтаму матэрыялу, што ўвогуле апісвае стан эпохі і што фігуруе ў сацсетках як слоган задумы, — пра тое, што, пачаўшыся толькі летась, ужо тройчы змяніла пытальнік на клічнік.

## Сярэдзіна лютага, холадна

П’ём гарбату з «уцепленых» (узор такі на баках — быццам панчошкі, пруткамі звязаныя) кубкаў, марым пра новы сезон вандровак (у кожнага свой, але мы тут не канкурэнты: у кожнага з нас свая рубрыка ў рэспубліканскім выданні, адзіны пагляд на мінуўшчыну і на тое, што з ёю рабіць), і мой суразмоўца натхнёна ўспамінае, што было летась. Успаміны яго смачныя, каларыйныя. Але сутнасць не ў тым.

— Мы нейкія смешныя, — кажа Уладзімір, — паводзім сябе сціпла, а трэба гаварыць пра свае дасягненні. Не для ўласнай славы, а каб іскра была кінута і разгарэлася полымя. Стымулы могуць быць розныя: і прыдбаныя новыя веды, і добры настрой, і натхненне на новыя дзеянні, і прыемны боль у натруджаных мышцах, і публікацыя — але толькі не грошы. І толькі прыватная ініцыятыва, ад душы, ад «я хачу», без ніякіх планаў і «птушачак». Памятаю, на першым аб’екце падышоў да нас дзядок, вельмі ўразіўся, але тым не менш запытаў: «І патрэбна вам гэта?» Адно-адзінае пытанне, і мо не так ад яго, мо нават не ад дзядка таго зусім, а неяк сама сабою ўзнікла назва праекта: «Яно нам трэба», але спачатку з пытальнікам, а потым з клічнікам. Атрымалася правіла: калі толькі прыязджаем на аб’ект, уголас пытаем сябе: «Яно нам трэба?» А ў канцы працы кажам: «Яно нам трэба!»

## Навошта

— Навошта расчышчаць малавядомыя безабаронныя аб’екты старой архітэктуры ад зарасніку… Тыя, якія нават шыльд ахоўных не маюць і даўно былі б зруйнаваны, калі б дайшлі рукі… Мне заўсёды здавалася, што любая справа павінна разбівацца на этапы, а гэтыя этапы павінны складацца з пэўных аб’ёмаў канкрэтнай працы, частку якой, калі гава-

рыць пра ўзнаўленне архітэктурных аб'ектаў, можна рабіць і на адлегласці. Архіўныя пошукі, да прыкладу, — гэта праца і для рэстаўратараў: каб мець уяўленне пра аб'ект — яго памеры, матэрыял сцен, час пабудовы... Мне здавалася, што першы этап працы з закінутым помнікам — зрабіць так, каб зручна было да яго падысці, разглядзець вачыма, памацаць рукамі, крануць сэрцам. Такія аб'екты звычайна або схаваны ў зарасніку, або наадварот, небяспечна і недарэчна агаленыя, і ні ў тым ні ў іншым выпадку яны не ўражваюць, адно толькі абурае іх стан. Вось стартавая кропка — прымусіць уражваць.

## Першы крок і першыя адкрыцці. Выпрабаванне пытаннямі ў «Доме Фішара»

— Раней, па нявопытнасці, мы з сябрамі проста ездзілі і глядзелі, бо цікава, але не больш. А тут з Сашам Гаўрусёвым паехалі ў чарговую вандроўку. Быў ці 2014-ы, ці 2015-ы… Я наперад ведаў, куды еду і што ўбачу, і ў якім яно стане. Папярэдзіў Сашу перад паездкай, што трэба браць сякеры і папраўляць, бо нічога не мяняецца, ніхто не паляпшае ўмовы існавання аб'екта — значыць, рабіць гэта будзем мы. Ён узрадаваўся неверагодна. А я ўзрадаваўся, што ён узрадаваўся. І вось мы з сякерамі падыходзім да адной каплічкі на могілках. Што адразу палохае? Зараснік. А калі падысці бліжэй і паглядзець больш уважліва, то ўбачыш пару кустоў, якія закрываюць палову сцяны. Пара кустоў – гэта ж пара ўзмахаў сякерай. Я не буду казаць «гэта ж лёгка», але «пара ўзмахаў сякерай» — справядлівыя словы. Такім быў пачатак. Тую ж ідэю — памахаць сякерай — я выказаў і ў «Доме Фішара», ёсць такое антыкафэ, юнакам, з якімі пазнаёміўся трошкі раней і якія мяне туды запрасілі. Маўляў, збіраймася. Нечакана для мяне яны пагадзіліся. Нечакана, бо трэба ж разумець, што запрашаў я іх не ў вандроўку, а працаваць. Канечне, за такім запрашэннем стаіць мачымасць дакрануцца да гісторыі і атрымаць задавальненне ад гэтага дакранання, але ў першую чаргу гэта запрашэнне да працы. Я разы тры паўтарыў, што трэба будзе секчы, паліць, цягнуць, валачы, паліць, чысціць. А яны — з радасцю адгукнуліся. Я назваў ім іншыя расходнікі: аўтамабілі, паліва, «ссабойкі». Яны: «Без праблем». Я правакаваў іх: маўляў, час свой там згубіце. Той час, за які мо зарабілі б дзе грошай. І зноў пачуў згоду: гэтыя энтузіясты нічога названага мною не бралі ў разлік. Ну, калі так…

## Першы аб'ект. Нагода для жартаў на фоне «фамільнага» склепа

— Першай руінкай, у бок якой мы рушылі, была Цвіраўшчына.
— Сімвалічна.

Цвіраўшчына да.



І пасля.



— (*Задзірыста смяецца*). З самага пачатку я злавіў сябе на думцы, што гэта будзе нагода для падколак. Разумееце, калі я ўбачыў яе першы раз… Я не ведаю, чаму так задрапала недзе злева. Яна такая… І не відаць яе зусім, а толькі купалок над ёю.

Чаму гэтая каплічка ў Цвіраўшчыне, што каля Вішнёва, малу каму з вандроўнікаў вядомая? Бо мала што яна стаіць на могілках ды ў такім занядбаным стане — зарослая так, што нават мясцовыя зусім яе не бачаць, дык і мясцовых тых — тры дамкі. На некаторых картах Цвіраўшчына і не пазначана. Мяне зачапіла не назва, а тое, што такая прыгажосць нікога не радуе, не мае на гэта магчымасці. А ўжо па дарозе, калі пачалі пра яе гаварыць і Саша задаў пытанне пра назву, я зразумеў, што… «папаўся». Пачаў апраўдвацца: маўляў, Цвірка і Цвіраўшчына нічога не маюць агульнага, і я ніяк не прывязваў гэта месца да свайго прозвішча. Калі друкаваў справаздачу пра той дзень у сацсетках, то пачаў з таго ж: маўляў, я тут зусім ні пры чым, супадзенне.

## Пытанні, якія пасыпаліся з першага ўзмаху сякеры. Гронкі рабіны, як слёзы

— Паехала нас, значыцца, чацвёра: згаданы Саша Гаўрусёў, Саша Варабей, Вадзім Каспяровіч і я. Размовы, ідэі і пажаданні — гэта адно. А калі прыязджаеш, дастаеш з багажніка сякеры і ідзеш на месца, пачынаецца трошкі іншае. З першага ўзмаху сякеры пасыпаліся на нас пытанні. На які дыяметр ад каплічкі расчышчаць плошчу: на два крокі? А мо на тры? Што рабіць з дрэвамі: усе высякаць ці не ўсе? Сячэш і не бачыш, які адкрываецца далягляд. І застаецца ў выніку, як выйшла. А як трэба?.. Трэба разумець, што ўсе культавыя пабудовы ставіліся з такім разуменнем месца, быццам іншага проста быць не магло, быццам калі не тут, то нідзе.

— Радзімкі нашай Радзімы, — укліньваюся з параўнаннем.

— Так. Але рабілася гэта не толькі для прыгажосці, а мела прычыны глыбейшыя і таньчэйшыя. Адкуль душа памерлага магла назіраць за нашчадкамі? З гэтых кропак, ад гэтага харáства. Такое разуменне прыйшло на другім аб'екце, у Дзямідавічах, што ў Дзяржынскім раёне. Там каплічка побач з дарогай стаіць. Першапачаткова яна выглядала, як пук зеляніны пасярод поля. З якога боку ні зірні — пук зеляніны. Нічога ў ім не відаць. І вось да пытання «Як трэба?». У Цвіраўшчыне капліца стаіць у групе дрэў і магіл. А ў Дзямідавічах — на пагорку ў полі, самотная. Калі, перш не падумаўшы, увесь хмызняк вакол яе высекчы, застанецца яна проста голая. Непрыгожа, няёмка, зняважліва. Мы падумалі і вызначылі, якія расліны з тых, што яе акружылі, спалучаюцца з каменем. З цеплынёй, якая ад яго ідзе, з гэтым полем, якое штогод рознае — то жытнёвае, то кукурузнае. І пакінулі каплічцы клёнік і рабінку. Атрымалася, быццам сям'я. Ці карціна. Капліцу

Клёнік і рабінка. Дзямідавічы.



Дзямідавічы. Саша Бялоў і Вадзім Каспяровіч.



гэтую можна было «намаляваць» і ў полі сярод калосся, але калі падыходзіш бліжэй, патрэбны акцэнт. Старая кладка і галіны дрэў на яе фоне — цудоўнае спалучэнне. І гронкі рабіны — як слёзы! Слёзы захаплення. А ў Цвіраўшчыне на капліцы дзверы папраўлі, але адну філёнку пакінулі адкрытай: глядзіце, маўляў, нічога там няма, ламаць не варта.

## Яшчэ адна добрая справа, яшчэ адны слёзы і агуркі як падзяка

— Вельмі добра, што ў першай паездцы адразу ўсё праявілася: і пытанні, і праблемы, і характары. Цэлы дзень мы секлі і зносілі ссечанае. Нехта сячэ, нехта цягне. Могілкі стаяць на пагорку, класічныя. І трэба правалачы галіны паміж магіламі да дарогі, уніз. Вырашылі выцягнуць усё, ні галінкі каб не пакінуць. А гэта ж і прыстойныя бярвенні, дыяметрам да 20 сантыметраў, і хмызняк, які з рук выпадае, і мяккая падсцілка з лісця, якое, зразумела, ніхто ніколі там не зграбаў. І толькі калі пачалі паліць, прыйшла ідэя гэта смецце калібраваць. Дробязь — у касцёр, буйнейшае — аддаць каму ў вёсцы, бо гэта ж дровы! Яшчэ адна добрая справа.

Пра характары скажу так: мне даводзілася спыняць іх. Адзін маленькі перапынак мы зрабілі, каб адпачыць, адзін — каб выйсці да машыны паабедаць. Бо «як гэта мы нешта не даробім?!» Рвалі кіпцюры, што называецца. Машыны, якія праязджалі міма, прыпыняліся: людзі звярнулі ўвагу, што нешта сур'ёзнае робіцца, але кім? Прыглядзеліся да нас: не мясцовыя. Дровы нарыхтоўваюць, ці што? Касцёр паляць… А мы рабілі ўсё па-гаспадарску: пачакалі, пакуль касцёр дагарыць, залілі кастрышча вадою. Дроў — вазы два атрымалася. Дзядок, які пытаўся, ці яно нам трэба, бабцы адной праз плот кажа: «Прыехалі во ненармальныя з Мінску, насеклі табе дроў два вазы». Бабка ў слёзы: «А мае дзетачкі, а што ад мяне трэба? Грошы?» Не трэба, кажам. Яна нам слоік агуркоў салёных вынесла. Насілася за намі з гэтым слоікам, каб толькі ўзялі. І браць было няёмка, і не ўзяць — таксама. Чалавек жа з душой, каб аддзячыць. Дамовіліся з бабчыным суседам, што ён прывязе ёй у двор тыя дровы, і спакойна паехалі ў Мінск. Так закончыўся той дзень.

## Кальцавая запаліла ліхтары

— Выязджалі з Мінску мо а восьмай раніцы, а вярнуліся прыцемкам, кальцавая запальвала ліхтары. Былі ў мяне сумненні. Я не чакаў, што столькі зробім. Не чакаў, што такой будзе праца. Спыніліся перад уездам у горад, я хлопцам дзякую, думаючы, што на наступны раз мо ніхто не пагодзіцца. А яны сказалі, што пакрыўдзяцца, калі не паклічу. Я ведаю, як прыемна адчуваць стомленасць, калі завяршаецца цяжкая праца, разумею і эмоцыі, якія ў гэты час набягаюць, і як з'яўляецца аднекуль новая энергія і ўжо знікае стомленасць, ужо наадварот — «яшчэ б мо што зрабілі?» Гэты цікавы пераход мне знаёмы. Мне здаецца, гэта

Траскоўшчына. Млын, які ён быў.



І што атрымалася.





Траскоўшчына. Мікалай Пятровіч Кірдун.

ад таго, што ў канчатковы момант ты ведаеш, навошта столькі часу змагаўся з ветракамі. Але паўтарыць тое самае — іншая справа.

Раз’ехаўшыся, яшчэ раз стэлефанаваліся. Зноў з падзякамі адно да аднаго. Я дзякаваў як завадатар — што пагадзіліся, а яны, кожны, дзякавалі мне за тое, шо я ім такую працу падкінуў. Дзіва! У Дзямідавічах з намі быў і Саша Бялоў. Увогуле, з’явілася, хоць і ў добрым плане, праблема: мне давялося адбівацца ад людзей, якія хочуць ехаць ратаваць руіны. Збіраючыся на трэці аб’ект, я расказваў знаёмым, праз што мы прайшлі, як правялі час, што зрабілі — і раптам, што называецца, рэпліка справа: «Цікава, а чаму ты нас не запрашаеш?» Атрымліваецца, пакрыўдзіў. Мы, значыцца, нечым цікавым займаемся, а ў кампанію да сябе не бяром. Я тлумачу, што гэта «без спонсараў», «за так», ад сэрца. Зноў крыўда: «Чаму ж ты мяне не бярэш? Што ж я, такі бессардэчны?»

## Аб’ект трэці. Млын. Містыка

— Тут зноў быў Вадзім Каспяровіч, студэнт, але дабавіўся Саша Дзейкун і Кірдун Мікалай Пятровіч з бензапілой. Я ўжо ведаў, што пытанне спонсарства тут закрыта. Чалавек даў зразумець, што ён не бессардэчны, што яму не патрэбныя грошы за паліва для бензапілы, каб ратаваць руіны. І мы паехалі на трэці аб’ект — вадзяны каменны млын. Зусім іншае асяроддзе: рака, вада, журчанне плаціны.

— А містыка?

— Містыкі — колькі заўгодна, я адтуль нацягаў легенд на некалькі публікацый. Гэта Траскоўшчына, недалёка ад Мінска. Там таксама вельмі ўсе дзівіліся: нашто гэта трэба — млын ратаваць, калі яго збіраліся ўжо знесці. Але не прамінулі згадаць, што на фоне гэтага млына фатаграфуюцца часам вяселлі. Пасля сказалі: «О, цяпер вяселлі паваляць».

Тут мы валілі сур'ёзныя дрэвы. На цуркі іх папілілі, каб некаму засталося адно пасячы іх, — і гатовыя дровы. Мясцовы адзін пагаварыў з намі, сказаў, што дровы сам забярэ. Ачысцілі млын ад зарасніку, зноў дружна, з запалам, — і я зразумеў, што ў мяне ёсць каманда з запаснымі гульцамі: калі нехта некалі не зможа паехаць, то зможа паехаць іншы.

Ачышчаныя аб'екты трэба пад патранат браць. Хоць ёсць верагоднасць, што мясцовыя людзі, захапіўшыся прыкладам, будуць цяпер даглядаць іх. Трава спадае штосезон, а кусты і дрэвы растуць марудна. Ды і пра далейшы лёс стала зразумела яшчэ ў Цвіраўшчыне. Хацелі здаць аб'ект «на баланс» мясцовай царкве, але адзін мужчына на вуліцы сказаў: «Я і сам махану сякерай». Так што за мясцовых мы спакойныя: яны ідэю падхопяць.

## Зайздрасць і паслядзеянне

— Я ўвесь час зайздрошчу тым, хто жыве побач з руінамі, можа хадзіць па іх, глядзець на іх на ўсходзе і захадзе сонца, зімою і летам, пераносіцца думкамі ў мінулае. Але калі размаўляеш з тымі, каму зайздросціш, разумееш: вока ў іх замылена. Яны звykліся жыць з руінамі. Руіны іх не натхняюць. А так не павінна быць. Гэты каменьчык я кідаю ў іх агарод. Але ў нашай акцыі ёсць паслядзеянне: скарэкціраваны пагляд. Бо не трэба руін саромецца. Іх няцяжка бачыць прыгожымі.

Мы абараняем іх ад далейшага разбурэння, даём ім магчымасць грэцца на сонцы і дыхаць паветрам, ратуем ад сырасці. Гэта першы крок да кансервацыі і рэстаўрацыі.



Траскоўшчына. Саша Дзейкун.

Траскоўшчына. Тут валілі сур'ёзныя дрэвы. Мікалай Пятровіч Кірдун і Уладзімір Цвірка.






Фота Дзмітрыя Осіпава.

# Гісторыя горада, якую мы маем гонар ведаць

*Пра рэальныя і верагодныя факты і падзеі віцебскай даўніны з вуснаў Дзяніса Юрчака*

**Мінулай восенню віцебскую культурную грамадскасць ускалыхнула нечаканая абвестка: у абласной бібіліятэцы ладзяць публічныя лекцыі для ўсіх жадаючых па гісторыі старажытнага горада на Дзвіне. Заняткі праходзяць у надзвычай жывых інгрыгуючых абставінах: тут табе не толькі цікава раскажуць пра тое, што на самай справе адбывалася тысячагоддзе таму назад, але і пакажуць. Да лекцый далучаюцца аматары клубаў гістарычнай рэканструкцыі, студэнты Віцебскага дзяржуніверсітэта імя П. Машэрава, якія з дапамогай сучасных тэхналогій здолелі зняць эксклюзіўны відэафільм пра з'яўленне першых жылых пабудоў на берагах Віцьбы. Часам слова бяруць эксперты і выказваюць сваё меркаванне наконт таго ці іншага спрэчнага пытання. Матэрыялы лекцый звычайна можна ўбачыць на старонцы «УКантакце».**

**Віцябчане з вялікім натхненнем паглыбіліся ў атмасферу публічных курсаў. Здаецца, зярнятка трапіла ў падрыхтаваную глебу: ідэя папулярызацыі краязнаўства пачала наяве рэалізоўвацца. Часам падобныя мерапрыемствы нагадвалі публічныя лекцыі, якія ладзілі мастацтвазнаўцы ў авангардным Віцебску на пачатку XX стагоддзя, калі, напрыклад, Іван Салярцінскі збіраў вакол сябе сотні прыхільнікаў новага мастацтва, а над горадам «узносіліся» закаханыя Шагала.**

**Адным з ініцыятараў праекта і мадэратарам дыскусійных заняткаў стаў кандыдат гістарычных навук, галоўны спецыяліст Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Віцебскага аблвыканкама, дацэнт кафедры гісторыі Беларусі Віцебскага дзяржуніверсітэта, краязнаўца Дзяніс Юрчак. Гутарка з ім запісана журналісткай і пісьменніцай Святланай Дзядзінкінай.**

***

— Перш за ўсё ўдакладню: над публічнымі лекцыямі мы працуем разам з загадчыкам кафедры ВДУ імя П.Машэрава, кандыдатам гістарычных навук Анатолем Мікалаевічам Дулавым і вядомым краязнаўцам, кандыдатам гістарычных навук Міколай Васільевічам Піваварам. Лектарамі на курсах часта выступаюць вядомыя краязнаўцы і гісторыкі з Віцебска і Мінска.

**— Як узнікла ідэя такіх курсаў? Вядома, вы праводзіце іх абсалютна бескарысліва, бясплатна для усіх жадаючых, а між іншым часу на іх падрыхтоўку трэба выдаткаваць нямала. Што вамі кіруе?**

— У апошні час даволі часта з'яўляюцца розныя псеўдагістарычныя тэорыі і вольныя трактоўкі гісторыі Віцебска і Беларусі наогул. Асабліва прыкра, што адзін запіс у сеціве можа спрыяць распаўсюджванню хлуслівых думак, змене тых ці іншых парадыгм. Сучасныя магчымасці інтэрнэту не маюць межаў, але могуць нарабіць шмат шуму. Навукоўцы сведчаць: з'явіліся паспяховыя выдавецкія праекты, якія прапагандуюць псеўдагістарычныя веды. Мы імкнемся супрацьстаяць гэтаму, абапіраючыся выключна на дакладныя крыніцы і крытычны аналіз. У той жа час мы не збіраемся адмаўляцца ад смелых гіпотэз, калі існуе дадаткова аргументаў на іх карысць. Такім чынам, папулярызаваць гісторыю роднага горада можна, карыстаючыся фарматам тэлежурналістаў «скандалы, сенсацыі, даследаванні», але пры гэтым выключна на аснове прынцыпаў аб'ектыўнасці і гістарызму.

Мясцовая гісторыя мае свае асаблівасці. Чалавека вабяць далёкія цывілізацыі Старажытнага Егіпта, Індыі, Кітая, а тое, што побач, мы можам не заўважаць. Тым часам вакол шмат унікальных з'яў і асоб.

**— Хто па-сапраўднаму паўплываў на ваш прафесійны выбар, спрыяў вашаму захапленню краязнаўствам?**

— Наваколле Віцебска — мая малая радзіма. Нарадзіўся я ў вёсцы Перамонт Лёзненскага раёна, у дзіцячы садок хадзіў у Лужасна, а ў школу — ужо ў Віцебску. Бабуля доўгі час жыла ў вёсцы Цяцёркі, дзе зараз заканчваецца будаўніцтва



Дзяніс Юрчак. Фота Алесі Дуброўскай.

Віцебскай гідраэлектрастанцыі. Пэўны ўплыў аказаў на мяне Мікола Васільевіч Півавар, які вельмі актыўна займаецца краязнаўствам. Спачатку ён як настаўнік хадзіў з гімназістамі ў паходы, потым склаў каталог гістарычных і культурных каштоўнасцей і славутасцей наваколля Лужасна, Віцебска, апісаў тыя аб'екты, пра якія раней ніхто і гаворкі не вёў. Цяпер вядомы вучоны, кандыдат гістарычных навук плённа працуе на ніве краязнаўства, мае шмат выданняў, якія карыстаюцца попытам.

**— Энтузіязм віцебскіх навукоўцаў падтрымала абласная бібліятэка, якая таксама лічыцца адным з арганізатараў згаданых курсаў. Раскажыце, як пачыналіся заняткі.**

— Першыя заняткі адбыліся ў верасні мінулага года на тэму «Віцебск дагарадскі» — пра той перыяд, калі на гары Ламіха існавала гарадзішча балцкай днепра-дзвінскай археалагічнай культуры. Неспадзявана сабралася столькі народу, што вялікая чытальная зала аказалася перапоўненай. Да нас далучыліся ўдзельнікі клуба гістарычнай рэканструкцыі VARGENTORN. Слухачы задавалі многа пытанняў, асабліва наконт ладу тагачасных балтаў. Наступную лекцыю мы прысвяцілі пытанню пра ролю княгіні Вольгі ў гісторыі горада і датаванні яго заснавання.

**— Гэта прыгожае паданне з'яўляецца камнем спатыкнення для краязнаўцаў і гісторыкаў многіх пакаленняў. Я асабіста назірала, з якой цікавасцю слухачы ўспрымалі сабраны матэрыял пра перыяд заснавання Віцебска. Ці лічыце вы, што ў гісторыі горада гэта адна з белых плям?**



Дзяніс Юрчак і Анатоль Дулаў. Фота Алесі Дуброўскай.

— Паводле падання, княгіня Вольга праплывала па Заходняй Дзвіне і, ўбачыўшы высокае месца каля вусця Віцьбы, вырашыла тут заснаваць горад. На гэты конт існуе нямала спрэчак. Бо згодна з познім летапісам XVIII стагоддзя Панцырнага і Аверкі горад быў заснаваны княгіняй Вольгай у 974 годзе (афіцыйная дата нараджэння Віцебска і сёння), але, па дадзеных «Аповесці мінулых часоў» — летапісу XII стагоддзя — княгіня Вольга спачыла ў Бозе ў 969 годзе. Вось галоўнае несупадзенне. Насамрэч, датаванне XII стагоддзем вельмі ўмоўнае. Тлумачэнні трэба шукаць дзесьці яшчэ. Да 1021 года Віцебскія землі ўваходзілі ў склад Кіеўскай Русі, хаця ў той час квітнелі Полацкія землі, і гэта зусім побач, на адлеглацсі ў 100 кіламетраў. Толькі ў 1021 годзе Віцебск быў перададзены князем Яраславам Мудрым (пасля бітвы на рацэ Судамір) Полацкаму княству, князю Брачыславу Ізяслававічу. Княгіня Вольга валадарыла над Кіевам — факт бясспрэчны, як і ператварэнне Віцебска ў X стагоддзі ў паселішча гарадскога тыпу, што пацверджана археолагамі.

Легенда пра княгіню Вольгу вельмі лагічна выглядае на фоне таго, што Кіеву патрэбны быў фарпост на Заходняй Дзвіне, і таму старажытны Віцебск, які сфарміраваўся на месцы былога балцкага гарадзішча і пазнейшых навакольных паселішч крывічоў, апынуўся ў складзе Кіеўскай Русі. Гэта ў сваю чаргу спрыяла развіццю горада.

Варта звярнуць увагу таксама на тое, што калі кіеўская княжна і была ў Віцебску, яна яго не засноўвала, а ўзяла пад кантроль існуючае паселішча (магчыма, крыху перабудавала), пакінуўшы тут сваіх дружыннікаў. Легендарны ўспамін пра заснаванне Вольгай Дабравешчанскай царквы і горада знойдзены і ва ўніверсале віцебскага ваяводы Казіміра Аляксандра Пацея (1714). Пра незвычайнасць гэтай знаходкі мы расказалі на курсах. Справа ў тым, што па просьбе Валерыя Шышанава (намесніка дырэктара абласнога краязнаўчага музея) Максім Макараў вывучаў польскамоўныя гістарычныя тэксты пра наш горад. У 22-м выпуску Гісторыка-юрыдычных матэрыялаў з актавых кніг губерній Віцебскай і Магілёўскай (1891) і быў знойдзены ўніверсал ваяводы і войта Казіміра Аляксандра Пацея брацтэрству віцебскай Дабравешчанскай царквы. У ім гаворыцца, што храм, як і горад, «заснаваны княгіняй Вольгай». Ваявода падкрэслівае, што гэта было ўказана і ў больш старажытных юрыдычных дакументах — прывілеях, дараваных царкве і гораду. І калі з царквой ўсё зразумела, яе датаванне адносіцца да XII стагоддзя, дык да ранняй гісторыі Віцебска княжна магла мець прамое дачыненне, і мясцовае паданне не ўзнікла на пустым месцы.

Такім чынам, мы можам сцвярджаць, што паданне пра Вольгу было шырока распаўсюджана на пачатку XVIII стагоддзя, і складальнік Віцебскага летапісу Стэфан Аверка пазней, у 1768 годзе, зафіксаваў гэты факт як найбольш верагодны.

Верагодныя даты заснавання вельмі ўмоўныя. На сёння існуюць чатыры даты заснавання Віцебска, зафіксаваныя ў розных крыніцах: 1021 год, 974 год, 947 год і нават 914 год. Кожная з іх мае сваіх прыхільнікаў. Але паколькі ўмоўнай датай заснавання горада лічыцца першая яго згадка ў летапісе, то ў выпадку з Віцебскам замацавалася легендарная дата, пад якой змешчана ў Віцебскім летапісе паданне пра княгіню Вольгу, — 974 год.

Мяркую, гэта паданне ўзнікла не пазней за XIV стагоддзе, бо ў ім прыгадваецца каменная царква святога Міхаіла. Паданне падтрымлівалі і прымалі як праваслаўныя, так і ўніяты з каталікамі. Што датычыцца пытання пра праўдзівасць легенды, прыгадаю, што жывых сведкаў таго, што Ромула і Рэма ўзгадавала ваўчыца, а потым яны заснавалі Рым, таксама няма… Але наша паданне грунтуецца на гістарычнай гіпотэзе і мае свае доказы.

**— Яшчэ адна цікавая старонка гісторыі Віцебска — яго старажытныя замкі. Сёння пра іх нагадваюць толькі рэшткі вежы ў так званым Духаўскім кругліку ля Летняга амфітэатра ды назва вуліцы Замкавай, што вядзе ад Кіраўскага моста да плошчы Свабоды. Тым не менш усяго два стагоддзі таму цэнтр Віцебска вылучаўся стромкім узвышам, падобным на ўсечаную піраміду. Першыя археалагічныя даследаванні старажытнага горада праводзіліся менавіта на Замкавай гары ў канцы XIX стагоддзя. Тэрыторыя гістарычнага цэнтра — гэта сістэма трох віцебскіх замкаў, да ўзвядзення якіх маюць дачыненне імёны князя Альгерда і яго жонкі Ульяны. Што вядома гісторыкам пра гэты перыяд жыцця горада, і якія акалічнасці лічацца спрэчнымі?**

— Узвядзенне каменнага абарончага пояса вакол горада пачалося ў першай палове XIV стагоддзя падчас праўлення князя Альгерда і яго другой жонкі Ульяны Цвярской. З гэтымі імёнамі звязаны росквіт віцебскіх земель. Бацькам Альгерда, князя крэўскага і віцебскага, вялікага князя літоўскага (1345—1377) быў вялікі князь літоўскі Гедымін. Магчыма, у літоўскага князя Альгерда былі і славянскія карані, бо ёсць меркаванне, што яго маці была полацкай княжной. Паводле пазнейшых крыніц, у 1318 годзе Альгерд узяў шлюб з дачкой віцебскага князя Яраслава з роду Рурыкавічаў Марыяй. Ёсць падставы думаць, што папярэдне князь пахрысціўся (хаця б фармальна), бо інакш гэты шлюб не прызнала б царква. Праз два гады Яраслаў спачыў, а Альгерд прыняў спадчыну па кудзелі. Звестак пра яго княжанне ў Віцебску мала. Больш вядомы той факт, што ён атрымаў бацькоўскі трон у Вільні, захаваўшы за сабою і Віцебск.

Альгерд першым перамог татар на Сініх Водах у 1362 годзе, паклаўшы пачатак вызваленню ўсходнеславянскіх земель ад ардынскага іга. Ажаніўшыся пасля смерці Марыі з цвярской княжной Ульянай, Альгерд стаў саюзнікам Цвярскога княства, якое выступала супраць Масквы ў барацьбе за лідэрства ў Паўночна-Усходняй Русі. Дапамога цвярскому князю Міхаілу Аляксандравічу (брату Ульяны) і стала прычынай трох паходаў Альгерда на Маскву.



Віцебская ратуша. Фота Дзмітрыя Осіпава.

Самой Ульяне прыпісваюць заснаванне Свята-Духавага жаночага манастыра, па яе ініцыятыве ў Віцебску і Вільні было ўзведзена таксама некалькі храмаў. У яе было 16 дзяцей. Старэйшы сын Ягайла (у праваслаўі Якаў) стаў каралём польскім Уладзіславам II, заснавальнікам дынастыі Ягелонаў, прадстаўнікі якой займалі троны Польшчы, Венгрыі і Чэхіі.

Гісторыкі сыходзяцца ў тым, што за час княжання Альгерда тэрыторыя Вялікага княства Літоўскага павялічылася больш чым ў два разы, а беларускія землі занялі ў дзяржаве цэнтральнае месца.

Міхаіл Каяловіч і Уладзімір Антановіч адзначалі, што пры Альгердзе ўзмацніўся ўсходнеславянскі ўплыў у палітычнай, культурнай, духоўнай сферах. Маскоўскі гісторык, прафесар Мацвей Любаўскі лічыў, што Падзвінне і Падняпроўе ў складзе ВКЛ развіваліся «на старым корані». Маўляў, Заходняя Русь не толькі не страчвала сваёй гістарычнай спадчыны, але і распаўсюджвала яе: рускую мову, права, веру.



Віцебск XIX стагоддзя намаляваў Напалеон Орда.

Як аднаму з выдатных  дзяржаўных дзеячаў Русі Альгерду быў устаноўлены ў Ноўгарадзе помнік «Тысячагоддзе Расіі» ў 1862 годзе.

Адна са спрэчных акалічнасцей — веравызнанне Альгерда. Каталік, праваслаўны ці язычнік? Думаю, ён абсалютна талерантна адносіўся да ўсіх веравызнанняў, распаўсюджаных у княстве. Разам з тым рэлігія актыўна выкарыстоўвалася князем ў палітычных мэтах, што для таго часу было з'явай звычайнай. Згодна з Пскоўскім лепапісам Альгерд пасля бітвы з крыжакамі адмовіўся прыняць хрышчэнне. Паводле ж Ніканаўскага летапісу ен адмовіўся, але назваў прычыну: «Уже крещен есмъ и христитанин есмъ, второе креститися не хощу».

**— Дзяніс, яшчэ адна цікавая тэма, якая не пакінула нікога абыякавым, — Віцебск магдэбургскі. На сустрэчу з віцябчанамі вы запрасілі нават сваіх калег — навукоўцаў з Інстытута гісторыі НАН. Якія новыя факты віцебскага самакіравання з'явіліся ў апошніх даследаваннях?**

— Перш адзначу, што і бясплатныя публічныя курсы з'явіліся дзякуючы праекту «Віцебск магдэбургскі». У мінулым годзе ініцыятары праекта запрасілі Максіма Макарава і Аляксандра Доўнара на тэматычную лекцыю, дзе яны не змаглі прысутнічаць. Таму мусілі мы правесці яе. Менавіта там і нарадзілася ідэя курсаў, бо мы ўбачылі цікавасць жыхароў горада да праблемы.

Даследаванні ж Максіма Макарава пераконваюць, што Віцебск — выключны горад у славянскім свеце, які меў асобную мясцовую сістэму самакіравання ў Сярэднявеччы, заснаваную не на магдэбургскай (нямецкай) мадэлі, а на мясцовым земскім праве. Такое ўнікальнае ва Усходняй Еўропе гарадское права віцябчане атрымалі ў 1561 годзе, Магдэбургскае ж права — толькі ў 1597 годзе. Нам захацелася данесці гэты прыклад да сучаснікаў. Максім Макараў, дарэчы, віцябчанін па паходжанні, абараніў кандыдацкую дысертацыю па гэтай тэме. Аднак з Магдэбургскім правам не ўсё проста. Сёння хтосьці ідэалізуе яго здабыткі, а хтосьці адмаўляе. Мы ж імкнёмся разглядзець як плюсы, так і мінусы, паказаць, што Віцебск меў сваё самакіраванне і як гэта адбывалася ў сапраўднасці.

**Даведка «М»**

*Дзяніс Валер'евіч Юрчак — віцебскі гісторык і краязнавец. Кандыдат гістарычных навук. Нарадзіўся ў 1981 годзе на Лёзненшчыне. Скончыў сярэднюю школу № 7 горада Віцебска, гістарычны і юрыдычны факультэт ВДУ імя П. Машэрава. Працаваў выкладчыкам кафедры гісторыі Беларусі і намеснікам дэкана гістарычнага факультэта ВДУ імя П. Машэрава. У цяперашні час — на дзяржслужбе.*

*Аўтар звыш 80 навуковых публікацый (у тым ліку манаграфій «Беларусь — Украина: 20 лет межгосударственных отношений» і «История путешествий и туризма» (у сааўтарстве)). Адзін з ініцыятараў і аўтараў краязнаўчых праектаў «Дзвіна Сапунова»* (http://yurchak.bloger.by і https://vk.com/nashadzvina) *і «Віцебск: гісторыя рэальная і папулярная»* (https://vk.com/histvitebsk).

17 сакавіка 1597 года наш горад атрымаў грамату на Магдэбургскае права ад караля Жыгімонта III Вазы. Арыгінал дакумента ў 1920 годзе выпадкова знайшлі на руінах сядзібы ў Лепельскім раёне, зараз ён знаходзіцца ў Варшаўскім архіве. Каб атрымаць Магдэбургскае права, горад павінен быў быць дастаткова моцным, яму трэба было мець сродкі, каб утрымліваць войта, бурмістра, бюракратычны апарат. Загадчык аддзела археаграфіі і крыніцазнаўства Інстытута гісторыі НАН Беларусі Аляксандр Доўнар прадэманстраваў прывілей ў электронным варыянце. Дзякуючы менавіта яму ў фондах Віцебскага абласнога краязнаўчага музея знаходзіцца копія старажытнага дакумента.

Скасавалі Магдэбургскае права ў Віцебску пасля далучэння ўсходніх зямель Беларусі да Расіі ў выніку падзелу Рэчы Паспалітай.

**— Дзяніс, ведаю, што вы гісторык, які не толькі праводзіць пэўны час у бібліятэках і архівах, але і вывучае родны край у экспедыцыях. Адзін з такіх нядаўніх паходаў быў па Заходняй Дзвіне. Якую мэту ставілі і ці дасягнулі таго, чаго хацелі?**

— У 2013 годзе мы праводзілі канферэнцыю, прысвечаную юбілею выдання кнігі Аляксея Парфёнавіча Сапунова «Рака Заходняя Дзвіна». Тады і падумалася, чаму б не параўнаць тое, што апісаў Сапуноў, з сённяшнімі рэаліямі. Экспедыцыю ладзілі разам з Анатолем Дулавым. У той час ужо будавалася Віцебская гідраэлектрастанцыя, і частку тэрыторыі павінны былі затапіць. Прыйшлося набыць



У Віцебскай абласной бібліятэцы падчас курсаў. Фота Алесі Дуброўскай.

ПВХ-лодку, на якой потым мы прайшлі яшчэ і Касплю (прыток Заходняй Дзвіны). Усё ўбачанае занатоўвалі і выкладалі ў інтэрнэт, параўноўваючы з апісаннямі Сапунова. Так нарадзіўся блог, дзе апісана лакалізацыя парогаў, названых Сапуновым. У апісаннях назваў парогаў і вёсак знаходзілі і пэўныя недакладнасці, бо краязнаўца тады, больш за 120 гадоў таму, карыстаўся інфармацыяй, якую яму давалі кормчыя на рацэ, а яны маглі памыліцца.

**— Не збіраецеся выдаць кнігу па гісторыі Віцебска?**

— Кніга часткова ўжо падрыхтавана, яе трэба дапрацаваць з арыентацыяй на больш знакавыя моманты. Сучасныя чытачы больш арыентаваныя на фармат «скандалы, сенсацыі, расследаванні». Менавіта такой літаратуры вельмі не хапае, як не стае і публіцыстычнай літаратуры па гісторыі горада. На жаль, няма і фільма пра віцебскую гісторыю. Мы з удзельнікамі праекта гатовы напісаць сцэнарый і выступіць экспертамі. Дарэчы, сцэнарый першага фільма ўжо падрыхтаваны, ёсць нават тэматычны план на 30 серый! У гэтай працы можна выкарыстаць патэнцыял клубаў гістарычных рэканструкцый VARGENTORN, «Паўночная вежа», «Нагальфар», якія маюць сапраўды аўтэнтычны матэрыял, які распавядае пра побыт і матэрыяльную культуру старажытнага Віцебска.

**— Як вы лічыце, наколькі сучасная моладзь цікавіцца гісторыяй роднага краю?**

— У зразумелых для яе фарматах. Часам лекцыі вельмі складаныя — тэмы спецыфічныя. А вось відэафільм у школьнікаў выклікае большую цікавасць. Маладзёжны фармат — відэалекцыі. Трэба праз сацыяльныя сеткі распаўсюджваць карысныя краязнаўчыя звесткі, выхоўваючы такім чынам у моладзі любоў да Бацькаўшчыны.



## Сяргей Шаматульскі

**нарадзіўся 18 мая 1990 года ў Оршы. Доўгі час жыў у Віцебску, цяпер мінчанін. Натхняецца гарадамі і людзьмі. Верыць у цуды. Шмат марыць і зусім крыху піша.**

# Юра

«Юра, пакажы жабку».

І Юра паказваў: з канапы на падлогу, кулёк, рукі за ногі, «ква-ква» — усе рагаталі.

«Добры Юра, Юра — малайчына».

Потым яго, як звычайна, песцілі салодкім, паілі гарбатай са сподка — дуй, а то апарышся! — лашчылі па галаве, усміхаліся ды адпраўлялі ў ложак. Развітвацца госці не заходзілі. Толькі маці, ужо пасля, прыбраўшы са стала сервіз і старанна вымыўшы падлогу, бывала, зазірала поначы, але ніколі не набліжалася да яго, а толькі глядзела ў цемру пакоя — ці спіць? — і, супакоіўшыся, знікала.

Скрып — дзверы адчыніліся, скрып — зачыніліся. Шчоўк — на замок.

Але Юра не спаў. Нібы баяўся прапусціць нешта. Прамаргаць выпадкова які-небудзь «аўторак» або «чацвер»: у днях ён, прызнацца, не разбіраўся, а толькі і жыў чаканнем новай раніцы. Усіх гэтых слоічкаў, кніжачак, сподачкаў ды гасцей, якім можна было паказаць жабку, а значыць — быць патрэбным, значыць — быць важным, значыць, быць, як усе.

Скрып — дзверы адчыніліся, скрып — зачыніліся. Шчоўк — на замок.

Ложачак мокры, коўдра збілася, падушка — камень. Круціся з боку на бок, палохайся ліхтара ў серванце — нікуды не дзецца, нікуды не сысці. Колькі памятаў сябе, зачынялі. Але звыкнуцца з цемрай і адзінотай Юра так і не змог. Мама гэтаму не вучыла, а папрасі, і не навучыць ужо. Урокі для яго скончыліся. Вузлы на туфліках замест мятлікаў ператварыліся ў гумкі на боціках (іншая справа), не паляцелі. Доктар кажа: «Гэта максімум», а максімум — столь, а да столі не дастаць, Юра спрабаваў, нават уставаў на дыбачкі — зусім пустое. Пакутуй і мучайся, карацей, пералічвай пальчыкі. Не заснеш.

Не. Змучышся толькі ды ўпадзеш. Канеш у бляклыя воды рамонкаў і гіяцынтаў, не выплывеш.

«Сіл маіх больш няма, ну што ты зноў крычыш?»

Раніцай сняданак. Малінавыя кругі на паверхні кашы, цукровы пясок, снежныя пернікі — «Не балбачы», а ружовае мяса, дык гэта на абед, яно не цяпер. Потым. А цяпер шпацыраваць: ісці ў краму, трымацца за край паліто, дзівіцца. «Гэтыя дзеці ўмеюць жабку?» Чужыя, нявыхаваныя, паказваюць пальцам, высоўваюць язык. Прэч, прэч! Ідзём далей. А ў чарзе пачастуюць цукеркай, а на прылаўку, глядзі, забыліся пальчатку, а за шырмай дзядзька без трыко — бачу такое ўпершыню. Велізарны-велізарны свет: ад дома і да сквера, ад бакалеі і да саду. Мама, вось твая цырульня.

З прычоскай яны прымаюць гасцей: цёткі, суседкі; нейкі дзядзька падарыў карціну. «Вы чыталі, што ён сказаў?» — «Я такое нават не адкрываю». І зноў гарбата, і «Юра, пакажы жабку», і ўсе рагочуць, і табе час ісці спаць. Спаць?

Спаць.

Скрып — дзверы адчыніліся, скрып — зачыніліся. Шчоўк — на замок.

Мама не прыходзіць развітацца. Жоўтым арэолам глядзіць з калідора, не набліжаецца. Колькі цяпер часу? Які цяпер год? Ноч цягнецца занадта доўга, хавае сонца за галінкамі, падманвае, здзекуецца. Смяецца з яго, маленькага, ды плюецца шэрым у акно. Кастрычнік. Дурань.

«Юра, час уставаць».

Астылы суп ды ўчарашні хлеб. Больш яны не прыходзяць у краму, у чарзе не частуюць яго цукеркамі. «Куды ты глядзішь, прыдурак?» — «Дзядзька, чаго я не бачыў там». За сталом удваіх. Капеечныя цацкі, падарункі, прыемныя нечаканасці — дзе нашы госці, мама? Барахло ў пыле і са шчарбінкай кубак. Наплюхала вады, прыбяру пасля.

Тлустая, бледная, сядае яна на рамонкі, не баіцца яна гіяцынтаў.

«Пакажы мне жабку, Юра».

Так. Давай, як раней, Юра. З канапы на падлогу, кулёк, рукі за ногі, «ква-ква».

Дзверы не адчыняюцца, дзверы не зачыняюцца.

Нарэшце яны спяць.

## Яна

Муж яе піў, і сын піў, і не працаваў ніхто. Адна яна неяк цягнула ўсіх.

Раніцай у прадуктовым магазіне падлогу мыць, увечары ў гаспадарчым — сэнс. Грошы, зразумелая рэч, у яе не вадзіліся: уся ў брудным, старым — а тут шукай вінаватых. Адбіралі? А, можа, і аддавала? Загадка. Усё ж сям'ю яна не кідала, і ставіліся да яе там быццам добра — хадзіла без сінякоў, таму сама, з аднаго боку, і вінавата ва ўсім. «Не ўсачыла за сынам, а мужыкі ва ўсіх выпіваюць», — гледзячы на яе, казалі бабы і, напэўна, не памыляліся.

Як бы там ні было, жыццё склалася — ні надзей табе, ні чаканняў. Усё змыта, усё прыбрана. Раніцай у прадуктовым, увечары ў гаспадарчым. Яе б і на трэці магазін хапіла, але ў сяле мелі толькі два. Што зробіш. Пазыкі раслі, а ў надбаўках адмаўлялі, хоць і ведалі: жанчына яна без прэтэнзій, ды і падлогу мые лепш за астатніх, сумленна. Мела нават сваю прафесійную таямніцу: штосьці кшталту воцату ў вядро і баваўнянай анучы для бляску. Але ніхто гэта не цаніў, ніхто гэта не заўважаў.

Ноччу мроілася мінулае жыццё: забытыя марскія хвалі, зношаныя замежныя боты, дабрабыт. «Дзе я памылілася, дзе спатыкнулася?» Успаміны калоліся, прымушалі ўставаць, цягнуцца на кухню, ставіць чайнік, але тут жа адключаць яго — бо заўтра працаваць — і зноў класціся ды неспакойна спаць.

Боты і хвалі, хвалі і боты.

Верагодна, яна так зусім знікла б, але дзесьці там успомнілі пра яе, камусьці патэлефанавалі, пагаварылі, і шчасце выплыла. Тэлеграмным лістом: «Сястра памерла. Прыязджай хутчэй». Дайшло без спазненняў, хутка. Спяшалася збірацца, нацягваць на распухлы палец пярсцёнак — усё ж замужам. Доўга ехаць потым, злавацца, не замовіць бялізны і выпасці з «агульнага» ў горад, дзе ўсё было даўно перайменавана і перабудавана — не пазнаць.

Ды і ў метро згубілася, выйшла не там, ішла дварамі, блукала, на памінкі толькі і паспела. Мокрая, з парога недарэчы заплакала, хоць было ясна, што справа пустая, і, толькі ўсеўшыся за стол і выпіўшы, супакоілася. Сястру яна не бачыла дзесяць гадоў, здаецца. Вось і сёння не атрымалася.

«Вы ж па лініі бацькі?» — «Маці». — «Маці?» — «Так, тут тэлеграма...» — «Ох, добра, такая блытаніна сёння, пад'ешце лепей».

Але ў горла нічога не лезла, ды і стравы ўсе былі незнаёмыя, як у вёсцы казалі, затратныя, у якіх добра б бульбы паболей, але клалі пастаянна арэхі альбо ананасы, а маянэз шкадавалі, спасылаючыся на шкоднасць.

«Памянём яшчэ».

«Скажыце, што... Вас зваць — як? »

«Сказаць? Я... »

Але словы абарвалі, у пярэднім пакоі загарэлася святло, хтосьці пайшоў глядзець, адказ завіс у паветры, наступіла паўза, якую змяніў смех, — расказалі жарт. І нікому не было больш справы ні да імені, ні да яе. Падумаеш, нейкая правінцыялка.

Чужыя жанчыны глядзелі на яе з прыжмурам, мужчыны і зусім адводзілі вочы. Пра нябожчыцу не казалі.

«А ў вас у вёсцы дом? А які ўчастак? Вы ўлічвайце, кватэра перапісана на мужа, гэта без намёкаў, проста ўдакладненне».

«Мы чулі, мяса за капейкі ў вёсцы, і ўсё свежае».

«Малако на дачах па дзясятцы прадавалі, а цяпер як?»

«Талер маленькі, а даражэнькі. Ха-ха».

Скончыліся памінкі позна, непрыгожа. Нейкі мужчына напіўся, пачаў «выступаць», супакойвалі, здарылася бойка. Яна, было, хацела ўмяшацца, ведала ж, як з такім справіцца, але яе пасадзілі на месца. «Маўчы».

І толькі потым, калі ўсе сышлі, кіўком папрасілі на кухню дапамагчы з посудам, не саромеючыся нагружаць працай, маўляў, мы сваякі і мусім дапамагаць адно аднаму.

«Я магу і падлогу памыць».

«Не, падлогай Рыта зоймецца, яна прыбірае ў нас за трох».

Кім прыходзілася ім Рыта, яна не ведала.

Цягнік адпраўляўся ноччу.

## Ножкі

Усё ў яе было добра, толькі ножкі адсутнічалі. Замест туфлікаў ды боцікаў — коўдры каляровыя, улетку — прасціна або тонкі плед: пратэзаў не практыкавала. Людзі шапталіся, але хто мог ведаць, праз што гэтакая бяда. Сама яна нічога не распавядала, сяброваk не мела, а толькі бубніла сабе пад нос: «Галаву налева», «Галаву направа», «Не міргаць». Маўчуха. На працу яе прывозіў нейкі хлопец, але не муж і, мабыць, не брат, як усе аднойчы вырашылі, а проста хлопец (большага не скажаш), сусед, напэўна.

У рэшце рэшт, папляткарылі, пагаманілі, спыніліся. Якая каму розніца! Працавала яна ў атэлье не горш за астатніх: заўсёды ўсё ў тэрмін, сама і фатаграфавала, сама і праяўляла. Добры калега, цалкам сабе ідэальны. А што ножкі — дык ножкі ножкамі. Падумаць, знайшлі дзіва — інвалід.

«Падніміце падбародак». «Вось так». «Добра». Шчоўк. «Здымкі пасля шасці». Шчоўк, шчоўк. «Здымкі пасля шасці». Пстрык.

«Дзіўная яна ў вас». — «Не турбуйцеся, зробіць усё выдатна». І рабіла. Мензурка, тэрмометр, фільтравальная папера. Праявіцеля на вока — інструкцыі веры няма, вады, для рэзкасці ацэтону, фіксаж, сушка. Выдатна. Выдатна. І партрэты магла зрабіць, і на пашпарт, і сямейныя. «Вам з мантажом?» — «Будзе з мантажом». Мора, снежныя горы, замежныя гарады: «Як цудоўна, і не адрозніць жа, і не адрозніць жа, як цудоўна!» Слава расла, дзе-нідзе ды пачуеш: «Ты за здымкамі да калекі ідзі», — а гэта, вядома, прызнанне, хоць маглі называць яе і інакш, але пярэчыць бязглузда: народ жорсткі, заўсёды шчыра, ды і ножак, як-ніяк, не было на самай справе.

Як яна навучылася рабіць здымкі так спрытна, адкуль ведала сакрэты? Загадка. У цёмную каморку сваю нікога яна не пускала, прападала там да вечара, гублялася сярод чырвоных фосфарных лямп, пластыкавых ванначак, плёнак. Замыкалася на кручок — не перашкаджайце, справа адказная, а потым толькі прыносіла капэрты на касу (аддаць пасля прад'яўлення чэка), і, не здаўшы на вахту ключ, з'язджала дадому з нейкім хлопцам, але не мужам і не братам, а, як усе аднойчы вырашылі, суседам, напэўна.

І так было год за годам, шмат гадоў, без адпачынкаў, бальнічных, адгулаў. Тонкая прасціна ўлетку, коўдра ўзімку. Мензурка, тэрмометр, фільтравальная папера. Але вечнага ж няма, вечнае — гэта няпраўда, вечнае — гэта не назаўжды. І аднойчы яе краіна развалілася, а гарадок стаў памежным, трэба было вучыць мову, і фатаграфіі лезлі самі з апарата — прагрэс, і ўсё было дорага, бездухоўна, па-дурному. У выніку з працы яе звольнілі, будынак быў камусьці прададзены або прыватызаваны, а атэлье выкінулі на вуліцу з барахлом за адзін дзень, яна нават не паспела пакласці ўсё ў скрынкі.

«Бывайце».

«Там усё пад замком, у мяне ёсць ключ». Але падумаеш: дзверцы, каморку адчынілі і без яго. Лаянка, мат, перакуры рабочых — да вечара ўсё на сметніцу, і знеслі. Яна хацела патрапіць туды, але нейкі хлопец, відавочна, не муж і не брат, спыніў і, сілай пасадзіўшы ў машыну, павёз дадому.

«Супакойся, калека».

Бяздомныя да раніцы шукалі ў кантэйнерах банкі каштоўнага ацэтону, і не было ім справы ні да плёнак, ні да ружовага праявіцеля, ні да здымкаў жанчыны, заўсёды адной, але рознага ўзросту, з якой быццам бы ўсё добра, толькі ножкі выглядалі дзіўна, нібы былі прыстаўлены ад іншага, больш здаровага, цела.



## Ганна Лутава

**нарадзілася 2 ліпеня 1990 года ў Полацку. Скончыла гісторыка-філалагічны факультэт Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта па спецыяльнасці «Гісторыя». Працуе кантэнт-менеджарам. Захапляецца беларускай традыцыйнай культурай — спевамі, музыкай, танцамі. Спявае ў полацкім фальклорным калектыве «Варган». Любіць чытаць, а таксама катоў і шакаладнае марожанае.**

# Нічога, акрамя цішыні

### Лютаўская вясна

Лютаўская вясна
Шчыра ўводзіць у зман.
Трапляюць у брудны капкан
Тры з чатырох калёс.
Калі панавала зіма,
Мяне ты цішком прывёз
У межы свайго Запаляр'я.
Назад я ўжо неяк сама —
900 кіламетраў пешкі.
Цяпер я нашу акуляры,
А ты — усмешку.
Абдымкі. Рука ў руцэ.
Тры, два, раз... Ужо не крыўдуем.
Чужыя партрэты малюем
Віламі слоў па вадзе.
Будзем маўчаць па чарзе.
І, можа, што-небудзь пачуем.
Наведзена яснасць, акрэслены план:
1. Лета.
2. Восень.
3. Зіма.
Вясна, калі б не прыйшла,
Заўсёды ўводзіць у зман.

***

Бяры за нуль няшчырыя памкненні.
Памнож на «N»
прызнанні з сямі нот.
Імгненне —
вось табе і год.
Год вершаў, шчырасці, натхнення,
Няўтульнасці,
«мурашак» і прыгод.
Ты ўяўляеш?
Год!
І сёння месца гэта,
Дзе завялі пачуцці карагод,
Як і раней,
наш мікрапуп Сусвету…
Мне ўтульна
ў весняй літасці грымот,
Мне цёпла і бяспечна
ў новых людзях —
Ў нябыт сыходзіць
сораму канвой.
Я тут калісьці
Старт дала пачуццям.
І тут жа — адпускаю на пакой.

***

Пускаеш думкі на свабоду,
Выкорпваючы з небыцця
Пытанне дня. Пытанне года.
Пытанне цэлага жыцця.
Як перадаць ад сэрца сэрцу
Той мэсадж, што не даляцеў?
І сон у рукі не кладзецца.
А так хацеў! А так хацеў,
Каб развіднела й палягчэла,
Каб з новым сонцам — новы дзень.
Натоўпам думак ашалелых
На сэрца — ноч, на думкі — цень.
Усе, хто побач, — не ўратуюць.
Хто не з табой — таму пляваць.
Былыя бойкі не турбуюць.
Здаешся. Хопіць ваяваць!
Адгарадзіцца, збегчы, легчы
Ці пад цягнік, ці пад цяжар
Штодзёных спраў. Патоп? Пажар?
Не турбаваць. Выносіць першым.
Скрозь пяць павархаў над сабой
Глядзеў на зорныя арэлі
І, як дзіця, наіўна верыў,
Што свет бясконцы, што ён твой!
Цяпер сядзі сабе, дзічэй,
Пішы без сну і асалоды,
Не падымаючы вачэй
На неспазнаныя прыгоды.
Сядзі ў сабе! Там нецікава,
Але — бяспека, цішыня…
Ратуе ром, табак ды кава.
Штодня... штодня...

***

Цераз сорам гарэзлівых думак
Я душой — да цябе на паклон.
Дай у сэрцы спакою прытулак,
Мой бясконца прыходзячы сон.

***

А помніш лязо вачэй,
Абдымкі марозныя шчырых начэй?..
Адчуць. Дакрануцца.
Хутчэй!
Падняцца ў аблокі.
Гарачыя шчокі,
Вусны на шыі,
Рукі,
Што ў сораме палка душылі.
Па-здрадніцку
Насцеж адчынены брамы.
Нясцерпныя шрамы
На сэрцы і спіне.
Здавалася,
Крок — і загінем.
Вусны
Ў салодкай атруце,
Аскепкі пачуццяў —
Ў скрываўленай бітай душы.
Ток
Паміж пальцамі,
Словы ў дрыготкай цішы.
Скажы,
Ты помніш гарачыню?
Тваю і маю?
Чую не чую, але адчыню,
Як браму, сябе…
Сарвацца ў пагоню!
Пякучай далонню
Па твару —
Прызнанні твае,
Што так да адчаю
Любіла.
А помніш… мяне?
Не?
Ну, то і я
Цябе забыла.

## Звер

Просіцца, б'ецца, кусае, рычыць
Паранены звер у няволі.
Удзячны за сэрца, якое баліць,
Бо, значыцца, сэрца жывое.

Моўчкі употай на зброю глядзіць:
«Мёртвы, затое вольны!»
Калі я хачу насамрэч забіць,
То не страляю кантрольны.

***

Гэты восеньскі горад з'ядае усмешак абрысы.
У марозным дыханні бяроз не чутно цеплыні.
У натоўпе не бачны да болю знаёмыя рысы,
Калі ў небе нічога няма,
Акрамя цішыні.

Можа, цёпла і хораша люду шчасліваму недзе,
Але мне б не пусціць горлам крык, што паўзе з глыбіні.
Так гамоняць без сораму ўголас галодныя дзеці,
Калі ў небе нічога няма,
Акрамя цішыні.

Шэры твар па-старэчы сівога змакрэлага неба
Цяжкім пледам накрые наўмысна кароткія дні.
Толькі птушак гамонка далёкая леташнім рэхам
Ў небе...
Тым, дзе нічога няма,
Акрамя цішыні.

***

Буду размаўляць з табой вершамі.
Чыстымі. Першымі.
Белымі. Чорнымі.
Ніткамі залачонымі
Звязаны надзейна нябачна.
Лёсу шалёнаму, дзікаму, хітраму
Шчыра, па-свойску ўдзячна.
Рыфмамі, песнямі, казкамі
Споўняцца думкі бягучыя.
Мяккія. Злыя. Пякучыя.
Пад каляровымі маскамі.
Палонным маім не будзеш давеку.
Як стомленаму чалавеку
Паклон,
Даешся мне цяжка.
Але не крыўдую. Не плачу.
Ні ў чырвоным, ні ў чорным.
Цябе не бачу.
Не баюся. Не ганю.
Не чакаю, накрыўшы стол.
Ты не страшны. Не чорны. Не злы.
Проста ты… не анёл.

***

На поўнай хуткасці, з наскоку
Зляцела з ліпеньскай шашы...
Яшчэ нядаўна была спёка,
І раптам — восень на душы.



# Айцец Яўстафій (Халіманкоў)

**нарадзіўся 20 лютага 1975 года ў Докшыцах. Насельнік Жыровіцкага манастыра і выкладчык Мінскай духоўнай семінарыі. Літаратура, на яго думку, асноўны сродак пазнання ісціны.**

## Апошняя карціна

Што павінна было адбыцца паміж мной і гэтым горадам — нешта такое, каб мы разышліся ўжо назаўсёды? Была паміж намі тая паўза — тая страшэнная сваёй бясконцасцю паўза, у якой я ўбачыў усю нашу будучыню: убачыў, таму што яна была зусім кароткая, быццам бы яе ўжо і не было. А бясконцасць — яна засталася за кадрам гэтай дзіўнай кампазіцыі, у якой жыццё закінула мяне метадам зваротнай перспектывы так, што толькі тут я і змог напісаць пра сябе.

Гэта, як ні дзіўна, самае цяжкае, паколькі цяжка знайсці ў самім сабе такую вось абстракцыю — «самога сябе». Зараз гэта здольнасць (дакладней, няздольнасць) зноў абвастрылася ўва мне, вядома, з-за таго, што я апынуўся ў Парыжы. Кожны раз я заракаўся, што больш не прыеду сюды, але вось... Цяпер я упэўнены, што гэты раз сапраўды будзе апошні! Але што будзе ў будучыні — адкуль я ведаю? Можа быць, мяне гэты горад, як на тое, і прыцягвае менавіта гэтым: немагчымасцю прадказаць не толькі свае ўчынкі, але і думкі, і пачуцці. Так, і пачуцці... Як быццам яны наблізіліся да мяне неяк адмыслова — настолькі, каб я змог разабраць іх ва ўсіх драбнюткіх падрабязнасцях і пераканацца ў сваёй блізарукасці.

Можа, мне проста падабаецца вось гэтая інерцыя самаразбурэння, у якую апускае горад. Гэта, як фатальная красуня, заражаная ганебнай хваробай. Табе здаецца, што гэта каханне на ўсё жыццё, і ты гатовы ёй аддаць усяго сябе. І яна адкусвае ад цябе па добрым шматку жыцця кожную паездку, а потым выкідвае, нібыта забракаваную булку, на сметнік: паспытала і не купіла. Ты шчаслівы, бо не ведаеш па сваёй дурасці, каму ты хацеў аддаць сябе. За гэтай музай стаіць хвароба, якая пагубіла кольвек ужо такіх рамантыкаў.

Як звычайна, я засяліўся ў невялікі гатэль на Манмартры, да якога прывык ужо падчас некалькіх апошніх наведванняў. Неяк пераначаваў з мінімальнымі выгодамі, а потым гэта дзіўнае пачуццё ахапіла мяне ва ўлюбёным кафэ *Контрэскарп*. Я надоўга засеў там, сярод бібліятэкі французскіх кніжак 1920-х гадоў, у кутку, на канапе; былі да кампаніі кава і кальвадос — ну, усё як мае быць!.. Прайшло некалькі гадзін, пакуль я там сядзеў і нешта пісаў, з некім перапісваўся. У мяне разбалеўся жывот, на вуліцы ішоў дождж, і я не мог нікуды сысці. Было ўжо позна, народ усё прыбываў, побач са мной апынуліся ўсюдыісныя *янкі*. Прыйшла да памяці ранішняя сцэна: мяне абудзілі крыкі з унутранага дворыку гатэля: «Хані!.. Дарлінг!..» — нібыта сакавіцкія каты раўлі — і я ледзьве не закрычаў ў адкрытае акно: «Янкі, гоў хоўм!..».



Ілюстрацыя Надзеі Савельевай.

З самага пачатку мяне захапіў джазавы тэмпарытм вакол — людзі мігцяць, пераліваюцца нейкай стракатай каляровай гамай — музыка святла, музыка пачуццяў. Але нічыйнае сэрца не адгукаецца — гэтага і не чакаеш. Цуд адбываецца заўсёды раптоўна, я ведаў, што чым больш выпадковым здаецца нечы позірк, нейкае слова, знаёмства, тым больш абяцаючым можа быць працяг. Працяг, які не залежыць ні ад цябе, ні ад іншага чалавека. Працяг заўсёды па-за намі. А што залежыць ад нас?

Справа не ў тым, што я бегаю, нібыта вавёрка ў коле.  Мая рэальная праблема ў тым, што я як раз з тых вавёрак, якія зразумелі феномен кола і мучаць сябе пытаннямі, накшталт: «А хто раскручвае кола?» Прынамсі, я не мею ніякіх ні да кога прэтэнзій, бо даўно ўжо змірыўся з жыццём: нічога не прашу, нічога не прапаноўваю. Але ва ўсім вінавата маладосць. Усё, што адбываецца з намі ў маладосці, запамінаецца надоўга, застаецца у памяці назаўжды. Асабліва тое, што робіць нас *намі*. А Парыж... Ён быццам праяўляе кожны раз застарэлыя пачуцці, як некалі праяўлялі фатаграфіі з дапамогай ультрафіялетавага колеру. У душы было шмат матэрыялу, але толькі ў Парыжы ўсё гэта ажывала — так людзі ўсё больш і больш пускаюцца ў авантуру ўзаемных сустрэч, каб нарэшце паміж імі нарадзілася нешта агульнае. Мне было страшна ад таго, што можа выйсці ў выніку, але спыніць сябе я ўжо не мог. І ніхто не мог мяне спыніць: я адчуваў над сабой і ў сабе нейкую логіку, нейкі рок.

Пэўны рок для мяне быў у тым, што ўсё заканчвалася ў музеі д’Арсэ. Вось я бачу сябе ў музейным буфеце з каньяком «Henessy», зараз я пайду ў любімую залу імпрэсіяністаў і зноў сустрэну там… двайніка. І наша размова зноў будзе падобна да дыялогу Майлса Дэвіса і Рэда Грэнланда ў «My funny Valentine»[1].

[1] З альбома «Cookin' with the Miles Davis Quintet» (1957).

Ці разумелі мы адзін аднаго ў гэтым незвычайным дыялогу? Калі я пытаўся ў яго аб нечым, ён адказваў, але на яго роспыты мне заставалася толькі маўчаць… Звычайна кожны бачыць у іншым тое, што можа, тое, што хоча... Я бачыў у ім сваю няўтоленую юнацкую мару, але што хацеў пабачыць ува мне *ён*?

Гэтым разам я доўга стаяў ля Руанскага сабора Клода Манэ. Дакладней, там было некалькі сабораў — чатыры характары, чатыры тыпы, грані... Кажуць, каб спазнаць нейкае месца па-сапраўднаму, трэба пражыць у ім ўсе чатыры пары года. Чалавек раскладвае свет на часткі, аналізуе яго, спрабуючы такім наіўным чынам спазнаць свет. Ці не гэта рухала і Манэ, калі ён пісаў Руанскі сабор? Медытыраваць над такой аналітычнасцю значна прасцей, чым паспрабаваць разглядзець цэласнасць у прыродзе рэчаў. Засяродзіцца на чымсьці мімалётным, спыніць «выдатнае імгненне» — не так ужо і дрэнна, праўда? Зрэшты, мо сама гэтая засяроджанасць і ёсць прадукт выпадковасці. Талент — гэта калі мастак неспасцiжным для сябе чынам раскладвае пасьянс фарбаў ў нешта разумнае і прадказальнае. Так нараджаецца стыль. Геній не спыняецца, а ідзе далей, руйнуючы самога сябе, сваю творчасць — цана тут высокая. Стыль — гэта крыж любога вялікага мастака, але толькі не генія. Геній няўлоўны, хоць гэта яму і дорага абыходзіцца. Геній падобны да біблейскага Якава-Ізраіля, які змагаецца з Богам. І у гэтай барацьбе атрымлівае Божае блаславенне.

Для мяне карціны даўно сталі люстэркам, у якім я пазнаю сябе, сваё жыццё ў розныя яго перыяды. Гэта, як і ў музыцы: ты шукаеш, пакуль табе не падасца, быццам *ты* напісаў гэта. Так нараджаецца і сапраўднае каханне. Ну... тое, што звычайна называюць каханнем, — людзі проста пазнаюць сябе ў чымсьці, у кімсьці... Сумнае, трэба прызнацца, адкрыццё.

Імпрэсіянізм ўлавіў таямніцу перацякання, пераходу аднаго настроя ў іншае — таямніцу перасялення душ. Зямля, святло, цені, адлюстраванні — уздых стомленай жанчыны, якая вядзе з поля карову, капа сена, дыван палявых кветак, усход сонца, дождж, які толькі збіраецца... Каміль Пісаро адгадаў маё дзяцінства. Поль Сезан дапамог не скончыць жыццё самагубствам. Адзінокая прагулка па сцежцы, якая нагадвае струменьчык святла, — як я застаўся ва ўсім гэтым, не змяшаўся з астатнімі фарбамі? Можа быць, гэта яшчэ адна рана: дрэвы, шматкі і контуры ценяў, сажалка, купіны, гарлачыкі, лілеі… «Рана, рана...», — чуеш іх голас. Часам здаецца, што менавіта так вяртаецца першапачатковая здольнасць чалавека наракаць імёнамі жывых істот — толькі гэта не словы, а пачуцці. Сіла пачуццяў — неспасцiжная і невымоўная. Для каго бясконцасць — гэта багацце разнастайнасці, для каго — проста бездань, што вабіць цябе ўсё глыбей і глыбей. І глыбіня гэтая — трагічная ў сваёй невымоўнасці.

Рок кіруе стыхіяй трагедыі —
«When the music's over…»[2] —
невымоўнасць напаўняе да краёў маё сэрца —
«з глыбінь прызываю я Цябе, Госпадзі»[3] —
заўсёды цягне забойцу на месца злачынства —
тут! —
нарэшце я разумею, што менавіта тут, у музеі д'Арсэ, магу стаць свабодным. Бо толькі сам чалавек і ёсць галоўная і, бадай што, адзіная праблема для самога сябе, і толькі ў гэтым адзіным — сакрэт нашага дыялогу. Так мы і развіталіся з маім двайніком.

«Адпусці хлопчыка…» — чую я апошнюю яго просьбу.

Я ператвараюся ў маленькага хлопчыка, які прыехаў на калядныя вакацыі да бабулі ў вёску на Глыбоччыне.

Вось хлопчык ідзе ў лес на лыжах, падае ціхі, мяккі снег, які — я ведаю — зафарбуе ўвесь сум, усе будучыя пакуты хлопчыка, снегам завее ўсё жыццё, хлопчык растане ў зімовым тумане, стане зданню белы глыбоцкі вечар, і вось тады на гэтым чысцюткім палатне вечны Мастак напіша новую карціну.

[2] Песня группы «The Doors».
[3] Пс. 129:1.

Юлія Алейчанка



**нарадзілася 21 снежня 1991 года ў Оршы. Магістар філалагічных навук, аспірант БДУ. Адказны сакратар часопіса «Полымя». Піша вершы, апавяданні, крытычныя артыкулы, перакладае. Захапляецца прыгажосцю ў людзях і рэчах. Вучыцца бачыць станоўчае ў адмоўным.**

## Поле сну

***

Штовечар я адрываю
старонку свайму календару
І чую, як новы дзень
гучна грукае ў шыбу,
Як новыя справы
чародкай тэпчуцца
На дыванку
прад маімі дзвярыма.

Калі рассцілаю ложак,
яны назоламі-восамі
гудуць у маіх вушах.
І нават у снах
прыходзяць прывідам
мар-спадзяванняў.

Дык мо застацца ў мінулым дні?
Няхай свецяць учорашнія зоры.
Няхай пярына будзе ласкавай.
А я — шчаслівай па-за межамі часу.

***

Глядзіць Сусвет ў стагоддзі зорнымі вачыма,
А мне ніколі поле сну не перайсці,
Бо не шукаю спаконвечную прычыну,
Чаму дубам у неба цёмнае расці.

Чаму снягам змываць спакой і ліхалецце,
Чаму лясам не выдаць сцежкі грыбнікоў
І закаханым бачыць зыркае дасвецце,
І помніць словы запаветныя бацькоў.

Ды толькі веру, што ніколі не парвецца
Той слуцкі пас, што лучыць з вечнасцю жывой.
І што гаючы дожджык шчодра праліецца,
Як прарасту аднойчы чэрвеньскай травой.

***

Гарыць агонь у сонечным суквецці,
У валасах заблытаўся прамень.
Хачу пачуць душой блакітны вецер,
Што адкрываў Стральцову новы дзень…

***

Раніца жоўтая,
быццам гарбата у кубку, —
Вусны прыкласці
і піць,
адчуваючы зёлкі і неба.
Рукі твае, як аблокі,
калышуць мой голаў.
Чую:
ў далёкіх вышынях
гучыць новы дзень.

***

Ува мне цячэ аксамітны жнівень,
Ён, як хмель, што заяц варыў калісьці.
Верасовы мёд у стамлёным лісці,
І твой шэпт уночы, дурны, шчаслівы.

Я чакаю вечар, каб зноў упасці
У мурог духмяны старога лета.
І чародку зорак на ўдачу скрасці,
Праляцеўшы зырка стралой-каметай.

Ува мне цячэ аксамітны жнівень.
Я рыхтую з зёлак табе гарбату.
Усміхнуся ціха — і ты шчаслівы.
Не знахарка я — зоры ва ўсім вінаваты!

***

Ў вокнах маіх — снег.
Першы, сляпы, несапраўдны.
Чую хвілінаў бег,
Нам з табой падуладны.

Мне б зараз выйсці на двор,
Крыкнуць табе нясмела.
Позна. Абшар замёр
Тэрцыяй снежна-белай.

***

Снежань ў мядзведжай шкуры
Сноўдае між дамоў.
Тонуць ў белай віхуры
Гукі даўгіх размоў.

Вечар знямеў ў чаканні
Цудаў калядных зор.
Будзем цяпер да рання
З інею сніць узор.

Марам хочацца збыцца,
Снам — на яве цвісці.
Нам — ізноў нарадзіцца
Ў лепшым чужым жыцці.

***

Падыдзі да мяне. Пацалуй
Памяць стрэч на стамлёных павеках.
Весні покліч на шчасце пачуй,
Шолах ветру на роднае стрэхах.

Дакраніся да болю душы,
Што пульсуе пяшчотна на шыі, —
Так бруяцца вакол капяжы,
Красавік неба шэрае мые.

Запусці ў валасы пальцаў бег,
Як малую, люляй на каленях…
Загучыць даравальны твой смех —
І знямее Сусвет на імгненне.

***

Падставіць лесвіцу да зорак
І дацягнуцца да святла…
Каб праз духмяны летні золак
Для нас Венера зацвіла.

Каб вечнасць чуць у кожнай хвілі,
Баяцца рукі растуліць.
І каб далёкія і злыя
Нам болей не маглі зманіць…

Алена Масла



**нарадзілася 14 красавіка 1967 года ў вёсцы Мілашова Мёрскага раёна. Беларуская казачніца, якую хочацца назваць нашай Астрыд Ліндгрэн. Часопіс «Маладосць» віншуе Алену Сцяпанаўну Масла з юбілеем і друкуе з гэтай нагоды ў адным нумары не толькі яе твор, але і інтэрв'ю з ёю, і артыкул пра яе творчасць.**

## Золатка, бяжы!

*Урыўкі з аповесці*

*У дзяцінстве я была знаёмая з дзяўчынкай Алінкай. Мы жылі на вуліцы Інкубатарнай — дзяцей у чатырох двухпавярховых дамах на ёй было больш, чым на астатніх вясковых вуліцах, разам узятых. Таму на гэтай вуліцы адбывалася столькі прыгод, што згадаць і расказаць пра ўсе цяжка. Асабліва, калі сяббраваў з Алінкай. Бо прыгоды, выдае, гужам хадзілі за ёй, шукаць іх зусім не трэба было.*

*Трэба было проста прачнуцца раніцай, умыцца і выйсці на двор — і прыгоды пачыналіся самі.*

### Модная прычоска

Паклікалі аднойчы Алінку з вуліцы дамоў. А там — сусед-цырульнік.

— Сядай! — пасунуў ён табурэт. — Зараз такую прычоску забамбім, сама сябе не пазнаеш!

Бабуля даўно заводзіла размовы пра тое, што трэба ўнучку пастрыгчы. Зараз яна ўзялася памагаць цырульніку і ахінула пялюшкай Алінцы плечы.

Трэба дык трэба! Не першы раз ёй падкарочваюць валасы.

Мама расчасала грабеньчыкам дачушкіны кудзеркі.

— Яшчэ лепшыя адрастуць! — чамусьці ўздыхнула яна.

Тата сабраўся з хаты.

— Я пасля на гэтую красу пагляджу! — буркнуў ён.

— Стэфан, — прамовіла бабуля, — даўней дзяўчат хоць раз стрыглі нагала! Тады каса гусцейшай расце.

Тата бразнуў дзвярыма і выйшаў на двор. Мама з грабеньчыкам у руках застыла ў дзвярах. Бабуля села пры стале.

Алінка ж бесклапотна ўзіралася ў люстэрка, разглядаючы чорную дзірку там, дзе нядаўна хістаўся беленькі, як часнок, зуб. Учора ўвечары тата вырваў яго ніткай. Алінка з гонарам згадвала зараз, як не спалохалася аперацыі і пасля кінула зуб мышцы ў запечак. Яна не дужа ўслухоўвалася ў тое, пра што размаўлялі дарослыя.

— Жык-жык-жык! — зашкрабла машынка па галаве і праклала шырокую дарогу ад ілба да патыліцы. — Жык-жык-жык! — пакуль Алінка апомнілася, машынка прайшлася па галаве другі раз.

І вось ужо з люстэрка глядзіць на Алінку круглымі ад жаху вачыма дзіўная істота. З правага боку — мілая дзяўчынка з валасамі да пляча, з левага — «пад нуль» пастрыжаны хлопчык.

Цырульнік тым часам абходзіць табурэт, на якім сядзіць Алінка, каб ямчэй было пракладаць дарожкі па другой палове галавы.

— Затое пасля адрастуць косы ніжэй за пояс! — абяцае цырульнік.

Дудкі! Віхурай зрываецца з табурэткі Алінка. Ля ног цырульніка застаюцца ляжаць састрыжаныя кудзеркі і кінутая вобземлю пялюшка.

Дзяўчынка выбягае на двор.

Насустрач з кошыкам бульбы ў руках ідзе тата.

— Ох! — вохкае ён, уражаны красой дачкі.

З разгону Алінка ўразаецца ў кош, і з яго, як жывая, выскоквае і рассыпаецца бульба. Адна трапляе проста ў ката, які спіць на цёплым пясочку ля ганка.

— Мяў-у-у! — нема крычыць упалоханы кот і хаваецца на дрэве.

Алінка таксама хаваецца — у дрывотню. Праз шчыліну ў дзвярах яна назірае за мітуснёй на падворку.

— Лінка! — выскоквае на ганак мама. — Марш дамоў!

— Аліначка! — на ганку з'яўляецца бабуля. — Трэба дастрыгчыся! Ці ты, як пудзіла, будзеш хадзіць?

— А што я казаў? Дурноцце прыдумалі! Хто гэта дзяўчатак «пад нуль» стрыжэ? Дык мяне ж не слухалі! — злуецца на бабулю і маму тата.

На ганку з'яўляецца цырульнік.

— Ну, дзе кліентка падзелася? — смяецца ён і хавае машынку ў кішэню. — Знойдзеце — клічце, дастрыгу. А чакаць мне няма калі.

І ён, насвістваючы, ідзе па сваіх справах.

Бабуля, мама і тата набліжаюцца да дрывотні. Яны ведаюць гэты Алінчын схрон. Пакуль улетку дрывотня пустуе, у ёй зладжаны сапраўдны штаб. Перакуленая скрыня служыць сталом, два цурбакі — замест крэслаў. На сцяне, пачэпленая на цвікі, вісіць сапраўдная карта свету. А паверх яе, у правым куце — план мясцовасці, намаляваны алоўкамі на лістах у кратачку.

Тут Алінка з сябрамі збіраюцца, калі даводзіцца праводзіць баявыя аперацыі. Тут яна хаваецца, калі хочацца пабыць сам-насам ці вось як зараз — ад пераследу.

— Адчыняй! — тузаюць за дзверы крыўдзіцелі, але адчыніць не могуць: Алінка зашчапіла дзверы на кручок знутры.

— Дастрыжэшся — павяду на возера купацца, — абяцае мама.

— Куплю гасцінца, — кажа бабуля.

А тата стаіць моўчкі. Ён злуецца на маму з бабуляй: самі дзяўчаткі, а такое ўчыніць надумалі!

І Алінка — ні гу-гу. Стаіўшыся, яна бесперапынку абмацвае сваю дзіўную прычоску і заліваецца слязьмі. Засмяе яе Колька, першы сябра па пракудах!

Тады тата кажа да мамы і бабулі:

— Пайшлі дахаты! Захоча — сама прыйдзе. Праўда, Алінка?

Алінка маўчыць — і дарослыя ідуць прэч.

Адчай і крыўда душаць дзяўчынку.

— Ну і ідзіце! — крычыць яна ім услед. — А я тут жыць буду!

Але сядзець адной хутка надакучвае. Да ўсяго, пачынае даймаць голад. Прачнуўшыся рана, Алінка толькі кубак малака выпіла. А зараз на двары поўдзень. Канечне, згаладаешся!

Жаданне пайсці дахаты і падмацавацца расце і расце. Да таго ж, дзяўчынцы робіцца цікава, які гасцінец абяцала бабуля. Потым пачынае хацецца на возера.

І тут Алінка згадвае галоўнае! Калі яна застанецца назаўжды жыць у дрывотні, хто будзе грэць бабулі плечыкі?

У бабулі хворыя ногі. Ёй балюча хадзіць, а ўначы праз боль яна не можа спаць. Каб не Алінка, якая перад сном залазіць да яе пад коўдру і саграває, дык зусім бяда была б — бабуля заўжды так кажа.

Алінцы робіцца шкада бабулі. Яна вырашае злітасцівіцца над роднымі і вярнуцца дамоў.

Дзяўчынка зноў кратае галаву, на якой з аднаго боку — кудзеркі, з другога — калючы вожык.

«Але стрыгчыся ўсё адно не дамся!»— вырашае Алінка і выторкваецца з дрывотні.

— Бабуля!— гукае яна.

Бабуля выходзіць на ганак. Алінка ў любы момант гатова шмыгнуць у схрон: адной нагой у дрывотні, другой — на двары.

— Бабуля! Вярнуся, калі сварыцца не будзеце, — ставіць умову яна.

Але гэта падаецца малой платай за пакуты, і Алінка рашуча дадае:

— А яшчэ ты мне гасцінец абяцала, а мама — завесці на возера!

— Абяцалі, калі пастрыжэшся! — кажа бабуля.

— Стрыгчы не дамся! Уцяку, і тады ўжо не шукайце! — плача Алінка.

Яна гатова зноў зачыніцца і пакутаваць. Але бабуля кажа:

— Ды ніхто не зачэпіць цябе! Пайшлі дамоў!

Да перагаворшчыкаў далучаюцца мама і тата.

— Абед прастыў, ідзі есці! — кажа маці. — А тады пойдзем купацца.

А тата гаворыць:

— Знайшла праз што слёзы ліць! Ды такой прычоскі больш ніхто не мае! Ты — самая модная!

Татавы словы, бадай, найважнейшыя. Алінцы раптам становіцца весела. Праўду кажа тата!

Яна павольна выходзіць з дрывотні, як бы нехаця зачыняе дзверы і не спяшаючыся рушыць дахаты. Па галасах дарослых чуваць, што яны не злуюць. Даўно б так!

Алінка мые рукі, пераможцай сядае за стол і ўплятае аладкі.

— Можа, хоць касынку завяжаш? — пытае бабуля.

Яшчэ чаго! Вырашылі ж, што стрыжка — модная.

Мама кажа:

— Я на прыстань бялізну паласкаць. Пад'ясі — прыходзь купацца.

І пайшла. А бабуля прылегла адпачыць. Тата выправіўся па сваіх справах.

Алінка ж даела аладкі і згадала, што даўно хацела правесці эксперымент і даведацца: ці сапраўды белы певень на суседскім падворку такі задзіра, як пра яго кажуць.

Яна залезла ў шафу, дастала чырвоны вязаны касцюм, такую ж шапачку, убралася па-зімоваму і выправілася ў выведку.

## Смяротны эксперымент

Вялікі белы певень жыў ля дома па дарозе на прыстань. Быў ён падобны да казачнага: грэбень ярка-чырвоны, пёркі на хвасце іскраць, нібы снег на сонцы.

Штораз, спаткаўшы пеўня, Алінка пільна ўглядаецца, спадзеючыся пад крылом угледзець касу — тую самую, з якой ён ідзе лісу ваяваць.

«Я пятух-шчабятух
На высокіх чабатах,
Нясу касу на плячы,
Хачу лісу засячы!» — згадвае Алінка песеньку з казкі. Яе часта баіць бабуля. У той казцы ліса падманам выгнала зайку з хаты і назад не пускала.

А певень касавурыцца на Алінку. Нібыта хоча зразумець, хто яна — гаротны зайка ці хітрая ліса-манюка?

Упадабаўшы пеўня, Алінка носіць яму пачастункі. То семкі сыпане, то булку пакрышыць.

— Пыля-пыля-пыля! — вітае Алінка пеўня.

— Ку-ку-рэ-ку! — адказвае певень, і на яго крык збягаюцца куры. Яны так хутка распраўляюцца з Алінчынамі пачастункамі — ажно злосць бярэ. Ён пра сваіх курачак дбае, а яны яму хоць бы што пакінулі!

Але вось людзі пачалі гаварыць, што гэты певень нібыта б'ецца.

Бываюць такія шалёныя пеўні, што праўда то праўда. Але белы не такі, Алінка ведае. Каб біўся, не аднойчы мог і на яе кінуцца. Ды ні разу такога не было!

— А ён цябе ў чырвоным бачыў? — пытае сяброўка Ала, пачуўшы, як Алінка бароніць пеўня. — Да мяне дык кідаўся, калі я ў чырвонай сукенцы ішла. Але я з палкай была, адбілася і ўцякла.

Зараз вы разумееце, навошта Алінцы спатрэбіўся касцюм чырвонага колеру і чырвоная шапачка. Дзеля эксперымента! З дапамогай яго яна вырашыла дазнацца, ці праўда певень не любіць чырвонае. А ў зімовыя рэчы ўвабралася таму, што летніх апранах патрэбнага колеру не мела.

І вось Алінка падыходзіць да хаты, на падворку якой жыве певень. Певень пры сваіх абавязках: глядзіць курэй. Дзяўчынку ўбачыў — паглядзеў скоса.

— Пыля-пыля-пыля! — пазвала Алінка і пакрышыла булку. — Здароў, певень! Будзем праводзіць эксперымент!

І яна стала праходжвацца туды-сюды, з усіх бакоў дэманструючы чырвоны ўбор і шапачку.

Толькі певень на эксперымент не зважае. Куры булку здзяўблі — ён і касавурыцца на Алінку перастаў. Нібыта даваў знаць, што без булкі яна яму зусім не цікавая.

Алінцы горача ў цёплым касцюме, яна ўся змакрэла, але адступаць не жадае.

Паміж дзвюма вялікімі бярозамі, што растуць пры дарозе, замацавана калыска. Дзяўчынка садзіцца на яе і гушкаецца.

Шух-шах! Шух-шах! — разгойдваецца калыска. Алінка ўзлятае высока-высока, ажно дух займае.

Певень безуважна корпаецца ў пяску.

Тады Алінка перастае разгойдвацца — і гушкалка пакрысе запавольвае рух.

Алінка лажыцца жыватом на калыску і, гойдаючыся нізенька над зямлёй, галавой у чырвонай шапачцы ледзь не чапае пеўня за хвост.

Ён — нуль увагі.

— Кыш! — крычыць Алінка, а певень як і не чуе.

Урэшце надакучыла Алінцы гушкацца. Хоцькі не хоцькі, давялося спыніць эксперымент: ён толькі пацвердзіў, што певень не забіяка. Пра гэта трэба тэрмінова паведаміць сяброўцы Але!

Алінка нават забылася, што ішла на прыстань купацца і што там яе чакае мама.

Яна злезла з гушкалкі і рушыла ў бок хаты.

— Ко-ко-ко! — дражніць Алінка пеўня. — Курыны татка!

Ёй нават трохі шкада, што певень такі ціхі. Сунуўся б — хоць было б што расказаць.

Алінка абмінае пеўня, сцягвае з галавы чырвоную шапачку, падымае руку, каб абцерці шапачкай твар…

Вось тут певень і далучаецца да эксперымента! Цярпенне ў яго лопнула, і ён каршуном абрынуўся на дзяўчынку. Як замалаціў дзюбай па галаве! Ажно паваліў на зямлю.

Алінка крычыць, качаецца, спрабуючы скінуць яго з сябе. Але нічога ў яе не атрымліваецца! Певень, раз'юшаны чырвонымі апранахамі, малоціць дзяўчынку, як сноп на таку.

Раптам на вулку, дзе адбываецца бітва, паварочвае матацыкл. Ён едзе хутка і ледзь паспявае затармазіць перад «барцамі».

Кіроўца глушыць матор і кідае матацыкл на зямлю.

— Кыш! — крычыць ён і здзірае пеўня з Алінкі.

Певень б'ецца ў руках матацыкліста. Ён бы і яго дзюбнуў, але ж дай ты рады вялікаму дзядзьку!

Алінка такая напалоханая, што ляжыць — і не варушыцца.

На шум з хаты выбягае гаспадыня.

— Што тут робіцца? — крычыць яна. — Што з дзіцем?!

Матацыкліст і гаспадыня яшчэ нічога не ведаюць пра модную Алінчыну прычоску. Яны бачуць галаву, напалову пазбаўленую валасоў, і абодвум робіцца вусцішна ад думкі, што гэта певень абскубаў дзяўчынку.

— А-ё-ечкі! — галосіць гаспадыня.

— Ах, ты дрэнь! — крычыць матацыкліст і так сціскае пеўня, што той з натугі ўжо не кукарэкае, а хрыпіць.

Алінка ў знямозе заплюсквае вочы. Калі расплюшчвае, бачыць над сабой упалоханыя твары, сярод якіх — мамін. Не дачакаўшыся Алінку, яна вярталася з прыстані дамоў і вось, сустрэла дачушку.

— Жывая? Не паранілася? — мама сутаргава абмацвае Алінку, дапамагае падняцца і пачынае абдымаць ды цалаваць.

— Запіраць трэба пеўня! — выгаворвае яна гаспадыні. Тая бажыцца, што волі певень больш не пабачыць.

— А вам за дзіцем глядзець трэба! Кідаецца пад колы! — злуе матацыкліст і крочыць за гаспадыняй. Ён закідвае пеўня ў хляўчук, шчыльна зачыняе дзверы, а жанчына навешвае на іх замок.

Усё! Закратаваны крыўдзіцель.

Усе хоць і спалоханыя не на жарт, але ж і шчаслівыя, што абышлося. Дарослыя распытваюць пра Алінчыну стрыжку. Відаць, яна ім моцна падабаецца, бо настрой ва ўсіх лепшае. Толькі злаваліся — зараз смяюцца. Нарэшце Алінка з мамай ідуць дахаты.

Пасля цяжкога эксперымента дзяўчынку змарыў сон, і яна дабрахоць лягла паспаць удзень. Прачнулася — на стале ляжаць «Тузікі». Гэта самыя дарагія шакаладныя цукеркі ў краме, бабуля купляе іх Алінцы з пенсіі.

Сёння — не пенсія. Аднак асаблівы дзень. Па-першае, унучка займела модную прычоску. Па-другое, яна ратавалася ад пеўня. Па-трэцяе, цудам не трапіла пад колы матацыкла.

З-за такіх падзей бабулі, вядомая справа, ніякіх «Тузікаў» не шкада.

Праведаць Алінку завітвае гаспадыня пеўня. Яна прыносіць вялікую місу клубніц. Смаката!

— А што робіць певень? — цікавіцца Алінка.

— Ды нічога ўжо не робіць! У супе зварыўся! — кажа цётка. — Чорта такога трымаць, пакалечыць яшчэ некага.

Эх, певень, певень! Казачны герой! Хацела Алінка цябе апраўдаць сваім эксперыментам, а ён стаўся смяротным. Так шкада!

Прыйшоў Колька. Сёння, відаць, ні да адной Алінкі цырульніка клікалі — у Колькі гладка выстрыжана галава.

— Ух, ты! — здзіўляецца сябра, пабачыўшы дзяўчынку з моднай прычоскай.

Хлопчыкаў часта стрыгуць машынкай «пад нуль». Колька штораз змагаецца, каб яму хоць чубчык у тым «нулі» пакідалі. І не даецца, і вырываецца, і ўцякае. Чубчык час ад часу адваёўвае. Але не заўжды. Вось і сёння не ўдалося. А ў Алінкі — палова галавы не выстрыжана. І сябра не насміхаецца — ён захапляецца Алінкай.

— Алінка, ты герой! — кажа Колька.

Алінка і не спрачаецца! Яна ад душы дзеліцца з Колькам чэсна заробленымі «Тузікамі» і клубніцамі.

## «Абнуленне»

Колька — самы блізкі Алінчын сябра, бо жыве проста над галавой. У іх двухпавярховым доме на восем кватэр Алінчына — на першым паверсе, а Колькава — на другім. Гэта вельмі зручна! Захочацца паклікаць — Алінка бярэ ў рукі шчотку з доўгай ручкай, становіцца на канапу, каб дацягнуцца да столі і тройчы грукае. Гэта азначае: «Выходзь!».

Калі ў адказ ляпнуць дзверы і пачуецца тупаценне па лесвіцы — Колька вольны і праз хвілінку будзе. Калі двойчы тупне ў адказ — значыць, яго не пускаюць. Ці есці ўсадзілі, ці загадалі глядзець малодшага брата Жэньку.

Аднойчы Алінка доўга не магла дазвацца Кольку і грукнула ў столь не шчоткай, а жалезнай качаргой, якой мяшаюць вугаль у печы. Стукнула дык стукнула — абабіла ладны кавалак пабелкі са штукатуркай. На яе насварыліся, але пляму латаць не спяшаліся.

— Любуйся, — казаў тата дачушцы, — што ты сваёй азбукай Морзэ ўчыніла!

Насамрэч, думае Алінка, пляму гэтую тата пакінуў для сябе. Увечары, калі Колька і Жэнька пачынаюць гарцаваць над галавой так, што люстра гапака скача, тата сам бярэ качаргу ў рукі і грукае акурат у пляму.

Пасля гэтага знака ў суседзяў цішэе. І ў залежнасці ад таго, каторая гадзіна, гоцанне праз кароткі час альбо аднаўляецца з новай сілай, альбо аціхае да раніцы — значыць, хлопцаў пагналі спаць.

Калі Колька хоча пабачыць Алінку, ён нічым не грукае. Ён проста з'яўляецца ў іх на парозе. Заспее Алінку за снеданнем ці абедам — ахвотна падсаджваецца дапамагчы.

— От жа глянь, — кажа Колькава баба Шура Алінчынай бабулі Амілі і пасміхаецца. — Дома есці не ўсадзіць, а ў вас ад стала не адагнаць. Хіба вашы бліны мёдам падмазаныя?

— Баба! — кажа аднойчы Колька. — Бліны не з мёдам. Проста я Алінку люблю, таму мне і смачна!

Вось так!

Гэтым разам Алінка ў рукі шчотку ўзяла, а грукнуць у столь не паспела. Толькі падумала пра сябра — а ён тут як тут, стаіць на парозе.

— Хадзем у хованкі гуляць!

Алінка бяжыць, але ўсё ж мусіць завязаць касынку. Пасля бойкі з пеўнем на галаве засталіся драпіны, іх шчодра замазалі зялёнкай. Зараз Алінка не проста з аднаго боку — голеная, з другога — валасатая. Яна яшчэ і ў зялёныя палоскі і бубачкі — модная ажно задужа.

Калі дзеці выскокваюць на двор, хованкі ў самым разгары,.

«Убіваўся» — гэта значыць, стаяў, заплюснуўшы вочы і ўбіўшыся тварам у сцяну дома, — старэйшы брат Алы, Сяргей. Пакуль ён лічыць да дзесяці, ад яго хаваюцца, а ён пасля ўсіх шукае — правілы звычайныя.

А вось знайсці куточак і зашыцца, каб цябе было цяжка знайсці, — задача не з простых. Месца ў двары і вакол пабудоў поўна, але ж і гульцоў багата. Тут толькі спрыт дапаможа.

Колька кідаецца ў адзін бок, Алінка — у другі.

Дзяўчынка бяжыць за дом — усе куткі заняты. За дрывотняй — таксама. Хоча схавацца за кустом агрэсту — і там месца няма!

Нічога не зробіш, давядзецца лезці ў тайнік. Ён схаваны сярод высокіх лапухоў ля плота ў далёкім куце двара.

Лапухі, большыя за Алінку, растуць густа. Яна першая дадумалася зладзіць пад імі хатку. Прыцягнула з дрывотні некалькі дошак, паклала на зямлю. Прынесла пасудку, каб было ў чым піражкі з пяску пячы. У бліжэйшы час яна хацела запрасіць Кольку і пачаставаць яго.

Пра хатку пакуль не ўведала ні адна жывая душа, бо Алінка дужа пільнавалася. Але ж зараз вельмі хацелася схавацца так, каб яе не знайшлі.

Крадзецца Алінка ціхутка праз лапуховыя зарасці, і раптам чуе голас сяброўкі Алы:

— Хлеба я табе паклала. А сала даць? — пытае Ала.

— Што за наедак без сала, — важна адказвае голас, і Алінка пазнае Віцьку, яшчэ аднаго суседа. — Збірай добры абед, бо еду ў суседні раён, дома позна буду.

Нічога сабе! Алка з Віцькам у сям'ю гуляюць! Віцька — нібыта кіроўца, як і яго татка. А вось Ала — нібыта жонка, яна яго ў дарогу збірае.

Алінка і сама любіць гуляць у сям'ю. Яна таксама выпраўляе Кольку ў розныя паходы і рэйсы. Але слухаць, як гуляюць іншыя, дужа смешна. Гэта раз. А два — тое, што дазволу гаспадарыць у сваёй хатцы і карыстацца сваёй пасудкай Алінка нікому не давала.

— Цілі-цілі цеста жаніх і нявеста! — забыўшыся на ўсе перасцярогі, дражніцца яна і выторкваецца з зарасніку ў «хатку» .

— Сама ты цілі-цеста! Са сваім Колькам! — перапалохаліся заспетыя знячэўку Алка і Віця. Сяброўка ўхапіла тоўстую драціну, якая валялася пад нагамі,і замахнулася на Алінку…

Ба-бах! Драціна трапляе Алінцы па галаве і рассякае яе да крыві. Кроў фарбуе касынку, гарачым раўчуком сплывае на твар, салёным смакам казыча губу.

…І вось ужо Алінка ў медпункце. Яна сядзіць на кушэтцы, а медычка Тоня апрацоўвае ёй рану.

— Цябе ванітуе? — пытае Тоня ў Алінкі. — Галава баліць? Круціцца?

Дзяўчынка чуйна прыслухоўваецца да сябе, але нічога такога не адчувае.

— Падобна, страсення мазгоў няма,— супакойвае Тоня маму і тату. Яны стаяць ля кушэткі, а твары ў іх белыя, як прасціны на ёй. — Крыві шмат, але ж спынілі, рана неглыбокая! Паназірайце за самаадчуваннем. Не будзе горш — значыць, абышлося!

Пасля Тоня кажа Алінцы:

— Давядзецца мне, модніца, тваю прычоску абнуліць. Як я табе па-другому павязку накладу? Зараз састрыгу валасы нажніцамі, а пазней можна будзе ўжо і машынкай выраўняць, каб раслі акуратна. Зразумела? — пытае яна.

— Што тут разумець, рабіце, як належыць! — адказвае за дачку тата.

Ды і Алінка ўжо не спрачаецца. Калі хлопцы гуляюць у вайну, яе заўсёды бяруць медсястрой. Ведае яна, колькі з раненымі клопату. Паранілі — лекуйся.

— Трымайце бінт на ране, каб валасы не пападалі, а я стрыгчы буду, — звяртаецца Тоня да таты.

— Не ўжо, бінт трымайце вы, а я лепш пастрыгу,— тата бярэ ў рукі нажніцы, а мама прысядае ля Алінкі і абдымае яе. Можа, баіцца, каб зноў не ўцякла.

Праз некалькі хвілін рэшткі кудзерак састрыжаны, і ў руках Тоні Алінка ператвараецца ў параненага салдата. Такіх у кіно паказваюць: на галаве — шапачка з бялюткіх бінтоў.

Гэтаму «салдату» Тоня дае цэлую ўпакоўку аскарбінак, і Алінка весялее.

— Еш вітамінкі і прыходзь на перавязку! — праводзіць яна пацыентку.

Дамоў вяртаюцца ў прыцемках. Хованкі скончыліся, дзеці разышліся па дамах.

На Алінчыным ганку сядзіць Ала.

— Алінка, — бяжыць яна насустрач. — Я толькі замахнуцца хацела, я не хацела цябе біць! Неяк само сабой атрымалася! — просіцца яна.

— Нічога сабе — само сабой! — не вытрымлівае тата. — Вы так калі-небудзь пазабіваеце адно аднаго

— Даруйце мне! — плача Ала. — А то мяне дамоў не пусцяць.

— Добра ўжо, не рабі так больш, — кажа мама.
— А ты, ты, Алінка? Глянь, што я табе дам!
Ала кідаецца да ганка і вяртаецца, нешта несучы ў руках. Яна расхінае хустку — і зялёнае сяйво пачынае пульсаваць ў шкляным слоіку.
— Светлячкі! Мы ўсім дваром табе іх цэлы вечар збіралі! Крышкай накрылі, а ў ёй дзіркі прабілі, каб яны не распаўзаліся і дыхалі. Пастаў на акно, няхай свецяць. А заўтра зранку разам выпусцім. Добра?
Ого! Цэлы скарб прынесла Ала Алінцы. Яна таксама любіць збіраць светлякоў, але больш, чым карабок з-пад запалак, ніколі не атрымлівалася налавіць. А тут ледзь не палова паўлітровага слоіка! Сапраўдны свяцільнік.
— Добра, дарую, — кажа Алінка. — Але больш каб маю пасудку без дазволу не брала!
Ала з палёгкай уздыхае і моцна-моцна абдымае сяброўку.
— Баліць? — шэпча яна.
— Пакуль жаніцца — загаіцца! — адказвае Алінка так, як звычайна суцяшаюць малых дарослыя. — Затое мне галаву дастрыглі. Аб-ну-лі-лі! — паўтарае яна пачутае ад медычкі слова.
Абедзьве рагочуць. Суцешаная і шчаслівая сяброўка з падскокам вяртаецца дамоў.
Не менш шчаслівая Алінка ўладкоўвае слоік са светлякамі на акне ў пакоі. Яна захоплена глядзіць, як жывы зеленаваты агеньчык то затухае, то ярчэе — але праз імгненне правальваецца ў сон.
Падзеі мінулага дня мільганулі перад вачыма, як кадры з кіно, і саступілі месца каляровым снам.
Набірайся, Алінка, сіл! Новыя прыгоды чакаюць цябе.

## Урок ветлівасці

Ідзе Алінка па вуліцы.
— Добры дзень! — вітае кожнага стрэчнага. — Добры дзень! — кажа яна суседцы.
— Добры дзень! — адгукаецца цётка Люба. — Але ж мы з табой, Алінка, сёння ўжо разоў пяць здароўкаліся!
— Не, шэсць! — удакладняе дзяўчынка.
— А што зноў вітаешся? — смяецца цётка Люба з гэткай дакладнасці.
— Ды мне няцяжка! Я ж не ведаю, памятаеце вы ці забыліся!
— І тое праўда, — пагаджаецца цётка Люба. — Лепш лішні раз паздароўкацца, чым хадзіць унурыўшыся.
Вось так і бабуля Аміля кажа.
— Парася і тое рохкае, калі ў хляўчук заходзіш. А каторы чалавек так павітацца баіцца, што і на другі бок вуліцы перабяжыць, абы «дабрыдзень» не аддаць.
Не, Алінка не парася, вітанняў нікому не шкадуе!
Аднойчы па радыё яна пачула перадачу «Урокі ветлівасці». Там раілі пры звароце да людзей называць іх па імені — гэта нібыта вельмі прыемна суразмоўцам.
І Алінка з усімі, каго ведала, стала вітацца, дадаючы імя.
— Здароў, Колька! Прывітанне, Ала! Добры дзень, цёця Люба!
Праўда, гучна атрымліваецца!
Незнаёмцаў, канечне, так не прывітаеш. Але колькі тых незнаёмцаў сустрэнеш у вёсцы? Тут усе ўсіх ведаюць і памятаюць, як каго завуць.

Вось аднойчы спяшалася Алінка ў краму. Ёй даручылі схадзіць па хлеб, а на рэшту набыць цукерак. У Алінкі і так быў добры настрой, а з марамі пра цукеркі ён стаў неверагодна цудоўным. Бяжыць яна і мармыча пад нос песеньку, неістотна, якую. Істотна тое, што на душы ў Алінкі радасна і хочацца ад замілавання абняць увесь свет.

А насустрач Алінцы рушыць бабулька — невысокая, худзенькая. Яна ідзе, ледзь перастаўляючы ногі і прыгінаючыся да зямлі. Ад гэтага выдае, што яе востры доўгі нос вось-вось пераважыць і старая паваліцца. Пасмы чорных валасоў выбіліся з-пад хусткі, але бабулька не зважае на гэта. Яна ідзе, не гледзячы ні ў бакі, ні наперад — толькі сабе пад ногі. Яна заўжды так ходзіць. На нагах у любое надвор'е — вялікія чорныя гумовікі, апранутая ж бабка заўжды ў мурзатую чорную спадніцу і заплямлены шэры пінжак.

Дарослыя дзецям часта гэтую бабу згадваюць.

«Ідзі памыйся, а то ходзіш, як Бэшліха!» — вось што кажуць яны, калі зважаюць на перапэцканыя рукі, ногі і тварыкі сваіх дзяцей і ўнукаў. Баба Бэшліха — прыклад таго, што можа стацца з кожным праз неахайнасць.

І дзеці пабойваюцца гэтай старой. Вельмі ж яна да Бабы Ягі падобная! І жыве наводшыбе, у невялікай хатцы, адзінютка. Ні яна да людзей, ні людзі да яе не ходзяць. Аднак дзесьці ў горадзе ў яе ёсць дачка з дзіўным іменем Качка. Алінка на свае вушы чула, як аднойчы баба казала ў краме, што сёлета яе Качка маецца прыехаць у госці.

Іншым разам Алінка, можа, і на другі бок вуліцы перабегла б, абы сам-насам не спаткацца з гэтай неахайнай старой. Але сёння, калі радасць проста перапаўняе дзяўчынку, ёй раптам робіцца не страшна, а вельмі-вельмі шкада бабульку. Цяжка, відаць, жыць, калі табой дзяцей палохаюць.

Алінка набіраецца духу і, параўняўшыся са старой, гукае:

— Добры дзень, бабуля Бэшліха! Як пажывае ваша дачка Качка?

Вось якая ветлівая Алінка! Не толькі бабулю, але і яе дачку па імені згадала!

Але — што здарылася? Замест таго, каб узрадавацца ці проста адказаць Алінцы, Бэшліха падскочыла, нібы яе аса ўджаліла. Яна нават вочы ад зямлі адарвала і так зіркнула на дзяўчынку, што ў той сэрца ў жывот ад страху правалілася. Вочы ў бабы Бэшліхі, як у ката: зялёна-жоўтыя і злосныя-злосныя.

— Чыя гэта дзевачка ў сіняй шапачцы?! — верашчыць баба Бэшліха і з нечаканым спрытам кідаецца да Алінкі.

Ды дзяўчынка не спіць у шапку. Яна віхурай зрываецца з месца і рэзка мяняе маршрут: разварочваецца з дарогі на краму і джгае дамоў. Зззаду за ёй, галосячы на ўсю ваколіцу, гоніцца баба Бэшліха. Вялікія гумовікі шлыкаюць на нагах старой, нібы падбрэхваюць кожнаму яе слову пра брыдкую дзеўчынёшку.

Перапалоханая Алінка нічога не разумее! Яна ратуецца ўцёкамі. Ледзь паспявае заскочыць у хату і зашчапіць дзверы ў сенцах на кручок, як баба Бэшліха тут як тут. Яна малоціць ў дзверы сваімі сухенькімі кулакамі з такім імпэтам і тузае за ручку так, што выдае: дзверы вось-вось паддадуцца і адчыняцца.

На шчасце Алінкі, у сенцы з хаты выходзіць бабуля Аміля.

— Што тут такое? — дзівіцца яна.

Алінка шмыгае з сенцаў у кухню. Тут, у бяспецы, пад бабуліным прыкрыццём, мужнасць пакідае яе — і дзіця плача ўголас.

Бабуля не ведае, куды кінуцца. Знадворку малоцяць ў дзверы і крычаць, а на кухні галосіць унучка.

— Ды што тут робіцца? — выходзіць з сябе і крычыць ужо бабуля.

— Ваша бандытка дражніцца! А яшчэ ў настаўнікаў гадуецца! — верашчыць баба Бэшліха,

зразумеўшы, да чыіх дзвярэй прыбегла.

— І нічога я не дражнюся! — плача Алінка. — Бабулька, я толькі сказала, як у радзіве вучылі: «Добры дзень, бабуля Бэшліха!» І запыталася, як яе Качка!

— Ціхуці! — гучней за ўнучку і бабу Бэшліху камандуе бабуля і адчыняе дзверы на двор — падобна на тое, што ёй усё робіцца зразумелым у адно імгненне.

Алінка чуе, як візгат бабы Бэшліхі спачатку мацнее, а пасля пакрысе заціхае. Зараз чуваць толькі спакойны голас яе бабулі Амілі.

— Агаф'я, — кажа яна. — Што ты на дзіця злуеш? Ці ты не ведаеш, што людзі цябе Бэшліхай празываюць? Ці малая вінавата, што ты «ц» выгаварыць не ўмееш? Яна ж культурна да цябе звярнуцца хацела!

Пачуўшы, што бабуля за яе заступаецца, Алінка паціху выглядае на двор і бачыць, як, шлыкаючы чорнымі гумовікамі і зноў унурыўшыся, баба Бэшліха сыходзіць з двара.

— Бабулька, — падае голас Алінка, — чаго яна?

— Марш у хату! — строга кажа бабуля.

Алінка пакорліва брыдзе за ёй.

Бабуля сядае на табурэтку і колькі часу маўчыць.

— Унучачка, — нарэшце кажа яна, — от жа ж нам не задалося! І не вінавата ты, і вінавата. Бабку гэтую Агаф'я завуць. Але гэта ўжо рэдка хто і ведае, бо як празвалі яе некалі Бэшліхай за неахайнасць — так і па сёння клічуць. Яна ўсё жыццё такая: ходзіць брудная, хата ў брудзе… Дачка ў яе Каця. А ў Агаф'і атрымліваецца «Качка». Ну, выгаварыць «ц» у яе не выходзіць.

Дзяўчынка слухае бабулю і шмыгае носам. Ніяк ад перапалоху не апомніцца.

— Ты хацела як лепей паздароўкацца, а пакрыўдзіла старую. Трэба ісці перапрашаць, — урэшце кажа бабуля.

— Не пайду! — узвіваецца Алінка. — Няхай бы мылася, дык ніхто б Бэшліхай не зваў!

— Пойдзеш! — кажа бабуля. — Нос не дарос старую судзіць. От якая яна — гэта яе ўчынак. А ты за свае ўчынкі адказвай. І пасля падумай: табе самой радасна, калі цябе абзываюць?

— Ы-ы-ы, — ные, забіўшыся ў куток, Алінка. Зусім ёй не хочацца нікуды ісці. Але ж бабулі не паслухацца нельга!

— Добра, — урэшце здаецца дзяўчынка. — Як, кажаш, яе завуць?

— Агаф'я.

— І што мне ёй сказаць, як прыйду?

— Скажаш: «Бабуля Агаф'я, даруйце мне!» І ўсё, ідзі дахаты.

Заданне, нібыта, няцяжкае. А ногі Алінку зусім не хочуць слухацца. Як у краму па цукеркі несліся хутка, а як выбачацца — ледзь плятуцца, адна за другую чапляюцца.

Брыдзе Алінка сцежкай паміж агародамі, за якімі стаіць патрэбная хатка, і гаворыць, каб не забыцца: «Агаф'я, Агаф'я, Агаф'я…» І даюць жа людзям такія імёны!

Вось, нарэшце, Алінка на парозе. Яна стукаецца і адчыняе дзверы.

Кудахтаючы, з сенцаў на яе вылятаюць куры. Алінка робіць крок — і чапляецца за вёдры, што стаяць проста ў парозе. Яна падае на заседжаную курамі падлогу і з жахам разумее, што імя бабулькі выскачыла ў яе з галавы!

А гаспадыня, пачуўшы вэрхал у сенцах, гукае: «Хто там?» — і тупае да дзвярэй.

Алінка куляй выскоквае з сенцаў і бяжыць дамоў.

— Перапрасіла? — строга пытае яе бабуля.

Бабулі Алінка хлусіць не ўмее. Усё адно яна гляне ў вочы і зразумее, праўду ці не кажа ўнучка.

— Не, — кажа Алінка. — Бабулька, я забылася, як яе завуць!

— Агаф'я! — суворым голасам паўтарае бабуля.

— Дык што, мне зноў ісці? — ледзь не плача Алінка.

— А як ты думала? — дзівіцца бабуля. — Табе ж не даравалі!

Зноў брыдзе дзяўчынка па сцежцы паўз агароды.

«Агаф'я, Агаф'я, Агаф'я…» — паўтарае яна. Але гэтым разам нязвыклае імя не чакае нават, калі Алінка дзверы ў хату адчыніць. Яно выскоквае з галавы, як толькі Алінка ступае на парог.

Зноў яна ні з чым вяртаецца дахаты.

Дома ўжо мама і тата. Сядзяць, абедаюць. Бабуля паспела распавесці ім пра Алінчыны прыгоды.

— Што, — пытае тата, — даравала табе баба Агаф'я?

І тату з мамай Алінка не можа сказаць няпраўду.

— Не, — шэпча яна скрозь слёзы. — Я не магу запомніць, як завуць бабу Бэшліху…

— Агаф'я!!! — у адзін голас крычаць бабуля, мама і тата. — Забудзься на Бэшліху!

А мама хапае паперку і выводзіць на ёй алоўкам вялікімі літарамі.

— Глядзі, — кажа яна да Алінкі.

— Мама, я ж чытаць не ўмею! — нэндзіць тая.

— А ты запамінай! — водзіць пальцам па літарах мама. — А-гаф-я!

Алінка цяжка ўздыхае. Калі датычыць яе выхавання, кожны з дарослых і паасобку непахісны. А разам бабуля, мама і тата — непераадольная сіла. Не дадуць спакою, пакуль свайго не дамогуцца. Тут ужо нікуды не дзенешся.

Алінка бярэ ў рукі паперчыну, заціскае яе ў кулак і зноў рушыць у дарогу.

«Агаф'я! Агаф'я!! Агаф'я!!!» — чаканіць яна кожны крок пад упартае імя. І так нібыта ўжо ўбіла яго сабе ў галаву, што зараз яно ні за што не выскачыць!

Але хатка нібы зачараваная! Толькі наблізілася да яе Алінка — імя зноў як згубілася!

Што рабіць? Туды-сюды хадзіць — толькі час марнаваць. Ніхто без даравання яе і слухаць не будзе!

Расціснула Алінка кулак, разгарнула паперку і стала ўглядацца ў літары. Глядзела-глядзела, а што толку? Чытаць жа не ўмее!

Крыўдна-крыўдна стала Алінцы. Яна як убачыла перад сабой строгую маму, што тыцкае пальцам у літары і паўтарае па складах…

## А-гаф-я!!!

Як маланка, раптам успыхнула ў памяці імя — а разам з ім адна да адной склаліся літары на паперчыне. Алінка не разумее, як гэта сталася, але яна ведае, што з гэтага імгнення можа прачытаць напісанае сама! Вось колькі дзён таму літары ў буквары не збіраліся ў склады, а тут імгненна Алінка зразумела, як гэта робіцца!

Такая радасць апанавала дзяўчынку, што яна і на страх перад сярдзітай бабулькай забылася!

— Добры дзень, бабуля Агаф'я! — крычыць Алінка пад акном. — Даруйце мне! Перадавайце прывітанне сваёй дачцэ Кацьцы!

Праўда, адвага пакідае дзяўчынку, як толькі баба Агаф'я з'яўляецца на ганку.

Алінка што духу пускаецца дахаты. Баба Бэшліха не крычыць, яна моўчкі глядзіць услед — і гэта Алінка ўважае за даравanne.

— А-гаф-я, А-гаф-я! — амаль што спявае яна, віхурай урываючыся ў хату. — Баба Агаф'я даравала мне! Дайце буквар! Я навучылася чытаць!



# Чаромхавыя ноты

*Вершы паэтаў Віцебшчыны*

**Уладзімір Лобач**

***

Неба малюе абраз на раз,
каб міраточыць дажджамі і росамі,
на гэтай зямлі ў гэты самы час
прыходзім травой і знікаем пакосамі.

***

Калодзежы з журавамі
падабаюцца больш за тыя,
што з калаўротам,
бо, дастаўшы вады з падзем'я,
заўсёды зірнеш на неба.

***

У кубку астылай чорнай кавы
пад нетутэйшай назвай «рабуста»
ідуць поўным ходам свае ледаставы,
каб задаволіць паўночныя густы.
І сонца плавае белай поўняй,
бялейшай за бераг парцаляны —
яшчэ няхутка дзень стане роўняй
зімовай ночы і снам каляным.

## Сутокі

Не паліш да апошняга — месца святое,
прыходзіш-сыходзіш гуманітарным канвоем,
пускаеш думкі па стылай вадзе, па чорнай,
ужо не верыш, што ноч можа быць і зорнай,
ловіш срэбра святла праз хмары-аблокі
і адчуваеш, як ціха пульсуюць у венах сутокі…

***

Наша з табой рака ў гэтую восень
нагадвае серп, небам заточаны,
мы можам глядзець,
мы можам заплюшчыць вочы,
мы можам схавацца ў паўсюдны цень,
але рака цячэ і адбівае жылкай на скроні
адзін, два, тры... пакуль не супыніцца кроў,
у авангардзе ці ар'ергардзе пагоні
нехта памрэ, а нехта народзіцца зноў.

***

Смутна, калі ёсць азёры, а караблёў няма,
калі віна не вымяраецца чаркай віна,
калі сны не пра тое, што ўбачыць хацеў,
хоць меў такі шчыры, амаль дзіцячы, спадзеў.
Смутна. На небе, зямлі і ў вадзе.
І зорка адна народзіцца, а яшчэ адна прападзе…

***

Хто потым скажа, якою ты нотай быў?
Як спяваў, як любіў, як жыў,
і ці вартыя словы па той бок мяжы,
дзе птушкамі душы лятуць у суцэльнай імжы,
не маючы сіл на палёт адваротны.
Розныя птушкі ёсць. Я ж — ніколі не быў пералётнай...

## Кацярына Захарэвіч

### Шалік

Калі мне робіцца кепска,
я іду ў кнігарню і п'ю там усё,
што наплакана гэтым светам.
Калі табе робіцца кепска,
ты ідзеш у кавярню і п'еш там…не каву.
І п'еш там...
І п'еш там.
Калі па-ранейшаму кепска,
я слухаю музыку,
каб — наколькі яшчэ магчыма —
зрабілася горш.
Калі табе кепска,
ты слухаеш іншых людзей —
пры розных выдатках вынік адзін і той жа.
Калі дастаткова кепска,
я сціскаю ў далонях шалік — ці не шалік —
абы пазногці прабілі скуру.
Калі табе кепска, ты сціскаеш чыюсьці шыю.
У абдымках.
І ўсё адно сыходзіш пануры.
Калі мне робіцца кепска,
я імкнуся цябе пабачыць,
і ад гэтага зноў глыбее мінорнасць хвалі.
Калі табе кепска,
ты імкнешся мяне пабачыць.
Ты заўважыў, што я заўсёды
здымаю шалік,
агаляючы шыю?

***

Усе, хто хацеў сыходзіць, даўно сышлі.
Усе, хто хацеў застацца, не засталіся.
І толькі пад шэрым снегам гнілое лісце,
Уласнай тугой прыбітае да зямлі.

Правесці да брамы. Ўслед памахаць рукой.
Смяяцца: я застаюся, тут дом і сцены —
Падтрымкай. Мне тут знаёмыя нават цені,
Якія штозмрок прыходзяць у мой пакой.

Вяртацца ў самоце — ў волі ці беднаце?
Падкідваць нагамі лісце — бліжэй да неба,
Чытаючы змрочны лёс па згалелых рэбрах,
Не песцячы думку следам за ім ляцець.

Прымі мяне, вечар. Скончы мой доўгі дзень.
І выпусці цені — з імі не так самотна.
Адказу няма. Сама цішыня замоўкла.
Ў пакоі пустым пакінуты дрэмле цень.

## Таццяна Багарадава

***

Я іду да цябе па бяскрайніх халодных сусветах,
Праз снягі і дажджы, і маркотны нямы далягляд.
Я блукаю ў журбе, дзе зіма сустракаецца з летам,
Дзе былое ніколі не зможам вярнуць мы назад.

Цішыня і спакой ланцугом нас скавалі халодным,
А на сэрцы застыла пякучая горыч гадоў.
Я пазнаю цябе — хоць ніколі не быў ты мне родным —
Па расе на траве, па адбітках імклівых слядоў…

Час няўмольна мінуў — і забылася крыўда расстання,
Кола вечных праблем узяло неабдымна ў палон.
…Зноў іду да цябе — без ніякіх іду спадзяванняў,
Мне пад ногі кладуцца сцяжынкі няўрымслівых дзён…

***

Калі маркотна плача дождж
І моўчкі грукае па гзымсе,
Тады журботныя і мы ўсе,
І гэта травеньская ноч.

Пакліча дождж з сабой у сон,
Дзе водар бэзу аксамітны
І дзе паэт, хоць не выбітны,
З вясной спявае ва ўнісон.

Ён, як адметны парфумер,
Змяшае тонкі пах лістоты,
Плясне чаромхавыя ноты,
Дадаўшы рыфму і памер.

Ці на палітры шчырых слоў
Пакіне пару белых плямаў —
Малюнак адмысловай драмы,
Дзе ёсць і здрада, і любоў.

Паэт купаецца адзін
У непаўторнай казцы мая,
Пяшчотна ноч яго люляе
Ды дорыць хмельны успамін

Пра незабыўныя гады
І непазбежнае каханне —
Хоць мроя яваю не стане,
Як і не стала ёй тады.

І адурманены паэт,
Няўцямны ад мінулых мрояў
Ды веснавых п'янкіх напояў,
Складзе найлепшы свой санет!

***

І пахмурна. І сіверна. Ляціць сняжынак рой.
Вятрыска па-над дахамі канцэрт спраўляе свой,
Удзень у плечы штурхае, не даючы спачыць,
Ды абуджае роздумы цяжкія уначы.
У думках пра адвечнае заўсёды паўстае
Той мосцік па-над рэчкаю, якога не стае.
Тут памяць пракаветная аціхла назаўжды,
І думкі, бы вандроўнікі, вяртаюцца сюды.
Зярняты сталасць шчырая пасеяла ў раллю —
Я смагі пра мінулае павек не наталю.
…У ціхім садзе восеньскім гарыць каліны куст,
Ў высокіх травах — яблыкі на ўсялякі густ.
І жніўеньскаю поўняю ў нябёсах ажыве
Юнацтва незваротнае, што ў вечнасць адплыве.

***

Над прамерзлымі слізкімі дахамі
Прачынаецца, высіцца дзень,
То ўчарашнімі дражніцца страхамі,
То паказвае светлы прамень.

То гуляе з пажоўклымі клёнамі,
То фарбуе сукенкі асін,
То дажджамі сыпне, як праклёнамі,
То зачыніць нябёсы зусім.

Раздае парасоны квяцістыя
Неабачліва-шчодрай рукой,
Рассявае, як промні празрыстыя,
Ў нашых душах святло і спакой...

З верай ў светлае заўтра дзівоснае
Сціплы месяц за хмарку палез,
А па сцежках, бы яблыкі росныя,
Знічкі хуткія коцяцца ў лес!

## Галіна Сутула

***

Той сее хлеб, а той — надзею з верай,
Той жне калоссе, іншы — думак цвет.
І размаўляе ўслых з лістом паперы
Дзівак ад роду, нейкі там паэт.

Натхненне тут ці проста ачмурэнне:
Не есць, не п'е, не бачыць белы свет.
Шукае ў радках заўжды збавенне
Дзівак ад роду, нейкі там паэт.

Ратуе душы Божым бласлаўленнем
І тчэ з пачуццяў вечнасці санет,
І ачышчае нашае сумленне
Дзівак ад роду, нейкі там паэт.

Яго не часта цэняць — болей судзяць,
Хоць у адказе ён за цэлы свет.
Святы  і грэшны, хай ён вечна будзе —
Дзівак ад роду, а душой паэт.

***

У прыродзе адліга, ў душы —
Пакрысе адступаюць завеі,
Непражытае днямі імжыць —
Толькі тленнае цела ніцее.

Я старэю ў сябе на вачах —
Гэткі лёс не мінае й паэтаў.
Адганяю трывогу і страх,
Сустракаючы новае лета.

Пазірае з люстэрка чужы
Твар, абмыты слязой і нягодай.
Неспакойнае сэрца дрыжыць,
Заміраючы ад прахалоды,

Рвецца ў храм да цяпла, да святла —
Толькі там яму мроіцца шчасце.
Дагарэўшы  аднойчы датла,
Развітальнае прыме прычасце.

Праз грахі й ачышчэнне ляжыць
Шлях да вечных вянкоў і санетаў.
Маяком на апошняй мяжы —
Неўміручая вера Паэта.

***

Ты абабраў мяне, як мог:
Забраў спакой і сны ў прыдачу,
Святло надзей і цень трывог,
Ды я ад страты не заплачу:

Ты ўзбагаціў мяне  ўдвая,
І пасвятлела на планеце —
Табой абкрадзеная, я
Найшчаслівейшая у свеце.

## Кацярына Сосна

***

Залатыя рызы паскідалі клёны,
Пералётны вецер агарнуў зямлю.
Жураўліны клёкат — нібы звон царкоўны,
З паднябесся крыкі сумныя лаўлю.

Не трывожце, птушкі, развітальнай нотай,
Хай вартуе памяць ваш зваротны шлях.
Восеньскае неба поўніцца маркотай,
Ды не ўсе рамонкі адцвілі ў лугах.

Белыя пялёсткі адрываю з кветкі,
Варажу, дзе стрэцца з мараю сваёй.
Ці дадуць адказ мне познія какеткі,
Дзе блукае шчасце восеньскай парой?

Можа, адляцела з клінам жураўліным,
Можа, зацярушыў сумам першы снег…
Ды зіма мінецца — з гоманам птушыным
Я адкрыю сэрца шчасцю і вясне!

## Алена Гайдамовіч

### Дыялог

*Прысвячаецца Я. Н. Драздовічу*

Спытаўся Бог аднойчы ў валацугі,
Што трокі і валокі абышоў,
Не меў нічога, не прыйшоў нікуды:
«Што, чалавеча, ты ў жыцці знайшоў?
Бадзяўся па зямлі — куска свайго не меў,
Дзе прыйдзецца — там спаў, з чужое ласкі еў,
Здарожыўся і лёг на мяккі пыл дарог…
Што добрага спазнаў?» — спытаў бадзягу Бог.
Апёршыся на кій, з усмешкай чалавек
На гэта адказаў: «Нябесны бачыў бег,
На Месяцы — людзей, сады і гарады…
У марах, Божа мой, я адлятаў туды!
Платонаў бачыў цырк і Артаполіс строгі,
Да казачных планет вялі жыцця дарогі!
Стадолішча, Пунькі, Заслаўе, Гараватка —
Гасціннаю і тут была любая хатка!
Наіўных мрояў дываны я землякам дарыў
і Дзісенскай сваёй зямлі рамантыку адкрыў.
Што добрага спазнаў я тут
І што было благога,
Сам ведаеш, як кажа люд:
«Усё, што меў, — ад Бога!»

## Ігар Пракаповіч

***

На вясковых вуліцах платы
У сумётах снежных патанаюць.
На штыкеты ўселіся каты
І вясну мурлыканнем гукаюць.

А яна на поўдні і сюды,
Можа, і не вернецца ніколі!
І таму па вёсцы халады
Не баяцца лётаць і сваволіць.

Добра ў хаце печку пратапіць
І прысесці ля адкрытай дзверцы,
Цеплынёю цела атуліць,
Каб агонь ізноў адчуць у сэрцы.

Хай віхурыць вея за акном
І пад вокны гурбы намятае —
У таго, хто мае ўтульны дом,
Свайго палу сэрца не губляе…

***

Люстраваліся храмы у плыні,
Танцавала лістота над ставам.
Па Паставах гулялі багіні.
Мастакі малявалі Паставы.

А прырода наладзіла свята,
Рассыпаючы колеры шчыра.
І было іх паўсюль так багата,
Што ствaралася ўражанне піра.

Пунсавелі кляновыя строі,
Было золата ў лужах адліта,
І кружыліся творчыя мроі
Матылькамі над кожнай палітрай.

На палотнах мужнелі мужчыны,
Прыгажэлі жанчыны і дзеці,
У залітыя сонцам вітрыны
Уразаўся гарэзлівы вецер…

Мастакі малявалі Паставы,
На палотнах спыняючы плыні,
А ля іх па зямных сваіх справах
Гарадскія снавалі багіні…

Валерый Гапееў

# Мая мілая ведзьма

## *Школьны раман*

*(заканчэнне, пачатак у №2,3,4 за 2017)*

І Наталля Іванаўна паглядзела на мяне. І за ёй — усе. Я не паспеў запярэчыць — завуч выйшла.

На першым перапынку падышла Алеся, паэтка. Без кроплі сарамлівасці, як яна мне сястра, схапіла за рукаў, пацягнула ўбок.

— Як вы крута прыдумалі! Я пра гэта нататку ў маладзёжку ўжо напісала, ёсць такая газета. І сфоткала. Слухай, ты так усё выдумляць мастак!

— Ат, Алеся, давай па справе, чаго прыйшла?

— А я яшчэ апавяданне напісала. Пачытай?

— Слухай, — пачаў заводзіцца я. — Чаму ты вырашыла, што я — майстар чытання?

— Ну, не злуйся, — адчула мой настрой Алеся. — Не хочаш падказваць — не падказвай. Тады хоць сам напішы!

— Я? — вылупіў я вочы.

— У цябе, я ведаю, атрымаецца!

— Ну, ты даеш… Давай сваё апавяданне, — абы адчапіцца ад паэткі, загадаў я.

— Пасля заняткаў! Дзякуй табе. Ты — цудоўны! — агаламошыла мяне чарговым кампліментам Алеся.

А ў маёй галаве пульсавалі, білі ў скроні яе словы: «У цябе атрымаецца». І я зразумеў, што мне трэба рабіць: напісаць апавяданне, ці як там яно завецца. Карацей, гісторыю. Пра тое, як нарадзілася Ядвіся. І даць пачытаць яе бацьку — нашаму знойдзенаму паэту…

### 12

Тры дні я пісаў. Ніяк не чакаў, калі ўсаджваўся за комп, што так нечакана лёгка пачнуць складвацца словы ў сказы, тыя — у абзацы, а абзацы — у старонкі. Пісаў, не вяртаючыся, не перачытваючы набранае, бо баяўся спыніцца, згубіць думку, якая з'яўлялася за занатаванай. Я пісаў і міжволі думаў пра тое, што я не пішу — запісваю адно ўзніклае ў галаве раней: калі сядзеў на занятках, ішоў дахаты, еў, пыласосіў дыван і дыванкі ў кватэры, размаўляў з маці, адказваў Ромку і Уладзю па тэлефоне, клаўся спаць.

Што праўда, дык іншы раз так ступарыла, бы ў галаве раптоўна знікалі ўсе словы! Аж страшна рабілася. Сядзеў, тупа вылупіўшы вочы ў манітор. Перачытваў напісанае ад пачатку, яшчэ і яшчэ раз… і нешта зрушвалася з месца.

Скуль мне было ведаць, як пісаць тыя апавяданні? Таму пісаў усё, што змог уявіць з Ядвісінага аповеду і навыдумляць сам. Вёсачку, у якой жыла Ядвісіна маці, мы бачылі адно здалёк, але я прыдумаў-прымроіў яе — з шырокай вуліцай, дзе ад дарогі ўзнімаюцца да хат абкошаныя лужкі, з велічэзнымі разлапістымі ліпамі ля платоў, з беластволымі бярозамі, што нікнуць сваімі доўгімі хвосткімі галінамі долу, з шапоткімі клёнамі, у якіх на пачатку лета зумкаюць хрушчы, а ўвосень лісце чырвона-мядзяным колам укрывае зямлю вакол. Я бачыў у сваім уяўленні невялікую, але ахайную хату, дзе на падлозе — саматканыя выцертыя-вылінялыя ходнікі, у якіх роўныя паскі не дарэшты страцілі свае колеры, вялікую печ пры ўваходзе і абраз у куце, такі стары, што намаляваны твар святога ледзь угадваецца дасведчаным чалавекам. І лёгкія дубальтовыя дзверы ў другі пакой, якія яшчэ занавешаны нечым кшталту сённяшняга цюлю, з простых нітак. І там, на да жоўтага вымытай падлозе такія самыя саматканыя ходнікі, але куды акуратнейшыя, зыркіх колераў, святочна-чысцюткія, нядаўна пакладзеныя, бо чакаюць госцевых ног…

Мне мроіўся восеньскі лес, амаль утравелая дарога, якая пятляла між цёмна-рудых хвой, дзе зямля была ўслана сівой ігліцай між рэдкімі купкамі паніклай жоўтай травы. Гэтай дарогай ішла жанчына, нетаропка, кранаючы рукой некаторыя хвоі, як вітаючыся з імі. Яна была… Яна была невысокая, статная, са спіны — амаль што вучаніца-выпускніца, у чырвоным…. Так, у чырвоным дэмісезонным паліто, чорных боціках… Яе густыя чорныя валасы, што злёгку віліся, падалі ёй на спіну і плечы жывой бліскучай хваляй, якая адгукалася на кожны рух і крок жанчыны. Мужчына ішоў у колькіх кроках ззаду, не зводзячы позірку з гэтай постаці, што жывым трапяткім языком полымя асвятляла лес. Замілаванасць на яго твары іншым разам раптоўна змянялася кароткім спалохам адчаю у вачах, пакутлівым роздумам. Але ўсяго на імгненне… Я бачыў і апісваў, як спачатку палохаюцца яны, зразумеўшы, што на чарговым раздарожжы павярнулі не ў той бок і цяпер не паспее мужчына ў час на аўтобус, як абое сцішана, крадком адно ад аднаго, каб не спужаць сваё шчасце, радуюцца гэтай неспадзяванцы: у іх будзе яшчэ такі доўгі вечар у цёплай хаце з жоўтай падлогай, засцеленай святочнымі ходнікамі. Я апісваў іх вячэру, не праміную той момант, калі жанчына клікнула мужчыну, каб дапамог адкрыць слоік, і цішком накропіла яму ў чарку з самаробным, са свайго вінаграду, віном колькі кропелек зялёнага зелля…

Мне бачыўся ранак расстання, як усміхалася і смяялася ўголас жанчына, праводзячы мужчыну са свайго парога, штурхала ласкава ў плечы: «Бяжы! Зноў спознішся!», а з вачэй у яе цяклі і цяклі слёзы, а ён разгублена мармытаў нешта пра свой доўг, абвязак і сумленне…

Адзінае, што не мог я ўявіць, не мог апісаць — сямейнае жыццё мужчыны. Таму пісаў адно пра тое, як стаў ён вядомым паэтам, як пачалі выходзіць яго кніжкі. І як аднойчы ўначы ці то прыснілася яму, ці то згадалася тая жанчына, і з тым першым успамінам прыйшло асцярожнае, кволае разуменне, што нечага ён не памятае, нешта засціла і засціць дагэтуль куточак памяці, дзе схаваны адзін з самых светлых і дарагіх яму момантаў. Год за годам ішоў, і пакрысе слабла заслона бяспамяцтва, і ў нейкі дзень вырашыў мужчына, што ён ці не вар'ят, бо гатовы быў паклясціся сам сабе: не прымроіў, не прысніў; насамрэч было: першая і апошняя іх ноч у цёплай хаце з квяцістымі ходнікамі, дзе маятнік старога гадзінніка лёгка і амаль бязгучна гойдаўся, адлічваючы іх апошнія хвіліны разам, а вочы намаляванага ката згары зіркалі то ў бок ложка іх спатольнага кахання, то ў бок сашчэпленых клямкай палавінак дзвярэй…

Я апісваў яго адчайны крок: ён сарваўся аднойчы з месца, знайшоў добрую падставу — выйшаў чарговы зборнік яго вершаў, і павёз яго туды, на сваё першае месца працы, каб сустрэць сваіх настаўнікаў, аддзячыць ім, а насамрэч толькі на дзесяць хвілін прыпыніўся ў рэдакцыі раёнкі, а пасля паімчаў у тую вёсачку… І сустрэлі яго два маўклівыя рады самотных ліп, бяроз і клёнаў, здзічэлыя яблыні ў садах, густыя зараснікі бэзу і язміну замест платоў. Не было ніводнай хаты…

А ў гэты час у далёкім ад мужчыны горадзе па тратуары, што бялеў ад ранішняй шэрані, хутаючыся ў хустку, ішла ў школу дзяўчына, нечым няўлоўна так падобная да яго. А ў невядомай мужчыну кватэры ўвечары жанчына яго веку заварвала сабе гарбату, прысаджвалася з кубкам у вялікім пакоі, уключала тэлевізар. Але не дзівілася на светлавыя пырскі з экрана, прыглушвала да ледзь ціхага гук і успаміналу-згадвала маладога журналіста з раённай газеты, які паслухмяна крочыў за ёй следам у тым дзіўным восеньскім лесе, які не змог схаваць радасці ў вачах, калі даведаўся, што спазніўся і наканавана яму начаваць у яе доме. Які быў самы жаданы, блізкі і любы ў той вечар і ўсе гады пазней… Асцярожна прыадчыніць дзверы яе дарослая дачушка-дзесяцікласніца, незласліва папракне матулю: «Зноў гарбата ахаладала… Давай новай запару», а яна ўсміхнецца ласкава ёй, будзе глядзець на родны твар і бачыць у ім рысачкі і рысы свайго адзінага каханага…

Яшчэ два дні я не кранаўся тэксту — думаў, мо каму паказаць? Ну, раптам ад пачатку такая дрэнь, што той паэт і чытаць не стане? Я выглядзеў у сеціве, што ён, апрача іншага, рыхтуе літаратурную старонку, значыць, усё мастацкае, вершы там, апавяданні, да яго трапляюць. Але ж

мне не дасылаць — мне трэба пабачыць яго. Каб потым апавесці Ядвісі: вось, ён такі, ён — вядомы паэт, яго ведаюць і ім ганарацца. І калі хочаш — я дам табе яго тэлефон, адрас, фота (знайшоў у сеціве, але, на жаль, дзесяцігадовай даўніны).

Так і не прыдумаў, каму даць пачытаць. Так, Уладзю я давяраў, але ж… Ён — кемлівы, ён можа здагадацца. І роўна, акуратна звядзе ўсё ў адну кропку. Хай Алеся пачытае? Не, яна занадта… прастадушная ці што, наіўная нават. Пачытае і яшчэ пахваліцца каму без аніякай ліхой думкі: дзівіцеся, Вяргейчык напісаў хвацкае апавяданне! А настаўніца літаратуры Яўгенія Львоўна ўчэпіцца: дай пачытаць, а раптам вартае на конкурс? Не, тут выключна нікому…

Сядзеў, перачытваў, хацелася ўявіць, што адчуе бацька Ядвісі, калі будзе чытаць гэтыя радкі? А можа, я дурны і нічога не кемлю, можа, ён даўно захрас у сваім сямейным жыцці і побыце і нічога не памятае з таго выпадку, даўно забытая ім лясная дарога…

Зайшла маці, мімаходзь зірнула на манітор, правяла рукой па маёй галаве:

— Думаю, што ў цябе за цішыня, не чуваць звычайных галасоў тваіх герояў… Чытаць зараз задаюць з манітора?

— Ды не… Я сам напісаў, — нечакана для сябе прызнаўся я.

— Цікава, і што ты напісаў? — хутчэй больш з ветлівасці, чым цікавасці, запытала маці.

— Апавяданне пра каханне, — не мог утрымацца я ад узніклага жадання падзяліцца.

— Ого! Ты адкрыў у сабе здольнасць пісаць? — гэтым разам шчыра здзівілася маці.

Яна стаяла побач, трымала руку на маім плячы, і хоць галава яе была павернутая да манітора, ведаў: яна ні слоўца не прачытае. Колькі ўжо было раней, падчас майго заседжвання ў сацыяльных сетках, яна падыходзіла, нагадвала пра вячэру ці ўрокі, ці пра смецце, якое трэба вынесці, але ніколі не цікавала за тым, што я пішу ці чытаю. Напачатку я спалохана згортваў браўзер, касавурыўся, але аднойчы маці сказала: «Без твайго дазволу нічога чытаць не буду. Абяцаю раз і назаўсёды». І я паверыў, чаму не паверыць? Ні разочку не западозрыў маці ў яе патаемным жаданні зірнуць хоць адным вокам на ліставанне.

— Мам… — раптоўна вырашыў я. — А пачытай і скажы — ці добра?

— Мне ацаніць тваё апавяданне? — усміхнулася, ускудлаціла валасы. — Які ж з мяне крытык?

— Мне чытач неабходны. Дарослы. Каб сказаў: ці цікава, ці добра, ці можна хоць чытаць…

— Шмат чытаць?

— Ну… пятнаццаць старонак. А я посуд памыю… што яшчэ зрабіць?

— Добра, ідзі мый, хопіць пакуль, — з усмешкай пагадзілася яна.

Не думаў, што мае рукі будуць дрыжэць, калі пайшоў на кухню. І чаго так расхваляваўся?

Маці выйшла не хутка — я ўжо пачаў ёрзаць, фільм ў тэлевізары ніяк не заходзіў. Яна прыадчыніла дзверы і знерухомела, скіраваўшы на мяне позірк, у якім… Там было захапленне, і вочы былі чырвоныя і мокрыя!

— Я не ведаю і пытацца не буду, табе хто расказаў такую гісторыю, ці ты сам яе прыдумаў. Але апавяданне — супер! — урэшце вымавіла маці, а голас яе крышку падрыгваў. — Я чытала і на сярэдзіне забылася, што гэта стварыў мой сын. Прабач, але ніколі б не падумала, што ты можаш так пісаць. Вельмі ўсцешаная. Вельмі.

— Дзякуй, мам…

Я быў шчаслівы.

Засталося пачакаць канікул. Яны хутка. І хутка Новы год, пра які мне думаць не хацелася. Раней мы сустракалі яго заўжды ў мяне, утрох: Уладзя, Юрась і я. Добра наядаліся прысмакамі, якія і хлопцы прыносілі, і мама гатавала, пасля ішлі на гарадскую плошчу — там тусілі гадзіны да трэцяй ночы, калі было цікава. А як не, дык разыходзіліся раней. Летась на навагодні баль, як гучна называюць пераднавагоднюю дыскатэку ў школе, не зазіралі — нецікава. І ў гэтым годзе я дакладна не пайду…

Неяк спакваля, незаўважна, Юрась і Ядвіся аддаліліся ад усіх. Я амаль фізічна адчуваў дыстанцыйны халадок, які ўзнік ля Ядвісі. Да яе не спяшаўся, як раней, падыходзіць Ромка. Настачка, якая кожную перамену круцілася ля Ядвісі, цяпер зазвычай была на перапынках разам з намі — з Уладзем, мной і Ромкам. У сталоўцы ніхто з нашых не бег сесці за стол, за які сядалі Ядвіся і Юрась.

Мне было балюча. Ядвіся амаль ніколі не ўсміхалася, яе голасу на перапынках не было чуваць.

Лічыў дні да навагодняга свята, якое сустрэў ва Уладзі, — маці, выбачаючыся і саромеючыся, папрасіла яе адпусціць сустрэць Новы год у Вільні. Ну, не адной, вядома. Я быў рады за яе. Так прыемна было бачыць яе шчаслівай і вясёлай… Да Уладзі назбіралася чалавек дзесяць, хадзілі на плошчу, якая была шэрай і мокрай, — снегу і маразоў мы так і не пабачылі. Пад парывамі ветру ківалася на плошчы аднабокая ёлка, купкамі стаялі людзі. Ні жартаў, ні смеху, нават петард не чуваць — міліцыянераў паўсюль, бы «сняжынак» на ранішніку ў дзіцячым садку, плошча агароджана, з нечым такім і не пройдзеш… Сустрэлі сваіх — адну, другую тусу, і да Уладзі вярнуліся ці не ўсім класам. Але ягоная маці нас не пагнала, мы дурэлі разам да раніцы, нават ладзілі неблагія танцы. Я быццам і быў разам з усімі, але кожную хвіліну адчуваў сябе акцёрам у не надта прыемным мне спектаклі.

З кім і дзе сустракала свята Ядвіся, я не ведаў.

Пасля Новага года адзначаў у календары дні, аб'яўленыя непрацоўнымі. Не помню, колькі разоў прачытаны і выпраўлены тэкст майго апавядання ляжаў, запакаваны ў тэчку. Дзень я вызначыў, з маці пра ўсё дамовіўся, грошай яна мне дала. Дзве гадзіны на электрычцы — не такі і доўгі шлях.

Хваляванні зніклі, калі я набыў квіток і сеў у паўпусты, але нечакана цёплы вагон. Ні пра што ў дарозе не думалася — я глядзеў на бясснежныя палі, дзе шэрыя, дзе зялёныя ад руні, на голыя ўзлескі… Электрычка спынялася на безлічы прыпынкаў, не паспеўшы як след набраць ходу, але я настроіў сябе на доўгую нудную дарогу. Уваткнуў навушнікі ў вушы, уключыў музыку — што патрапілася. Ведаў, дзе шукаць рэдакцыю абласной газеты, — палазіў у сеціве, ведаў свой маршрут ад вакзала. Пайшоў пехатою, хоць па мапе выпадала больш за два кіламетры.

Захваляваўся тады, калі ў доўгім калідоры рэдакцыі маладая жанчына з высокай фрызурай, у дзелавым строі — белая блузка, чорная спадніcount і фрэнчык, пачуўшы пытанне пра Васіля Матыля, зірнула з незразумелай усмешкай і прамовіла:

— Вам вунь у тыя дзверы, перадапошнія па левым баку. Калі ён здольны вас прыняць.

У яе словах была і насмешка — не з мяне, а з паэта, і заўсёднае раздражненне, і жаль да мяне. Я не разумеў гэтага клубка пачуццяў, але раптоўна ўстрывожыўся. Стукнуў двойчы ў дзверы дзеля прыліку, не думаючы, што пачую запрашэнне, адчыніў.

Хоць фортка акна была прыадчыненая, у невялікім кабінеце на два сталы быў густы смуродны пах. Перагар… За адным сталом сядзела дзяўчына гадоў дваццаці, у вялікіх акулярах, драбненькая, амаль уся схавалася за маніторам. Валасы на яе галаве былі незвычайна для такой маладой гладка зачэсаныя назад і звязаныя ў пучок. А вушкі — маленькія і пацешныя, зусім дзіцячыя. За другім сталом сядзеў мужчына, гадоў сарака пяці ці нават больш, але з цалкам пасівелай галавой. Ён быў у гарнітуры, белай сарочцы пад гальштукам, ды ўсё выглядала бы ў нашага Швондзера — пакамечаным і нясвежым. Ён павярнуў свой твар — чырвоны, з адвіслымі складкамі скуры пад вачыма. Позірк быў цьмяны, абыякавы, хоць вусны і пасунуліся ў спробе ўсміхнуцца.

— Заходзьце, заходзьце, — прамармытаў ён. — Па якой вы справе?

Я павітаўся. І ў той жа момант мне собіла павярнуць назад, але ззаду як што падштурхнула, і я зрабіў два крокі да стала.

— Вы ж Васіль Матыль?

— Ну, пакуль я Матыль, як ніхто яшчэ не перахрысціў, — нязграбна пажартаваў ён.

Яму было вельмі блага, відавочна. Аблізнуў перасмяглыя бясколерныя вусны, якія здаваліся чужымі на чырвоным твары, каўтнуў. Узняўся, зрабіў два крокі да невялічкага століка ў куце

— там стаяў графін каламутнага белага шкла з вадой і дзве шклянкі. Ліў марудна, мабыць, з асцярожнасці, і стаў піць, адвярнуўшыся спінай. Ззаду яго штаны блішчалі. Вярнуўся, сеў, адкінуўшыся на высокую чорную спінку крэсла.

— Калі да мяне, то прашу, слухаю вас!

У голасе гучала штучная напышлівасць і імкненне выглядаць годна, відаць, яму самому было крыху няёмка — не адышоўшаму ад учарашняй п'янкі — перад нечаканым наведвальнікам.

Я мусіў падысці да яго, дастаў з заплечніка тэчку. І хоць збоку бы нехта скуголіў мне: кінь, не давай яму нічога, няўжо ты не бачыш, перад табой п'яніца горкі, зірні на каўнер яго кашулі, ён брудны, амаль шэры, зірні на вузел гальштука, увесь зашмальцаваны, няўжо такі бацька патрэбны Ядвісі — я паклаў паперы на край стала:

— Вось… Апавяданне напісаў.

— О! Проза — добра, вельмі добра… А то ўсе пішуць вершы… Вершы, якія чытаюць адно самі ды вось я, як іхні рэдактар. А хто чытае мае? Правільна, ніхто, — мармытаў ён, паляпваючы пальцамі, але не расшпільваючы пластыкавую тэчку.

І добра, што ён не стаў гэтага рабіць. Добра, што не схапіўся, не стаў чытаць, запрасіўшы прысесці. Бо мне было невыносна знаходзіцца яшчэ хоць колькі побач з ім.

— А вы скуль, малады чалавек? — гэтым разам Матыль узняў бляклы позірк, у якім адбілася крышачку цікавасці.

— Там ёсць нумар майго тэлефона, — ухіліва адказаў я. — То я пайду, да пабачэння.

— Ага, добра, — хітнуў ён галавой, зноў апусціўшы вочы ў стол.

Дзяўчына за гэты час не падала і гуку, не адвярнулася ад манітора.

Я выйшаў. У другі раз адчуў невымоўную пустэчу. Так было, калі Ядвіся тэлефанавала і крычала, што ненавідзіць мяне і не даруе. І вось цяпер. Колькі разоў я спрабаваў уявіць сабе гэтага мужчыну, паэта, колішняга маладога журналіста, які ішоў за маладой настаўніцай па зарослай лясной дарозе, але чаму, чаму ніяк не паўставаў ён мне звычайным п'яніцам з азызлым тварам, чалавекам, які скаціўся ў свой асабісты свет нораваў, звычак і вывернутых каштоўнасцяў? Чаму я быў такі ўпэўнены ў гэтым паэце?

Усё зноў абрынулася, і абрынулася дарэшты.

Не заўважаў часу, сядзеў у паўпустой гулкай зале чакання з высачэзнай пукатай столлю, пасля бяздумна вывучаў сценку вагона. Было нават горача — так напалілі ў вагоне, я расшпіліў куртку і балахон.

На адным са шматлікім прыпынкаў у вагон зайшоў хлопец, мне дык падалося ў нейкі момант — Алег. Ды было далекавата, не разгледзеў. Хлопец у «вайсковай» куртцы, нацягнутай на самыя бровы вязанай шапачцы, коратка, зладзеявата нават, агледзеў амаль пусты вагон, каўзануў абыякава сваім позіркам па мне і хутчэй зацягнуў сваю цяжэнную, старую і брудную сумку на вольнае месца ля самых дзвярэй.

…Іх было трое, у чорных кароткіх скуранках, цяжкіх ботах на шнуроўцы — берцах. Не заўважыць маю саколку з «анархіяй» яны не маглі — яна чорная, літара «А» — белая і вялізная. Яны з развароту, з імпэтам селі — адзін ля мяне, двое насупраць. Не глядзелі ў мой бок знарок, як не бачылі. Непрыемна падцягнула жывот.

Усяго адну бойку памятаю — у дзяцінстве. І з таго часу ўнікаў усялякіх сутычак. Не тое, каб я баяўся болю, невыносна перанесці іншае: чужую маральную перавагу над сабой, сваю асабістую нядужасць, непазбежнасць такога фіналу, у якім ты будзеш збіты, абражаны, прыніжаны пры любым раскладзе. Прыблізна я ведаў, што мяне чакае: яны выпхнуць мяне за адзін прыпынак ад вакзалу. І там саб'юць з ног і пакоцяць па пероне. Так ужо было, мы ведалі — на гэтым прыпынку нямала білі і анархістаў, і антыфа, раён станцыі лічыўся цалкам пад кантролем скінхедаў. І не будзе каму заступіцца, бо там мала выходзіць людзей, ды і што нашы людзі? Дзе сёння хто за каго заступаецца…

Адзін са скінаў быў старэйшы за мяне, гадоў васямнаццаці, двое — недзе мае аднагодкі. Яны маўчалі. Той, што сядзеў побач са мной, раптам гучна пацягнуў носам паветра і рыкнуў:

— Чым тут смярдзіць?

Яго голас, пэўна ж, пачула палова паўпустога вагона, дзе на лаўках сядзелі адзін-два чалавекі. Але ніхто ніяк не зрэагаваў на гэты голас. Адно што хаўруснікі гэтага аматара свежага паветра таксама пацягнулі насамі. І потым усе разам скіравалі позіркі на мяне:

— О, дык гэта анархіст вашывы псуе нам паветра!

— Нічога, ён разумны і выхаваны хлопчык і гатовы выцерці наш перон сваёй анучай…

Выйсця не было. Супраць трох я нічога зрабіць не змог бы. Хоць альтэрнатыва была: можна распачаць бойку самому, тут. Яны раззлуюцца і біць сваімі берцамі будуць не трапна, як на пероне, прагульваючыся, а куды патрапяць. Могуць скалечыць твар — нос набок звернуць ці скулу рассякуць падэшвай. Ці дачакацца іх прыпынку — яны за хвілін пяць сілком выцягнуць мяне ў тамбур, выпхнуць на перон — і там іх будзе ўжо не трое, там заўсёды нехта пасвіцца з іх хеўры. Пакоцяць па пероне — там адно хавай галаву і твар рукамі, гаварылі: б’юць не надта моцна… Не было вялікага страху, калі казаць праўду. Адно адчуванне яшчэ больш узрослай, страшэннай безвыходнасці і тупіка ва ўсім. Мабыць, так і трэба, каб пасля ўсіх параз намаляваліся ў фінале маіх бездапаможных высілкаў вярнуць Ядвісю гэтыя скінхеды і будучы фізічны боль. Так і трэба…

Так заканчваюцца мары.

— Што за тэму пераціраем? Дазвольце да чэснай кампаніі далучыцца, а то сум у дарозе апанаваў, — пачуўся гучны і ўпэўнены, трошкі насмешлівы, знаёмы голас.

Ля нашых лавак стаяў Алег. Так, то ён зацягваў цяжэнную сумку ў вагон.

— Ты, чувак, адыдзі, тут у нас свой базар, — адказаў Алегу старэйшы са скінаў, які сядзеў з краю насупраць мяне. Нельга было не пачуць папярэджання ў яго звароце.

— Гэта бабулькі на рынку базараць, а мужыкі, кажуць, гамоняць за жыццё? — скрозь зубы раптоўна жорстка, з упіканнем суразмоўцы ў парушэнні асаблівага збору асаблівых правіл, сказаў Алег і сеў, адначасова бесцырымонна, бы знаёмага сябра, пасунуўшы скіна. Яго рукі былі складзеныя на жываце, правая схавана пад левы локаць. І не паспеў ніхто са скінаў разявіць рот, як зноў скрозь зубы са злоснай, сапраўднай, дарослай пагрозай Алег дадаў: — А ты за чувака адказваеш, пацан учорашні? — нават не зірнуўшы на скіна, але ўсе зразумелі, што пытанне да яго.

Ад упэўненага нахабства Алега троіца на нейкі момант разгубілася. Скіны пераглядваліся між сабой. Старэйшы, якога пасунуў Алег, ледзь павярнуў галаву ў яго бок і прасіпеў, яшчэ разлічваючы на сваю колькасную перавагу:

— Ты што тут забыўся? Ідзі, куды ішоў. Чаго лезеш у чужыя справы? Не клікалі.

— Ты, выпаўзак, сваім сучонкам будзеш загадваць, куды хадзіць і што рабіць, ясна, утырак? Не коўзайся на лаве, а то няўзнак наскочыш…

Пачулася характэрнае кароткае пстрыканне, і з пад левага локця Алега выскачыла дугою шырокае, незвычайна завостранае на канцы лязо нажа.

— Ціха, кажу, шалупень… Ніхто нікуды не ідзе. Усе сядзяць на сваіх месцах… Гуляць пойдзеце, калі я дазволю. Хто рыпнецца — ты сядзеш на нож… — Алег пасунуўся яшчэ бліжэй, той здрыгануўся, мабыць, адчуў вострае лязо. Алег вальней раскінуў рукі, лязо прыхавалася між ім і скінам.

І мы ехалі так яшчэ два прыпынкі. Калі электрычка амаль што спынілася на «іхняй» станцыі, Алег загадаў скінхедам:

— Збеглі хуценька, недапалкі…

Яны падхапіліся без адзінага слова. Алег, агледзеўшыся, распрастаў рукі, спрактыкаваным рухам схаваў лязо ў тронкі, паклаў нож у кішэню джынсаў.

— Вось каб цябе раз пракацілі па асфальце, дык разумнейшы стаў бы, — без злосці, нават са шкадаваннем, сказаў ён.

— Усё жыццё хаваць тое, што табе даспадобы? — слаба запярэчыў я.

— Дурань, — хмыкнуў Алег. — Каб бараніць нешта сваё, трэба мець нешта… А ў вас — соплі.

— Зразумела, — пагадзіўся я, бо зараз дакладна разумеў, пра што кажа Алег. Калі ты без нічога — без сілы, без грошай, без… без сяброў — ты ніхто, ты нідзе, ты ніякі. — Дапамагчы? — я павёў галавой на лаўку, ля якой стаяла сумка Алега.

Ён моўчкі кіўнуў.

Мы разам дацягнулі сумку да прыпынку аўтобуса.

— Далей? — спытаў я. — Мне спяшацца няма куды...

— Давай, — не адмовіўся ён і патлумачыў згоду: — Ад прыпынку з паўкіламетра перці…

Аўтобус цягнуўся марудна, мы даехалі да самай ўскраіны горада, і Алег памкнуўся да выхаду. Потым моўчкі неслі сумку да гаражнага масіву, прайшлі праз яго на самы ўскраек — крыху наводдаль ад іншых стаяла купка з пяці гаражоў. Спыніліся нарэшце, Алег дастаў ключ, адамкнуў дзверы, пацягнуў скрыпучыя вароты.

У гаражы было пуста, у кутах грувасціўся ў кучах металалом: асобна, самая вялікая купа— жалеззе, у другім куце — скруткі алюмініевага дроту, яшчэ там рознае. Стаялі ля сцяны старыя акумулятары. Была і невялікая кучка меднага дроту, відавочна, абпаленага.

Алег пстрыкнуў выключальнікам — загарэлася зыркая лямпачка. На невялікім стале стаяў электрычны чайнік, вялікая пластыкавая бутля з вадой.

— Гарбаты пап'ем… Не еў зранку. А ты?

Я згадаў, што і сам не клаў нічога на зуб — трохі казытаў нос на вакзале пах свежых беляшоў, але ж такі настрой быў…

Алег выцягнуў з заплечніка пакет, дастаў хлеб, кавалак сала, гуркі. Хутка парэзаў. Мы елі, пасеўшы на старыя, некім выкінутыя з хаты, драўляныя крэслы. Забулькатаў чайнік, Алег спаласнуў кіпнем два пластыкавыя кубкі, насыпаў заваркі, заліў. Выцягнуў пачак цыгарэт, прыпаліў ад запальнічкі.

— Твая гаспадарка? — парушыў я маўчанне, якое ніколькі не гняло, але ж карцела нечага больш даведацца, бо я быў уражаны ўбачаным.

— Мая, — кіўнуў Алег. — Дзядзькаў гараж, аддаў мне пад метал. Тут выгодна: можна касцёр побач раскласці, медзь ці алюміній абпаліць, калі ў ізаляцыі, бо з тонкім намучышся, як пашанцуе кавалак кабелю падабраць.

— Шанцуе калі?

— Ды вось сёння… Тройчы мінаў адну хату, там дах і столь праваліліся, праводку даўно раней знялі… Сёння завітаў ад безвыходнасці, бо нідзе нічога не знайшоў, хоць і небяспечна — усё вісіць над галавой… Бачу — бы вяроўчынка, ажно — старая праводка, тканая ізаляцыя. І — медная. Як мянялі яе, дык на гарышча закінулі. Стаў цягнуць — а там скруткаў! Мабыць, не з адной хаты сабралі раней. Вось, кіло дваццаць будзе, — Алег кіўнуў у бок сумкі, што мы прыперлі.

— Навошта грошы збіраеш?

Ён зірнуў на мяне з расчараваннем, бы здаровы на хворага:

— Я не збіраю, мы на грошы жывём. Вам маткі і бацькі даюць, а мая маці ў дэкрэце з трэцім, брат у другім класе. Спытай у сваёй, як выжыць адно на дзіцячыя грошы…

— Прабач, — ціха прамовіў я, імгненна ўспомніўшы, як згаджаўся Алег сыграць ролю ў нашым фільме, але за грошы, як мы аплачвалі яго «ахову» на лецішчы...

— Фігня…

— Ты па закінутых хатах ходзіш… А міліцыя не ганяе?

— Не. Я ж не ў жывых людзей краду. Бацька навучыў…

Я запытальна паглядзеў на Алега: як бацька мог навучыць і чаму, калі сам сядзіць у турме? Той хмыкнуў, верагодна, зразумеўшы маю няўцямнасць, патлумачыў:

— Бацька мне заўсёды казаў: глядзі на мяне, я з законам не сябрую — і хто я? Зэк прапашчы. Выйшаў, праз паўгода — новы тэрмін… — І раптам пасур'ёзнеў, дадаў рэзка: — Я на бацю не наракаю, не думай. Пакаціўся раз за краты — не спыніцца, такі закон. Таму ад пачатку трымацца неабходна. Ён і іншаму навучыў, галоўнаму: самому за ўсё адказваць. І за сваё — зубамі. За сваіх — зубамі, калі няма нажа ці хоць нечага пад рукой…

— Дзякуй табе, дарэчы, — урэшце знайшоў я момант падзякаваць за ягонае заступніцтва ў электрычцы.

— Сваіх не кідаю, — нехаця буркнуў Алег, адпіў з кубка і, гледзячы мне ў вочы, працягнуў раптам амаль з адчаем: — Вось ты ж — пацан нармаль, а дзяўчыну аддаў і каму? Ды каб мне такая, як Ядзя, у сябры запісалася, я б… Начамі па вёсках закінутых гойсаў бы, збіраў бы цвікі ржавыя з гнілых паваленых платоў, а ўсё адно ёй даў бы, што змог бы даць хоць такі, як Віця Марыноўскі. І горла перагрыз бы любому, хто пакрыўдзіць яе…

Я маўчаў. Мне было сорамна і прыкра.

— Дурнем быў…

— Ты фігню гародзіш, Кір, — са шкадаваннем, цвёрда сказаў Алег. — Дурнем быў — гэта калі цяпер паразумнеў і нешта спрабуеш зрабіць. А ты? Ты — абсікаўся і дагэтуль ходзіш у мокрым. Без крыўд толькі. Калі ты пацан — рабі, а не жуй соплі, не чакай і не шукай жалю да сябе. То мне таксама баця сказаў: недалужнасць ніхто не забудзе, ніхто не даруе. Няўдачы забудуць, дурасць, псіхі, дзівацтвы, выбрыкі розныя… але не недалужнасць і не жаль. За сваё біцца трэба… да крыві, калі трэба. Ды калі адважыўся, не думаеш, да першай крыві ці да смерці…

Пасля канікул мы сталі з Алегам рукацца пры сустрэчы. Мажліва, і тое неяк паўплывала, але я заўважыў змену стаўлення да сябе: запаважалі, ці што… Часцей, чым раней, звярталіся ў розных дробязях, уцягвалі ў гутаркі і спрэчкі, пыталіся і прасілі парады. Не адставалі Міхал Вакульчык са Стасем Фядзьковічам: дай ім ідэю на новы кліп, каб быў — красава! Яны літаральна заціснулі мяне ў кут і прыгразілі не выпусціць. У класе стаяў вэрхал, адно Ядвіся і Юрась сядзелі за сталом, і вакол іх нічога не існавала. Не, яны не былі разам, яны не размаўлялі. Юрась нешта пісаў у сшытку, Ядвіся глядзела за акно, цяпер пустое, — з жалем мы знялі свой «пейзаж» з матылькамі і дзяўчынкай у чырвонай сукенцы…

— Добра, наце ідэю! Хлопец бяжыць, імкнецца злавіць матылька. Ловіць. Крылцы камечацца, ломяцца, яскравы пылок з іх застаецца на брудных пальцах, крылцы становяцца амаль празрыстымі, шэрымі, ніякімі…

Стась з Міхалам пераглянуліся.

— Прываблівасць прыгажосці ў яе таемнасці, — задумліва прамовіў Стась. — Мы разбураем чароўнае, калі хочам ім завалодаць…

— Крута! — ляпнуў мяне па плячы Міхал. — Пазычу ў біялагічкі засушанага матылька, улетку злаўлю трох новых. Пальцы з бруднымі пазногцямі хапаюць… крылцы ломяцца… сціраецца пылок. Будзе тэкст? — павярнуўся ён да Стася.

— Чакай… чакай… — Стась заплюснуў вочы, зморшчыў лоб: — Ёсць! Робім! Кір, з нас…

— Шакаладка! — закончыў я. — Давайце, удачы…

Напрыканцы наступнага дня падышла Святлана, стараста.

— Кір, у цябе макулатура ёсць?

— Злітуйся, два месяцы таму выцягнуў з дому нават магазінныя чэкі, якія захоўвае маці!

— Не менш за дзесяць кілаграмаў, — без эмоцый выдала Святлана.

— А калі не — што будзе?

— Табе — нічога, — уздыхнула, пачала па-чалавечы казаць стараста. — А мне — вымова напоўніцу ад завуча і дырэкцыі. І я буду бегаць па крамах і прыватных шапіках, спяшацца да сметніц, каб перахапіць якую упакоўку, пакуль яе не пацягнулі бамжы. Усё, як раней…

— Трасца… — вылаяўся я. — Падурэлі яны з гэтай макулатурай.

— Дзяржаўная задача. Усе прадпрыемствы павінны здаваць другасную сыравіну, — Святлана тлумачыла, бы дзіцяці.

— Свет! Хопіць, у вушах захрасла…

— А што мне рабіць?

— А прыдумаем прэмію, хто больш здасць…. Ці хутчэй план выканае?

— Адна прэмія — нецікава, помніш, два гады таму рабілі. І мне свае грошы надакучыла траціць.

— Ну… адгулы даваць, як на працы! Здаў дзесяць кіло — адзін дзень вольны.

— Не дазволіць дырэкцыя…

— Ну, тады… тады — мне хацелася абавязкова прыдумаць цікавую і патрэбную ўзнагароду за прынесеную макулатуру, дапамагчы, бо ж Святлана — нармалёвая дзяўчына… — слухай, а дамовімся з настаўнікамі: не выклікаць таго вучня… адзін урок на выбар, во!

Свеціны вочы ажылі. Яна глядзела на мяне і скрозь мяне, нешта пралічвала.

— Дакладна! За кожны здадзены кілаграм кожны атрымлівае… атрымлівае… во, ялінку. Сама накупляю, бачыла маленечкія, пластыкавыя. Дзесяць ялінак — вольны ад выклікаў на ўвесь дзень.

— А сябру перадаць можна? — усміхнуўся я.

— О, тут варта падумаць і прапісаць сістэму… Пабягу да Наталлі Іванаўны… Як думаеш, дазволяць? Тут жа няма, здаецца, парушэнняў? А нашым было б цікава…

Я не ведаў, што там для дырэкцыі важней: нормы навучання ці планы здачы макулатуры. Святлана падскочыла на наступны дзень, на другім перапынку, і загалёкала:

— Дазволілі! Але каб склалі дакладную інструкцыю: як улічваць, хто мае права і на што, і безліч усяго… Сёння пасля заняткаў застаёмся з завучам і Макарам, прадумваем. Але ўжо трэба свае прапановы накідаць…. — І нечакана змяніла тон ажно да плаксівага і працягнула просячы: — Кір, ну, калі ласка, паспрабуем разам, дапамажы…

Я згадзіўся — што яшчэ заставалася? Пагатоў, раптам з'явілася безліч вольнага часу. Мне расхацелася глядзець новыя серыі дэтэктываў, нават Кінг стаміў сваімі жахамі. Без яго несалодка…

Ён патэлефанаваў каля сёмай вечара. Напачатку я не пазнаў голас — дрыготкі, усхваляваны:

— Добры вечар! Прашу прабачэння, Кірыла Вяргейчык? Ці можаце вы зараз размаўляць? Дзякуй. Вас патурбаваў Васіль Матыль…

Голас быў не проста цвярозы — ён звінеў ад напругі, гатовы вось-вось сарвацца на хрып ці крык.

— Кірыла, скажыце, калі ласка… Я вас вельмі прашу, вы не імкніцеся падмануць, вы ж… вы ж дасціпны хлопец, я усё зразумеў, усё, ды аднаго не разумею — навошта вы напісалі? З якой мэтай? Зрэшты, прабачце, не мая справа вам указваць, я іншае хацеў сказаць… Але, чакайце, чакайце, я ж не перапапрасіў прабачэння за мой выгляд у той дзень, прабачце, калі ласка, прабачце, разумею, з майго боку то было сапраўднае свінства… Ат, даруйце, такія справы… Не, я пра іншае, пра іншае… Кірыла, скажыце… вось вы напісалі… і ўсё, Кірыла? Вы мне больш нічога не скажаце?

— Дык я ўсё напісаў. Больш пра што? — збіты з панталыку, абы-што прамямліў я ў адказ.

— Кірыла… паслухайце, Кірыла… Дзе вы жывяце? Гэта не тэлефонная размова, нельга пра такое казаць, калі не бачыш вачэй. Мне абавязкова трэба сустрэцца з вамі, Кірыла. Вы ж маеце што мне сказаць! Я вам прызнаюся: вы ўгадалі, ці вы ведалі мае думкі, я не разумею, як так адбылося, але ж менавіта так і было: я ледзь не звар'яцеў аднойчы, калі зразумеў, што ў маёй галаве нарадзілася новая рэальнасць, якая раней была мрояй, я гатовы быў ісці да дактароў… Кірыла, мы зможам сустрэцца?

Я разгублена маўчаў. Першы раз дарослы чалавек знаходзіўся ў такой велізарнай залежнасці ад мяне. Я адчуваў, як ён чакае свайго прысуду. Мне нічога не будзе, калі зараз скончу размову, а пасля не буду адказваць на выклікі. А ён… ён, пэўна ж, цяпер усё ведае і разумее.

— Кірыла, калі ласка, не маўчыце. Як мне вам патлумачыць, што гэта ўсё значыць… Вось у вас ёсць маці і бацька…

— У мяне няма бацькі… — мой голас прагучаў хрыпата і суха.

— Прабачце, — як спатыкнуўся мужчына, замяўся і выдыхнуў асцярожна: — Але ж… па тэксце я разумею, вы не мой сын?

Я не наўпрост разгубіўся — мне раптоўна стала страшна. Вось у гэты момант я асэнсаваў усю бязглуздасць, няслушнасць свайго ўчынку — я нахабна ўлез у чужое жыццё, стаў на шляху чужога лёсу. І не ведаў, як цяпер выкручвацца. Не адчуванае раней ў такой велічыні пачуццё адказнасці літаральна паралізавала здольнасць думаць. У скронях адно бухала: «Ты папаў! Ты не меў права!»

Што сказаць мужчыне? Як я апавяду Ядвісе пра яе бацьку? Ну, я дураніца…

— Не, вы не мой бацька, — нарэшце адказаў я.

— Дзе мы можам сустрэцца, скажыце? Паверце, я не стану вас дапытваць і мучыць упрошваннем. Я.. Я не змагу сабе дараваць да канца жыцця, якім вы мяне пабачылі. Дазвольце выправіцца…

Я ліхаманкава раздумваў над тым, што рабіць. Няхай прыязджае да нас? Горад вялікі, ён не сустрэне тут ні Ядвісю, ні яе маці, ды і не пазнае, калі сустрэне. Але ж зразумее, што яны — тут, і тады? Пачне блукаць па вуліцах, зазіраць у твары, абыходзіць адну за адной установы, шукаць жанчыну з вядомым яму імем і прозвішчам, месцам нараджэння? Ды ў пашпартным стале… Уладзя распавядаў: сёння элементарна знайсці чалавека паводле месца і года нараджэння! Безумоўна, незаконна, ды папхнецца закон добрым пачастункам ці буйной зялёнай купюрай…

Не, нельга яму ў наш горад… Самому ехаць зноў? Ці лепш за ўсё на нейтральнай тэрыторыі? Ну так, ёсць станцыя вялікая, ад нас — паўгадзіны, там скрыжаванне двух чыгуначных шляхоў, яму не вылічыць, скуль я прыехаў… І я назваў станцыю.

— Сустракаемся ў нядзелю. Давайце… А трынаццатай гадзіне. Вы мяне бачылі, пазнаеце. Я буду ля выхаду на перон…

Я быў адзін. Упершыню за сваё жыццё раптоўна зразумеў: вось, я адзін. Адзін са сваёй таямніцай, якую нельга даверыць нікому. Ні маці, ні Уладзю, ні Ромку, ні Алегу. Нікому. Нібыта ўнутры, у маім жыцці, утварылася, выкрышталізавалася асобная частка, якую трэба не проста берагчы ад чужых вачэй, — ніхто з акаляючых і блізка не павінен ведаць пра яе існаванне, пра яе значнасць у маім (ды каб жа толькі маім!) лёсе...

Паступова шкадаванне пра тое, што распачаў справу, на якую не меў права, прайшло. Зразумеў, чаму адпусціла — то голас мужчыны, Васіля Матыля. Хадзіў па пакоі, стаяў каля акна, глядзеў у цёмны падворак, на суседнія вокны дамоў. Вось жа, у кожным акне — свая гісторыя, ды не адна, дзве ці болей. Свая радасць і свая бяда, сваё шчасце і сваё гора, свая камедыя, драма, трагедыя ці вадэвіль, ці нават баявік сапраўдны… колькі самых розных лёсаў! І вось недзе далёка там — той паэт. Вось жа, я не проста ўгадаў, я амаль што апісаў ягоныя пачуцці і адчуванні ў пэўны адрэзак часу. Ну, там, дзе да яго вярнулася памяць. Мабыць, нічога дзіўнага, бо якім бы ні было зелле забыцця, а самага шчаслівага, як і самага горкага, пазбавіцца з памяці дарэшты хіба магчыма?

…Далібог, я не пазнаў Васіля Матыля. Значна маладзейшы, чысты твар, глыбокі позірк сумных вачэй, у якіх адбіваўся розум і выхаванне. Ён працягнуў руку, як даўняму знаёмаму.

— Я тут, пакуль чакаў, нагледзеў непадалёк кавярню прыстойную, праўда, трошкі прайсці, затое там няма вакзальнай публікі…

Я пагадзіўся. Мы сядзелі ў невялікай кавярні, у падвальным памяшканні дома, якое знутры гаспадары паспрабавалі замаскіраваць пад карабельны кубрык ці палубу невялікага карабля:

ванты з вяровак, штурвал на сцяне і сам бармен у цяльняшцы. Замест вокнаў былі намаляваны ілюмінатары з відамі на марскую далеч. Я адмаўляўся, але Матыль угаварыў і замовіў гарачае: мяса і смажаную бульбу. У сваю чаргу я папрасіў, каб ён не выкаў, — мне было няёмка чуць такі зварот дарослага чалавека да сябе.

— Піва не прапаноўваю… І сам не буду, бо завязаў, вось, — ціха апраўдваўся ён. — Квас? Сок? А потым — гарбата ці кава?

— Сок і гарбата…

Мы елі амаль моўчкі, адно Матыль задаваў іншы раз неабавязковыя пытанні: у якім класе вучуся, куды пайду далей, ці даўно пішу…

— Першы раз напісаў, — усміхнуўшыся, прызнаўся я.

— Першы? — ён здзівіўся па-сапраўднаму. — Ну, хлопча, не ведаю: азарэнне на цябе асаблівае найшло… Альбо ў цябе талент. У азарэнне без таленту я не веру. Значыць, табе нельга не пісаць.

— Чаму? — у сваю чаргу здзівіўся я.

— Бо талент даецца не ўсім. І даецца звыш. Даецца з той мэтай, каб ім дзяліліся. Ты проста не маеш права хаваць ад людзей Божы падарунак, — вельмі сур'ёзна зазначыў Матыль. — Таму спрабуй далей. Твой тэкст… Рука не ўздымаецца яго правіць, я мог бы паказаць у любым іншым памылкі ці заганы нейкія. Яны ёсць, у кожнага яны ёсць, з боку заўсёды прасцей пабачыць. Як маці і яе дзіця: толькі чужыя бачаць недасканаласці, а для маці ўсё люба… Пішы, дасылай мне на электронную пошту, дапамагу…

— Пра што пісаць? — пацiснуў я плячыма.

— Што на душы…

Прынеслі гарбату і каву. Матыль не кранаўся свайго кубка, разглядаў сурвэтку на стале. Урэшце загаварыў:

— Як бы далей ні было, я знайду іх. Ты не перажывай — ты тут ні пры чым. Ведаю, ты мне не аблегчыш задачу, не паведаміш пра горад. Я і не стану прасіць. Ты мне і так дапамог… Яшчэ тыдзень — я запіў бы да апошняга, больш мяне не сталі б трымаць у газеце. Вылецеў бы. Такім чынам, ты не проста прыйшоў у час — само Неба, мяркую, паслала цябе як майго анёла-ахоўніка, папярэдзіць і спыніць. І я спыніўся…

У кавярню завітала пара — хлопец і дзяўчына, няйнакш студэнты. Прыселі, стрымана пацалаваліся, пачалі вывучаць меню. Матыль павёў вачыма на іх, уздыхнуў.

— Найгоршае, што робіць чалавек, — здраджвае самому сабе. Сваім жаданням, марам. Тады… тады ўсё жыццё ідзе насуперак, — казаў ён без усялякага павучання. — Трэба рабіць адно тое, што табе сапраўды хочацца…

— Ага, мне вось вучыцца не хочацца, — уставіў я.

Ён усміхнуўся.

— Ведаеш, я трошкі пра іншае… Зрэшты, ты ўсё разумееш. Я збаяўся тады. Так, збаяўся. Жанчына, з якой я сустракаўся апошні год, паведаміла пра сваю цяжарнасць. І я спужаўся адказнасці. Дый, здавалася, адносіны нашы былі блізкія да таго, каб жыць разам, сям'ёй. Балазе, было з чаго пачынаць: у абласным цэнтры бацькі пакінулі мне трохпакаёўку, самі з'ехалі за мяжу. Я быў адзіным сынам, па тых мерках — кавалер на зайздрасць усім. А тут — Ірына. Бы вочы расплюшчыліся, я першы раз адчуў такое пачуццё, калі… калі аніводнай хвіліны не мог без думак пра яе. Чыстых, светлых думак. Мне за шчасце было пабачыцца з ёй. Але… Кажуць жа вось — насланнё находзіць. І мне так падумалася: ат, часовая закаханасць, тут сум, твая нявеста далёка, вось і ўспыхнула пачуццё да гэтай прыгожай, мілай настаўніцы, бы матылёк позні выпырхнуў перад першымі прымаразкамі. Не паверыў я сам сабе. А больш — збаяўся, так… І паехаў ад Ірыны… Ажаніліся мы, дзіця не нарадзілася… жылі… Пакуль не зразумелі: мы чужыя людзі. Як няма ка-

хання, сапраўднага, якое найперш на сяброўстве настоенае, на еднасці душ, дык нічога не звяжа — ні багацце, ні ўцехі. За дзесяць гадоў чаго я дасягнуў? Стаў паэтам правінцыйнага маштабу. А дома — пустэча. Урэшце зразумелі абое. Падзялілі кватэру, атрымала былая жонка грошы за пакой і з'ехала… І атрымалася яшчэ большая пустэча. А я помню Ірыну. Усе гады — помню. І тая замілаванасць, якую я адчуваў пры апошнім развітанні, нікуды не знікала, цеплілася ўсярэдзіне.

Я адчуваў разгубленасць і няёмкасць. Дарослы мужчына расказвае мне пра рэчы, у якіх я нічога не цямлю. Навошта мне падрабязнасці яго жыцця, ды яшчэ такія… інтымныя? Перад ім жа не святар, а ён не спавядаецца…

Матыль, мабыць, адчуў, пра што я думаю, спыніўся:

— Прашу прабачэння за такія падрабязнасці, Кірыла. Я больш сабе апавядаю, бо сесці ды азірнуцца на сваё жыццё ўсё не ставала часу і не было моманту. Разумею, табе гэта малацікава… Ты даслухаеш?

— Ды калі ласка, — кіўнуў я. — Буду слухаць, раз прыехаў…

Ён уздыхнуў, зрабіў глыток з кубка.

— Дык вось, дапяў я з часам: закаханасць не можа гэтулькі жыць. Тут іншае… Тады і пачаліся мроі: было нешта яшчэ ў нас з Ірыначкай. Шукаў яе ў сеціве, цяпер жа жанчыны сядзяць у розных сацыяльных сетках. Ірына Ляўковіч… Шмат такіх імён і прозвішч, ды ўсё не тыя. Паехаў. А вёсачкі няма, зусім. Ніводнай хаты. Іх і тады было мала жывых… У былой яе школе нічога не падказалі. З'ехала, як памерла маці, даўно… Пасля той паездкі і пачаў запіваць. Падумалася: няўжо такая гожая жанчына, як Ірына, адна да таго часу будзе? Безумоўна, у яе сям'я, дзеці… Ты прабач, калі ласка, вешаю на цябе сваю тугу. Не даводзілася раней хоць каму прызнавацца ў сваім «шчасці». Усе думалі — жыву, бы кот на печы, і смятанку гаспадыня туды ж падае. А тут не печ, а стылая груда цаглін… Ты ж сябруеш з маёй дачкой? — закончыў ён нечаканым пытаннем.

Я нічога не адказаў, глядзеў убок.

Ён памаўчаў, дапіў каву і папрасіў:

— Даруй, калі ласка. Я абяцаў не выпытваць… Адно дазволь спытаць… Я зразумеў… я думаю, ты сам вырашыў мяне адшукаць? Яны не ведаюць?

— Хутка мая электрычка, — адказаў я і паглядзеў на Матыля.

Мне было вельмі шкада яго зараз. Не, не таму, што вось так атрымалася. А таму, што ён быў асуджаны на паразу. У той момант, калі ён назваў прозвішча Ядвісінай маці — Ляўковіч — раптоўна склаліся пазлы. Цётка Ірына выйшла замуж за Васіля Матыля. Па-свойму выйшла. І ўзяла яго прозвішча. Ды на асаблівы лад. Яна больш не Ляўковіч, яна — Лелька. А лелька — гэта матыль… Ён, Васіль Матыль, ніколі не знойдзе сваю Ірыну… Хіба выпадак — усмешка багоў, як кажа Уладзя…

— Тады ідзі, я разлічуся сам, дзякуй табе, — ціха сказаў Матыль, адвярнуўшы галаву да сцяны з «ілюмінатарамі». — А я буду шукаць. І я знайду.

Я выйшаў з кавярні, узняўся па прыступках наверх і ад нечаканасці застыў ля дзвярэй: сусвет быў белы. Густа-густа падаў снег. І мне без аніякае як быццам падставы стала незвычайна лёгка і радасна.

Усё будзе добра.

Ён абавязкова іх знойдзе.

**13**

Ромка заляцеў у клас збялелы і пераляканы. Зачыніў за сабой дзверы. Яму і прасіць пра цішыню не трэба было — усе сціхлі, уражаныя ягоным выглядам. А ён сутаргава пракаўтнуў сліну, уздыхнуў, выдыхнуў, выпрастаўся і дрыжачым голасам абвясціў:

— У пятніцу… Школьны вечар. Напрыканцы — падвядзенне вынікаў конкурсу відэафільмаў на тэму «Выбірай беларускае!». Удзельнічаюць 11 работ восьмых-адзінаццатых класаў. Вынікі падведзеныя. Але ніхто нічога не кажа. Будзе нехта з аддзела адукацыі, ён старшыня… Усё. Усім быць.

— Дзівак ты, Ромка, — падышоў я да яго пасля таго, як суцішыўся вэрхал ад гэтай навіны. — Мы ж ужо выйгралі, ты сам казаў.

— Ды я ведаю, — кісла ўсміхнуўся ён. — Зараз… я не бачыў іншых фільмаў, але ж абяцаюць лепшыя тры паказаць. І паглядзім, якія будуць лепшыя. За іншае дрыжу. Вось… Вось як зойме першае месца фільм, відавочна за наш горшы, — мы ж тое пабачым? Мы ж можам — і ты, і я, і іншыя ацэньваць, мы ж зразумеем, колькі працы ўкладзена, на якой ступені прафесійнасці зроблена… Такія конкурсы, як для мяне, — яшчэ і праверка дарослых на вашывасць. І ведаеш, будзе крыўдна, калі якая шняга, па іх меркаванні, згодна з толькі ім вядомымі крытэрыямі (а нам жа яны не кажуць, што там за яшчэ схаваныя крытэрыі ёсць!) будзе ўважаны за лепшы… За нашых перажываю… Каб зрабілі абы-якое ўтрох за дзень — не было б ніякай крыўды. А так… больш за два тыдні, увесь клас лічы… А завуч не ў журы. І ёй нават не сказалі вынікі. Усё пад сакрэтам.

— Не перажывай. Калі ты разумееш усё, дык жа і іншыя могуць зразумець, як што якое…

Я вяртаўся дадому кругом — хацеў прайсці старымі прысадамі, якія зараз здаваліся незвычайным светлым тунэлем. Затрымаўся яшчэ ў гардэробе, выходзіў, калі ўсе нашы разбегліся. Уладзя цяпер праводзіць Настачку дадому, з ёй і ідзе ў школу. Я не крыўдую — мне і аднаму няблага. Думаю пра тое, што сказаць Ядвісі. І ці варта хоць нешта казаць?

Крочыў няспешна, збочыў у прысады і спыніўся.

У дваццаці кроках наперадзе ішлі Юрась і Ядвіся. Паасобку, бо Ядвіся ішла, кранаючы то адну, то другую бярозку рукой у чырвонай рукавічцы.

Яны ішлі, аддаляліся, а я не зводзіў вачэй з Ядвісінай постаці, у маёй галаве мільгацела тая карцінка, якую я сам прыдумаў у сваім «апавяданні»: яе маці, маладая настаўніца Ірына, ідзе лясной дарогай, кранаецца хвой, але на ёй не чырвоныя рукавічкі, а чырвонае паліто…

Я не пайшоў сцежкай між бяроз і клёнаў услед за Юрасём і Ядвісяй, мне не трэба было цяпер ісці прысадамі, каб адшукаць важную і патрэбную думку. Усё знайшлося. А яшчэ… Я адчуваў сябе абкрадзеным. Хоць сам і разумеў усю надуманасць гэтага адчування, усё адно было прыкра. Завярнуў назад, пайшоў праз двары. Цяпер я цвёрда быў перакананы, што усё апавяду Ядвісі. У пятніцу. Якім бы ні быў прысуд журы. Таму што нічога не бывае выпадковым у жыцці, нічога! Выпадак — усмешка багоў! Калі богі табе ўсміхаюцца, значыцца, ідзі наперад. Калі падказваюць колерамі — рабі задуманае. Рабі тое, што хочаш рабіць, што лічыш патрэбным. І хай не я ішоў з Ядвісяй прысадамі, галоўнае, я бачыў, як кранался яна бяроз, бачыў яе чырвоныя рукавічкі.

…Мы хваляваліся. Усе. Тыя самыя жарты, тыя самыя рэплікі, дзяжурныя падколкі, але ўсё — з напружаннем, з прыхаванай нервовасцю, а недзе і заўважным дрыжаннем голасу. Не згаварваліся міжсобку, але ніхто не сказаў і слова на тэму фільма: якое ён зойме месца, калі ўвогуле зойме.

Актавая зала школы была поўная. На першыя месцы пасела малышня — яны ставілі нейкі там канцэрт, усё на тую ж тэму: «Выбірай беларускае!». Песенькі, завучаныя рухі на сцэне пад музыку, якія называлі танцамі, вершы… Усё, як заўсёды. Урэшце…

Старшыня журы, незнаёмы нам дзядзька з аддзела адукацыі, малады зусім, у шэрым гарнітуры, чорнай сарочцы і бялюткім гальштуку, узняўся і пачаў казаць пра конкурс кліпаў. Тры лепшыя будуць узнагароджаны. Найлепшы пойдзе на агульнагарадскі конкурс, пры гэтым аўтары перадаюць правы на яго, дзеля чаго будзе складзена адмысловая дамова. У выпадку выкарыстання фільма ў камерцыйных мэтах аўтары фільма могуць яшчэ і зарабіць. Крута, што казаць…

Разгарнулі вялізны экран. «Трэцяе месца!». Першы кадр — сполах зыркага святла са словамі-лозунгам — выклікаў гучныя і радасныя выкрыкі асобнай групы вучняў у зале: пазналі сваё,

радаваліся. Шушукаліся, пераглядваліся, ляпалі адзін аднаго па плячах. Што ж, ёсць падстава… Ролік быў кароткі. Пра тое, як важна выбіраць сваю каўбасу. Пару разоў можна было і ўсміхнуцца. Але цалкам праца добрая, у кожным разе не пусцяковіна.

На другім месцы апынуўся фільм нашых суседзяў-ворагаў — дзесятага «А» класа. Яны паўскоквалі са сваіх месцаў, крычалі «ўра», абдымаліся. Кліп быў неблагі, нічога не скажаш — турыстычная тэматыка, здымкі з розных кропак зямнога шара па адной паралелі, якая, зразумела, і праз Беларусь праходзіць. Неблагая задумка.

Чаму я так нерваваўся? Чаму Уладзя незаўважна для сябе так цiснуў маю руку на падлакотніку крэсла, што мне забалела? Падалося, сэрца зрабілася проста вялізным, запоўніла ўсяго — грудзі, жывот, галаву і тахкала няспешна, аддаючы ў скроні ўдарамі, якія, я баяўся, былі чуваць за метры ад мяне.

— І, дарагія сябры, першае месца, — з відавочным хваляваннем стаў казаць старшыня журы. — Хачу заўважыць, спрэчак у нас было шмат. Тым не менш… тым не менш мы аддалі яму вышэйшую ўзнагароду, і журы разлічвае, што вы пасля прагляду фільма зразумееце, і чаму мы спрачаліся, і чаму ўсё ж такі — першае месца…

Экран заставаўся чорным. Проста чорным. І, мабыць, менавіта гэтая чарната прымусіла залу не проста сцішыцца, а замерці. І ў абсалютнай цішыні загучаў прыцішаны хрыпаты голас Стася:

— Я шукаў твае вочы сярод тысяч пустых вачэй…

Мы — не ўскочылі, не закрычалі «ўра». Мы не пераглядваліся. Мы сядзелі ўсе, бы амярцвелыя. Нашы позіркі былі прыкутыя да экрана, вялізнага, на якім мы ўсе былі такія не падобныя да сябе. Мы перажывалі яшчэ раз тое, што рабілі, здаецца, так даўно і адначасова — учора.

Фільм на вялізным экране быў зусім іншы, успрымаўся зусім па-іншаму…

На тле чорнага экрана разгараўся світанак, узыходзіла вялізнае, трапяткое ў паветраным мроіве сонца, і гучалі, сцішваючыся, словы:

— Я шукаў твае вочы сярод тысяч пустых… Я шукаў твае вочы… Я шукаў…

А потым пачуліся воплескі. Гучныя і дружныя. Запалілі святло, а мы сядзелі моўчкі і таксама пляскалі ў ладкі. А навошта скакаць — усе ж бачылі цітры, ведаюць, хто і што.

— Запрашаю на сцэну рэжысёра фільма Рамана Макара! — прагучаў голас.

І вось калі Ромка прабіраўся да праходу, мы ўсе ўсталі. Адны з усёй залы. І стоячы, пляскалі яму.

Ромка атрымаў дыплом. Ён вяртаўся да нас, усміхаўся нам ззяючымі вачыма. Красава!

Здаецца, усё павінна было закончыцца, аднак зноў белагальштукавы дзядзька узяў мікрафон.

— Хвілінку, дарагія сябры! Канечне, і вы самі, і мы, журы, не маглі не заўважыць у гэтым фільме выдатную ігру акцёраў. Проста неверагодна, як амаль прафесійна сыграны сцэны. Так прафесійна, што мы не ўтрымаліся і вырашылі трошкі падправіць палажэнне аб конкурсе: мы ўвялі дзве ўзнагароды — за найлепш сыграныя ролі. Пакажыце мне, што вы згодны і ўхваляеце рашэнне журы! — тут дзядзька зрабіў паўзу, прымусіўшы залу замерці, і сказаў урачыста: — Узнагароджваюцца каштоўнымі падарункамі за лепшыя ролі… Ядзвіга Лелька і Кірыла Вяргейчык!

Зала выбухнула гулам, крыкамі, пляканнем у ладкі. Вось цяпер падскочыў у радасным угары ўвесь наш клас, скакалі, крычалі. Мяне таўхлі з абодвух бакоў — Уладзя і Міхал — а я бы здранцвеў. У галаве гучала і гучала: Ядзвіга і Кірыла… Нашы імёны, разам, побач, на ўсю залу… Пачаў выходзіць. Прыпыніўся, чакаючы Ядвісю і… падаў ёй руку. Яна, пунсовая, не ўзнімаючы вачэй, падала сваю, я абхапіў нечакана прахалодныя пальцы, такія… такія помныя, пяшчотныя, ціхенька сціснуў. Мы пайшлі разам да сцэны, сталі побач.

Ядвісі ўручылі кветкі і вялізнага плюшавага сабаку, і калі ёй паціснулі руку і ішлі па падарунак для мяне, я зрабіў тое, што мне зараз найбольш захацелася, — нахіліўся да яе і пацалаваў у шчаку. Як умеў, як уяўляў сабе пацалунак:

— Віншую, Яся…

Зала зрэагавала на мой пацалунак крыкамі захаплення і двухсэнсоўным жартоўным гулам. Мы ўсміхаліся. Так, я і Ядвіся ўсміхаліся зале. Я нахіліўся яшчэ раз і прамовіў спакойна і цвёрда:

— Яся, нам трэба пагутарыць. Важкая тэма. Для цябе…

Яна толькі цяпер зірнула мне ў вочы.

Як жа даўно я не сустракаў так блізка яе позірку!

І развучыўся яго разумець. Хоць, па шчырасці, ці мог раней?

— Адразу пасля гэтага спектакля Юрась запрасіў мяне у кавярню. Столік замоўлены, — без інтанацыі адказала яна.

— Я патэлефаную заўтра, — настойліва прапанаваў-паведаміў я.

Яна ўсяго павольна прыпусціла і прыўзняла ў адказ вейкі.

Мне далі нататнік, чорны, абцягнуты скурай, цяжкі і самавіты.

Дзевятнаццаць крокаў назад — да месца, і гэтулькі ж было адсюль. Значыць, трыццаць восем крокаў. Трыццаць восем крокаў мы ішлі, трымаючыся, як некалі, за рукі. Сеў, дастаў тэлефон. Яшчэ не разумеў, навошта я гэта раблю. Было 19.38…

У вестыбюлі і каля гардэроба стаяў вэрхал: усе імкнуліся хутчэй апрануцца. Я адышоў трохі ўбок, чакаў. Бачыў, як Юрась выкараскаўся з натоўпу, несучы сваю і Ядвісіну куртку. Дапамог ёй апрануцца. Усё па-джэнтльменску, дзелавіта, без усмешачкі нават. Ядвісін вялікі сабака ляжаў на стале вахцёра.

Адвярнуўся ўбок. Дурэлі малыя: штурхаліся, нехта за некім гнаўся, нехта ўцякаў.

Далей уся карціна прайшла, рыхтык я глядзеў запаволенае кіно. Двое малых размахвалі сваімі заплечнікамі з кнігамі, імкнучыся патрапіць па плячах адзін аднаму. Ля сцяны. На якой была шкляная вітрына з рознымі кубкамі — спартыўнымі дасягненнямі школы. Цяжкі заплечнік пацягнуў малога пры замаху, той ледзь не ўпаў, але не здолеў спыніць заплечнік, які паляцеў у вітрыну. Я зрабіў крок.

Далей гукаў не было. Я бачыў, як выгнулася шкло, пабеглі роўныя лініі расколін, марудліва, нехаця, пачалі сыпацца долу аскепкі — вялікія і малыя, вострыя і зіхоткія. Хлопчык павярнуў галаву, твар яго быў скажоны страхам, ён занёс нагу для скачка, памкнуўся ад вітрыны. А з яе марудна споўз вялізны трыкутны аскепак, паляцеў долу, на выцягнутую другую нагу хлапчука. Краем пракаўзнуў па лытцы, успароўшы тканіну, уткнуўся вастрынёй у зялёную пліткавую падлогу, стаў крышыцца, сыпацца…

І толькі тады я пачуў гук разбітага шкла, нечы перапуджаны крык. Я падскочыў да хлопчыка: ён паўляжаў, паралізаваны страхам і болем, азіраючыся на сваю нагу, выцягнутую назад. Разрэзаная тканіна на вачах імкліва набрыняла, з сіняй робячыся чорнай, з-пад нагі на падлогу выпаўзала крывава-чорная лужынка, расцякалася.

І тады я закрычаў:

— Яся!

Яна не магла выйсці са школы. Не магла.

Вакол ужо стоўпіліся перапалоханыя вучні, падбягалі ўсхваляваныя настаўнікі, разгубленасць і страх надавалі ўсім тварам аднолькавыя маскі бездапаможнасці. Ядвіся растаўкла кола, кінуўшы пад нечыя ногі заплечнік, сашмаргнула з сябе куртку, кінула вобзем.

— Закасвай калашыну!

Я пацягнуў калашыну, разрэзаную не да канца, рвануў далей мокрую склізкую тканіну, вызваліў нагу. Яна ўся была ў крыві. Разрэзу не было відаць, але ён угадваўся па пульсуючым струмені. Ядвіся коратка азірнулася, бы нешта вышукваючы вачыма, не знайшла, прысела, імкліва зняла цераз галаву свой балахон, адкінула ўбок, сцягнула з сябе белую саколку, склала яе ў дзве столкі і накрыла нагу хлапчука.

— Трымай тут! — схапіла маю руку, пасунула пад калена хлопчыка, прыціснула мае пальцы. — Моцна цісні, кулаком упоперак, там вены…

Пачуўся нейкі гул, мабыць, некага збянтэжыла аголеная, у адным станіку спіна Ядвісі.

— Ціха, — гыркнуў я, сам дзівячыся сваёй рашучасці.

Праз замерлае ў жаху кола прабілася завуч, Наталля Іванаўна, з перакошаным — першы раз я бачыў такі — шэрым тварам.

— Што… здарылася?

Ядвіся ўзняла галаву, сустрэлася з ёй вачыма.

— «Хуткую»!

— Трэба нагу ў калені моцна сагнуць і да жывата падцягнуць! — гучна і безапеляцыйна прагучаў голас Юрася.

Ён стаяў наперадзе ўсіх, глядзеў зверху ўніз, як я цісну пад каленам хлопчыка. У яго на твары чытаўся злы папрок: «Зноў ты апынуўся разам з Ядвісяй, а мы ж дамаўляліся!». Я кінуў рэзка і злосна ў адказ:

— Не камандуй!

— Ты яшчэ пашапчы! — з'едліва агрызнуўся Юрась. — Рабі, як кажуць!

Ядвіся здрыганулася, бы яе хто выцяў па плячах, ускінула вочы на Юрася. Я не мог бачыць яе позірку, не ведаю, што ў ім было, але Юрась раптам няўклюдна падаўся назад з перапуджаным тварам.

А Ядвіся нахілілася, амаль прыпала да нагі хлапчука, да сваёй ужо набрынялай кроўю саколкі, і загаварыла напаўголаса, разборліва і хутка, і ад першых яе слоў імгнення сцішыліся ўсе навокал:

— Першым разам, Гасподнім часам. Плылі тры рэчкі: адна вадзяная, другая малочная, а трэцяя крывавая. Вадзяная — працячы! Малочная — працячы! А ты, кроў гаручая, спыніся і запячыся! Другім разам, Гасподнім часам. Плыла рака морам, а ў той рацэ тры жылы: адна вадзяная, другая малочная, а трэцяя крывавая. Вадзяная — працячы! Малочная — працячы! А ты, крывавая, суніміся і запячыся! Трэцім разам, Гасподнім часам. Плылі тры ручаі: адзін вадзяны, другі малочны, а трэці крывавы. Вадзяны — працячы! Малочны — працячы! А ты, кроў гаручая, сунімайся, запякайся!

Да яе ззаду наблізіўся Уладзя, падхапіў з падлогі балахон і прыкрыў аголеныя плечы.

Ядвіся не заўважыла гэтага, паўтарыла яшчэ раз замову, павольней, і яшчэ раз, напрыканцы, дадаўшы:

— А словам маім ключ ды замок… Словам маім ключ ды замок… Словам маім ключ ды замок… Адпускай, перастрымаем, — ціха скамандавала мне і дадала хлопчыку: — Ляж, ляж на жывот, нагой не варушы, не глядзі сюды. Усё добра, кроў не цячэ, усё будзе добра…

Адняла скрываўлены скрутак, працерла нагу. Кроў спынілася. Разрэз ішоў праз усю лытку, наўскос, глыбокі і жахлівы. Ніколі такога раней не даводзілася бачыць — разрэзанага так моцна жывога чалавечага цела...

Вакол нас стаялі школьнікі і настаўніцы, але ў такой немаце, як ім пазашывалі раты. Ядвіся павяла вачыма, спытала ціха:

— Мо ў каго якая сурвэтка ёсць… Ці насоўка чыстая?

— Ёсць, ёсць, Божа, што здарылася, Максімка, што здарылася? — маладая настаўніца, перапалоханая, дрыжачымі рукамі працягнула Ядвісі белую насоўку, хацела наблізіцца да хлопчыка, але замёрла, пабачыўшы чорную лужыну пад ім, якая расцяклася мо ў метр. Мабыць, яна была класным кіраўніком гэтага героя.

Ядвіся выцерла рукі, дала насоўку мне, нацягнула на сябе балахон, азірнулася на Уладзю, кіўнула яму ўдзячна.

— Дзе «хуткая»? — спытала.

— Зараз… пад'язджаюць… Яны побач былі на выкліку… — Наталля Іванаўна была не проста перапалоханая — выгляд ляжачага вучня з нагой у лужыне крыві ўводзіў яе ў стан шоку. Я падумаў яшчэ, што яна баіцца самой крыві, якой так многа тут, што адчуваецца яе пах, незвычайны, ні з чым не параўнальны, нейкі цёплы і цягучы, і выглядае кроў так страшна на зялёнай падлозе… Мне самому было вусцішна, і каб не Ядвіся... — Дзеці, дзеці! — Наталля Міхайлаўна прымусіла сябе ўвайсці ў свой статус завуча, толькі голас яе яшчэ дрыжаў: — Разыходзьцеся, калі ласка, нічога страшнага няма, кроў не ідзе, трохі парэзаўся шклом, зараз прыедуць урачы, зробяць перавязку…

Шчыльнае кола пачало хутка распадацца. Яшчэ праз колькі хвілін пачуўся шум ля уваходных дзвярэй: прыехала «хуткая». Жанчына ў зялёным касцюме прайшла да хлопчыка, прысела, памацала нагу, з лёгкім здзіўленнем азірнулася на Ядвісю — яна была найбліжэй.

— Як вы спынілі кроў? Зрэшты, неістотна… Насілкі сюды…

Вакол нас стаялі ўжо не вучні — настаўнікі. І дырэктарка, Рэгіна Казіміраўна. Твар яе быў падобны на паверхню каменя — шэры і нежывы. Яна перахапіла мой позірк, кіўнула, я зразумеў і адышоў убок, чакаючы яе.

— Ты ўсё сам бачыў, Вяргейчык?

— Усё. На маіх вачах. Даруйце, не паспеў. Хоць усё было так… так замаруджана…

Хлопчыка на насілках ужо выносілі са школы.

— Прабач, калі ласка… тут зараз прыбяруць… Ты можаш затрымацца на колькі хвілін?

— Калі трэба…

— То памый рукі і ідзі да майго кабінета…

Я кіўнуў.

Ужо тэхнічка прынесла вядро з вадой, ад месца здарэння адышліся, даючы прыбрацца. Дырэктарка размаўляла з Ядвісяй, азіраючыся на мяне. Уладзя падышоў, несучы куртку Ядвісі і яе заплечнік. Мая куртка вісела сіратой у пустым гардэробе. Ядвіся адышлася ад дырэктаркі, падышла. Уладзя паспеў забраць маю куртку і заплечнік і так пайшоў за намі да рукамыйніка — несучы нашы транты. Мы не размаўлялі, вымылі рукі, Ядвіся апранула куртку, пачакала, пакуль апрануся я.

— Хадзем? Дзякуй, Уладзя!

— Хадзем… А Настачка дзе? — спытаў я сябра.

— Стаіць ля выхаду…

— То бяжы, дзякуй… Пачакай хвіліну… Юрася бачыў?

Ядвіся прыпынілася, але не азіралася — яна таксама хацела пачуць адказ.

— Навошта ён табе? — скрывіўся Уладзя.

— Ды… таксама дзякуй сказаць…

— Ён уцёк адразу… Як пачуў, што Ядвіся… шэпча, дык і выскачыў за дзверы. Ён жа рэаліст…

— Я не шаптала, Уладзя, — павярнулася Ядвіся. — Гэта называецца замова на кроў…

Дырэктарка чакала нас.

— Прабачце, калі ласка, але ж заўтра, ды ўжо сёння мне адказваць… Такое здарэнне… я прашу вас расказаць… Каб ведаць з першых вуснаў, як і што было. І прабачце, калі можна… пісьмова.

Мяне перасмыкнула.

Рэгіна Казіміраўна пабачыла, як змяніўся мой твар. Я паглядзеў на яе, у яе вочы… і яна раптам нібы зменшылася ростам, ператварылася з дырэктаркі ў напужаную цётку… нечыю маці. Для якой той вучань — яе родны сын.

— Давайце паперу… А што Ядвісі пісаць, я яе клікнуў, калі шкло было на падлозе…

— Вы аказвалі першую дапамогу… Спынілі кроў. Божа, мне страшна ўявіць, чым усё магло скончыцца, — раптам прыпынілася дырэктарка ад сваёй жа думкі. — Вечар, ніводнага мужчынынастаўніка, медпункт зачынены, жанчыны… разгубіліся, хто б знайшоў, дзе якую вену ціснуць…

Мы прыселі да стала, я напісаў хутка, у некалькі сказаў: хлопчык узмахнуў заплечнікам, не разлічыў размах, заплечнік яго пацягнуў на вітрыну, удар, аскепкі, кроў, клікнуў Ядвісю…

У дзверы пастукалі, яны прыадчыніліся, Рэгіна Казіміраўна запрасіла:

— Заходзьце, Наталля Іванаўна…

Завуч зайшла, прыпынілася ля дырэктаркі, і яны разам глядзелі на нас з Ядвісяй, як мы пішам.

— Ядвіся, ты прадыктуеш тэкст замовы, ці мне проста напісаць: «А мая аднакласніца Ядзвіга Лелька прачытала замову і спыніла кроў…»?

Яна адклала ручку ўбок, зірнула і нечакана ўсміхнулася прыязна і амаль весела.

— А так і напішам, і з тэкстам замовы! А, Рэгіна Казіміраўна? — звярнулася яна да дырэктаркі.

Тая разгубілася. А што ёй было казаць? Што кроў з такога парэзу насамрэч спынілася сама? Ці Ядвіся нічога не нашэптвала?

— Дзеці… — загаварыла Наталля Іванаўна. — Я ўсё чула, Ядзя. І ўсё бачыла. І яшчэ штосьці ведаю. Але… вы мусіце разумець. Гэтыя паперы тут не застануцца…

— Тады пішы, — скамандавала мне Ядвіся. — «Удваіх з аднакласніцай мы пераціснулі вены і артэрыі на назе хлопчыка, каб спыніць кроў да прыезду «хуткай дапамогі». Так? — запытальна ўзняла яна вочы на Рэгіну Казіміраўну.

— Так, Ядзечка, так, — з палёгкай заківала тая.

У вестыбюлі вахцёрка, невялікага росту, паўнаватая, круглявая цётка сталага веку схапіла плюшавага сабаку Ядвісі і трымала перад сабой, каб, крый Божа, мы на яго не забыліся, заўсміхалася:

— От, дзевачка мая, бяры свайго падаруначка, бяры…

Сабаку ўзяў я.

Мы ішлі моўчкі. З ніадкуль сыпаўся невялікі снег, тратуар наперадзе быў без адзінага чорнага лапіка следу. Я азірнуўся: за намі ніхто не ішоў, ланцужок нашых слядоў губляўся ўдалечыні.

— Я ведаю, хто твой бацька, Яся, — роўным голасам сказаў я і адчуў, што скочыў у прорву.

Яна рэзка спынілася, як спалохалася нечага наперадзе, павярнулася, зірнула ў твар.

— Што?

— Я знайшоў твайго бацьку, — зрабіў я яшчэ адзін скачок, захлынаючыся жахлівым адчуваннем падзення, ад якога замірала сэрца, але вар'яцкае жаданне падаць было няўмольным, і я дадаў яшчэ: — Я сустракаўся з ім…

— Ты дурань… ты дурань набіты, Кір, — роспачна прастагнала Ядвіся. — Хто цябе прасіў? Што ты нарабіў? Няўжо ты думаеш, што я не ведала пра бацьку? Ён не ведае пра нас, а мы ведаем пра яго ўсё! Я маю ўсе кніжкі яго вершаў, я чытаю яго артыкулы ў газетах, я бачыла яго… няхай здаля, няхай і даўно, але бачыла! У яго — сваё жыццё, свая сям'я! Ні я, ні мама не маем права разбураць яго шчасце, бо мы любім яго! Што ты нарабіў! Ты расказаў яму пра нас? Расказаў пра мяне? Даў адрас? Тэлефон? Кажы!

Яна скончыла роспачным крыкам, а я стаяў, глядзеў на яе твар, і ён ніколі яшчэ не быў такі прыгожы і такі блізкі…

Я маўчаў.

— Кажы!

— Што мне табе казаць, калі ты ўсё ведаеш? — ціха спытаў я. — Казаць, як я першы раз сустрэў у рэдакцыі няшчаснага адзінокага п'яніцу, які заношвае сарочкі да чорных каўнерыкаў, а штаны — да стану бліскучага азадку? Да якога не падысці блізка, бо патыхае перагарам да ванітаў?

— Што? — Ядвіся адступіла крок назад, твар яе скрывіўся. — Гэтага… гэтага не можа быць… Няпраўда! Ты не бацьку майго бачыў!

— Хадзем, Яся, — ціха прапанаваў я. — Праз прысады… Я ўсё апавяду… Прабач, будзе доўга.

І мы пайшлі. Прысады патаналі ў мроіве снегу, які сыпаўся, здавалася, толькі ў асобных месцах — там, дзе ліхтары адрэзвалі ад цемры конусы жоўтага святла, запоўненыя перапляценнем

чорных галін і мільгаючых белых камячкоў. Нікога больш не было відаць, мы былі адны тут… Адны ў цэлым сусвеце, бо прысады былі не прысадамі, гэта быў тунэль з іншасвету, тунэль, у які збегла некалькі лёсаў, сплялося, каб разбегчыся з яго на выйсці, і зараз ад мяне залежала, як яны знітуюцца і якімі выбегуць з тунэля, каб трапіць іншымі ў звычайнае жыццё разам з намі, з тымі, хто выйшаў з прысад, і мы таксама мусім стаць іншымі...

Мой аповед быў насамрэч доўгі. Я не хацеў прапусціць ніводнай сваёй думкі, ніводной дзеі: чаму вырашыў, як вырашыў, што меў на мэце. Так, я прызнаўся Ядвісі, чаму насамрэч шукаў яе бацьку: вось, дзеля таго, каб паразмаўляць сам-насам. Каб змяніць яе нянавісць і пагарду хоць на горкую абыякавасць. Апавёў, як шукаў, пра сваю паездку ў рэдакцыю, пра тэлефонны званок, згадваў кожнае слова Матыля. Пераказаў нашу сустрэчу. І пра сваю здагадку успомніў: як маці Ядвісі змяніла сваё прозвішча. Бо лелька — гэта матылёк. А ён — Васіль Матыль…

Ядвіся маўчала. Мы дайшлі да яе дома, яна моўчкі забрала свайго сабаку. Не развіталася. Завярнулася і пайшла. І са спіны яна раптам выглядала цяпер такой маленькай і безабароннай побач з вялізным плюшавым сабакам, які сумнымі зялёнымі вачыма пазіраў на мяне з-за яе пляча.

Калі ўваходзіў у пад’езд, адчуў вібрасігнал тэлефона. Здрыгануўся, але гэта была не Ядвіся. Уладзя.

— Ну, што нарабілася? — спытаў я яго.

— Ды ў нас усё добра… Як там вы? Што дырэктарка хацела?

— Звычайна… Тлумачальныя пісалі: як здарылася. Прыкра, канечне, такое свята было — і тут маеш…

— Ага, прыкра, — згадзіўся Уладзя. — Слухай… Што заўтра робіш?

— Не думаў ні пра заўтра, ні пра паслязаўтра…

— То паехалі на лецішча! Бацька закіне на аўто. Яму самому некалі, заняты, а маладыя яблынькі зайцы пагрызуць: снегу ж нападала. Ядлоўцу ў ляску многа, насячэм галінак, абвяжам… І… я хачу Настачку запрасіць, там прыгатуем паесці, каўбасак мне купілі, пасмажым, цікава ж — снег вакол, не холадна надта. Печку распалім… Маці тут напякла смакаты, гарбаты пап’ём, — спакушаў Уладзя.

Я усміхнуўся міжволі.

— А я трэцім лішнім не буду, Уладзь? Што Настачка падумае?

— Ды разумееш… — уздыхнуў ён. — Папраўдзе, дык я баюся… сам-насам на лецішчы з Настачкай. І сама Настачка… яна ж сарамліўка, а хочацца, каб пачувалася вольна… Як ты будзеш з намі, дык ёй будзе утульна. І мне спакайней. Паехалі?

— Ну… а чаму мяне аднаго? Давай, Ромку затэлефануй… Во, слухай! —раптам трапіла думка: — Марго запрасі! Сёння такі снег сыпле, уяўляеш, якіх яна кадраў наробіць у ляску? І з намі цэлую фотасесію зладзіць, прынамсі, з тваёй Настачкай!

— Дык у машыну ўсе не ўлезем…

— У Ромкавых бацькоў аўто ёсць, у Марго… Ну?! Тут паўгадзіны туды-сюды, не праблема ж.

— Крута! — прыняў маю версію заўтрашняга дня Уладзя. — Тэлю Ромку, а ты — Марго!

— Не, Уладзя, хай Ромка сам запросіць Марго, — імгненна пракруціўшы сітуацыю, запярэчыў я.

— Ты думаеш? — па-змоўніцку прыцішыў голас Уладзя.

— Мне так падаецца.

— Добра, заўтра недзе каля адзінаццатай, стэлефануемся раней, ага?

— Ага, давай…

Я зайшоў у кватэру, мяне сустрэў пах смажанай курыцы і маці на парозе.

— Я не званіла, перажываю… Ты так доўга…

— Прабач, мам… тут накруцілася рознага. Наш фільм — найлепшы. Мне і Ядвісі за лепшыя ролі падарункі далі.

— Віншую! — маці памкнулася была абняць, але спынілася, пільна ўзіраючыся ў мой твар. —

Але ж ты зусім нярадасны. Што так? Здарылася нешта?

— Ды здарылася… Малы з класа пятага вітрыну шкляную разбіў, шклом нагу парэзала, было жахікаў… Крыві шмат, трасло ўсіх. Справіліся… Усё добра.

— І ты там… ля хлопчыка?

— Ну, я, Ядвіся… Вены пераціскаў, — не стаў я далей казаць, што рабіла Ядвіся, але раптоўна выправіўся — а вось хай ведае, цікава, як зрэагуе: — Ядвіся спыніла кроў. Замовай.

— Замовай?

Я глядзеў на маці, бачыў ніякае не здзіўленне, а больш — захапленне і цікавасць.

— Ну, так… Тройчы чытала нешта пра рэкі, ручаі, жылы крывавыя…

— А адкуль яна ведае замовы? — пацікавілася маці так, як у сяброўкі пыталася, дзе тая набыла новую сумачку.

— Баба родная навучыла, казала.

— Якая яна малайчына! — ухваліла маці. — Не спужалася крыві…

Назаўтра тэлефон запілікаў яшчэ а палове дзясятай. Я зірнуў. Затахкала ў горле. Ядвіся.

— Кір… Прывітанне. Мама… мама просіць цябе завітаць… у любы час, калі зможаш, сёння ці заўтра.

Я праглынуў камяк.

— Магу зараз…

— Тады мы чакаем.

Апрануўся-абуўся, збег па прыступках. Пра тэлефанаванне ад Уладзі не думаў, наша паездка падалася зараз дробязным, нязначным фактам.

Маці Ядвісі, цётка Ірына, была апранута ў сукенку. Чырвоную. Не разбіраюся ў строях жанчын, але ж хіба такія носяць дома без дай прычыны? Яна хвалявалася. Церла адна аб адну рукі з прыгожымі тонкімі пальцамі. Вінавата ўсміхалася, запрашаючы за стол, — там быў парэзаны на кавалкі пірог, толькі прыгатаваны, бо яшчэ стаяў на кухні цёплы пах печыва.

— Кірылка, табе чорную ці зялёную гарбату?

— Абы гарачая і салодкая, — няўклюдна пажартаваў я.

Мы сядзелі за сталом, ніхто не кранаўся ні кубкаў, ні пірага.

— Раскажы маме, — ціха папрасіла Ядвіся, бязгучна боўтаючы лыжачкай у сваім кубку, узняла вочы: — Усё раскажы. Як мне…

Я пачаў свой аповед, прапусціўшы «ўступ», дзеля чаго ўсё рабіў. Сёння мне было лягчэй, чым учора, я не замаўкаў надоўга, вышукваючы словы, згадваючы. Не мог глядзець на цётку Ірыну, а яна не зводзіла сваіх вачэй з майго твару, быццам на ім былі яшчэ нейкія падказкі, нешта яшчэ, чаго я не дагаворваў.

— Пі гарбату, ахалодала, — напаўголаса чамусьці нагадала яна, калі я замаўчаў. — Ён сказаў, што будзе шукаць? — яшчэ раз папрасіла ўдакладніць.

— Не. Ён сказаў, што знойдзе, — выправіў я.

Яна вагалася імгненне, потым гэтаксама ціха спытала:

— Ён табе тэлефанаваў… Значыць, у цябе ёсць нумар яго тэлефона?

Я дастаў тэлефон, пагартаў, адшукаў уваходзячыя, сярод якіх быў і нумар Васіля Матыля.

— Ёсць нумар… — і нечакана сам для сябе раптам выдаў: — Я магу набраць яго зараз.

Яны маўчалі, разгубленыя маёй неспадзяванай прапановай, — Ядвіся і яе маці. І я націснуў выклік. Бо калі хочаш рабіць — рабі...

Матыль адказаў на другім гудку.

— Прывітанне, Кірыла… Ты па справе? Але, чакай, я хачу прызнацца табе. Журналіст павінен умець знайсці, дык прабач, хлопча, я лёгка знайшоў цябе ў сацыяльнай сетцы. І я зараз у тваім горадзе. Мне чамусьці здаецца, што і мая Ірына тут. Вось. Цяпер слухаю цябе.

Перахапіла дыханне. Я кашлянуў і адказаў:

— А я зараз у… вашай Ірыны.

І працягнуў тэлефон Ядвісінай маці.

У яе трэсліся рукі, голас быў ціхі-ціхі, яна ці не прашаптала:

— Алё…

Ядвіся выскачыла з-за стала, схапіла мяне за руку, мы таропка выйшлі з кухні, прычыніўшы дзверы. Селі ў зале на канапе, Ядвіся пстрыкнула пультам, залапатаў тэлевізар, яна дадала гучнасці. Мы маўчалі і імкнуліся не сустракацца позіркамі.

Колькі хвілін прамінула? Пяць ці болей, не ведаю. Маці Ядвісі зайшла да нас, працягнула мне тэлефон.

— Я, мабыць, не выключыла, адно са сваім умею… — памаўчала, пакусваючы вусны, і дадала: — Дачушка… Васіль сапраўды ў нашым горадзе. І я запрасіла яго. Ён будзе праз хвілін дваццаць.

Ядвіся маўчала. Мне стала вельмі няёмка — гэта былі ўжо тыя сямейныя справы, у якіх я быў лішні. Я падняўся, і нечакана са мной устала Ядвіся.

— Мам, ты пакуль адна… Я пасля, потым… Так жа правільней? Так лепей, праўда ж? — і ўгаворвала, і выбачалася яна.

— Дык… Куды ж ты пойдзеш, не лета ж, — з лёгкай роспаччу, але ўсведамляючы рацыю дачкі і з удзячнасцю прымаючы яе словы, занепакоілася маці.

— А Ядвіся з намі… паедзе, — раптоўна знайшоўся я, зірнуў на Ядвісю, вочы якой акругліліся ад неразумення, заспяшаўся, усё адно як мне было адмерана ўсяго некалькі секунд: — Нас тут невялікая кампанія сабралася, едзем на лецішча да Уладзі. Там яблынькі абвязаць, Марго фотасесію зладзіць па першым снезе, печку распалім, каўбасак насмажым… Едзем, Яся?

— Зараз, я хутка. Чакай у вітальні…

Я выйшаў.

— Пірог, дачушка, пірог забяры, — услед за Ядвісяй таропка выйшла з пакоя і цётка Ірына, заспяшалася на кухню.

Ядвіся была ў чорных джынсах і зыркім памаранчавым швэдры. Накінула куртку, абулася, нацягнула на галаву вязаную шапку, паправіла валасы на плячах, узяла з рук маці пакет з кавалкамі пірага. Нахілілася да яе, цмокнула ў шчаку:

— Усё будзе добра, мама! Тэлефануй!

Снег, бязважкі, лёгкі, сыпаў і сыпаў, павольна апускаючыся на ўжо цалкам укрытую беллю зямлю. Уладзя ішоў першым, пратоптваў сцежку — недзе было і вышэй за калена. Падышлі да яго лецішча, сталі, міжволі залюбаваўшыся харастом: дрэўцы, кусты парэчак, арка з вінаградам былі ўкрыты таўсматымі шапкамі белага снегу. Дарожка, якая вяла ад веснічак да ўваходу, была роўнenька прыцярушаная снегам, так роўна, бы яго нехта тут разгладжваў. Уладзя тарғануў веснічкі, а Марго ажно ўскрыкнула:

— Не ступай! Не хадзі!

І сама прысела з фотаапаратам, пстрыкала. Потым азірнулася на нас, прыпыніла позірк на Ядвісі: — Ядзечка, пабудзь ахвярай! Ну, калі ласка! У цябе такі швэдар, будзе такая мілата!

І Ядвіся зняла куртку на просьбу Марго, зняла шапку, расчасалася, колькі хвілін стаяла і чакала, пакуль у валасах не забялелі снежныя камячкі.

— А цяпер — ідзі павольна сцяжынкай, вольна, не угінайся, ты ў свой дом ідзеш… Азірнешся, як папрашу…

І пстрыкала, а мы любаваліся сапраўды прыгажэннай карцінай: у белым садзе белай сцяжынкаю, пакідаючы выразныя сляды, ідзе дзяўчына ў зыркім, бы сонца, памаранчавым швэдры…

— Ух ты, вось дык кадры! — не стрымлівала захапленне Марго, азіралася наўкола. — Вой, які там лясочак! Хто мяне туды праводзіць? Вой, хачу-хачу…

Мы пасмейваліся, а мне было цёпла і прыемна.

Падышлі да дзвярэй і зноў, як некалі, Уладзя застыў, пазіраючы ў бок цяпліцы.

— Што, наш сябра-бомж там зноў начуе? — усміхнуўся я і падышоў да цяпліцы. Не, дзверцы былі зашчэпленыя з вуліцы. Але ж у куце за плёнкай нешта грувасцілася…

Падышлі ўсе разам, цікава ж.

Пад кавалкамі старой поліэтыленавай плёнкі былі складзеныя роўным штабелем дровы. Прычым — не ламаныя, а парэзаныя і пасечаныя, хоць, відавочна, збіралі іх тут, на месцы.

— Бач ты… аддзячыў, — цёпла ўсміхнуўся Уладзя.

— Хто аддзячыў? За што?

— Мы вам раскажам! — паабяцаў я, яшчэ далей прыадкрыў дровы і пабачыў наверсе пакет — самы звычайны, як у магазінах даюць на прадукты. — О, дык там і яшчэ нешта!

Зазірнуў і выцягнуў… каробку цукерак. Вялікую і цяжкую.

— Неслабыя тут у вас бамжы трапляюцца, — рассмяяўся Ромка. — Уладзь, адчыняй хутчэй — замерзнем!

У дамку было няцёпла, але неяк трошкі утульней, чым у мінулы раз. Хутка распалілі ў печцы. Марго пацягнула дзяўчат у лясок рабіць здымкі, Ромку прымусіла ісці наперадзе і пракладваць сцежку. Мы з Уладзем даставалі з пакетаў тое, што кожны паспеў прыхапіць з дому, ладзілі на стол, які пасунулі бліжэй да печкі, там змайстравалі лаву — будзе дзяўчатам сядзець лацвей — ад печкі ўжо пайшоў цёплы дух.

Забулькатаў чайнік — я пайшоў гукнуць усіх.

Гудзела, патрэскваючы, полымя ў печцы. Паелі са смакам — згаладаліся, як выявілася. Разлілі гарбату, я пацягнуў да сябе той пакет з цукеркамі.

— Дык будзе гісторыя пра вашага бамжа? — спытала Ядвіся.

— Абавязкова будзе, — паабяцаў я. — От будзем есці цукеркі і слухаць нас…

Плёнка на каробцы была надарваная з аднаго боку — саму каробку выцягвалі і зноў засоўвалі. Непрыемна казытнула. Але сарваў усю абгортку, адкінуў вечка і застыў: на раскладзеных у сваіх асобных пластыкавых гнёздах цукерках у абгортках ляжаў згорнуты аркуш паперы. Я прабег кароткі тэкст вачыма і, не ведаю чаму, устаў, узяўшы яго ў рукі. Мабыць, на маім твары нешта было такое, што ўсе змоўклі, насцярожана сачылі за мной.

— Уладзь… — ціха гукнуў я сябра — ён корпаўся ў шафцы, забыліся дастаць цукар.

— Ну? — замёр ён, пабачыўшы мой твар.

— Ён пакінуў запіску… — нечакана запяршыла ў горле, і я адкашляўся. — Прабачце, чытаю… Дарагія маладыя людзі! Прыміце маю маленькую ўдзячнасць — купку дроў. А гэтыя цукеркі — падзяку вам асабіста ад маёй Юлечкі. Сяргей Міхайлавіч.

— Вось дык маеш, — Уладзя прысеў на зэдлік, вочы яго заблішчалі. — Дык ён — дайшоў?!

— Ну, калі нам перадае цукеркі яго Юлечка, — дайшоў, — радасна усміхнуўся я.

— Так, стоп, тлумачце! — удавана абурылася Ядвіся. — Што гэта такое?

— Гэта… Гэта чалавек паверыў у тое, што хоць кожны асобна са свайго боку бачыць сваю прычыну падзеі, ды сапраўдная бывае толькі адна… І што нельга баяцца…

У пакоі раптам пасвятлела: на падлогу лёг зыркі сонечны простакутнік.

— Кадры! Кадры! — усхапілася з месца Марго. — Кір! Пакуль не распавядай! Бяжым, дзяўчаты!

Мы выйшлі разам усе і зажмурыліся ад яркага сонечнага святла і белага ззяння.

Побач уздыхнуў Уладзя.

— Ты чаго? — ціха спытаў я.

— Так, прыемна. І неяк радасна. Чужы ж нам чалавек, ніхто, а вось…

— Так… Памятаеш, Уладзь, гэты бомж… Я тады падумаў, што ён дойдзе. Бо калі выйшаў ад нас, дык пайшоў супраць ветру…

Пакуль Марго зноў вымушала нас то па чарзе, то ўсіх разам станавіцца ў адным, у іншым месцы,

кідацца прыгаршчамі снегу, страсаць яго з кустоў парэчак (а пад тым кустом бедная Настачка…), дамок добра прагрэўся, мы вярнуліся, яшчэ больш узрадаваныя той цеплыні, што нас сустрэла, прыкладвалі свае халодныя чырвоныя рукі да гарачых бакоў печкі. Потым падагравалі астылую гарбату, і мы з Уладзем апавядалі дзіўную гісторыю нашага знаёмага бамжа…

У горад вярталіся з захадам сонца, на аўтобусе.

Мы не змаўляліся з Ядвісяй — збочылі ў бок прысад.

— Мама тэлефанавала… — парушыла маўчанне Ядвіся.

Я не ведаў, што пытаць, і ці маю я права нешта пытаць. Прамаўчаў.

Наперадзе нас, у канцы прысад, заходзіла сонца, залiваючы снег ружовым і чырвоным. Мы не адны любаваліся гэтым хараством: перад намі няспешна у той жа бок — да сонца, ішло колькі пар. Мацнеў мароз.

— Ты, Кір, псіх, і табе будзе цяжка, — уздыхнула Ядвіся. — А ў мяне замерзлі рукі, — спынілася яна.

Я выцягнуў свае рукі з кішэняў курткі — у пальчатках было холадна ісці, сцягнуў пальчаткі, узяў працягнутыя рукі Ядвісі, зняў яе чырвоныя рукавічкі. Рукі і праўда былі халодныя. Уклаў кожную ў сваю руку і засунуў разам з рукавічкамі ў кішэні сваёй курткі. Бо ў мяне вялікія і цёплыя кішэні…

Мы стаялі адзін супраць другога, тварам да твару. Хвіліну, другую…

— Дзівак ты, зараз пачнуць стыць ногі, — усміхнулася Ядвіся. — Хадзем… Угрэліся рукі…

Нават самыя доўгія прысады некалі канчаюцца. І мароз усё мацнеў. І чырвонае сонца скацілася за дахі дамоў.

— Мама тэлефанавала, — ціха паўтарыла Ядвіся. — Будзе позна. Яны паехалі ў рэстаран вячэраць. Мама ніколі, казала мне, не вячэрала ў рэстаране з мужчынам. Яна апранула сукенку, якую купіла чатыры гады таму, на вяселле да стрыечнай сястры, але я тады моцна захварэла, і на вяселле мама не трапіла. І сукенка вісела ненадзяваная. Прыгожая сукенка… Мама гаварыла, а я слухала і думала, што ніколі не чула такога да дрыжання шчаслівага яе голасу... Кір! Што ты зараз хочаш? — прыпынілася яна: мы акурат дайшлі да яе дому.

— Не ведаю, — ціха адказаў я. — Хіба ты замерзла да стану залатой рыбкі, каб выконваць жаданні?

— Не, але ж я — ведзьма, ты пераканаўся.

У Ядвісіных вачах скакалі гарэзлівыя агеньчыкі.

— Я скажу… — сур’ёзна пачаў я, гледзячы ў яе зрэнкі, не міргаючы. — Скажу як ёсць, а ты… Зрэшты, можаш крыўдаваць. Я хачу… хачу прасіць даравання ў матылька і дазволу пацалаваць яго.

Гарэзлівыя агеньчыкі запоўнілі цалкам яе вільготныя вочы.

— Толькі ты прачытаеш мне сваю гісторыю майго нараджэння, — прашаптала Ядвіся, узяла мяне за руку, злёгку пацягнула: — Хадзем…



**Таццяна Пятроўская**

# Казкі для дзяцей і для дарослых: чароўныя творы Алены Масла

*«Я заўсёды меў на ўвазе, што пішу казкі*
*не толькі для дзяцей, але і для дарослых…*
*Дзяцей больш забаўляе сама фабула,*
*а дарослых цікавіць укладзеная ў казкі ідэя».*
Г. Х. Андэрсен

У цуд трэба верыць безумоўна. Як вераць у магію, у Боскія сілы і іншыя невытлумачальныя рэчы. Дзеці вераць у цуд, ім не патрэбныя доказы.

Дарослыя — іншыя. Ім трэба заўсёды ведаць складнікі кожнай рэчы, таму іх не цікавяць казкі. Але ёсць творы для дзяцей, здольныя закрануць зусім не дзіцячыя пачуцці нават у дарослых. Менавіта гэта мела на ўвазе бібліятэкар, даючы мне кнігу Алены Масла і кажучы, што было б добра, калі б экзэмпляр казкі «Пакінутае дзіця» меўся ў кожным радзільным доме. Маўляў, гэта была б лепшая спроба адгаварыць маці пакідаць дзіця без бацькоў.

Алена Масла — майстар аўтарскай казкі. Апошняя знаходзіцца вельмі далёка ад казкі фальклорнай, мае сваю эстэтычную канцэпцыю. Героі ў такіх казках больш індывідуалізаваныя, іх характарыстыка можа мяняцца на працягу ўсяго твора. І, канечне, такі твор мае некалькі ўзроўняў прачытання: адзін — для дзяцей, другі — для дарослых. А гэта, у сваю чаргу, прыводзіць да пэўнай ускладненасці ўсяго твора. Адзіным безумоўным патрабаваннем для любой казкі з'яўляецца ўстаноўка на вымысел, што яднае яе, напрыклад, з фэнтэзі.

У выпадку з казкамі Алены Масла ўзнікае яшчэ адно звяно параўнання — прыпавесць. Аднак калі ў прыпавесці сюжэт можа быць рэдуцыраваны да параўнання, то ў яе казках прысутнічае паўнавартасны сюжэт і створаны сапраўдныя характары. Акрамя гэтага, яе творы вылучае прэтэнзія на больш арыгінальную і глыбокую думку, што так даспадобы дарослым.

У якасці прыклада прапануем дзве казкі з падобным сюжэтам: «Будзільнік» і «Гісторыя адной канапы». Абедзве распавядаюць пра звычайныя рэчы, якія жывуць сваім уласным жыццём. Так, Будзільнік крыўдзіцца на гаспадара за тое, што яго занадта часта рамантуюць, не жадае мірыцца з новымі хуткімі стрэлкамі ў сваім механізме і спецыяльна ламае іх. Заканчваецца казка зусім не па-казачнаму, але лагічна: «…на гэты раз, убачыўшы, што будзільнік сапсаваўся зноў, гаспадар не стаў яго рамантаваць. Здаў майстру на дэталі, а сабе купіў новы». Ніякіх высноў і вылучанай маралі няма. Але чытач адразу разбярэцца, што да чаго. Празмерная ганарлівасць Будзільніка перакрэсліла яго галоўную функцыю — служыць гаспадару, а не дабівацца жорсткага падначалення сабе кожнай дэталі.

У казцы «Гісторыя адной канапы» аўтар зноў прадстаўляе неадушаўлёны прадмет і паступова ажыўляе яго спачатку праз апісанне, так скажам, не характэрных для мэблі рысаў: умення чытаць, кемлівасці. Потым перад намі раскрываюцца думкі Канапы і яе перажыванні. Любіміцу ўсёй сям'і спасцігае часты лёс старой мэблі: яе адвозяць на лецішча. Але, у адрозненне ад Будзільніка, Канапа не толькі здолела скарыцца са сваёй доляй, але і знайшла ў гэтым свае плюсы і яшчэ больш аддана служыла сваім гаспадарам. Таму гаспадыня Канапы прыходзіць да наступнага рашэння: «Дарагі! Ці не падтрымаеш ты мой намер аддаць рэчы з гарышча ў музей? Няхай бы не пыліліся, а людзей радавалі!»

У вышэйназваных казках няма адкрытай маралі, відавочнай супярэчнасці дабра і зла, але кожны з герояў па-рознаму вырашае ўнутраны канфлікт: пазбавіцца гордасці, прыняць змены і працягваць служыць сваёй мэце або крыўдзіцца і ствараць перашкоды іншым.

Кожны дзіцячы твор выхоўвае ў маленькіх чытачоў патрэбную мадэль паводзін: не размаўляй з незнаёмымі, як Чырвоны Капялюшык; не замахвайся на чужую маёмасць, як Ліса ў «Зайкавай хатцы» і г. д. Акрамя выканання падобных выхаваўчых задач казкі Алены Масла вучаць пэўнаму спосабу мыслення: назіраць за паводзінамі персанажа і даваць яму ацэнку *самастойна*. А гэта значыць, што маленькі чытач і аўтар стаяць нароўні, і дарослы ў такім выпадку ўжо не маралізатар, а суразмоўца, сябар. Пры гэтым нярэдка творы могуць мець двайное прачытанне — для дарослых і для дзяцей. У адных будзе найперш задзейнічаны рэалістычны сюжэт, у другіх — казачны.

Напрыклад, казка «Сок з альясу» мае даволі рэалістычны сюжэт: гаспадыня разам са сваёй старой кветкай едзе жыць з вёскі да дзяцей, але, сустрэўшыся з рэаліямі жыцця ў гарадскіх умовах і крыўдай ад нявесткі, вяртаецца дадому. Аднак ёсць у творы і казачны сюжэт, звязаны з «падаконным» жыццём альясу, які цярпеў абразу не толькі ад сваіх гарадскіх суседак-архідэй, але і ад свайго родзіча, якому даў жыццё. Выснова, што зробяць і дзеці, і дарослыя пасля прачытання твора, будзе аднолькавая: трэба з павагай ставіцца да старэйшага пакалення, быць больш уважлівымі да яго. Усё ж заключэнне чытачы розных узростаў зробяць, зыходзячы з розных сюжэтных ліній. Дзеці чыталі казку пра альяс, які выжываў на падаконніку, а дарослыя — драматычную гісторыю пра тое, як нявестка, імкнучыся не быць горшай сярод модных сяброўак, перасадзіла стары альяс у новы гаршок і пакрыўдзіла тым самым свякроўку.

Уяўленне пра тое, якой сапраўды павінна быць дзіцячая літаратура, вельмі добра прадстаўлена ў выказванні самой Алены Масла: «*…Паблажлівасць гэта і сапраўды нараджае памылковае ўяўленне пра лёгкасць тэматыкі, калі літаратура для дзяцей нават у вуснах паважаных, заслужаных аўтараў ператвараецца ў салодзенькае сюсюканне — часта на тэму захаплення сваімі ўнукамі*». Пратэст супраць сюсюкання — гэта і сумны фінал твораў, што для сённяшніх дзяцей, звыклых да шчаслівых фіналаў, нечаканасць. Так, у казцы «Воблачка» маленькае воблака збягае ад маці, а калі вяртаецца, даведваецца, што пакуль не было яго, маці ад перажыванняў сышла на дождж. У казцы «Зорачка» распавядаецца пра хворую дзяўчынку, якая можа памерці «раней адмеранага», а вось Зорачцы якраз падаравана самае доўгае жыццё. І тая вырашае ахвяраваць ім і скаціцца з неба, каб падараваць сваё жыццё дзяўчынцы.

Такое трагічна-драматычнае гучанне фінала казкі вельмі нагадвае знакамітыя казкі Г. Х. Андэрсена, якія часта таксама заканчваліся досыць сумна. Сама казачніца сцвярджае, што нельга адгароджваць дзяцей ад «цяжкіх» эмоцый і імкнуцца толькі да забаўляльнасці: «*Наогул, цяпер вельмі моцная тэндэнцыя да забаўляльнасці, у літаратуры ў тым ліку. Але ж немагчыма ўсё жыццё адскакаць і адвесяліцца! Якія толькі выпрабаванні не пасылае людзям лёс, з якімі чалавечымі бедамі толькі не даводзіцца нам сутыкацца… Ці маюць людзі маральнае права наракаць на бяздушша, абыякавасць, чэрствасць грамадства у дачыненні да асабістых праблем, бед, калі імкнуцца засцерагчыся ад суперажывання і дапамогі ў час свайго дабрабыту тым, каму дапамога патрэбна?..*» Невыпадкова сумная «Русалачка» Г. Х. Андэрсена ў пераапрацоўцы Дыснея заканчваецца сапраўдным хэпі-эндам. Іншая справа, што ў такім фінале абясцэньваецца выбар гераіні паміж сваім жыццём і жыццём прынца і ўвогуле пытанне бессмяротнасці душы і сапраўднай адказнасці за свае ўчынкі. Воблачка Алены Масла ў лепшых традыцыях казак магло б сустрэць перашкоды, што сталі б для яго проста карысным вопытам, а пасля вярнуцца дамоў да маці. А Зорачцы за яе ўчынак фея магла — па-дыснееўску —падараваць новае жыццё. І ў такім выпадку творы зноў толькі б выконвалі педагагічна-выхаваўчыя задачы, не даючы прасторы паразважаць над пытаннямі жыцця і смерці, самаахвярнасці і адказнасці за свае ўчынкі.

Героі казак пісьменніцы — самыя розныя, і часта менавіта яны і вызначаюць сюжэтную структуру твора. Адна з кніг носіць назву «Жывыя рэчы», бо героі казак, прадстаўленыя тут, з'яўляюцца выключна рэчамі. У такіх творах асабліва адчуваецца сувязь з казкамі Г. Х. Андэрсена, прасочваюцца рысы прыпавесці. Так, у творы «Сапраўдны правіцель» галоўным персанажам з'яўляецца кароль, вытканы на кіліме, які трапіў у хату, дзе жывуць непаслухмяныя дзеці. Гэты герой, не падобны да каралёў з народных казак, дапамагае дабіцца парадку ў кватэры, прычым дзейнічае сваімі сіламі, праяўляе кемлівасць і мудрасць, чым заслугоўвае аўтарытэт сярод іншых рэчаў.

Для казак характэрна суіснаванне дзвюх рэальнасцей — казачнай і сапраўднай. У «рэчавых» казках Алены Масла героі дзейнічаюць у рэальным свеце, аднак іх жыццё само па сабе прадстаўляе для дзяцей гульню, што тлумачыцца іншым успрыманнем імі рэчаіснасці, дзе нежывыя прадметы маюць сваю гісторыю і атрымоўваюць жыццё ў гульні.

Ёсць у пісьменніцы і казкі, набліжаныя па форме да народных, аднак і тут выяўляецца яе своеасаблівая казачная манера. Падобныя творы якраз як быццам пратэстуюць супраць клішэ, замацаваных у фальклоры. У творах максімальна прысутнічае апавядальнік, даючы ацэнку ўчынкам герояў і парады на будучае жыццё чытачам, апісанні, а канцоўка вельмі нечаканая, нават калі яна па-традыцыйнаму шчаслівая. «Па-традыцыйнаму» — для народных казак, таму што маслаўская канцоўка неадназначна шчаслівая: зло не заўсёды павінна быць пакарана фізічна, як і станоўчыя героі не заўсёды павінны застацца ў жывых, каб жыць доўга і шчасліва. Так, напрыклад, у казцы «Лепшая прыгажуня» для таго, каб выбраць нявесту прынцу, ладзяць цэлы конкурс. Праз усе выпрабаванні здолела прайсці толькі адна дзяўчына, якая не толькі валодала добрым сэрцам, але і сапраўднай знешняй прыгажосцю. Здавалася б, яна і павінна стаць жонкай прынцу, аднак насамрэч Зараніца знайшла ўжо свайго прынца і жыве з ім «ці то недзе ў яго заморскім палацы, ці то ў сціплай леснічоўцы: калі ёсць каханне, месца жыхарства не такая ўжо істотная рэч». Прынц жа так і шукаў сабе нявесту праз конкурсы прыгажосці. Такія казкі ўжо апелююць непасрэдна да дзяцей, у іх няма двайнога прачытання.

У казцы «Балотная кансерваторыя» Алена Масла перайначвае казачны зачын: «не ў трыдзявятым царстве, не ў трыдзясятым гаспадарстве, не за сінім морам, не за зялёным долам, а недзе тут, недалёка ад нас з вамі, на скрыжаванні шырокіх шляхоў-пуцявін ёсць вёска». Фінал твора нечаканы, аўтар «падманвае» чытача, падаючы надзею на даволі прадказальны канец. Жабкі сваімі спевамі сапсавалі ўвесь лад возера, і ён з цягам часу пачынае ілець. Але вось яна, надзея на тое, што ўсё можа аднавіцца, а жабкі пакінуць балота. Бусел з'ядае зачыншчыцу, але нічога не мяняецца, бо занадта ўжо позна, што заўважае адна з жабак: «Ніхто ўжо сюды не вернецца. Вялікай рыбе чыстая вада патрэбна. Нашай твані нікому не адужаць».

«Казка пра нябачныя крылы і нячутую песню» па сістэме персанажаў, сюжэту вельмі набліжана да народнай: ёсць тут месца і хохлікам, і русалкам, і зачараванай дзяўчыне, і чарадзейным коням. Аднак прысутнічае і незвычайнае: галоўны герой з простага добрага хлопца ператвараецца ў злодзея, прычым без усялякага цуда, бо нечаканае багацце робіць яго сквапным і злым. І толькі калі адзін на адзін сустрэўся ён з той, каму калісьці абяцаў дапамагчы, у ім прачынаецца сумленне, ды такое, што ён гатовы ахвяраваць сваім жыццём дзеля яе. У фінале зло фармальна пакарана (цмок забіты, хохлікі перавяліся), а сам Янка выкупіў свае грахі ахвярай уласнага жыцця, каб выратаваць Марыську.

Але не так ужо адназначна шчасліва заканчваецца казка «Палярная зорка». Дачка ведзьмака Разалька вырашае паўстаць супраць намеру бацькі зрабіць яе злой чараўніцай і дапамагае ёй у гэтым каралевіч. У канцы як быццам бы дабро і перамагае: злы чараўнік памірае, прывіды і здані зноў ператвараюцца ў людзей, а Разалька з каралевічам становяцца Палярнай зоркай ў Зорнай краіне. Яна свеціць «як напамін людзям пра тое, што прага святла здольна адужаць любую цемру…», а «каралевіч грае на срэбным ражку балады пра сваё каханне». Здаецца, у гэтых радках і заключана галоўная канцэпцыя ўсіх казак Алены Масла: ахвяраванне сабою дзеля іншых і любоў і ёсць сапраўднае жыццё.

Герой-дзіця сучасных літаратурных казак адрозніваецца ад героя народнай і савецкай казак. У народных казках герой, часцей за ўсё абяздолены ці пакрыўджаны лёсам, урэшце атрымлівае дапамогу ад чароўных сіл. Галоўнае, што аб'ядноўвае герояў сучасных айчынных казак, — імкненне дапамагчы, своеасаблівая міласэрнасць. Дзеці не так часта сустракаюцца ў казках Алены Масла ў якасці асноўных персанажаў, аднак іх наяўнасць гарантуе, што твор будзе максімальна прыдатны для дзіцячага ўспрымання.

Выхаваўчая ідэя казак празрыстая нават з самага пачатку, бо пачынаюцца яны з парушэння дзецьмі прынятых грамадствам норм. Адрозніваецца ў творах толькі ступень прысутнасці цуда, якое, дарэчы, вельмі ўмоўнае. Так, напрыклад, у казцы «Кітайскія ліхтарыкі» дзяўчынцы ўвогуле проста прысніўся сон, фармальна праяў чарадзейнага нават не адбылося. У сне хохлікі, якія жывуць у кветках-ліхтарыках, дакараюць дзяўчынцы за тое, што яна не цэніць зямлю і працу, якой займаецца яе бабуля. Дзяўчынка прачынаецца з цвёрдым намерам да-

памагчы бабулі. Дзеці — героі твора «Цудадзейныя лекі» — праз свае спрэчкі наклікалі на сябе злую істоту Сварабабку, і, апынуўшыся ў небяспецы, вырашылі палепшыць свае стасункі. Гэта не толькі дапамагло дзецям пазбавіцца Сварабабкі, але нарэшце і паправіцца. Прычым на заўвагу іншых пра змену ў сваіх паводзінах яны шчыра адказваюць: «Ніякіх цудаў! Проста мы навучыліся сябраваць!»

У казцы «Крыўда Старога Вадзяніка» хлопчык трапляе ў сапраўдную краіну Цудадзейнага — Царства Старога Вадзяніка, дзе пранікаецца скаргамі Старога на дзейнасць людзей, праз якую загінула рэчка Шнуроўка. Аднак і тут няма безумоўнага цуда, бо праз імгненне хлопчык ужо бачыць твар бабулі, якая сварыцца на ўнука за тое, што не паслухаў дарослых, пайшоў адзін на рэчку. Атрымоўваецца, што і тут чароўнае царства прымроілася хлопчыку. Чароўныя істоты дапамагаюць зразумець пэўныя факты, усвядоміць маральныя законы жыцця, бо ўсіх дзяцей з твораў пісьменніцы аб'ядноўвае праніклівая шчырасць і чуласць, кожны з іх праходзіць праз выпрабаванне і засвойвае для сябе вельмі важную ісціну.

Аўтарская казка яшчэ цікавая і тым, што яна часта мае розныя крыніцы і адпаведна адчувае на сабе ўплыў іншых мастацкіх твораў, як фальклорных, так і літаратурных. Аднак ёсць яшчэ адна аснова, якая вызначае маральную культуру казак, яна суадносіцца з хрысціянскімі матывамі ў казачным сюжэце. Казкі Алены Масла апелююць да хрысціянскіх пачуццяў, менавіта таму адмоўныя героі часта так і застаюцца не пакаранымі. Для гэтага патрэбна выкарыстаць гвалт, што супярэчыць хрысцінскай маралі.

Ідэя бессмяротнасці душы часта абумоўлівае і трагічную канцоўку казак, хаця дзеці могуць нават і не адчуць гэтай трагедыі, успрыняць яе як чароўнае ператварэнне. Амерыканскі псіхіятр Ірвін Ялам сцвярджае, што дзеці ўжо ў малым узросце адкрываюць для сябе смерць і гэта выклікае ў іх трывогу. Дзіця змагаецца з гэтай трывогай двума шляхамі: не верыць у непазбежнасць смерці, яе незваротнасць (іншымі словамі, стварае ўласны міф пра бессмяротнасць) і верыць ва ўласную выключнасць ці ўвогуле ўпэўнена, што дзеці не паміраюць. Такім чынам, з боку псіхалагічнага ўспрымання імі смерці такая канцоўка апраўдана. А ў апошні час большасць псіхолагаў, а таксама прадстаўнікоў царквы лічыць, што гэта і карысна для таго, каб навучыць дзяцей правільна ацэньваць смерць і не адчуваць жаху перад смерцю іншых. У якасці самага эфектыўнага сродку ў задавальненні жадання атрымаць інфармацыю пра смерць лічыцца менавіта *казкатэрапія*, прычым у рэкамендацыйным пераліку кніг прапаноўваюцца ўсё тыя ж казкі Г. Х. Андэрсена.

Казкі Алены Масла не толькі прывіваюць дзецям хрысціянскія каштоўнасці, а яшчэ і паспяхова выконваюць педагагічна-псіхалагічныя задачы. Магчыма, найбольш паказальнай у гэтым сэнсе з'яўляецца казка «Пакінутае дзіця», у якой прапануецца хрысціянская мадэль свету: дзеці жывуць у Даліне шчасця, як анёлы, і анёлы іх жа назад і забіраюць пасля смерці. Увогуле казка дае адказы на многія «дарослыя» пытанні дзяцей: «Адкуль я узяўся? Чаму тата і мама разышліся? Чаму некаторыя дзеці няшчасныя?» Невыпадкова Даліна шчасця ў казцы знаходзіцца на небе, з якім звязаны сюжэты многіх казак пісьменніцы.

Нябёсы як бясконцы працяг Сусвету прысутнічаюць ва ўсіх рэлігіях. У хрысціянстве нябёсы — гэта не толькі новае жыццё для памерлых, але і месца прысутнасці ўсёведнага і ўсемагутнага Бога. У казцы «Першая прыгажуня» галоўны прысуд у спрэчцы пра прыгажосць дзяўчат выносяць нябёсы, прычым прысуд іх даволі справядлівы. Яны выбіраюць прыгожую менавіта душою і дапамагаюць ёй стаць шчаслівай. Смерць герояў у творах «Палярная зорка» і «Зорачка» звязана са здольнасцю герояў ахвяраваць дзеля шчасця іншых і ўсёмагутнасцю дабрыні.

У творчасці Алены Масла адлюстравана і тэндэнцыя да напісання больш аб'ёмных твораў — казачных аповесцей. Гэты жанр патрабуе не толькі максімальнай індывідуалізацыі галоўнага героя і стварэння некалькіх сюжэтных ліній, але і максімальнай забаўляльнасці, бо ўвагу дзяцей трэба трымаць даволі доўга.

Ідэальнымі прапорцыямі такога ўплыву вылучаецца кніга «Вандроўка з божымі кароўкамі», якую можна аднесці да аднаго з самых удалых твораў пісьменніцы. У пачатку кнігі аўтар развівае ідэю знакамітай дзіцячай заклічкі пра божую

кароўку, стварае сваіх божых каровак, якія лятаюць у Краіну Паветраных Замкаў. Але аднойчы яны прыносяць адтуль дрэнную навіну: прапала прынцэса Чысцюля. А роля ў яе незвычайная — яна сваімі чароўным сітам ачышчае мары людзей ад дрэнных думак. З просьбай знайсці прынцэсу божыя кароўкі звяртаюцца да хлопчыка Даніка, які згаджаецца дапамагчы. У другой частцы кнігі завязваецца асноўны канфлікт паміж станоўчымі і адмоўнымі персанажамі, і сюжэт становіцца больш дынамічным. У якасці галоўнага героя выступае ўжо герой-аднагодак чытача Данік, а дарослы апавядальнік адыходзіць у другі бок. Займальнасць кнігі для дзяцей відавочная: прыгоды аднагодка, якому прыходзіцца супрацьстаяць сапраўднаму касмічнаму пірату Дзюрабою, не пакінуць абыякавым маленькага чытача.

Ёсць тут і ўсе вышэйзгаданыя прыметы маслаўскага стылю: высокая, вызначальная роля нябёс і яго насельнікаў, ідэя пра матэрыяльнасць нашых думак і мар, імкненне да іх чысціні, адсутнасць адкрытага пакарання злодзея (Дзюрабою прапаноўваюць служыць у Краіне Паветраных Замкаў). Прычым брудныя думкі супастаўляюцца аўтарам з брудным дымам ад фабрык і заводаў, бо іх разам адсейвае прынцэса і адпраўляе на касмічны сметнік.

Увогуле, экалагічная тэматыка сама па сабе таксама даволі блізкая творчасці Алены Масла. Гераіня аповесці жабка пані Чаротная вымушана ісці ў падарожжа на Балтыйскае мора. На шляху ёй сустракаюцца самыя розныя перашкоды, аднак заканчваецца ўсё аптымістычна: вяселлем пані Чаротнай і яе балтыйскага жаніха. Нягледзячы на ўсю заможнасць сям'і жаніха, пані Чаротная з абраннікам вяртаюцца на Радзіму. Патрыятызм разглядаецца ў творы як захапленне сваім месцапражываннем, яго прыродай, вывучэнне гісторыі, паважлівыя адносіны да іншых краін. Радзіма мае канкрэтнае ўвасабленне ў выглядзе раслін, жывёл, краявідаў, помнікаў, уласцівых Беларусі.

Па-свойму ўнікальнай можна лічыць кнігу «Каляды з хроснай», для якой характэрныя прыметы каляднай казачнай аповесці. Заснавальнікамі каляднай казкі лічацца Ч. Дзікенс («Калядная песня ў прозе») і Г. Х. Андэрсен («Дзяўчынка з запалкамі»). У такім творы абавязкова адбываецца цуд і перараджэнне героя. У цэнтры казачнай каляднай аповесці аўтара — дзяўчынка і яе незвычайная хросная. Як правіла, героі каляднай казкі знаходзяцца ў стане духоўнага ці матэрыяльнага крызісу. Гераіню гэтай кнігі нельга назваць няшчаснай, але ўвесь час дзяўчынка згадвае свайго тату і сумуе, што зараз ён далёка ад сям'і яна з ім рэдка бачыцца. У лепшых традыцыях каляднай казкі менавіта з татам дзяўчынкі звязаны апошні цуд у творы: бацька прылятае на Пегасе да дачкі. Прычым цуд здарыўся не толькі па ініцыятыве хроснай, але і па жаданні самога таты, які раптам пачаў пісаць вершы для сваёй дачушкі. Апошняму эпізоду папярэднічаюць розныя прыгоды, чароўныя і рэалістычныя, што здараюцца з дзяўчынкай і яе хроснай. Ёсць тут і з'яўленне анёлаў (тое, без чаго не абышлася б калядная казка), і чарговы зварот казачніцы да тэмы нябёс і зорак (хросная дае сваёй падапечнай каменьчыкі, і тыя ператвараюцца ў зоркі, калі яна робіць нешта добрае).

Але прысутнічаюць у творы і больш рэалістычныя сюжэты, здольныя навучыць дзіця станоўча вырашаць любыя канфлікты. Напрыклад, калі хросную спынілі паставы і папрасілі заплаціць штраф, яна не проста выконвае патрабаванне, але яшчэ і перадае сыну міліцыянера плюшавага мядзведзіка. Паставы яшчэ даволі доўга не можа адысці ад шоку, бо плюшавы мядзведзік і ёсць любімая цацка яго сына. Усе праблемы хросная вырашае станоўча і з павагай да свайго апанента. І такія паводзіны здаюцца сапраўдным цудам для людзей, звыклых да даволі агрэсіўнага стылю вырашэння праблемных сітуацый.

У чым жа рэцэпт казак Алены Масла?

Можа быць, у тым, што яны ўвабралі ў сябе лепшае з казачных традыцый класікаў, народных традыцый і хрысціянскай стратэгіі жыцця.

У тым, што дарослы ў іх не чытае мараль, а становіцца суразмоўцай дзіцяці.

У тым, што ў аснове гэтых твораў — абсалютная дабрыня і любоў да ўсяго, што атачае.

А любоў і дабрыня, як бы не змяняўся свет, заўсёды будуць асновай любой сістэмы выхавання: каб выхаваць Чалавека, які любоў і дабрыню ўмее *аддаваць*.

**Зоя Траццяк**

# Нацыянальная спецыфіка матыву «вяртання» ў беларускай прозе пра Першую сусветную вайну

Кнігі Э.М. Рэмарка (*E.M. Remarque*, 1898 – 1970), прысвечаныя Першай і Другой сусветным[1], паўплывалі на айчынную літаратурна-мастацкую баталістыку XX стагоддзя В. Быкаў апавядаў пра знаёмства з творчасцю нямецкага пісьменніка так: «Недзе з часоў хрушчоўскай адлігі ў савецкім друку пачалі паяўляцца кнігі славутых заходніх аўтараў … Можа, першым з гэтага шэрагу пачалі выдаваць раманы Рэмарка, які адразу знайшоў немалую папулярнасьць сярод чытацкай моладзі … Калі французскіх жанчын і свабоднае каханьне ўлады неяк трывалі, дык «Заходняга фронту безь пераменаў» стрываць не маглі. … апэратыўна было пушчана ў абарот зьняважлівае ў нас азначэньне рэмаркізм …» [2, с. 277].

Беларускіх прадстаўнікоў «лейтэнанцкай прозы» ўразіла адкрытасць, з якой празаік апавядаў пра ваенную рэчаіснасць: яго персанажы крытыкавалі камандаванне і ўлады, бязглуздыя стратэгію і тактыку бою, абуральную працу інтэнданцкіх і медыцынскіх служб, адносіны з цывільнымі і ворагам. Паводле Л. Сіньковай, «сінанімічным паняццю "рэмаркізм" … у савецкім кантэксце выступіла якраз "акопная праўда" — г. зн. праўда, пісьменнікам-ветэранам перажытая, але нібы недастатковая, патрабуючая дапаўнення "праўдаю стаўкі"» [7, с. 57]. Менавіта апошняя выклікала б адмоўна-іранічны каментар самога Э.М. Рэмарка.

Выключнае становішча мастака слова на айчыннай гуманітарнай прасторы не заўсёды карэлявалася з меркаваннямі замежных крытыкаў і пісьменнікаў. Амерыканскі навукоўца Х. Блум адзначыў: «… Хаця рэмаркаўскі стыль лаканічны і напружаны, яго пратаганісту не хапае запамінальнай індывідуальнасці і арыгінальных поглядаў, каб на працяглы час зацікавіць чытача» (… *Though Remarque's style is terse and tense, his protagonist lacks significant personality or mind to be of lasting interest to the reader*) [11, p. 2]. Г. Грас не мог прамінуць такую каларытную постаць, таму апавядаючы пра падзеі 1914 — 1918 гадоў у кнізе «Маё стагоддзе», ён у іранічным рэчышчы падаў размову двух «слупоў» ваеннай прозы — Э.М. Рэмарка і Э. Юнгера. Расійскі даследчык У. Сядзельнік пастулюе супрацьлеглую думку: «… выказвалася меркаванне, што Рэмарк — пісьменнік хаця і не без таленту, але ён не належаў да выбітных майстроў слова, якія вызначалі інтэлектуальныя і мастацкія шуканні XX стагоддзя, такіх, як А. Франс, Б. Шоу, Т. Ман, Г. Уэлс … Час сцвердзіў памылковасць такіх думак … Сёння Т. Мана чытаюць значна менш, чым Рэмарка, не кажучы ўжо пра іншых згаданых вышэй аўтараў» [8, с. 673].

Адносіны да твораў нямецкага празаіка палярныя, але гэта не памяншае здабыткаў Э.М. Рэмарка. Дзякуючы яго раманам (у сукупнасці з кнігамі І. Бехера, Л. Рэна, А. Цвейга, Э. Юнгера і інш.) мажліва зазірнуць за другі бок акопаў, а гэта надзвычай актуальна, бо ў творах А. Барбюса, Дж. Дос Пасаса, Р. Олдынгтана і Э. Хемінгуэя персанажы змагаліся супраць ворага-немца. Акрамя таго, пісьменнік знайшоў запамінальную форму ўвасаблення некалькіх матываў, што шчыльна асацыююцца з прозай пра Першую сусветную.

Раман «Вяртанне» (*Der Weg zurück*, 1931) прысвечаны працэсу адаптацыі былога камбатанта да мірнага жыцця на Радзіме. Паказальна, што Э.М. Рэмарк скрупулёзна ахарактарызаваў шэраг праблем, якія атруцілі жыццё герояў яго твораў. Матыў «вяртання» ўвасоблены ў розных нацыянальных літаратурах («Усе людзі — ворагі» (*All Men are Enemies*, 1933) Р. Олдынгтана, «Сарторыс» (*Sartoris*, 1929) У. Фолкнера, «Фіеста» (*Fiesta*, 1926) і «Салдацкі дом» (*Soldier's Home*, 1925) Э. Хемінгуэя). Айчыннае мастацтва слова 20—30-х гадоў неаднаразова звярталася да яго. Дарэчы, у жніўні 1930 года ў «Беларускай вёсцы» апублікаваны ўрывак з твору «На Захадзе няма змен». Праз год надрукаваны пераклад пад назвай «На заходнім фронце без перамен», зроблены Х. Шынклерам з рускай мовы.

---

[1] Напрыклад, «На заходнім фронце без перамен» (Im Westen nichts Neues, 1929), «Тры таварышы» (Drei Kameraden, 1938), «Трыумфальная арка» (Arc de Triomphe, 1946), «Час жыць і час паміраць» (Zeit zu leben und Zeit zu sterben, 1954), «Чорны абеліск» (Der schwarze Obelisk, 1956).

Акрамя рамана «Вяртанне», матэрыялам для параўнальнага даследавання было апавяданне «На этапе» (1916), аповесць «Дзве душы» (1918—1919), раман «Віленскія камунары» (1931—1932) і дакументальна-мастацкая кніга «На імперыялістычнай вайне (Запіскі салдата 2-й батарэі N-скай артылерыйскай брыгады Лявона Задумы)» (1926) М. Гарэцкага, аповесці «Набліжэнне» (1936) З. Бядулі, «Варта на Рэйне» (1927—28) А. Гародні і «Затока ў бурах» (1928; 1956) Я. Скрыгана, раман «Праз гады» (1934) П. Галавача, апавяданні «Герой нацыі» (1934) Э. Самуйлёнка і «Мой сусед» (1927) К. Крапівы. Па словах Г. Адамовіч, канцэптуальнай аналогіяй, што паяднала творы пра Першую сусветную, было «ператварэнне героя-“вінціка”, ахвяры ў свядомага (хоць напалову свядомага) удзельніка падзей, які пачынае бачыць … глыбінныя механізмы і сутнасць процістаяння» [1, с. 87].

Е. Лявонава падкрэсліла, што Э.М. Рэмарк належаў да «пакалення, для многіх прадстаўнікоў якога вайна так і не закончыцца» [6, с. 157]. Назіранне мажліва распаўсюдзіць і на персанажаў яго кніг: некаторыя не здолелі пераадолець псіхалагічную траўму і прызвычаіцца да мірнага ладу. Яны «ішлі дадому, усё здавалася ясным, простым: прыйсці і пачынаць жыць па-новаму, не так, як жыў да вайны» [4, с. 129], але выканаць мару было складана, а часам і немагчыма, бо прыходзілася змагацца за права вызнаваць непадобныя да масавых каштоўнасці. Стаўшы асобамі сталага веку, былыя франтавікі маглі патрапіць у віхуру Другой сусветнай. Беларускія празаікі ўвасобілі тыпалагічна падобную сітуацыю. Аднак іх дзеючым асобам не наканавана было адпачыць ад вайны. Першая сусветная не мела лагічнага заканчэння, бо яе падзеі леглі на ўзброеную барацьбу палітычных груповак за ўладу на прасторах былой велізарнай імперыі.

Франтавое таварыства — найвялікшая каштоўнасць персанажаў Э.М. Рэмарка. Паводле М. Тычыны, гэта паняцце «ў яго ўвесь час пашыраецца да значэння паняцця “братэрства” народаў і нацый» [10, с. 137]. Мастак слова стварaў герояў, якія пагардліва глядзелі на былых сяброў, разам з якімі яны гібелі ў акопах. Аўтар згадваў і пра сацыяльную стратыфікацыю, і пра несупадзенне палітычных поглядаў. Беларускія творцы звярталі ўвагу на разбурэнне франтавога таварыства часоў Першай сусветнай пад уплывам рэвалюцыі і Грамадзянскай вайны («прыцягненне-адштурхоўванне» Тарэнты і Сузона з рамана «Праз гады» П. Галавача).

І нямецкі, і беларускія пісьменнікі разумелі, што іх персанажы — камбатанты і цывільныя — увасаблялі людзей, якія карысталіся рознымі семіятычнымі сістэмамі. Засваенне і фармуляванне правіл сусвету ў іх ішло адрозным чынам. Толькі частка каштоўнасцей захавала агульны для абодвух груп сэнс. Таму міжасабовыя зносіны ўяўлялі працэс, які прыносіў пачуццё раздражнення. Бяскрыўдныя выказванні былых франтавікоў здаваліся цывільнаму апафеозам цынізму. Былыя франтавікі у творах Э.М. Рэмарка і беларускіх празаікаў адчувалі, што яны не разумелі не толькі бацькоў. Героі твораў спрабавалі знайсці тлумачэнне таму, што моладзь гуляла ў вайну («Вяртанне») ці кіраваліся ў эпіцэнтр новай бойкі («Праз гады»).

Пісьменнікі падкрэслівалі, што іх персанажам не ставала часу на пошукі адэкватных шляхоў увасаблення ўласных поглядаў. Вярнуўшыся з вайны, дзеючыя асобы абіралі дзве лініі паводзін: замоўчвалі франтавы вопыт ці спрабавалі прыпадобніць аповеды да запатрабаванняў масы. Я. Скрыган выклаў сумневы свайго героя — Уладыся Барэйкі: «… вядома, можна было гаварыць бог ведае што. Няважна — праўда ці няпраўда, цяпер яму не страшна, а расказаць можна і сваё, і тое, што бачыў чужое. Калі б так расказаць, як ён бачыў, – валасы маглі б падняцца дыбка» [9, с. 48]. І нямецкі, і беларускія празаікі вырашалі гэту праблему так: яны выкарыстоўвалі натуралістычныя дэталі, каб прымусіць чытача да разважанняў пра звыродства цывілізацыі.

Вяртанне станавілася сінонімам сямейнай трагедыі. Э.М. Рэмарк і айчынныя мастакі слова («На этапе») апавядалі пра лёс былых салдатаў, якія пакутавалі ад сапраўдных ці выдуманых параз з боку блізкіх. Персанажы сумняваліся ў каханні жонак, іх здольнасці дачакацца. Пісьменнікі падкрэслівалі, што не ўсе адносіны праходзілі выпрабаванне вайной, бо нехта забываўся на франтавіка ў віры новых пачуццяў, нехта вымушана прымаў заляцанні (жонка

Альфрэда Бетке), нехта выракаўся мужа, пачуўшы пра яго калецтва (жонка Міхася з аповесці З. Бядулі «Набліжэнне»).

І нямецкі, і беларускія твcovid абыходзілі момант адаптацыі да мірнага жыцця герояў, якія мелі праблемы псіха-фізічнага кшталту. Мастакі слова абіралі жорсткія малюнкі, каб засведчыць, што нельга «глядзець на вайну, як на нешта прыгожае … абпяваць войны самымі пекнымі песнямі» [5, с. 188]. Тым больш, што чалавек гвалтоўна вырываўся са звыклай плыні жыцця. З. Бядуля адлюстраваў існаванне інваліда па зроку так: «… З кожным днём пачынае абвастрацца, як брытва, яго слых. … Як скупы песціць золата, песціць рыжы Антось людскія галасы. І ўсё прывыкнуць не можа да сваёй егіпецкай ночы. Лягчэй і хутчэй да яго слепаты прывыкаюць хатнія, родныя … У яго, Антося, нічога не пытаюцца. Не патрэбны ён … Чужы …» [3, с. 114].

Неўратычны стан былых франтавікоў пагаршаўся, бо жахлівыя сны вярталі персанажаў Э.М. Рэмарка, П. Галавача, М. Гарэцкага да мінулага. Перажытае звычайна прымала пачварныя формы. Вынікам адмоўных эмоцый рабіліся выбухі некантралюемай агрэсіі. Лявон Задума («На імперыялістычнай вайне») саромеўся, што без асаблівай нагоды пабіў сабаку і знішчыў голуба.

Дзеючыя асобы кніг Э.М.Рэмарка шмат часу выдаткоўвалі на пошукі годнага занятку, які б не траўміраваў душу. Для некаторых гэты працэс меў заканчэнне ў форме самагубства. Але пісьменнік не хаваўся за песімізмам, таму Эрнэст («Вяртанне») крочыў далей, прымаючы ўласнае выбітное становішча. Беларускія празаікі кідалі сваіх герояў у віхуру падзей: неабходна было наладжваць гаспадарку, займацца палітычным і нацыянальным самавызначэннем, супрацьстаяць састарэлым каштоўнасцям.

Паказальна, што беларускія мастакі слова таксама звярталіся да падзей нямецкай рэвалюцыі 1918 года. Яна згадваецца ў апавяданні «Герой нацыі» Э. Самуйлёнка і аповесці «Варта на Рэйне» А. Гародні.

Матыў «вяртання» застаўся надзвычай актуальным і для наступнага пакалення айчынных пісьменнікаў-баталістаў. Новая генерацыя (В. Быкаў, І. Навуменка, І. Чыгрынаў і інш.) спазнавала Першую сусветную не па творчасці беларускіх празаікаў, што па ідэалагічных чынніках замоўчвалася, а па спадчыне замежных аўтараў, кшталту Э.М. Рэмарка і Э. Хемінгуэя.

## ЛІТАРАТУРА


1. Адамовіч, Г. «Дадумваць да канца» і вопыт класічнай літаратуры пра вайну / Г. Адамовіч // Першая сусветная вайна ў народнай памяці і мастацкім адлюстраванні: мат. Міжнар. навук. канф. (Мінск, 7—8 кастрычніка 2014 г.) / прадм. і ўклад. С.Л. Гараніна; навук. рэд. А.І. Лакотка; Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі. – Мн: Права і эканоміка, 2014. — С. 86 — 90.

2. Быкаў, В. Доўгая дарога дадому. Кніга ўспамінаў / В. Быкаў. — Мн.: ГАБТ «Кніга», 2002. — 544 с.

3. Бядуля, З. Набліжэнне: Аповесць / З. Бядуля. – Менск, Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, сектар мастацкай літаратуры, 1936. – 230 с.

4. Галавач, П. Праз гады: Раман / П. Галавач. — Мн.: Мастацкая літаратура, 1984. – 368 с.

5. Зарэцкі, М. Сьцежкі-дарожкі / М. Зарэцкі. — Менск, Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, 1928. – 396 с.

6. Лявонава, Е. «Як з такой высокай праўдай паказаць і нашу вайну …» Эрых Марыя Рэмарк і яго ўплыў на творчасць Васіля Быкава і Віктара Някрасава / Е. Лявонава // Беларускае мастацтва слова ХХ ст. у еўрапейскім мастацкім кантэксце: тыпалогія, рэцэпцыя, пераклад. — Мн.: БДУ, 2014. — С. 156 —170.

7. Сінькова, Л. Творчасць Івана Навуменкі ў люстэрку ідэй «страчанага пакалення» / Л. Сінькова // Паміж тэкстам і дыскурсам: беларуская літаратура ХХ – ХХІ стст.: гісторыя, кампаратывістыка і крытыка (літаратурная крытыка, артыкулы, гутаркі). — Мн.: Паркус плюс, 2013. — С. 56 — 60.

8. Седельник,В. Эрих Мария Ремарк / В. Седельник // Литературный процесс в Германии первой половины ХХ века (ключевые и знаковые фигуры). — М.: ИМЛИ РАН, 2015. — С. 673 – 699.

9. Скрыган, Я. Затока ў бурах / Я. Скрыган // Выбраныя творы: у 2 тамах. — Т. 2.: Апавяданні. Аповесці. Літаратурны роздум. — Мн.: Мастацкая літаратура, 1985. — С. 7 — 55.

10. Тычына, М. Народ і вайна / М. Тычына. — Мн.: Беларуская навука, 2015. — 433 с.

11. Bloom, H. Introduction / H. Bloom // Erich Maria Remarque's All Quiet on the Western Front. Bloom's Modern Critical Interpretations. New Edition / ed. by H. Bloom. — New York: Infobase Publishing, 2009. — P. 1 — 2.

**Аляксандр Гугнін**

# Пахвальнае слова бібліяграфіі

*Маладым філолагам, якія ступаюць на ашаламляльны шлях навукі*

Са школьных гадоў я, быццам падпарадкаваны інстынкту, пачаў займацца бібліяграфіяй (яшчэ не ведаючы гэтага слова). Па рэкамендацыі бацькі — Гугніна Аляксандра Паўлавіча (1 верасня 1912 — 1 лютага 1987) — я пачаў складаць спісы прачытаных кніг і ўжо праз некалькі гадоў пераканаўся ў карыснасці гэтай працы. Чытаў я вельмі многа і бязладна і, час ад часу праглядаючы свае спісы, пачаў задумвацца: чаму чытаю гэтыя кнігі, а не іншыя — кніг жа на свеце так многа, што ўсе іх чалавек за сваё кароткае жыццё ніяк не здолее прачытаць (рэдка мой спіс за месяц дасягаў 15—20 кніг, часта ён завяршаўся на 8—12). Значыць, патрэбны адбор і самаабмежаванне. Але па якіх прынцыпах весці адбор? Я хутка зразумеў, што адбор залежыць не толькі ад таго, што хочацца, але і ад таго, што трэба. А што трэба? Хто гэта ведае? Бацькі, настаўнікі, знаёмыя? Так, і яны, але ў першую чаргу, напэўна, я павінен ведаць гэта сам, бо за мяне маё жыццё ніхто не пражыве і не злепіць, і раней ці пазней, але давядзецца прымаць самастойныя рашэнні. Іх часта шукаюць у парадах настаўнікаў, сяброў і бацькоў, але пры гэтым усе парады трэба прапускаць праз сябе, бо, у рэшце рэшт, мы маем адзінае ўласнае жыццё і тое, што мы хочам паспець у ім зрабіць, усё роўна залежыць у першую чаргу ад нас. Але што я хачу зрабіць у сваім жыцці? Гэта яшчэ трэба самому зразумець і даведацца. А значыць, трэба пастаянна развіваць сябе, што я пачаў разумець яшчэ ў школе, але праблема самапазнання аказалася не такой простай, бо самапазнанне даецца не толькі пры дапамозе чытання розных кніг, але і пры дапамозе штодзённай жыццёвай практыкі. Што ж пры гэтым важней — само жыццё ці веды пра жыццё, атрыманыя з кніг? Шчыра скажу, я і да гэтай пары не магу адказаць на такое пытанне, і — калі б мне прапанавалі паказаць гэта пры дапамозе шаляў — я хутчэй усталяваў бы на шалях раўнавагу.

Ужо навучаючыся ва ўніверсітэце, я сутыкнуўся з бібліяграфіяй у агульнараспаўсюджаным (філалагічным) сэнсе слова. Пры напісанні курсавых работ і рэфератаў маскоўскія прафесары і дацэнты прапаноўвалі нам прыводзіць у канцы бібліяграфію па тэме (то бок, тое, што мы выявілі падчас працы) і спіс выкарыстанай літаратуры (тое, што мы рэальна прачыталі і рэальна выкарысталі ў сваёй рабоце). Занятак гэты сам па сабе ўжо здаваўся цікавым, бо крыніц у маскоўскіх бібліятэках знаходзілася нямала, але ўсе іх прачытаць мы не паспявалі, і патрабаваўся аналітычны адбор найбольш важнага і неабходнага. То бок, зноў, але ўжо трошкі інакш, узнікала тое ж пытанне: чаму ты выбіраеш адны крыніцы, а іншыя ігнаруеш? Чаму ты ўпэўнены, што тыя крыніцы, якія ты выбраў і прачытаў, важнейшыя, карыснейшыя і лепшыя за тыя, якія ты праігнараваў? Ці выпадковы твой выбар, мо «на ўдачу» ён, мо зроблены інтуітыўна, залежыць ад розуму, узроўню ведаў, грунтуецца на ляноце, стараннасці, а мо залежыць яшчэ і ад нечага іншага?.. Гэта пытанне аказалася для мяне на студэнцкім этапе не такім простым і нават прывяло (разам з іншымі прычынамі, больш непасрэдна звязанымі з маім жыццём таго часу) да сур'ёзнага жыццёвага крызісу. На другім курсе (ужо на рамана-германскім аддзяленні, а да гэтага я паспеў павучыццца на славянскім і рускім аддзяленнях) прафесар Уладзімір Пятровіч Неустроеў (1911—1986) прапанаваў мне напісаць навуковую студэнцкую работу на тэму «Праблема спіназізму ў позняй творчасці Гётэ». Я (не вельмі доўга думаючы) пагадзіўся і, ужо ведаючы, наколькі неабходны папярэдні збор і вывучэнне бібліяграфіі, пайшоў спачатку ў Ленінскую бібліятэку (на гэта я ўжо меў дазвол), адносна лёгка адшукаў у алфавітным каталозе скрыню з надпісам «Гётэ» і пачаў яе праглядаць. Да закрыцця бібліятэкі я з вялікай цікавасцю праглядзеў першую скрыню (прыкладна 500 картак), вылучыў для сябе тое, што здавалася цікавым, і, акрылены паспяховым пачаткам працы, рушыў у інтэрнат. Наступнага дня я дастаў другую скрыню (якая мела столькі ж картак, што і першая) і з той самай цікавасцю пачаў праглядаць. Гадзіны праз дзве-тры мне прыйш-

ло ў галаву паглядзець: колькі ж усяго гэтых скрынь? Іх аказалася каля пяці (то бок, пятая была не цалкам запоўнена), і мой энтузіязм злёгку звяў. Прычым у прагледжаных скрынях Гётэ я не знайшоў ніводнай працы пра Спінозу, якога я тады зусім не ведаў (канечне, ведаў, што быў такі філосаф, але ніводнага тэксту яго не чытаў). Праглядаючы яшчэ два дні астатнія скрыні Гётэ, я зразумеў, што з дзвюх тысяч прац пра Гётэ, якія я так лёгка выявіў, для дадзенай курсавой — пры ўсім жаданні — змагу прачытаць не болей як 50 (100), ды і гэта яшчэ пад пытаннем. Я стаў тады выбіраць і перапісваць сабе ў сшытак тыя працы, якія падаліся мне найбольш цікавымі (пазней я таксама завёў карткі і запісваў крыніцы адразу на карткі і з шыфрамі бібліятэкі, каб хоць на гэтым эканоміць час). Тады да мяне дайшло, што мне патрэбна не ўся творчасць Гётэ, а толькі позні яе перыяд. Я ўздыхнуў з некаторай палёгкай, але гэтая палёгка была прывідная. Бо праз дзень або два я зразумеў, што для вылучэння «позняй» творчасці Гётэ мне ніяк не абысціся без ведання яго «ранняй» і «сярэдняй» творчасці (а можа быць, паколькі Гётэ жыў доўга, трыма перыядамі не абысціся)… Яшчэ ў школе я прачытаў «Фаўста», ведаў вершы і балады Гётэ, ведаў, канечне, і біяграфію, але ні пра якую перыядызацыю сур'ёзна не думаў. Пры ўсведамленні нарастаючага аб'ёму неабходнай працы мне зрабілася трошкі сумна, але я яшчэ спадзяваўся адолець праблему. Некалькі дзён прапускаў заняткі ва ўніверсітэце і з ранку да вечара сядзеў у бібліятэцы. Пачаў думаць, што я не філосаф і быццам не збіраюся быць філосафам, але як жа я буду пісаць пра спіназізм у позняй творчасці Гётэ? Стаў шукаць скрыні з бібліяграфіяй Спінозы, выпісаў тое, што знайшоў у перакладах на рускую, і занурыўся ў чытанне «Этыкі». Для мяне тады гэта аказалася практычна неадольным чытаннем, нашмат больш цяжкім, чым чытанне Маркса, Энгельса і Леніна, да якіх бацька імкнуўся прывучыць мяне яшчэ ў школе. Я да сямі гадоў жыў у вёсцы і на хутары, дзе ўсё было канкрэтна і відавочна, мысленне абстрактнымі філасофскімі катэгорыямі было абсалютна не запатрабавана, ды і пры навучанні ў школе нашы настаўнікі ўсяго такога пазбягалі. І як прыладзіць гэта маё пакутлівае чытанне Спінозы да Гётэ, у якім я адчуваў любоў да канкрэтнага ва ўсім, што я ў яго чытаў? Значыць, я шмат яшчэ не чытаў?.. Паступова мяне пачала адольваць дэпрэсія (заняткі прапускаю — там таксама ўзнікнуць прабелы, але і засваенне тэмы практычна не прасоўваецца, я не адчуваю яшчэ нават увесь аб'ём неабходнай працы, і паступова мне становіцца ясна, што такую навуковую працу ні за тыдзень, ні за месяц зрабіць немагчыма (мне, ва ўсякім выпадку)… Пайшоў на кансультацыю да прафесара з надзеяй атрымаць ад яго талковую параду. Не буду перадаваць увесь змест нашай размовы, пра якую я па-рознаму думаў у наступныя гады свайго жыцця, скажу толькі, што мяне ўразіў аптымізм Уладзіміра Пятровіча і запомніліся яго выніковыя словы: «Саша, мяне радуе, што вы рухаецеся лагічна правільным шляхам: для ведання «позняга Гётэ» неабходна веданне ўсёй яго творчасці, а для вызначэння ступені ўплыву спіназізма на познюю творчасць Гётэ неабходна веданне Спінозы, і вы абсалютна правільна выбралі «Этыку» — я віншую вас з паспяховым пачаткам працы, вы стаіце на правільным шляху!» Да гэтага часу ў мяне ў вушах гучыць пахвала сталага і паважанага прафесара, хоць пасля размовы з ім я інтуітыўна пачаў разумець, што працу аб праблеме спіназізма ў позняй творчасці Гётэ я ў бліжэйшыя гады не напішу. Я не напісаў гэтую працу і дасюль[1], але на ўсё далейшае немалое жыццё зразумеў, наколькі важны ўжо сам выбар тэмы, адчуванне яе пасільнасці або непасільнасці для цябе сённяшняга, і з той пары імкнуся сам выбіраць такія тэмы, якія мне не толькі цікавыя, але і ўяўляюцца пасільнымі…

На працягу 10—15 гадоў я працаваў пазаштатным рэферэнтам па літаратуры ГДР у часопісе «Иностранная литература» (гэта значыць, абавязаны быў кожны месяц рабіць агляды кніжных навінак, сачыць за тэатральным жыццём і ўвогуле за усімі важнейшымі падзеямі ў сферы культуры); пры ўсёй працаёмкасці гэта аказалася таксама вельмі карысным — хочаш не хочаш,

[1] Я не напісаў гэтую працу не таму, што не мог напісаць яе, а таму, што гэтая тэма яшчэ не ўвайшла ў сферу тых навуковых накірункаў, якія я паступова вызначыў для сябе ў якасці жыццёва неабходных, то бок, такіх, якія складаюць сэнс майго *адзінага* жыцця. Праўда, для таго каб па-сапраўднаму вызначыць гэты сэнс і гэтыя накірункі, мне спатрэбіліся гады і гады…

я павінен быў штомесяц прачытваць ці хаця б праглядаць вялікую колькасць кніг, часопісаў і газет, сістэматызаваць і апісваць прачытанае на 20—30 машынапісных старонках і атрымліваць за гэта задавальненне 50 рублёў штомесячна. Такая «чарнавая» праца паслужыла мне ў многіх сэнсах: вывучаючы планы і прачытваючы амаль усе кнігі усходне-нямецкіх выдавецтваў, я імкнуўся вызначыць найбольш перспектыўных аўтараў, вылучыць найбольш яркія творы, і калі ў 1977 годзе два тыдні прабыў у Берліне на Першым міжнародным семінары перакладчыкаў літаратуры ГДР, адразу ж здолеў «выйсці» на пісьменнікаў, якія найбольш мяне зацікавілі (Крыста Вольф, Хайнер Мюлер, Фолькер Браўн, Франц Фюман, Карл Мікель і інш.), і адразу ж усталяваць з імі пастаянныя сяброўскія стасункі. Гэта было нескладана, паколькі я паспеў прачытаць іх кнігі (і на некаторыя ўжо адгукнуўся рэцэнзіямі ў часопісах); мы адразу ж пачалі размову пра гэтыя творы і пра сучасную літаратуру ўвогуле, і такія размовы (з Хайнерам Мюлерам або Фолькерам Браўнам) маглі доўжыцца суткамі. У тую ж паездку я паспеў пазнаёміцца з некаторымі буйнымі крытыкамі (Ева і Ганс Каўфманы) і прадстаўнікамі буйнейшых выдавецтваў (спаць проста не было калі…) У наступныя гады мне заставалася толькі падтрымліваць завязаныя стасункі і развіваць іх далей.

Такім чынам, уласная бібліяграфія адлюстроўвае не толькі фармальны (знешні) бок (апублікаваныя рэцэнзіі, рэфераты, агляды, артыкулы, прадмовы, каментарыі, пераклады, складзеныя кнігі і — як канчатковы вынік гэтай вялікай папярэдняй працы — главы ў акадэмічных працах і падручніках і ўласныя кнігі пра сучасных пісьменнікаў і сучасны літаратурны працэс), але і не менш важны (нефармальны) бок заняткаў літаратурай (асабліва сучаснай). Па сутнасці, заняткі літаратурай пастунова зліваюцца з самім жыццём нейкай непазбежнай і непарыўнай унутранай сувяззю, калі ўжо практычна немагчыма адрозніць, дзе канчаецца навуковае асэнсаванне літаратурнага працэсу і пачынаецца само жыццё. Бо літаратурны працэс — гэта і ёсць своеасаблівая жыццятворчасць, важны складнік самой літаратуры. Пазней я адзначыў падобнае зліццё літаратурнага і жыццёвага працэса як «жыццёвае літаратуразнаўства», якое, я глыбока перакананы, ніяк нельга змешваць з «безжыццёвым літаратуразнаўствам». Апошняе жангліруе пустымі тэрмінамі, якія нічога сапраўднай навуцы не дадаюць (канцэпт, парадыгма, тэзаурус, архетып і дзясяткі падобных да іх), ні на крок не набліжаюць да разумення твора як неад'емнай і нічым не замянялънай формы жыццятворчасці, а бессэнсоўна аддаляюць ад гэтай жыццятворчасці ў (на першы погляд) «глыбакадумнасць», але, па сутнасці, у звычайнае і дастаткова прымітыўнае «славаблудства». Падобнае (унутранае) ужыўленне ў літаратурны працэс, канечне, мае асаблівы плён у час заняткаў сучаснай літаратурай (невыпадкова «Літаратурныя партрэты» Сент-Бёва ці «Агляды» рускай літаратуры В. Бялінскага і сёння часцяком прачытваюцца з большай цікавасцю і карысцю, чым бухгалтарскія падлікі канцэптаў і тэзаурусаў у творчасці пісьменнікаў, якія мільгаюць у сучасных дысертацыях і манаграфіях), але падобным чынам ужыўляцца можна і трэба і ў літаратуру аддаленых эпох, якія таксама мелі жывы літаратурны працэс і чыя літаратура таксама ўяўлялася яскравейшай формай жыццятворчасці. Але для ўжыўлення ў мінулыя эпохі неабходна развіваць гістарычнае мысленне («мінулае — у сучаснасці — з будучыні» — па формуле Аляксандра Віктаравіча Міхайлава, (1938—1995)).

За сваё жыццё я пакінуў (і апублікаваў) дзясяткі і дзясяткі розных бібліяграфій, і праца над кожнай з іх была па-свойму захаплялъная, а часам нават і вострасюжэтная. Пры ўважлівым складанні любой бібліяграфіі перад вачыма праходзяць не толькі разнастайныя пласты культуры, але выстройваюцца і жывыя асобы (бо ў культуры нічога не памірае!) — знаёмыя і незнаёмыя: са знаёмымі вітаешся і размаўляеш, успамінаеш, калі і дзе ты з імі ўпершыню сустрэўся і колькі разоў вашы шляхі перасекліся; з незнаёмымі хочаш хутчэй пазнаёміцца, даведацца пра іх больш і зразумець, чаго яны вартыя. А колькі нечаканых і ашаламляльных сустрэч выяўляеш падчас бібліяграфічнай працы! Няхай жыве бібліяграфія, захавальніца памяці, адзін з неад'емных складнікаў філалагічнай навукі!

# Дзмітрый Лазоўскі і тры абвяржэнні сумніўных ісцін

**Па абсалютныя ісціны трэба сягаць у нябёсы, усе астатнія — досыць адносныя. Вось і размова з доктарам тэхнічных навук, прафесарам, рэктарам Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта Дзмітрыем Лазоўскім абвергла адразу тры з іх: пра тое, што калі дзіця ўжо не кладзецца ўпоперак лаўкі, выхоўваць яго позна, пра нізкую столь у кар'еры выдатніка, пра немагчымасць лідэрства для рэгіянальнай ВНУ. Пытанні задавала Святлана Воцінава.**



**— Вы былі прызначаны рэктарам Полацкага ўніверсітэта ў той жа год, калі на яго баланс быў перададзены будынак езуіцкага калегіума, які ўвабраў «мудрасць езуітаў, пабожнасць піяраў, доблесць кадэтаў, але аб многіх таямніцах дагэтуль маўчыць». Што яго сцены — для вас? Ці чакаеце ад іх новых адкрыццяў?**

— Так, у 2003 годзе корпусы езуіцкага калегіума былі перададзены ўніверсітэту з балансу Міністэрства абароны. З гэтай падзеі пачалася новая старонка гісторыі Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта, былога Наваполацкага політэхнічнага інстытута. Папярэдні рэктар, Эрнст Міхайлавіч Бабенка, справядліва бачыў наступнае: Наваполацк, канечне, месца дастойнае — і новы горад, і прамысловы цэнтр, на якім трымаецца ўвесь рэгіён, — але навучанне на гэтай зямлі мае гісторыю значна глыбейшую, і не можа тутэйшая адукацыя не бачыць сваіх каранёў. Каб адбылося гэта, кіраўніцтвам універсітэта была праведзена вялізная праца. Першыя цяжкасці звязваліся з тым, што будынак належаў шпіталю, у якім лячыліся ветэраны вайны і адстаўнікі. Як ні круці, аб'ект гэты быў патрэбны. Але полацкая інтэлігенцыя не магла не разважаць над лёсам будынка і не засталася ў баку ад спрэчак і абмеркаванняў, а тагачасны міністр абароны Леанід Мальцаў прасякнуўся гісторыяй калегіума і сэрцам адчуў, што правільна будзе аддаць яго ўніверсітэту. З таго моманту гісторыя зрабіла паварот: універсітэт не толькі пачаў насіць назву старажытнага горада, але ён ужо і размяшчаўся ў старажытным горадзе. Быццам і новы крок, і новая старонка, і новая глава у гісторыі ўніверсітэта, ды лепш сказаць, што ён вярнуўся на сваё старое, даўно яму прызначанае месца.

Гісторыя Полацкай зямлі, канечне, складаная, але адназначна гэта быў цэнтр адукацыі і культуры. І калі ўніверсітэту перадалі калегіум, ён убачыў сваё прызначэнне: быццам у будучыню рухацца, але адначасова і ў мінулае. Карані, да якіх нам ісці і ісці, але якія мы паступова адраджаем, даюць моцы і велічы не толькі ўніверсітэту, але і ўсёй адукацыі Беларусі. Таму да гэтых сцен стаўленне ў кожнага, хто б сюды ні трапляў, містычнае: у сценах гэтых захапляюцца і натхняюцца. І мо было б прасцей пакласці на некаторых паверхах новую кафлю, бо з ча-

сам старая, якой больш за сто, нават дзвесце гадоў, пасціралася, тым не менш падыход у нас іншы: як мага больш, як мага захаваць усё так, як было. Чыгунныя прыступкі старой лесвіцы на ніжніх паверхах адшліфаваліся, але па іх хадзіла Кацярына. На жаль, шмат з таго, што належыць калегіуму, страчана, але нешта ў свеце яшчэ, спадзяёмся, ёсць, што яму дакладна належала. Таму і адкрыцці, упэўнены, непазбежныя.

**— Чыя гэта была ідэя — пакінуць атмасферу ў будынку былога калегіума такой, каб яна не толькі настройвала на засваенне гісторыі, але і прымушала студэнтаў з'яўляецца ледзь не сведкамі ранейшых часоў і падзей?**

— Пакінуць адкрытымі часткі старых сцен, захаваць скляпенні і лесвіцу, размясціць чытальную залу на месцы ранейшай — усё гэта было закладзена ў праекце, зацверджаным Міністэрствам культуры, і навуковы кіраўнік Вадзім Васільевіч Гліннік пільна сачыў за выкананнем таго, на што мы, прадстаўнікі ўніверсітэта, і без таго вельмі ахвотна ішлі, бо гэта і ўпрыгожвае, і даказвае важны факт: аб'ект не з'яўляецца «навастроем». У якасці музея гэты будынак і не разглядаўся. Музеяў дастаткова і без яго, а вось вярнуць гістарычнаму месцу права прыносіць практычную карысць — стварыць прастору быццам музейную, але каб яе не проста наведвалі з мэтай толькі паглядзець, а выкарыстоўвалі для навучання, каб яна натхняла на разумовую дзейнасць, жывіла ўражаннямі дзеля будучых поспехаў, — ідэя каштоўная. Дзеля яе рэалізацыі і бібліятэка размешчана сёння там, дзе яна размяшчалася ў езуітаў. Падчас вайны акурат у гэта месца ўпала бомба. Яна прабіла дах і перакрыцце, але не разарвалася, і амаль да нашых дзён, паколькі ніхто гэтую частку калегіума не эксплуатаваў, тут зеўрала дзірка. Мы ўзнавілі скляпенні сучаснымі метадамі, абсталявалі бібліятэку і канцэртную залу. Увогуле, вучыцца ў такім месцы — справа незвычайная, нашы выпускнікі дакладна маюць нешта такое, чаго не маюць выпускнікі іншых універсітэтаў. Ніхто тут не псуе ні сцены, ні мэблю, ніхто нічога на іх не крэмзае. Сама атмасфера не дазваляе гэта рабіць.



«Аддаю перавагу літаратуры, звязанай з вышэйшай школай, цікаўлюся сусветнымі тэндэнцыямі ў адукацыі».

**— Вы скончылі, па сутнасці, тую самую навучальную ўстанову, хоць і называлася яна інакш. Як пачынаўся ваш асабісты шлях да таго, што ёсць сёння?**

— Мне з самага пачатку пашанцавала: я тут нарадзіўся. Як толькі пачалося ў 1962 годзе будаўніцтва нафтаперапрацоўчага завода, дзе працавалі мае бацькі, я, трохгадовы, стаў жыхаром маладога горада Наваполацка. І калі ўзнікла пытанне, дзе атрымаць вышэйшую адукацыю, Наваполацкі політэхнічны інстытут, які меў тады пяць-шэсць спецыяльнасцей, не мог не разглядацца. Лёс закінуў на будаўніцтва — прамысловае і грамадзянскае. То бок, па адукацыі я будаўнік. У развіцці нашай навучальнай установы — спачатку філіяла адразу дзвюх ВНУ Мінска, тэхналагічнага і політэхнічнага інстытутаў, а пасля ўжо самастойнай — заўсёды ўдзельнічаў той, хто тут вучыўся. Аб развіцці матэрыяльна-тэхнічнай базы клапаціліся ўсе і ўсімі даступнымі сродкамі, у тым ліку і «вячэрнікі» на сваіх прамысловых аб'ектах і ў лабараторыях. Кожны студэнт меў пачуццё гонару, і ніхто не сумняваўся, што ён вучыцца ў найлепшым інстытуце рэспублікі, хаця і новым.

Кіраўнікоў за ўсю агульную гісторыю ўстановы налічваецца пакуль толькі тры: Эрнст Міхайлавіч Бабенка, Пётр Іванавіч Швед і я. Мае папярэднікі рабілі максімальна магчымае для развіцця ўстановы, і кожны член калектыву гэта адчуваў, і ў кожнага было жаданне працаваць так, каб станавілася лепш і лепш. Я скончыў аспірантуру ў Маскве, тры гады там правучыўшыся, але і

думкі не прамільгнула, каб там, у Маскве, і застацца, і што недзе ў іншым месцы, а не тут я магу спатрэбіцца. Спачатку працаваў дэканам, пасля прызначылі рэктарам. Калі ўжо надышла мая чарга, дык хіба ж мог я не пакінуць след у гэтай установе? Безумоўна, размова ідзе пра ўсе накірункі працы: і вучэбны працэс, і навуковую дзейнасць, і матэрыяльнае забеспячэнне.

За чатырнаццаць гадоў майго рэктарства галоўнае дасягненне — калегіум. З 2005 да 2015 года ён уладкоўваўся і ўладкаваны цяпер так, што нават прэзідэнт яго адзначыў: так павінен выглядаць кожны ўніверсітэт. Прытым сродкі былі задзейнічаны мінімальныя. Мы падыходзілі да ўзнаўлення вельмі эканомна. Выдаткавана вялікая колькасць нашых, чалавечых, рэсурсаў — гэта іншая справа. Паколькі ўніверсітэт мае спецыяльнасці, звязаныя з будаўніцтвам, то і задзейнічаны былі выкладчыкі і студэнты — і ў праектаванні, і пры ўнясенні змен у праект, і на саміх будаўнічых пляцоўках, якія былі звычайна базай практыкі для нашых студэнтаў і студэнцкіх атрадаў. Усё рабілася ўласнымі сіламі: дзейнасць папярэднікаў не давала магчымасці працаваць неяк іначай. Я і цяпер, як некалі студэнтам, адчуваю, што наш універсітэт лепшы. Але пакуль пануе такі падыход: лепшыя ўніверсітэты апрыёры сталічныя. Між тым ва ўсім свеце лепшыя ўніверсітэты размяшчаюцца якраз не ў сталіцах, і гэты тэзіс мы падтрымліваем. Усё ж прызначаны лепшым і сапраўды лепшы — гэта розныя рэчы.



Ля бібліятэкі, у праектаванні якой браў удзел Дзмітрый Лазоўскі.

**— Вы назвалі папярэднікаў, сказаўшы пра іх вельмі цёплыя словы. А хто і што паўплывалі на ваш светапогляд у школьныя гады?**

— Я скончыў школу з залатым медалём, і тут трэба дадаць, што я сапраўды вучыўся, — выконваў усе хатнія заданні. Кажуць, нехта можа быць вельмі разумным і вучыцца яму лёгка. Я зарабляў адзнакі працай, стараннем, упартасцю. Гэтак жа вучыўся і ў інстытуце. Спецыяльнасць была складаная, тэхнічная, але я вучыў заўсёды больш чым на пяць балаў і скончыў з сярэднім балам 5,0. Хоць пра некаторыя прадметы казалі так: гэта не трэба, гэта не спатрэбіцца, гэта лішняе. А ў выніку ўсё трэба, усё як-небудзь спатрэбілася, нічога лішняга, як паказала жыццё, няма. І нават на сённяшняй пасадзе, вырашаючы нейкія тэхнічныя, калябудаўнічыя пытанні — звязаныя з якім-небудзь водазабеспячэннем ці водаадвядзеннем, — я аказваюся ў курсе ўсіх спраў, і неяк вельмі лёгка ўспамінаецца ўсё, што атрымаў падчас навучання. Я і сёння гавару студэнтам, што лішніх ведаў не бывае і лепш вучыцца, чым не вучыцца. У аспірантуры я таксама імкнуўся быць лепшым. Пасля вяртання сюды на працу займаўся на кафедры навуковай дзейнасцю. Пад маім кіраўніцтвам дыпломнікі тры гады запар займалі першыя месцы ў конкурсе дыпломных праектаў сярод студэнтаў больш за паўсотні будаўнічых ВНУ краіны. Гэта яшчэ ў Савецкім Саюзе. Неяк так павялося, што я заўсёды імкнуся зрабіць як мага лепш, падысці да справы з творчага боку. Маім падначаленым, можа, і складана са мной працаваць у нейкія пэўныя моманты, але ў рэшце рэшт яны пераймаюць мае імкненні і гэты лозунг, можна назваць яго ўстаноўкай або крэда: калі мы нешта робім, то робім гэта добра, інакш нам не трэба. Усе прарэктары, якія са мной працуюць, ведаюць, што калі мы нешта робім, то робім на «выдатна», або, калі не на «выдатна», не робім зусім.

**— Чаму вы абралі будаўніцтва?**

— Яшчэ ў дзясятым класе я займеў цягу да будаўніцтва. Але пад уплывам настаўніка матэматыкі закончыў завочную фізіка-матэматычную школу пры Маскоўскім дзяржаўным універсітэце, і нас, яе выпускнікоў,



Адкрыццё вучэбна-навукова-практычнага юрыдычнага цэнтра.

запрасілі паступаць у МДУ. Конкурс складаў чатыры з паловай чалавекі на месца і з двухсотпяцідзесяці абітурыентаў механіка-матэматычнага факультэта (спецыяльнасць «Матэматыка») адных толькі медалістаў было дзвесце трыццаць. Я не паступіў — не хапіла паловы бала. Але ў МДУ экзамены здаваліся раней, чым у іншыя ВНУ, таму я мог з тымі ж адзнакамі пайсці ў Наваполацкі політэхнічны інстытут, што і зрабіў.

**— Вам самому і людзям, якія вас добра ведаюць, вы падаецеся рамантыкам ці… Усё ж будаўніцтва — гэта нешта прыземленае, фундаментальнае.**

— Яны бачаць ува мне прагматыка, гэта дакладна.

**— Але ж прагматык проста ўзяў бы і зрабіў звычайны рамонт у будынку калегіума і не важдаўся б ні з гадзіннікам у дворыку, ні з езуіцкім калодзежам там жа, ні з галавою Сакрата.**

— Значыцца, гадзіннік, яго гісторыя. Неяк па адным з праектаў я паехаў у камандзіроўку ў Кракаў. Там недалёка ад Ягелонскага ўніверсітэта стаіць помнік Пятру Скарзе, першаму рэктару Полацкага езуіцкага калегіума,— высокі велічны помнік. Зайшоў і ў Ягелонскі ўніверсітэт, пахадзіў па яго калідорах. Праект адзін у адзін з нашым, толькі матэрыялы іншыя — больш цэглы і каменю, ды гісторыяй не так паранены — не кранулі яго так вайна і іншыя выпрабаванні. Там жа, у Ягелонскім універсітэце, ва ўнутраным дворыку ўбачыў гадзіннік — такі самы, як цяпер у нас, і ў такім жа месцы ўсталяваны. Толькі акадэмічнае шэсце каралеўскае і ў каляровых вопратках, а нашы фігуры — Ефрасіння Полацкая, Францыск Скарына, Пётр Скарга, прафесар і студэнт — выглядаюць, як медныя. І гэты гадзіннік мы стварылі сваімі сіламі: усё — ад балкона да механізмаў — вынік працы машынабудаўнічага факультэта, сістэму рухаў распрацавалі на радыётэхнічным факультэце. І атрымліваецца, у Еўропе цяпер тры такія гадзіннікі: у Празе — першы, у Кракаве — другі, у Полацку — трэці. Так, наш гадзінік — гэта не гістарычная каштоўнасць, а «навадзел», але ён добра ўпісаўся ў агульны антураж і ўжо з'яўляецца традыцыяй. Пройдзе час, ён нікуды не падзенецца, толькі стане старым — ператворыцца ў гістарычную каштоўнасць.

Другі праект — гэта калодзеж. Казалі нашы гісторыкі, што недзе ў дворыку калегіума павінен быць калодзеж. У нас на кафедры будаўнічых канструкцый ёсць геарадар, які бачыць на глыбіню да трох дзясяткаў метраў, выкарыстоўваецца і будаўнікамі, і гісторыкамі. Гэты прыбор і выявіў, што сапраўды існуе падземны аб'ект, і вызначыў нават памеры. Раскапаць яго было складана: ён быў цалкам закіданы зямлёю і розным смеццем. Але калодзеж раскапалі і аднавілі. Мастак Віктар Лук'яненка, які выкладае на кафедры архітэктуры і дызайну, стварыў адмысловае абрамаванне, і ў 2012 годзе за тры-чатыры дні быў зманціраваны і адкрыты новы цікавы аб'ект.

Пасля надышла чарга скульптурнай кампазіцыі «Студэнт». Безумоўна, з таго часу. Сёлета да дня ўніверсітэта паставім кампазіцыю «Прафесар», таксама з таго часу, і гэта будзе падзея, бо скульптар, той самы, які стварыў і «Студэнта», — Аляксандр Прохараў, дэкан мастацкага факультэта Акадэміі мастацтваў — знайшоў супер-рашэнне: і ў позе, і ў вопратцы, з якой, дарэчы, дапамагалі нашы гісторыкі. «Студэнтка» новага часу ужо ёсць у Наваполацкім вучэбным корпусе, і сучасны выкладчык таксама з'явіцца. Усё гэта мы робім для таго, каб падтрымліваць асяроддзе, якое тут некалі панавала, павышаць аўтарытэт гісторыі, стаўленне да яе і цікавасць з боку нашых студэнтаў.

Яшчэ адна ідэя — механічная галава. Здавалася б, забаўляльны праект, цацка, але мы вычыталі пра гэтую галаву і вырашылі таксама яе «вярнуць». Сапраўды, як пісалася, існавала ў сцяне ніша з галавой, хутчэй за ўсё, за сцяною сядзеў нехта вельмі разумны, каму можна было задаваць пытанні на пяці мовах і атрымліваць адказы. І школьнікі таго часу да яе сапраўды хадзілі, такое было. Безумоўна, часы мяняюцца, і сёння ніхто б не здзівіўся, калі б за сцяной хтосьці нешта гаварыў. Хто разабраў не адну кітайскую цацку, той добра ведае, як такую разумную галаву можна зрабіць нават з мімікай для выяўлення эмоцый. Маску ў выглядзе твару Сакрата, як і было ў мінулыя часы, стварыў нам згаданы ўжо Аляксандр Прохараў, усе механізмы, начынне, кантролерныя сістэмы — радыётэхнічны факультэт сумесна з машынабудаўнічым і факультэтам інфармацыйных тэхналогій. У дадатак мы ажыццявілі гістарычнае ўзнаўленне аўдыторыі: кафедра і драўляныя лавы са спінкамі, як у тыя часы. Гэта памяшканне карыстаецца вялікай папулярнасцю і мае адразу два прызначэнні: у ім праводзяцца экскурсіі для ўсіх жадаючых і заняткі для студэнтаў, якія навучаюцца па спецыяльнасці «Турызм і гасціннасць». Для апошніх гэта проста аўдыторыя. Спінкі на лавах пераносяцца ў адзін бок, каб пагаварыць з Сакратам, і ў процілеглы, да экранаў, — каб паслухаць выкладчыка. У бліжэйшых планах — адкрыццё экспазіцыі па гісторыі калегіума, з артэфактамі, археалагічнымі знаходкамі ў прамым доступе, каб гісторыю калегіума і тутэйшай адукацыі раскрыць на фактычных матэрыялах.

**— Атрымліваецца, што вашы выкладчыкі, факультэты і кафедры ў такім зайздросным адзінстве і нават сяброўстве працуюць над тым, што не ўваходзіць у абавязковую праграму, а толькі з'яўляецца дадатковай прывілеяй. А чым яшчэ полацкія выкладчыкі не падобныя да іншых?**

— Так, калектыў наш вельмі працаздольны. У адрозненне ад так званых вядучых ВНУ сталіцы, дзе сярэдні ўзрост выкладчыкаў — каля 60 гадоў, сярэдні ўзрост нашых выкладчыкаў — 42 гады. Мы ўсё робім для таго, каб ствараць перспектыўныя магчымасці для таленавітай моладзі. Ідэя наша ў тым, што на кафедру абавязкова павінны прыходзіць маладыя людзі. Кожнаму з іх даюцца два тэрміны па пяць гадоў, на працягу якіх малады выкладчык павінен абараніць дысертацыю. Гэта своеасаблівая ліцэнзія на далейшую выкладчыцкую дзейнасць, так прынята ва ўсім свеце: калі хочаш выкладаць, то абавязкова павінен займацца навукай, бо інакш выкладаць якасна ты не зможаш. Канечне, за дзесяць гадоў, як бы там ні было, чалавек ператвараецца ў якаснага выкладчыка, і загадчык кафедры заўсёды яго, вопытнага, падтрымае, бо за яго перажывае больш, чым за некага новага, яму невядомага. Але паглядзім на такога выкладчыка з іншага боку: ведамі ён быццам валодае, але дысертацыю абараніць не здолеў, значыць, не можа рашыць навуковую задачу, і калі так, то павінен даць месца таму, хто можа яе рашыць. Парадак ёсць парадак. І свежая кроў ёсць свежая кроў.



«Наш універсітэт мае ўсё, каб стаць лепшым: і месца, і папярэдне зробленае, і базу, матэрыяльную і духоўную, і бласлаўленне гісторыяй. І ён будзе лепшым!»

Што яшчэ вызначае асобу і пазіцыю нашых выкладчыкаў? Ёсць, ведаеце, патрыятызм вялікай нацыі, а ёсць патрыятызм нацыі маленькай. Дык вось розніца паміж нашымі выкладчыкамі і выкладчыкамі сталічных ВНУ якраз такая — як паміж патрыятызмамі нацый. Сталічная ВНУ не адчувае страху, што яе могуць закрыць, а тут, на перыферыі, мы заўсёды змагаемся за выжыванне і існаванне. І гэта не мінае выкладчыка. Патрыятызм выкладчыка рэгіянальнай ВНУ (я ўпэўнены, не толькі нашай) адрозніваецца ад патрыятызму выкладчыка больш шчаслівай (у адміністрацыйна-тэрытарыяльным сэнсе) установы.

Наша ВНУ размешчана нават не ў абласным горадзе, а ў самым што ні ёсць рэгіёне. Але рэгіён гэты найцяснейшым чынам звязаны з вытворчасцю. Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт на 60 працэнтаў складаецца з тэхнічных спецыяльнасцей, і ўсе яны арыентаваны на мясцовую вытворчасць — нафтаперапрацоўку і хімічную прамысловасць, «Нафтан» і «Палімір», дзе працуе вялізная колькасць нашых выпускнікоў. Да таго ж з гэтымі комплексамі звязаны нашы выкладчыкі і навукоўцы. Гэта і ёсць іх адметная рыса: непасрэдная сувязь з жыццём, прамысловасцю, галінамі вытворчасці. А нашы студэнты тэхнічных факультэтаў не маюць ніякіх праблем ні з практыкай, ні з размеркаваннем, яны больш адаптаваныя да жыцця. Але і гуманітарныя спецыяльнасці не ў занядбанні: сёння ўсе павярнуліся да замежных моў, і рэгіянальнаму ўніверсітэту яны таксама патрэбны. І сам рэгіянальны ўніверсітэт вельмі важны для краіны. Сёння гэта не ўсе разумеюць, і зноў сталічныя ВНУ цягнуць на сябе коўдру: маўляў, няхай рэгіянальны рыхтуе спецыялістаў на першай ступені адукацыі, а другую бярэ на сябе сталіца. Толькі ж гэта шлях у нікуды — у бок бананавай рэспублікі з адным адукацыйным цэнтрам і рэгіёнамі, у адукацыйным сэнсе закінутымі. А мы тым часам рыхтуем кадры, заточаныя пад тое, дзе яны будуць працаваць.

Памятаецца, дзесяцігоддзямі чакала Полаччына архітэктараў, хаця б якога выпускніка з Мінска, бо пасады архітэктараў займаліся будаўнікамі. Архітэктары прыязджалі і ад'язджалі, ніхто не хацеў заставацца. Адкрылі сваю такую спецыяльнасць — і нашы выпускнікі-землякі тут з радасцю застаюцца. Увогуле, ёсць і адваротная з'ява: чым больш мы працуем са школамі, рыхтуючы вучняў да алімпіяд, тым больш спрыяем таму, што лепшыя з лепшых выязджаюць у Мінск паступаць. Пытаем: чаму? Бацькоўскі адказ: а раптам застанецца жыць у Мінску? То бок, бацькі накіроўваюць дзяцей у сталіцу не па якасць адукацыі, а з надзеяй «раптам застанецца». Калі ўвесь час «вымываць» адсюль лепшых, нічога добрага не будзе і тут.

Рэгіянальныя ВНУ проста неабходныя. Усё жыццё з усіх трыбун я гавару пра роўныя магчымасці для ўсіх ВНУ. Варта толькі падлічыць, колькі каштуе адзін выпускнік, і стане зразумела: наш, рэгіянальны, каштуе менш, дык ці варта пускаць сродкі на вецер?

Больш за тысяча дысцыплін выкладаецца ў нас, і па кожнай дысцыпліне ёсць вучэбна-метадычны комплекс: канспект лекцый, указанні да практычных работ, праграмы, пытанні, тэсты — кожны выкладчык мае сваю метадычную базу. Пачыналі гэту традыцыю дзесяць гадоў таму, пераадольваючы і нежаданне, і страх «рассакрэчвання» дадзеных, але спачатку на паперы, а цяпер ужо і ў электроннай форме існуюць нарэшце такія базы. Сутнасць іх існавання ў тым, што найбольшыя веды студэнт атрымлівае не тады, калі проста праслухвае лекцыю, і не тады, калі слухае і запісвае, а тады, калі асвойвае тэму самастойна, з выкарыстаннем наяўных крыніц, сучасных методык, інфармтэхналогій. Тут, трэба сказаць, мы адны з лепшых у краіне. Паколькі нашы выкладчыкі пераважна маладыя, то гэта ім лёгка асвоіць. Пачыналася з завочнага навучання — як найбольш ушчэмленай формы сувязі са студэнтам. Дні завочніка вялікага эфекту не давалі, а сёння выкладчыкі праз выкарыстанне інфармтэхналогій даюць завочнікам заданні кожны тыдзень, а тыя іх выконваюць і трымаюць сябе, такім чынам, увесь час у тонусе. Канечне, спачатку яны супраціўляліся — бо трэба ж без перапынку вучыцца! Але падладзіліся і адчулі, што якасць адукацыі павысілася. Тое самае адбываецца і з дзённай формай навучання.

Нашы выкладчыкі адрозніваюцца яшчэ і тым, што вельмі шмат часу вылучаюць на індывідуальныя заняткі са студэнтамі. ПДУ не спускаецца ніжэй за 5—6 месцы па студэнцкай навуцы, бо выкладчыкі на тое маюць час. Сталічныя ж выкладаюць у двух-трох ВНУ, бегаюць паміж імі і няма калі ім на студэнта звярнуць увагу. Нашы са студэнтамі працуюць эксклюзіўна, адсюль і вынікі. Калі б да нас яшчэ і прыходзілі самыя таленавітыя – тыя, што ў Мінск паступаюць…

**— А што вы думаеце пра вышэйшую адукацыю наогул? Можна ж не мець яе і быць і разумным чалавекам, і самадастатковым, і шчаслівым. А ў іншага, бывае, адукацыя ніякага дыплома не вартая.**

— Нам тут нікуды не падзецца ад сусветных тэндэнцый, паводле якіх вышэйшая адукацыя стала масавай з'явай. Гэта першае. Другое — адукацыя ёсць бізнес, і вялікі.

На дзесяцігоддзі Балонскага працэсу ў Бухарэсце выказвалася заклапочанасць тым, што еўрапейская адукацыя церпіць страты. Маўляў, уся Паўднёва-Усходняя Азія ігнаруе Еўропу і накіроўваецца на вучобу ў ЗША, Канаду ці Аўстралію. Чаму? Па-першае, у гэтых краінах меншы кошт пражывання, па-другое, карацейшыя тэрміны навучання, па-трэцяе, кошт яго — таксама меншы, па-чацвёртае, навучанне вядзецца на міжнароднай англійскай мове. І трыльёны долараў накіроўваліся міма Еўропы, і Еўропа нарэшце адзначыла, што трэба паварочвацца ў бок англійскай мовы. І Полацкі ўніверсітэт таксама перайшоў на англійскую мову навучання. Гэта ад імкнення прыцягнуць сродкі.

Адметнасць сённяшняй адукацыі таксама ў тым, што яна двухузроўневая: бакалаўрыят і магістратура. Гэта выклікана нічым іншым, як эканамічнай мэтазгоднасцю. Будаўнік можа працаваць майстрам, прарабам, начальнікам участка і нават начальнікам упраўлення, маючы, паранейшаму кажучы, незавершаную вышэйшую адукацыю, а сённяшняй мовай бакалаўрыят: адвучыўшыся чатыры гады, якія ўтрымлівалі паменшаны аб'ём ведаў па вышэйшай матэматыцы (а больш яму ніколі ў жыцці не спатрэбіцца) і фізіцы (якую ўсё роўна паўтараюць нанова, як у школе). То бок, калі больш эканомна зірнуць на аб'ём дысцыплін, можна падрыхтаваць спецыяліста, па-першае, за меншыя грошы, падругое, з больш прывабным для яго тэрмінам навучання, па-трэцяе, з большай выгодай для эканомікі краіны. Ён, гэты спецыяліст, будзе мець патрэбны ўзровень для рашэння пэўных задач. А калі ён праекціроўшчыкам хоча быць, калі яму трэба разлічваць трываласць збудавання, то трэба яшчэ два гады правучыцца ў магістратуры, дзе яму дадаткова дадуць матэматыку, будаўнічую механіку, супрамат — спецыфічныя дысцыпліны — каб ён здолеў праектаваць унікальныя пабудовы. У нас пакуль такое раздзяленне адбываецца збольшага як даніна модзе, а не ад разумення эканоміі, але ж адбываецца! Сёння людзі іншыя — і іншыя студэнты, больш прагматычныя. І мо не заўсёды бачаць яны матывацыю, і выкладчыкам яе да іх данесці не заўсёды атрымліваецца, і ў вучэбных праграмах ёсць хібы: скажам, фізіка для будаўніка і машынабудаўніка павінна чытацца па-рознаму, а чытаецца аднолькава. Але мы над гэтым працуем. Бо трэба яе, фізіку гэтую, звязваць са спецыяльнасцю.

Увесь час трэба шукаць матывацыю. Студэнт павінен увесь час адзначаць для сябе: «Гэта мне, як ні круці, трэба», «Гэта мне спатрэбіцца тады, а гэта тады». Нашы студэнты добрыя, і не без разумення, але паколькі адукацыя — справа масавая, а не індывідуальная, трэба іх матываваць. Раней студэнт жыў весела ад сесіі да сесіі, цяпер так не атрымліваецца, цяпер выкладчыку больш працы: задаў — і спытай, задаў — спытай і новае задай. Увесь семестр трэба студэнту напружвацца: выконваць заданні і даваць адказы, інакш ён не зможа засвоіць курс. Усё накіравана на самастойную працу, часткамі, этапамі, паводле модульна-рэйтынгавай сістэмы, і рэйтынгі павышаюцца і павышаюцца, і толькі гэта стымулюе, прымушае рыхтавацца на працягу семестра. А пасля, на экзамене, той паказвае добрыя вынікі, хто ўвесь семестр выконвае кожную дробязь. Пры такой матывацыі нават з тых, хто ў школе меў невысокія здольнасці, атрымліваюцца вельмі добрыя спецыялісты.

**— Значыць, вы студэнтаў яшчэ і выхоўваеце, а не толькі вучыце. Насуперак агульнаму ўяўленню, што дзіця трэба выхоўваць, пакуль яно ляжыць упоперак лаўкі, вы выхоўваеце тых, хто на лаўках сядзіць.**

— Калі рыхтаваць тэхнічнага чарвяка, тады можна абысціся і без выхавання, але ж мы працягваем фарміраванне асобы. Розныя, канечне, бываюць выкладчыкі. Існуюць і такія, для каго выкладанне ёсць падаўленне студэнта. Але мы без такіх выкладчыкаў абыходзімся. Нам патрэбны іншыя, з якімі ў студэнта вырастаюць крылы. Вывучыць усё, вядома ж, немагчыма, асабліва сёння, калі такая вялікая колькасць інфармацыі і такі яе рост назіраюцца па кожнай канкрэтнай спецыяльнасці. Але студэнт павінен быць упэўнены, што ён зможа яе засвоіць. Гэта значыць, ён павінен ведаць, што яна яму патрэбна. А калі не патрэбна… Калі выкладчык яму кажа: «Ты не хімік», дык ён і не будзе хімікам. А іншы скажа яму: «Ты хімік» — і ён будзе хімікам, і зможа стаць дырэктарам хімічнага прадпрыемства і на-

ват нобелеўскім лаўрэатам. Мэта вышэйшай школы — «не забіць», а падтрымаць. У дашкольнай адукацыі, між іншым, тая ж мэта. Чалавеку толькі дапамагаюць развівацца, выкарыстоўваючы самыя розныя методыкі, але не прымушаюць хадзіць строем і спяваць хорам, як у старой сістэме.

У Швецыі я неяк убачыў карцінку, якую не адразу зразумеў. На ёй намалявана дрэва, перад дрэвам — кафедра і выкладчык, а на палянцы пастаўлены парты, за партамі (і на партах) — жывыя істоты: слон, залатая рыбка ў акварыуме, птушка, малпачка, удаў. Выкладчык кажа: «А цяпер вам усім адно заданне: трэба залезці на гэта дрэва». Сутнасць у тым, што калі малпачка і птушка выканаюць заданне лёгка, удаў таксама здолее справіцца, то для слана і рыбкі гэта задача невыканальная. Але ці яны, хто не можа, у тым вінаватыя? Людзі — розныя: нехта птушка, нехта рыбка, нехта, умоўна кажучы, слон. І ў школе педагог павінен даць магчымасць кожнаму чалавеку адчуць, хто ён ёсць і што можа. А ўжо прыйшоўшы да нас, у вышэйшую школу, слон ты ці птушка, аднолькава павінен лезці на дрэва, бо на гэта ўжо падпісаўся пры паступленні. Ну, або не дрэва трэба было выбіраць…

**— Што вы чытаеце? Гэта пытанне не толькі пра мастацкую літаратуру, а ўвогуле пра ваш выбар чытання.**

— Па жыцці, як я ўжо казаў, я прагматык, і з задавальненнем чытаю модныя кніжкі, калі маю на гэта час ці жаданне адысці ад тэмы асноўнай дзейнасці. «Адценні шэрага» і «Парфюмера» — чытаў. Але аддаю перавагу літаратуры, звязанай з вышэйшай школай, цікаўлюся сусветнымі тэндэнцыямі ў адукацыі. Бо калі толькі слухаць, што кажуць, і гэта рабіць, нічога добрага не атрымаецца. Трэба самому кумекаць, у які бок рухацца, а ў які лепш не трэба. Мець уласнае меркаванне і бачыць уласную мэту. Акрамя таго, як спецыяліст у галіне будаўнічых канструкцый, я, каб не дыскваліфікавацца ў сваім накірунку, дзе я ўсё ж прафесар і доктар навук, трымаю сябе ў тонусе чытаннем спецыяльнай літаратуры. Але да творчых людзей і мастацкіх твораў стаўлюся з вялікай павагай.



Рэспубліканскі баль выпускнікоў ВНУ.

**— Як вы бавіце час, не звязаны з прафесійнай дзейнасцю?**

— Ведаеце, бывае па-рознаму. Але калі ты рэктар, то і ў суботу ты рэктар, і ў нядзелю — таксама рэктар. Кіраўнік не можа перастаць думаць пра аб’ект кіравання: тут або працаваць, каб быў вынік, або не працаваць зусім. Таму мая сям’я пакутуе, а я яе разумею. Праўда, апошнім часам, з вопытам, усё ж з’яўляецца вольны час. Сёлета я заразіўся зімовай рыбалкай. Тры разы ўжо з’ездзіў на Чудскае возера, там ловіцца вельмі добра.

**— Ці ёсць пытанне, якое я вам не задала і на якое вам хацелася б адказаць?**

— Вы не спыталі пра будучыню. Наш універсітэт мае ўсё, каб стаць лепшым: і месца, і папярэдне зробленае, і базу, матэрыяльную і духоўную, і бласлаўленне гісторыяй. І ён будзе лепшым!

**Кацярына Захарэвіч**

**Горад дзесяці музеяў. Так сказалі нам пра Полацк. Горад, дзе кожная вулка паміж маленькімі хаткамі, кожная нізенькая драўляная хатка з шыльдай «прадаецца», кожная каменная сцяна, кожны каменьчык на дарозе — музей. Мы не фатаграфаваліся ля Сафіі ці Барысавага каменя, нават не падыходзілі да іх, бо было далёка. Мы не наведалі ні адзін шапік з сувенірамі, каб прывезці дадому чарговы магнічік ці гліняную таблічку з выявай гарадскіх краявідаў. Мы прывезлі ў Мінск штосьці нашмат больш каштоўнае. Мы прывезлі Полацк у сабе.**

# Рэпартаж-экскурсія па самым старым корпусе Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта

## Машына часу. Без машыны

Стоячы ў двары гісторыка-філалагічнага факультэта ПДУ, немагчыма не пачаць бачыць нябачнае. Лёгка ўяўляецца, як бегалі, хаваючыся ад суровых выкладчыкаў, пракудлівыя вучні езуіцкага калегіума. Ці як сядзелі пад дрэвамі са сшыткамі і пёрамі летуценнікі-паэты, вершаў якіх мы не чыталі, але ж у любой навучальнай установе былі такія вучні, на якіх ускладалі спадзяванні на праслаўленне альма-матэр. Потым тут хадзілі, хутка змяняючы адно аднаго, піяры, кадэты, чырвоныя камандзіры і ўрачы шпіталя, пакуль у 2005 годзе пасля рэканструкцыі не адкрыліся студэнцкія аўдыторыі. Мінуўшчына і будучыня спалучаюцца не толькі ў інтэр'ерах і абсталяванні, але і ў тым, якім факультэтам пашчасціла навучацца ў гэтым корпусе: першым сюды перасялілі гісторыка-філалагічны факультэт, потым пераехалі інфарматыкі.

Атрымаўшы ў спадчыну такое месца, супрацоўнікам універсітэта захацелася падтрымаць адукацыйныя традыцыі Полацка. Напрыклад, чытальная зала знаходзіцца на тым самым месцы, дзе была ў часы езуіцкага калегіума, і ўтрымлівае таксама сорак тысяч тамоў. Уласна кажучы, з бібліятэчных пакояў і пачалася наша экскурсія.

Святлана Дзмітрыеўна Цюсціна, вядучы бібліятэкар, паказваючы залы, выказвала гонар не толькі за гістарычную спадчыну, але і за сучасны стан бібліятэкі:

— Адкрыўшыся ў 2006 годзе, мы пачыналі працаваць са штрых-кадзіраваннем, пластыкавымі чытацкімі білетамі, калі іх яшчэ не было нідзе ў краіне. Зараз нашы тэхналогіі зведзены да таго, што студэнцкі білет і ёсць чытацкі. Чытальная зала на другім паверсе — адзіная зала ўніверсітэцкай бібліятэкі ў краіне, дзе адкрыты ўсе фонды.

У бібліятэцы ёсць асобная зала для літаратуры на замежных мовах — Цэнтр вывучэння замежных моў. Акрамя распаўсюджаных англійскай, нямецкай і французскай можна вывучаць тут яшчэ і шведскую.

Канешне, любы сучасны ўніверсітэт немагчыма ўявіць без бібліятэкі з класічнай чытальнай залай. Сучасная зала паўтарае воблік тагачаснай: там таксама стаялі стэлажы з кнігамі і сталы, віселі



Святлана Цюсціна, вядучы бібліятэкар.



Сакрат.


Манах-езуіт, Пётр Скарга, Стэфан Баторый.


Калодзеж.

партрэты выбітных асоб. Сёння тут існуе сістэма вольнага доступу да літаратуры. Рэальных наведвальнікаў не так шмат, таму што ўсе рэсурсы бібліятэкі даступныя з мабільных прылад і хатніх камп'ютараў. Каля чытальнай залы з «жывымі» кнігамі знаходзіцца медыяцэнтр. Нават і там, у царстве камп'ютараў і інтэрнэту, ёсць месца духу гісторыі.

Не толькі бібліятэка, але і ўвесь корпус здаецца музеем, а кожная рэч — экспанатам. Са старых часоў захавалася чыгунная лесвіца канца XIX стагоддзя і кафля пачатку XX стагоддзя. Уздоўж сцен — вітрыны з археалагічнымі знаходкамі. Раскопкі з удзелам студэнтаў вядуцца на тэрыторыі калегіума з 2001 года. За гэты час было знойдзена шмат каштоўных артэфактаў, што можна ўбачыць зараз у музеях горада. У экспазіцыі ўніверсітэта прадстаўлены знаходкі, датычныя калегіума.

Рэстаўруючы будынак, сучасныя майстры месцамі захавалі частку старой кладкі, а таксама пакінулі адкрытай частку пячных механізмаў, напрыклад, шабер ці шыбер — механізм кшталту пячной заслонкі — усталяваны тут у перыяд размяшчэння кадэцкага корпуса — з 1835 года да пачатку Першай сусветнай вайны. Адзін бок шабера выходзіць у канферэнц-залу. Зазіраем туды.

Залу ўпрыгожваюць карціны мастачкі Нінэлі Шчаснай. У 2008 годзе тут праходзіла яе персанальная выстава. З таго часу карціны перададзены ўніверсітэту на захоўванне. На пачэсным месцы — карціна з выявай Ефрасінні, выкананая з выкарыстаннем даволі незвычайнага матэрыялу — шкловалакна.

## Экспазіцыя «Гісторыя Полацкага калегіума ў падзеях і персонах»

Яшчэ ў адным пакоі сабраліся ўсе гістарычныя асобы, што спрычыніліся да адукацыі на Полаччыне. Першая сцэна адносіцца да года заснавання калегіума — 1581. Тады быў пабудаваны першапачатковы езуіцкі манастыр, заснаваны вялікім князем літоўскім і каралём польскім Стэфанам Баторыем, які вызваліў Полацк ад войскаў Івана Жахлівага. Таксама тут прадстаўлены вобраз Пятра Скаргі, першага рэктара калегіума.

У 1625 годзе ў калегіуме з'яўляецца ўласная педагагічная школа. Навучаліся хлопцы з 12 гадоў, тэрмін навучання быў разлічаны на 6—7 гадоў. Тут не толькі засвойвалі агульныя дысцыпліны, але і вучыліся маляванню, фехтаванню, плаванню, бальным танцам, вершніцтву. Выпускнікі павінны былі ўмець годна трымацца ў любым грамадскім коле.

1780 год адметны наведваннем Кацярыны. Дзякуючы яе падтрымцы калегіум у Полацку працягвае існаваць, нават калі ва ўсёй Еўропе такога кшталту навучальныя ўстановы закрываюцца па загаду Папы Клемента XIV. Полацк робіцца цэнтрам Ордэна езуітаў, адзіным не толькі ў Беларусі, але і ў Еўропе. Сюды з'язджаюцца навукоўцы, вынаходнікі, сярод якіх быў і прафесар Габрыэль Грубер. У свой час ён заснаваў першы на беларускай зямлі архітэктурны факультэт і пабудаваў трохпавярховы музейны корпус, дзе размясціў найбагацейшую карцінную галерэю.




Старая лесвіца.



Археалагічныя знаходкі.

У 1812 годзе па загадзе імператара Аляксандра Першага прымаецца рашэнне перайменаваць калегіум у Акадэмію, якая атрымлівае статус універсітэта — вышэйшай навучальнай установы. На жаль, акадэмія праіснавала тут толькі восем гадоў — да 1820 года. Праз два гады замест яе адкрываецца вышэйшае піярскае вучылішча (ад лацінскага «набожная школа»). Піяры — айцы гэтых школ — прымалі на бясплатную вучобу юнакоў з розных сем'яў. Але і яны тут не затрымаліся: у 1830 годзе вышэйшае піярскае вучылішча закрываецца. Праз пяць гадоў пачынае працаваць кадэцкі корпус. Першапачатковы штат, разлічаны на 400 чалавек, прымае толькі 54 вучні. Цалкам ён быў укамплектаваны толькі праз тры гады. У кадэты прымалі юнакоў 12—14 гадоў з прывеліяваных саслоў'яў.

З пачаткам Першай сусветнай вайны кадэты пакідаюць гэтыя карпусы і больш не вяртаюцца сюды. У пачатку 20-х гадоў мінулага стагоддзя тут размяшчаюцца курсы чырвоных камандзіраў, а з 1927 года ўжо ваенны шпіталь, які праіснаваў больш за 70 гадоў, — амаль да тых часоў, калі будынак быў перададзены Полацкаму ўніверсітэту. Канешне, за гады далёка не ўсё захавалася ў належным стане, і патрэбна была вялікая праца па аднаўленні будынкаў.

## Заняткі пад Gaudeamus

Унутраны двор упрыгожвае трыццацімятровы калодзеж XVIII стагоддзя. На жаль, да нашых часоў ён дайшоў у непрывабным стане: амаль зраўняны з зямлёй, засыпаны будаўнічым смеццем. У 2012 годзе яго аднавілі, але ваду не дастаюць: крышка шкляная, углыб трапляе сонечнае святло — атрымліваецца эфект парніка, унутраныя сценкі абраслі мохам.

Створаная калісьці Груберам галерэя не захавалася, але ў 2014 годзе ўнутраны двор упрыгожыў арт-праект «Выяўленчае мастацтва ў гісторыі Полацкага калегіума». Трапіўшы сюды, можна пабачыць рэпрадукцыі твораў выяўленчага мастацтва, якія калісьці былі прадстаўлены ў калегіуме, а таксама копіі некаторых работ выпускнікоў гэтай навучальнай установы. Рэпрадукцыі карцін зроблены на спецыяльным пластыку, што дазваляе выстаўляць іх незалежна ад надвор'я.

Яшчэ адна адметнасць — ужо сучасная: універсітэцкі гадзіннік на ўзор пражскага і кракаўскага. Штодзень з 9 да 14 гадзін пад Гаудэамус і гімн Полацкага ўніверсітэта на гадзінніку з'яўляюцца фігуры выбітных для адукацыі на гэтых землях асоб. Гадзіннік усталявалі ў 2011 годзе, і надпіс на лацінскай мове абвяшчае, што ён ідзе дакладна.

## Драўляны Дзядок без Інсекты

Шмат хто ў сувязі з езуіцкім калегіумам чуў гісторыю пра галаву грэчаскага мудраца Сакрата, якога Ян Баршчэўскі па-свойску назваў Драўляным Дзядком. Зладзіў яе вядомы навукоўца і вынаходнік Габрыэль Грубер, які выкладаў у канцы XVIII стагоддзя ў калегіуме.

Галава, змешчаная высока ў сцяне, магла размаўляць: адказваць на любое пытанне, кіруючыся ведамі, што існавалі на той час. На жаль, унікальны механізм не захаваўся, але гэта не стала перашкодай для ўзнаўлення адной са славутасцей Полаччыны. Сакрат, які сустракае гасцей ПДУ сёння, створаны сучаснымі майстрамі і прэзентаваны ўстанове 19 мая 2015 года — на дзень універсітэта.

Старац мае свой характар і з найбольшым задавальненнем адказвае ў першую чаргу на пытанні філасофскія, якія хвалююць кожнага з нас: што такое шчасце, любоў, сяброўства… Канешне, важна правільна звярнуцца да мудраца: «Шаноўны старац, дазвольце запытацца…»

— Вітаю вас, шаноўны старац. Дазвольце запытацца, ці гатовы вы паразмаўляць з нашымі гасцямі?

— Вітаю вас, шаноўныя. Веды — такая каштоўная рэч, якую не сорамна здабываць з любой крыніцы, і я рады дапамагчы ў вашым добрым памкненні.

— Шаноўны старац, дазвольце запытацца, у чым сэнс жыцця?

— Сэнс жыцця кожнага чалавека ўнікальны і непаўторны. Імкнуцца да жыцця — і ёсць галоўны яго сэнс.

— Шаноўны старац, дазвольце запытацца, хто стварыў наш свет?

— Свет створаны вышэйшымі сіламі, якія пакуль не знаёмыя чалавецтву.

На развітанне Сакрат пажадаў нам здароўя, міра, дабра і поспеху ва ўсіх нашых справах і нагадаў, што толькі розумам і ведамі можна дасягнуць сапраўдных вышынь у жыцці.



Кадэты.



Гадзіннік.


Кафля.



# Марына Шуханкова і навуковая бібліятэка

**Старое, здавалася б, слова — «калегіум» — але, як бачыце, абсалютна ўстойлівае ў карыстанні. «Чытальная зала Полацкага калегіума» — літаральна так пазначана на сайце ўніверсітэта, што не можа не здзівіць і не выклікаць сімпатыю.**
**— А што для вас асабіста значаць сцены гэтай залы? — пытае ў дырэктара навуковай бібліятэкі ПДУ Марыны Шуханковай Святлана Воцінава. — Ці не сняцца вам езуіты, ці не чуеце галасы, ці не знаёміўся з вамі Пётр Скарга або нехта з яго калег??**
**Адказ на такое пытанне суразмоўца пачынае з гумарам, пераходзячы на тлумачэнне структуры бібліятэкі, і ўжо іншымі — новымі — словамі.**

— Езуіты не сняцца, галасоў не чую *(смяецца),* а калі і чую, то сама, як псіхолаг па другой адукацыі, раскладаю ўсё сабе па палічках… На той, Полацкай, пляцоўцы размешчаны наш пункт абслугоўвання. Бібліятэка ПДУ мае два аддзелы: аддзел фарміравання інфармацыйных рэсурсаў і аддзел абслугоўвання і інфарміравання карыстальнікаў. Першы займаецца закупкай, камплектаваннем, перадачай у фонд друкаваных выданняў і электронных рэсурсаў, а другі — абслугоўваннем карыстальнікаў, прычым на трох пляцоўках, як і ўніверсітэт, — Наваполацкай, Полацкай і нядаўна адкрытай у Міжрэччы. Канечне, Полацкая пляцоўка мае сваю спецыфіку. Мы ўсе гэта адчуваем, калі трапляем туды. Там сцены, аўра, энергетыка пакаленняў... Асобная тэма — гісторыя езуіцкай бібліятэкі... Сімвалічна, што сёння на гэтай пляцоўцы такі ж фонд, як пры Пятру Скарзе, — каля 40 000 асобнікаў.

**— Ці памятаеце вы свой першы ў жыцці візіт у бібліятэку?**

— Мая першая бібліятэка — гэта дзіцячая бібліятэка імя С. Маршака ў Полацку. Як да крыніцы святла, мы цягнуліся ў яе залы, хацелі трапіць у вялікія кнігасховішчы, але туды не пускалі. Мабыць, менавіта гэтая немагчымасць для мяне, дашкольніцы, трапіць у бібліятэку якраз і сфарміравала маю цягу да яе. Мо гэта і далейшы лёс мой вызначыла. Але ці параўнаем мы бібліятэку тую з сённяшняй? Тая эпоха падавала бібліятэкара як транслятара ведаў, які кіраваў чытаннем, — навязваў чытачу свой светапогляд, густ і меркаванне. Цяпер галоўная асоба ў бібліятэцы — чытач, карыстальнік, з яго патрэбамі і патрабаваннямі. Ужо ён дыктуе стыль зносін. А мы падстройваемся.

**— Паводле вядомай кінастужкі «Бібліятэкар» бібліятэка сама выбірае бібліятэкара. Тады толькі можна лічыць яго сапраўдным. Ці не адбылося так і з вамі, як з Флінам Карсенам?**

— Гэта выглядала, як чыстая выпадковасць. Усё школьнае жыццё я сур'ёзна займалася гандболам, была кандыдатам у майстры спорту, абараняла гонар рэспублікі. Але напярэдадні выпускнога вечара зламала нагу, і ўсё змянілася: спартыўная кар'ера была для мяне закрыта, і я трапіла ў бібліятэку. Працавала ў аддзеле маркетынгу, загадчыцай гарадской бібліятэкі імя Я.Коласа, распрацавала праект і атрымала прэмію ад Прэзідэнта за перамогу ў рэспубліканскім конкурсе «Бібліятэка — асяродак нацыянальнай культуры». Што толькі не адбывалася ў бібліятэцы — калейдаскоп падзей! У 2004 годзе я перайшла з публічнай бібліятэкі ва ўніверсітэцкую. Гэта абсалютна іншая бібліятэка. Яна арыентуецца на багацце і хуткасць

інфармацыйных плыняў, і асноўная функцыя ў яе – навуковая, адукацыйная, а не вольнага часу, як у публічных біблятэк…

**— А праблема пустой чытальнай залы?**

— Праблема пустой чытальнай залы характэрна для ўсіх бібліятэк, гэта агульная тэндэнцыя, але ідзе яна ад таго, што студэнт на свой гаджэт можа атрымаць усё патрэбнае ў любы час. Выдача друкаваных кніг памяншаецца: цяпер яна складае 40 працэнтаў ад усёй гадавой кнігавыдачы, астатнія 60 працэнтаў — электронная. Вось і атрымліваецца, што колькасць фізічных карыстальнікаў нізкая, але ж аўтаматычна ўзрастае колькасць карыстальнікаў віртуальных.

**— Чым ваша бібліятэка адрозніваецца ад падобных?**

— Варта адзначыць нашу дастаткова высокую рэпутацыю ў бібліятэчнай супольнасці. Мы былі першай бібліятэкай у рэспубліцы, якая ўвяла сістэму менеджменту якасці па міжнароднай сістэме стандартаў. Мы чуйна рэагуем на змены ў сістэме вышэйшай школы, да якой належым. Гэта і перамены ў стандартах адукацыі, і патрэбы нашых карыстальнікаў — ад студэнта да вучонага і навуковых школ універсітэта. 52 працэнты нашага паўмільённага фонду складаюць унутраныя крыніцы — працы супрацоўнікаў ВНУ. Некалькі гадоў таму мы стварылі адкрыты доступ да ўніверсітэцкіх навуковых і адукацыйных аб'ектаў, рэпазіторыяў, які акумулюе рэсурсы, бачныя ўсёй сусветнай грамадскасці, па адпаведных профілях розных навуковых кірункаў. Наш рэпазіторый вельмі папулярны і ў міжнародным рэйтынгу займае шостае месца сярод ВНУ Беларусі. Арыентуемся не так, як раней, толькі на свае фонды, а і на знешнія. Бібліятэкі ВНУ павінны імкнуцца прадастаўляць сусветныя рэсурсы патрэбных профіляў і накірункаў шляхам закупкі аналітычных баз.

**— Але ж «фізічная» праца з чытачамі, я ведаю, таксама вядзецца, кантакт з карыстальнікамі ўсталяваны не толькі на адлегласці.**

— Тут размова пра інфармацыйную культуру і тое, як мы вучым карыстальніка інфармацыйнай пісьменнасці. У вучэбных планах першакурснікаў прадугледжаны гадзіны, што ім чытаем мы, бібліятэкары. Маем таксама дыстанцыйны курс «Асновы інфармацыйнай культуры», якім ахапілі групу карыстальнікаў. Акрамя таго, мы адладзілі сістэму масавых мерапрыемстваў. У выставачнай зале, якая працуе ўжо больш за дваццаць гадоў, арганізоўваюцца экспазіцыі мастакоў усёй Беларусі і нават замежжа. Ёсць яшчэ задума стварыць пры бібліятэцы студыю крэатыўных сустрэч для студэнтаў і выкладчыкаў, дзе на пляцоўцы бібліятэкі студэнты будуць мець магчымасць прэзентаваць свае ідэі і праекты калегам-студэнтам, выкладчыкам і патэнцыйным работадаўцам.. Сённяшні выпускнік ВНУ, незалежна ад атрыманай спецыяльнасці, павінен валодаць навыкамі камунікацыі і творчым мысленнем. Гэта тое, што найбольш запатрабавана ў XXI стагоддзі і аднолькава патрэбна як філолагу або гісторыку, так і інжынеру, будаўніку, нафтавіку. Чытанне, пісьмо, арыфметыка — ключавыя навыкі мінулага, а ў XXI стагоддзі гэта ўжо іншае — крытычнае мысленне, здольнасць ацэньваць вялікі паток інфармацыі, камунікатыўнасць і творчы падыход да справы. Такога студэнта мы павінны дапамагаць фарміраваць.

**— Якой вы бачыце бібліятэку будучыні? Папяровую кнігу ў ёй — бачыце?**

— Яна, ведаеце, вяртаецца ў моду ў Еўропе, калі можна так сказаць. Увогуле, выбар паміж друкаванай і электроннай кнігай — гэта справа густу і пераваг. Ёсць два шляхі выйсця для бібліятэк, якія знаходзяцца ў складанай сітуацыі: або бібліятэкар знікне як прафесія, або трансфарміруецца ў аналітыка, інфармацыйнага супрацоўніка. Мы выбралі другі шлях. Наша дзейнасць як бібліятэкараў і цяпер ужо мала падобная на тое, што ўяўляе пра нас большасць людзей. Мы займаемся электроннай дастаўкай дакументаў, павышаем рэйтынг вуза і вучонага працуючы з іх публікацыямі, забяспечваем анлайн-доступ да сусветных інфармацыйных рэсурсаў. Такія камунікатары-пасрэднікі, якія кіруюць рэсурсамі на іх шляху ад крыніцы да карыстальніка. А што датычыцца бібліятэкі будучыні, то мы ўжо на падыходзе да яе: бібліятэка і ўніверсітэт цвёрда ступілі на шлях інтэграцыі ў сусветную інфармацыйную прастору.

# Аляксандр Гугнін
# і некалькі сціплых адкрыццяў

**Гэта інтэрв'ю з доктарам філалагічных навук, прафесарам кафедры сусветнай літаратуры і замежных моў Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта Аляксандрам Гугніным запісвалася яшчэ ў 2011 годзе, калі 70-гадовы на той час юбіляр узначальваў вышэйназваную кафедру, у дзень, калі ён атрымаў адразу дзве высокія ўзнагароды — Медаль Францыска Скарыны і нагрудны знак «Выдатнік адукацыі». Сёлета паважанаму прафесару спаўняецца 76, ён працягвае працаваць на кафедры, якую нядаўна ўзначальваў, па-ранейшаму з'яўляецца рэдактарам гуманітарнай серыі навуковага часопіса «Веснік ПДУ» і рэцэнзентам літаратурнага альманаха «Литературный объектИФФ», які выпускаецца гісторыка-філалагічным факультэтам.**

**— Што вызначыла ваш жыццёвы шлях, чаму вы абралі такую дзейнасць?**

— Я павінен сказаць, што не ў кожнага ўсё лёгка атрымліваецца. У мяне выбар прафесіі зацягнуўся, і надоўга. Мне давялося і будаўніком працаваць — будаваць Наваполацк, яго прамысловыя аб'екты, і ў саўгасе — каб зведаць сялянскую працу, і на заводзе, нават на розных заводах, і ў арміі праслужыць поўныя тры гады, і на зборах пасля бываць, і шмат яшчэ што. Але я хацеў быць пісьменнікам і зразумець жыццё, а для таго, каб зразумець жыццё і быць пісьменнікам, трэба пазнаць яго, жыццё, абсалютна канкрэтна — у працы. Паступова высветлілася, што разуменне жыцця неабходна не толькі пісьменніку, але і спецыялісту па літаратуры. Пісьменнікі пра жыццё пішуць, а літаратуразнаўца, чытаючы іх творы, павінен супаставіць іх з жыццём, далучыўшы свой асабісты досвед. Тады атрымаецца жыццёвае літаратуразнаўства, што можа прынесці карысць не толькі студэнтам, якія вывучаюць літаратуру, але і людзям увогуле. Вось такой ў канчатковым варыянце аказалася мая мэта, пошук якой расцягнуўся на доўгія гады.

**— Вы шмат працуеце як пісьменнік і перакладчык. Гэтыя прафесіі аб'яднаны адной мэтай — несці людзям веды. Але як вы думаеце, якая з іх больш важная або значная для літаратуры?**



— Так яны ў мяне злучыліся, што абедзве сталі важнымі. Усё, што ў жыцці адбывалася, — і тое, што давялося мне жыць у вёсцы, нават на хутары, а пасля ў Вільні, Полацку, Маскве і шмат бываць за мяжой,— усё гэта склалася ў своеасаблівую карціну свету, і ўсё ў ёй мае значэнне, усё на сваім месцы. Я б сказаў, што любая справа ў жыцці, калі з душой яе робіш, важная. А я і землякопам імкнуўся не адставаць ад іншых, і араць не горш за іншых, і ўсё астатняе рабіць з душой, таму ўсе мае спецыяльнасці аб'ядналіся ў адно цэлае, і — не ведаю, як сказаць: ці арган іграе ўва мне, ці аркестр — я адчуваю, як гэтыя спецыяльнасці мне дапамагаюць. Нават студэнтам нешта расказваючы, я выкарыстоўваю жыццёвы вопыт.

Працяглы час у мяне заняла праца ў розных выдавецтвах. Гэта вялікая частка жыцця, бо амаль з аспіранцкіх гадоў я пачаў працаваць у Маскве, у «Літаратурнай газеце», потым у часопісе «Иностранная литература», пасля ў буйнейшым выдавецтве «Прогресс» і нарэшце загадваў самай важнай рэдакцыяй — замежнай літаратуры на мовах арыгінала — выдавецтва «Радуга». Тады я таксама вельмі многаму навучыўся. Заняткі крытыкай і літаратуразнаўствам прымушалі мяне сустракацца з замежнымі пісьменнікамі — у першую чаргу з нямецкімі, аўстрыйскімі і швейцарскімі — нават часцей, чым з рускімі або беларускімі. Потым, калі я працаваў у Інстытуце славяназнаўства і балканістыкі Расійскай акадэміі навук, славянскі свет стаў незвычайна блізкім для мяне, і доктарскую дысертацыю я прысвяціў гісторыі і літаратуры самага маленькага славянскага народа, пра які мала каму вядома. Гэта сербы-лужычане, якія жывуць

спакон веку ў Германіі. І дагэтуль спецыялісты спрачаюцца: хто раней у Германіі пасяліўся — германцы, будучыя немцы, ці славянскія народы. Прычым нямецкія славісты ў большасці сваёй лічаць, што славяне там з'явіліся раней.

**— Вы шмат працуеце. А як вы адпачываеце? Ці маеце нейкае хобі?**

— Хобі я меў шмат, з дзяцінства. Чым толькі не займаўся: і шахматамі — быў чэмпіёнам Полацка, і шашкамі — арганізоўваў турніры, і настольным тэнісам, і штангу ў арміі падымаў, а таксама ездзіў на спаборніцтвы — усяго не пералічыць. Але з захапленняў, падобных на адпачынак, — бо спорт ёсць спорт, тая самая праца, — канечне, назаву рыбалку. Як толькі ў Полацк прыехаў, першай справай набыў прасцейшую вуду і пачаў лавіць: платвіц, пячкуроў, акунькоў — усё, што вадзілася ў Палаце. І пешкі абышоў усе ваколіцы. З транспартам тады, у 1950-я, былі праблемы, і дарогі былі кепскія, але на 25 кіламетраў вакол Палаты ўсе азёры я абышоў. Не адзін, канечне, з сябрамі. А вось паляўнічы з мяне не атрымаўся: варон яшчэ сяк-так страляў, але першага зайца мне стала шкада, і я пакінуў гэты занятак. Цяпер толькі гляджу на звяроў, калі далёка ў лес заходжу.

**— У вас цудоўная бібліятэка. Раскажыце пра яе.**

— Гэта, ведаеце, удача — калі бацькі ў нечым дапамагаюць і нечаму вучаць. Ад бабулі і мамы я больш вучыўся фізічнай працы, любові да яе, цярпенню. Бабуля цудоўна развівала ў мяне гэтыя якасці, і мама таксама. А бацька, нягледзячы на яго спецыяльнасці — па першай адукацыі ён работнік лясной гаспадаркі, быў дырэктарам Полацкага ляснога тэхнікума, а па другой артылерыст, прайшоў усю вайну і скончыў яе начальнікам артзабеспячэння фронта — усё жыццё любіў кнігі, марыў стаць паэтам і нават публікаваў вершы. Але тады было больш строгасці: партыя выбірала, на якую спецыяльнасць табе ісці. Спачатку яго накіравалі ў лясную гаспадарку, а пасля — на ваенную справу. Але ён заўсёды, і нават на фронце, чытаў і з фронту прывёз шмат кніг, знойдзеных у разбураных дамах. Так пачалася і мая любоў да кнігі. Калі жылі на хутары пад Ноўгарадам, мама мне нешта чытала, і я завучваў гэта на слых і ўгаворваў бацьку паказаць мне літары. Але яму не было калі, шмат часу ў яго забіраў новы вялікі лясгас. Нарэшце ён вылучыў колькі дзён, каб мяне навучыць, я за тры дні навучыўся чытаць і з таго часу без перапынку чытаю. І ўсе сродкі — а я нямала зарабляў на розных працах — пускаў на набыццё бібліятэкі, якая ў выніку разраслася так, што нідзе не змяшчаецца. Трыццаць тысяч кніг я ўжо аддаў сюды, у Полацкі ўніверсітэт, і ўдзячны кіраўніцтву за тое, што прадастаўлена для іх памяшканне. Але кніг у мяне яшчэ дастаткова — і ў Маскве, і трохпакаёвая кватэра поўніцца імі, і яшчэ ў многіх месцах яны ляжаць (*Смяецца*). Усё жыццё сышло на гэта. Але калі я бачу, як студэнты чытаюць і як у асяродку маіх аспірантаў гэтыя кнігі запатрабаваныя, то радасць мая бязмежная: значыцца, недарэмна я так працаваў над зборам.

**— Якое дасягненне вы лічыце самым значным у сваім жыцці?**

— Пытанне цікавае. Бо хоць і звязаныя жыццё і навука, але што ставіць на першае месца? Я імкнуўся жыць так, каб навука дапаўняла жыццё, а жыццё і жыццёвы вопыт уваходзілі ў навуку. Галоўных дасягненняў, калі гаварыць пра асабістае, у мяне можа быць некалькі. З самага дзяцінства, як толькі пачаў нешта ўсведамляць, я імкнуўся не займацца нейкімі тэорыямі, а каб любая кніга, любая тэорыя правяралася жыццём, і гэтаксама каб жыццё падказвала тэорыі. Калі я заўважаў новыя з'явы ў жыцці і мне хацелася іх усвядоміць, тады патрабавалася навука — каб зразумець. На гэтым шляху я зрабіў некалькі сціплых адкрыццяў, пра якія мо не трэба цяпер казаць, бо яны дыскутуюцца, не з'яўляюцца агульнапрызнанымі. Але пярэчанняў, як правіла, не знаходзяць тыя рэчы, якія ўтвараюцца нечакана ад злучэння жыцця і навукі. Вось гэта вельмі важна асабіста для мяне: я лічу, што нікому б не пашкодзіла такое злучэнне. І студэнтам гэта тлумачу. У іх яшчэ недастаткова жыццёвага вопыту, каб разумець складаныя творы, але згодна з праграмай мы вымушаны не чакаць, пакуль яны вырастуць і стануць больш вопытнымі, а прапаноўваць кнігі для чытання. Вось тут і даводзіцца расказваць нешта з жыцця, каб некаторыя моманты мастацкай літаратуры яны зразумелі.

Другое, што я б назваў дасягненнем, звязана з суб'ектыўнасцю кожнага чалавека. Вельмі рана — калі не ў дзяцінстве, то ў старэйшых класах школы, пастаянна назіраючы за тым, як сутыкаюцца меркаванні і як адзін можа быць перакананы ў адным, а другі ў абсалютна супрацьлеглым, бачачы гэта ў жыцці і літаратуры — я імкнуўся зразумець, дзе ёсць ісціна. І зразумеў паступова галоўнае: спачатку трэба разабрацца ў сабе, вызначыць межы ўласнай суб'ектыўнасці, пасля — змагацца перш за ўсё з уласнай суб'ектыўнасцю, а потым ужо нечаму вучыць іншых. Так дасягаецца найбольш аб'ектыўная ісціна. Абсалютная ж ісціна чалавеку, на жаль, недаступная — з-за асаблівасцей самога роду чалавечага. І калі ўжо некага лічыць аб'ектыўным, дык толькі Бога. Калі мы ў Яго верым.

**— Што натхняе вас на працу?**

— Вельмі многія рэчы натхняюць, некаторыя часам прыгнечваюць, і тады, працуючы, стамляешся. Натхняе рознае і ў розныя перыяды па-свойму. Цяпер натхняе тая акалічнасць, што паступова, праз усе складанасці і цяжкасці, розныя перабудовы, якія мы для ўніверсітэта ўвесь час праводзім, і неабавязкова па маёй ініцыятыве — праз усё гэта ўдаецца ствараць калектыў, якім усё тое лепшае, што я з жыццёвага вопыту атрымаў, і тое лепшае, што атрымаў ад заняткаў навукай, не толькі ўспрымаецца з разуменнем, але і нараджае новыя ідэі. На кафедры адбываецца няхай і не такое хуткае, але сапраўднае развіццё. Вось гэта натхняе. Калі я заўважаю новыя парасткі такога развіцця — і ў чалавечым плане, і ў навуковым, і калі бачу, што абодва гэтыя планы злучаюцца ў маіх вучнях і супрацоўніках, — гэта мяне натхняе. Значыць, недарэмна я сам жыў і гэтага дабіваўся, калі ёсць паслядоўнікі, якія гатовы гэта ўсё падхапіць і несці далей. Вось гэта натхняе мо больш за ўсё. А калі пра іншае казаць, то і каханне натхняе, і дзеці, і ўнукі. Натхняе на працу і на тое, каб перадаваць ім нешта або спрачацца з імі аб нечым, але спрачацца я не вельмі люблю. У дзяцінстве і юнацтве любіў нешта даказваць, але паступова для мяне стала важным слухаць іншых, каб разумець іх праблемы. Калі я з нечым не згодны, я спачатку выслухаю да канца, пастараюся зразумець чалавека, потым зразумець, як яму патлумачыць, якія аргументы патрэбныя, каб ён або крытычна паглядзеў на сябе і сам зразумеў свае праблемы, або хаця б перастаў спрачацца, а паслухаў маё меркаванне і сам падумаў і прыйшоў да нейкага больш значнага пункта гледжання, чым той, якога ён прытрымліваецца.

**— Калі б вы мелі магчымасць пражыць яшчэ адно жыццё, ці выбралі б сабе іншы лёс?**

— Гэта пытанне мне ўжо некалькі разоў задавалі, і я сам шмат думаў на гэты конт. Не. Мабыць, не. Бо нішто з таго, што я пражыў, мне не здаецца дарэмным, усё складвалася ў адзіную скарбонку, з якой я сам жа магу дагэтуль нешта чэрпаць. І ад працы на будоўлі, і ад працы ў саўгасе, і ад арміі. Усё гэта разам — скарбонка, у якой сабраны шчаслівы жыццёвы вопыт. І тое, што я не разумеў, калі быў маладым, або не заўважаў, раптам выплывае, і я нанова ўсведамляю, пераасэнсоўваю дзіцячы ці юнацкі вопыт, і ён зноў і зноў дапамагае мне рашыць нейкую складаную праблему. Таму я дакладна абраў бы той самы шлях. Іншая справа, што жыццё кароткае, і не ўдалося паспрабаваць усё, што хацелася. Мне давялося шмат ад чаго адмаўляцца, і хоць я быў марскім пагранічнікам, але матросам на караблях не хадзіў.

**— Ці хацелі б вы, каб вашы дзеці і ўнукі працягнулі справу вашага жыцця?**

— Вось пра гэта можна гадзінамі гаварыць. У мяне чацвёра дзяцей і пакуль што тры ўнучкі. Канечне, хацеў бы. Але не ўсё так атрымліваецца, як хочацца. Ці я сам у гэтым вінаваты… Калі мой малодшы сын у пяцігадовым узросце, паказаўшы на залежы кніг у нашай маскоўскай кватэры, сказаў: «Я ўсё гэта прачытаю», — я вырашыў, што ён філолаг. Пасля аказалася, што ўсё не так проста. Калі ён вучыўся на філфаку па маёй спецыяльнасці, яго трошкі бянтэжыў мой аўтарытэт. Мне здавалася, гэта павінна было дзейнічаць пазітыўна, але спрацавала наадварот. Ён казаў: «Не хачу быць у той галіне, дзе ты, бо куды ні прыйду, паўсюль чую адно: «А, ты сын таго самага Гугніна». І ён пачаў шукаць свой шлях. Стаў перакладчыкам. Гэта быццам мая спецыяльнасць, частка таго, чым займаюся я, але ад літаратуры ён адышоў, паколькі кожная спецыялізацыя патрабуе шмат сіл і энергіі. Вось гэта мне крыўдна. А ўвогуле, усе мае дзеці так ці інакш гуманітарыі. Я думаю, што з унучкамі і ўнукамі тое самае будзе.

*Пераклад на беларускую Святланы Воцінавай.*



## Анастасія Мазго і «Литературный объектИФФ»

**Полацкі ўніверсітэт мае свой літаратурны часопіс. Чаму з такой назвай — «Литературный объектИФФ»? Што такое гэты «ИФФ»? Аказалася — не даніна модзе на падвойныя «ф», а бліскучая ідэя схаваць у слове, якое абазначае, па вялікім рахунку, тое, праз што мы глядзім на свет, абрэвіятуру таго галоўнага, без чаго не было б і часопіса: «ИФФ» — «историко-филологический факультет». Размову з рэдактарам часопіса Анастасіяй Мазго вяла Святлана Воцінава.**

— З Сяргеем Гачаковым і Дзмітрыем Лабоўкіным назву падбіралі доўга. Усе мы зараз выкладчыкі, а калі пачыналі працу над часопісам, я і Дзіма ўжо выкладалі, паралельна навучаючыся ў магістратуры, а Сяргей яшчэ быў студэнтам пятага курса. Назву нам хацелася такую, каб яна, з аднаго боку, паказвала, што часопіс літаратурны, а з другога — адлюстроўвала месца выдання. Атрымаўся ў выніку той аб'ектыў, які і выяўляе рэальнасць, і ёсць прызма не толькі літаратуры, але і гісторыі, і фіксуе нашы стасункі і месца, дзе мы сустрэліся і дзе наша любоў да літаратуры ўзмацнілася. Хацелася паказаць адданасць сваім караням, нежаданне ад іх адыходзіць.

**— А сама ідэя існавання на факультэце літаратурнага часопіса — ад жадання ці ад патрэбы?**

— Тут, напэўна, абодва адказы справядлівыя. Сапраўды, мы ж маем іншыя выданні, напрыклад, студэнцкую газету «Насцеж», дзе часам публікуюцца вершы студэнтаў. Але мы меркавалі, што філалагічны факультэт апрыёры павінен мець часопіс, у якім можна друкаваць творы і пераклады, дзяліцца думкамі, а паралельна атрымліваць досвед літаратурнай крытыкі і рэдагавання. Хацелася стварыць нешта такое, што аб'яднала б студэнтаў і выкладчыкаў, і каб існавала ў нас творчае асяроддзе. Шмат гэта ўсё абмяркоўвалі. Выявілася, што многія пішуць, многія зацікаўленыя ў часопісе, і добрая гэта будзе практыка нам усім — для паляпшэння навыкаў пісьменніцкіх, перакладчыцкіх і рэдактарскіх, а таксама пляцоўка для творчасці. Наклад у часопіса невялікі: распаўсюджваецца сярод аўтараў, некаторая колькасць ідзе на развіццё і падтрыманне літаратурных кантактаў.

***

*Анастасія Мазго выкладае англійскую мову студэнтам першага курса спецыяльнасці «Рамана-германская філалогія», вядзе семінары па гісторыі англійскай літаратуры XVII стагоддзя і гісторыі замежнай літаратуры XVII—XVIII стагоддзяў. Пра тое, што будзе ствараць літчасопіс, ніколі не думала. Любоў да чытання ўзнікла ў яе, як яна сама кажа, позна — у 8—9 класах, тады разглядала чытанне як паглыбленне ў зусім іншы свет, шматгранны і дзіўны…*

— …у якім так шмат усяго адбываецца. І на жыццё, чытаючы, глядзіш па-іншаму. А потым любові да літаратуры дадала адукацыя, атрыманая тут, у Полацкім універсітэце. Узнікла яе разуменне як

не навукі, а авантуры, бясконцых прыгод. Часопіс, яго падрыхтоўка — адна з форм такіх прыгод. І літаратуразнаўства як навука была спасцігнута ў магістратуры. Тут ужо іншае разуменне тэксту. І хацелася яшчэ больш творчага выхаду энергіі, спробы стварыць сабе прыгодніцкі квэст: а што, калі я пайду гэтым шляхам? Тым больш што пайду не адна, а з сябрамі, настаўнікамі — Аляксандрам Аляксандравічам Гугніным, Наталляй Багданаўнай Лысовай (выкладчыкі ПДУ, рэцэнзенты часопіса. — *Заўв. рэд.*) і пайду дарогай звілістай, на ёй сустрэнуцца мне новыя людзі, і новыя будуць знаёмствы, і новыя перажыванні. Яно, жыццё, такое. І літаратура — жыццё. І так усё пераплецена і звязана…

## Пра тое, навошта свету патрэбны літаратурныя часопісы і чаму ў іх памяншаюцца тыражы

— Тут, напэўна, вечнае пытанне: навошта нам літаратура, навошта кнігі, навошта навука філалогія, навошта ўвогуле ўсё? Такія пытанні чуеш пастаянна, і вельмі цяжка часам некаму на іх адказаць і з некім пра гэта спрачацца. Сапраўды ж, без мяса, хлеба і малака быццам нельга, а без кніг быццам можна пражыць. І паколькі часта даводзілася адказваць на такія пытанні, я шмат думала пра тое, як на іх адказаць, каб больш не пыталіся, — неяк зразумела і канчаткова. Калі б не было патрэбы ў літаратурных часопісах, то ў сацыяльных сетках не мільгалі б цытаты з любімых твораў, любімыя вершы, эпіграфы. А інтэрнэт-выданні? А свае старонкі? Цяпер жа ледзь не кожны сам сабе паэт і стваральнік часопіса. Атрымліваецца, ёсць такая патрэба, толькі яна рэалізоўваецца на ўзроўні ўласнага, індывідуальнага бачання. Але ж гэта ўсё роўна ад жадання назіраць і адлюстроўваць эстэтычнае, нешта, што грэе душу. Літаратура — гэта тое, што можа дапоўніць наведванне музеяў і выстаў. Яна робіцца больш інтэрактыўнай, але кнігі ўсё роўна чытаюць. Хоць формы іх часам іншыя, патрэба ў іх застаецца. А філалогія дае галоўны адказ, запісаны ў самім значэнні гэтага паняцця, — любоў да слова. Як жа не любіць слова? Патрэба ў слове такая ж самая, як у хлебе, малаку і мясе.

## Будучыня, планы і мары

*Часопіс выпускаецца раз на паўгоддзе. Новыя рубрыкі знаходзяць сябе самі: іх даюць сітуацыі. Паэзія, проза, эсэістыка і пераклады друкуюцца тут заўсёды, астатняе — спецпраекты — ад нумара да нумара кожны раз новыя.*

— І нумары атрымліваюцца разнапланавыя, хоць па форме ўсё аднолькавае, але па змесце — вельмі рознае.

*Будучыню Анастасія бачыць тут, ва ўніверсітэце, бо не расчаравалася ў абранай прафесіі ніколечкі. Акрамя выкладання і рэдагавання часопіса, захапляецца працай у народным тэатры гістарычнага касцюма «Полацкі зьвяз».*

— Праз дробныя дэталі касцюма раскрываюцца грандыёзныя асаблівасці нашай гісторыі. Спектаклі нашы звяртаюцца да дэталей, і гэта дае шмат незвычайных, нябачных на першы пагляд магчымасцей. Тут спроба паказаць і даказаць ужо без слоў — у супрацьвагу таму, чым займаюся ва ўніверсітэце. Яшчэ адна цікавасць: у гарадскім палацы культуры я займаюся балетам. Спрабую ім займацца. Таксама без слоў. Я не думала, што буду рэдактарам, — і вось я рэдактар. Не думала, што буду займацца харэаграфіяй, — і вось займаюся. Па-іншаму чую музыку, па-іншаму адчуваю тое, што адчуваю. Жыццё — гэта прыгоды і выпрабаванні, іначай яно было б сумным. Далей мо яшчэ што з'явіцца. Заўсёды нешта новае з'яўляецца. На пытанне пра мары немагчыма даць вычарпальны адказ. І гэта цудоўна.

## І пра калегіум

**— Ці не здаецца вам, што сцены калегіума хаваюць таямніцу, і некалі яе яшчэ адкрыюць? Вам хочацца, каб так было?**

— Дух гісторыі і дух містыцызму тут сплецены ў адно. Тут створана для гэтага адпаведная атмасфера. Тут думаеш трошкі больш, чым пра тое, што цябе акружае. Ты разумееш, што тое, што было, — легенды, рукапісы, сцены, лесвіца, кафля, чытальная зала — жывое ўсведамленне духоўнасці. Энергетычная батарэя. І гэта дае сілы і натхненне. Калі мы трапляем у іншыя ўніверсітэты на канферэнцыі, то сумуем па гэтай душэўнай утульнасці. Хочацца дадому.

# Старонкі часопіса «Литературный объектИФФ»

## Алена Чулава

### Галоўнае — думаць сваёй галавой

Таемнае «дзюцу» ўсіх выдатнікаў — не адгадваць, а проста ведаць, што хоча выкладчык. У гэтым няма нічога звышнатуральнага, у рэшце рэшт гэта адзіны навык, які старанны вучань з гарантыяй атрымае пасля адзінаццацігодкі. Калі пасля схамянуцца і пачаць крыху яго развіваць, можна дамагчыся маленькіх, але цікавых вынікаў. Напрыклад, я магу знайсці чалавека ў вялікім гандлёвым цэнтры, рухаючыся ў выбраным накірунку, — буду зразаць вуглы і прыйду, куды трэба. Але я ўпэўнена, што, акрамя імгненнай карысці і добрага настрою, празмерная арыентаванасць на тое, што ад цябе хочуць, прыносіць і адчувальную шкоду. Таму, што чалавек не задумваецца, што хоча ён сам. Так, лёгка капіпастам напісаць рэферат, злёгку перафразаваць і атрымаць чаканую ўхвалу. Цяжка — думаць сваёй галавой. Яшчэ цяжэй — атрымліваць па галаве за тое, што ёю ж, галавой, і прыдумана проста таму, што думаць сваёй галавой не так эфектыўна, як чужой, і складаней, і з першага разу можа не атрымацца, і з сотага — не факт, і ўвогуле можа патрабаваць навучання, дадатковай інфармацыі, іншай карціны свету, чаго заўгодна яшчэ… Прыкметы таго, што чалавеку лянота думаць, — няўвага да людзей, мысленне па шаблону, выказванне прапісных ісцін, якія ўвогуле не маюць дачыненне да справы… Ну, так, мозг так устроены, што яму лянота думаць. Абсалютна ў кожнага. Грамадзяне, калі ў працэсе навучання, любой іншай разумовай дзейнасці вы не адчуваеце супраціўленне з боку свайго мозга, тут два варыянты: альбо вы дасягнулі майстэрства (мінімум 10000 гадзін інтэнсіўнай дзейнасці ў выбраным накірунку), альбо вы гэту дзейнасць імітуеце — варта задумацца.

### Я вучуся адэкватна рэагаваць на крытыку. Любую

На самай справе я даволі адэкватна рэагую на крытыку, проста хацелася б, але гэта немагчыма, каб крытыкі былі кампетэнтныя ў пытаннях, па якіх выказваюцца. Назойлівая крытыка «ні пра што» раздражняе. Або трэба дакопвацца да першапрычыны. А першапрычына можа быць самай нечаканай: клопат, зайздрасць, непакой, іншыя каштоўнасці, прынцыпова іншае ўяўленне жыцця… Гэта нечым падобна да сітуацыі з бацькамі, якія не карыстаюцца інтэрнэтам. Людзі! Навучыце сваіх бацькоў карыстацца інтэрнэтам, ажыццяўляць пошук, спампоўваць кнігі. Яны ўсё роўна будуць вам штосьці раіць усё жыццё, і чым больш яны будуць ведаць, тым менш памылак і забабонаў атрымаеце вы з іх парад. Па-першае, часы мяняюцца, і тое, што было добра дзесяць гадоў таму, неабавязкова прымальна сёння. Па-другое, шаблоны мыслення нагадваюць вірус. Гэта не жарт, чалавек можа нарадзіцца ў сям’і, досвед якой захоўвае памылку разумення свету, і незаўважна для сябе, проста стасуючыся, засвоіць гэту памылку, выйсці на вуліцу і сустрэць там іншага чалавека, у якога свая памылка ці некалькі, не падобных да першай. І іх задача — зразумець адзін аднаго і дамовіцца.

### Пра тое, што адбываецца з марамі

Мара майго дзяцінства — спяваць для ўсіх. Не адзін раз выйсці, а рэалізаваць гэты накірунак развіцця так, каб ён прыносіў каму-небудзь карысць. Напрыклад, кожную пару лацінскай мовы мы пачыналі з Gaudeamus’а. Хорам. Дзяўчаты кажуць: пайшлі спяваць пад гадзіннік. Але там не ўся песня, фрагмент, і час патрэбна падпільнаваць. А потым, калі ўніверсітэт арганізаваў праект «Спяём Gaudeamus разам», яны пайшлі і спявалі разам з усімі, хоць іспыт па лацінскай мове быў здадзены даўно і паспяхова. Так, пакрысе і незаўважна, спраўджваюцца мары.

## Алена Гайдамовіч

### Здань ва ўстанове

«Правяральшчыку незразумела, што тут у вас напісана!!! Ён паглядзіць, і яму будзе незразумела!!!»

Вобраз Правяральшчыка, вялікі і жахлівы, з’явіўся перада мной. Ён пагразіў мне паль-

цам у цішы кабінета, прайшоўся ад сцяны да сцяны і зручна ўладкаваўся насупраць, утульна рыпнуўшы фатэлем. Праз яго паўпразрыстую фігуру была бачная шафа з зашклёнымі палічкамі, даверху набітымі папкамі з інструкцыямі, распараджэннямі, цыркулярамі, загадамі, планамі і графікамі. Праўяральшчык строга паглядзеў на мяне, ссунуў бровы, рука яго пацягнулася да стала метадыста, відавочна, за ручкай і паперай для афармлення майго звальнення. Унутры я здрыгануўся. Каб спыніць здань, пачаў асцярожна лапатаць: «Я па правілах… Здаецца, так афармлялі…» Здань прыпыніла рух і здзіўлена зірнула на жанчыну-метадыста. Тая адчула яе позірк, падняла на мяне бясколерныя, стомленыя, пачырванелыя вочы. Ледзь не плачучы, вымавіла: «А вы чыталі апошнюю Інструкцыю?! Вы бачылі вось гэта?!» Пакруціла ў мяне перад носам нейкай кніжыцай з кучай петыцый і подпісаў прама на вокладцы. «Таксама баіцца», — мільганула ў мяне. Я пацягнуўся за таямнічай Інструкцыяй. «Яна ёсць у вашага непасрэднага начальніка», — адбілі маю цікавасць. — «Акрамя таго, ёсць яшчэ ГЭТА!» Кручкатворная дама памахала ў мяне перад носам «Катэхізісам рабочага пенсіянера».

Павісла зацягнутае маўчанне. Зразумела, ні таямнічую Інструкцыю, ні «Катэхізіс» я не чытаў. Шчыра кажучы, сэнсу асаблівага ў такім чытве няма. Інструкцыі змяняюцца з частатой узнікнення натхнення ў таго, хто жадае апраўдаць сваю значнасць у вышэйстаячых органах. І як толькі натхненне «накоціць», з'яўляецца чарговая Інструкцыя. «Накатвае» часта. З перыядычнасцю раз-два ў год. А вось «Катэхізіс» чытаць у мае службовыя абавязкі не ўваходзіць, ды і па ўзросту ранавата. Падумаў і спалохаўся сваіх думак. Раптам іх Праўяральшчык пачуе?! Але ён неяк растварыўся, размяк, бы свечка. Так, як за час паўзы размяк твар жанчыны.

Зараз усім сваім выглядам яна казала прыкладна наступнае: «Як вы ўсе мне надакучылі, пакіньце мяне ў спакоі, дайце мне спакойна атрымліваць заробак і нічога не рабіць. Ну, чаму я ўсім усё павінна тлумачыць? Я проста хачу атрымліваць да пенсіі невялікую надбаўку ў выглядзе гэтай мізэрнай заработнай платы. У мяне дзеці, унукі… Я хачу штосьці значыць у гэтым жыцці, хачу прыходзіць з працы крыху стомленая, але задаволеная, хачу абмяркоўваць сучасныя норавы, седзячы ля тэлевізара, засынаць з пачуццём асабістага гонару, а раніцай прачынацца з усведамленнем напоўненасці жыцця… Ці ж гэта шмат?

— Добра, я перараблю, скажыце, як?

— Давайце першы ліст пераробім, пакажу, — злітавалася яна.

Прымусова доўга загружаўся ўключаны камп'ютар на яе працоўным стале. За гэты час здань канчаткова знікла. Я яшчэ раз з асцярогай паглядзеў на месца прывіднага Праўяральшчыка, але ён, верагодна, пайшоў кантраляваць нешта іншае.

— У вас ёсць электронны варыянт?

— Зразумела. Вось ён. Ці не, лепш гэты. Я ўжо не памятаю, які. У мяне іх шмат…

На маёй флэшцы дзясяткі два ці тры папак, столькі ж файлаў без дагляду. Захоўваю дакумент у некалькіх варыянтах (ніколі ж не ведаеш, што акажацца «правільным»). Тут выяўляецца, што пры наборы свежага тэксту «з'ядаецца» папярэдні, патрэбны… Так бывае, калі ў праграме «Word» уключана клавіша «Insert». Метадыст аж войкнула, калі ўбачыла:

— Ой! Што рабіць? Вы не ведаеце, як гэта прыбраць? Можа, мне з флэшкай вірус прынеслі?

На паверку выйшла, што мой жахлівы кантралёр з камп'ютарам упраўляецца прыкладна так, як я з вышываннем.

— Супакойцеся, вірусаў у мяне няма, правяраў. У вас «Insert» уключаны, — лапачу я.

Хвіліны дзве мы разам шукаем на клавіятуры патрэбную клавішу, перашкаджаючы адно аднаму (я перагінаюся праз стол і жмуру падслепаватыя вочы, бо раскладка клавіятуры не такая, як у мяне). Нарэшце непаладка ліквідавана.

— А гэта назва вашай установы, так скарачаць нельга… Адкуль вы ўзялі такія лічбы?.. Жах…

— Я ўжо і не памятаю, што было ў мяне пад рукой, тым і карыстаўся…

— Ні ў якім разе нельга карыстацца тым, што пад рукой!

Вось першы ліст гатовы і пайшоў у друк. Уф!

— Астатняе пераробіце самі. І вывучыце Інструкцыю! Вам яшчэ неабходна ўсё зноўку падпісаць, сабраць подпісы. Самі вінаватыя…

Развітваемся амаль сябрамі. Толькі напалову расплывістая, але ўсё яшчэ жахлівая здань міфічнага Правяральшчыка атручвае атмасферу ўзаемнай сімпатыі…

## Вераніка Панізнік

## Калейдаскоп

Вакол шмат рэчаў, якія так цікава складваюцца паміж сабой! Як шкельцы калейдаскопа ўтвараюць узор, так з падзей атрымліваюцца цэлыя гісторыі. І тое, і другое не ўбачыш без святла.

Ты круціш, круціш… І вось — заўважаеш прыгожыя ўзоры, яны безумоўна прыгожыя, але той выклікае больш водгукаў у тваім сэрцы. Ты супыняешся, разглядваеш, атрымліваеш асалоду… А пасля круціш далей альбо ўвогуле адкладваеш гэты занятак. Малюнак застаецца ў тваёй галаве. Адчуванні зжылі сябе, ты задаволены, усё добра… Але малюнак мільгае, намагаючыся зноўку захапіць цябе, вырваць з рэальнасці. Кінь усё, ідзі за мной — шэпча яна табе. І не тое каб тваё жыццё цябе задавальняла, не тое каб табе было сумна… Дзесьці далёка мільгае жаданне ўсё паўтарыць, вярнуць. Бо пакуль гэта апошняя цікавая падзея, якая з табой адбылася, якую ты памятаеш. І ты вырашаеш вярнуцца. Забываеш пра ўсё, бяжыш у тое самае месца, цябе клічуць — ты не чуеш, для цябе ўсё — перашкода. І вось, забыўшыся пра ўсё і пра ўсіх, ты бяжыш далей. У тваёй галаве малюнак, дакладнае месца, але ты нічога не ведаеш пра шлях да яго. Ты працягваеш шукаць. А гэтага месца больш няма. Яно было, але цяпер яно зусім змянілася. І дзе ж гэты чортаў голас, які так хацеў бачыць цябе тут? А яго таксама няма. Ён расплыўся на шляху, яму было дастаткова тваёй беганіны. І вось ты адзін: ні голасу, ні месца, ні шляху, нікога, ні цябе… І сябе ты згубіў. Што ты можаш зрабіць, дурылка? Пакруці — пачуеш зноў голас. Не вер здрадніку — ды там і іншы голас. Ну, і што ты абярэш? Нічога? Зноў пабяжыш? Два галасы, адзін чалавек, ці ёсць сэнс выбіраць адзін з іх, калі і той, і іншы — з адной крыніцы? Круці, ведаючы, што гэта не канец. Круці, не аглядваючыся, пакуль можаш — круці! Гэта адзінае, што ты можаш, гэта адзінае, што ёсць.

## Наталля Багданава

## Адзінота

Гэта быў стары выродлівы раяль…

Яго жоўтыя клавішы стомлена глядзелі на людзей, якія праходзілі міма. Крышка даўно пакрылася глыбокімі сухімі трэшчынамі. Яна ўжо так стамілася адкрывацца, падпускаючы да сваёй душы ўсё новых і новых «маэстра», што зрабілася ўсяго толькі бескарысная і нерухомай часткай аднаго панурага і хворага цэлага. Яе ўжо ніколі не адпусцяць. Хочаш? Паспрабуй. Здолееш? Сыграй. Сотні і тысячы вачэй натыкаліся на старую дзераляку ў куце аднаго з пакояў багатай кватэры, але не знайшлося і пары, якая б затрымалася даўжэй, чым на імгненне. Старыя ржавыя педалі быццам яшчэ цягнуліся да ног выпадковых мінакоў, але, ледзь адчуўшы дотык, яны выдавалі жаласны стогн пакуты і болю, што не магло не адпудзіць. З часам раяль зрабіўся ўсяго толькі падстаўкай пад вазоны з сухімі фікусамі, нікому не патрэбнымі, як і ён сам.

Неўзабаве пра старога зусім забыліся. Нуду і адзіноту не вытрывалі і струны. Павольна, па адной, яны лопаліся, выдаючы працяглы стогн адчаю. Але ніхто нічога не чуў, а калі і чуў, то не вельмі непакоіўся: старая цацка, няма нічога вечнага.

Аднойчы ў дзверы пастукала Бяда. Яна ўвайшла ціха і незаўважна, разгарэўшыся пасля вугольчыкам таннай цыгарэты. Жоўтыя клавішы раяля глядзелі на полымя з ціхмянай пакорлівасцю. Галодныя языкі пажыралі ўсё наўкола. Гарэлі кнігі, карціны. Гарэлі нават чахлыя фікусы ў вазонах. І толькі патрэсканы ад старасці інструмент не быў кранутым вострымі гарачымі лёзамі. Быццам гэты раяль усё ж павінен быў дачакацца свайго Майстра. Але ніхто не прыйшоў. І хутчэй за ўсё не прыйдзе ніколі. Ні адна стыхія не здолее зруйнаваць тое, што так незаслужана марыць быць знішчаным. Ні адна бяда. Акрамя Адзіноты.

*Пераклад з рускай Дзмітрыя Шулюка.*



*Уладзімір Лобач — кандыдат гістарычных навук, дацэнт. Выкладае этналогію і этнаграфію Беларусі, метадалогію гісторыі і метадалогію навуковых даследаванняў, рытуал у традыцыйнай беларускай культуры. Навуковыя інтарэсы: этнасеміётыка, міфалогія прасторы, сакральная геаграфія і традыцыйны культурны ландшафт, народная медыцына беларусаў і этнастэрэатыпы.*

**Уладзімір Лобач**

# Нататкі тутэйшага этнографа

## Бацькава энцыклапедыя

Краязнаўцу з ліку вясковых настаўнікаў на шарачка не возьмеш, расчуленым слоўцам не праймеш. Сядзіць краязнаўца на сваім пасадзе, быццам князь патомны ўсіх бліжэйшых ваколіц і кожнае слова сваё дорыць табе, як срэбраны талер.

Зайшоўся я ў вёсцы Цвеціна, што на Мёршчыне, да мясцовага краязнаўцы — Віктара Іванавіча. Зайшоў і першыя паўгадзіны адчайна шкадаваў пра гэта. Пажылы мужчына, выразна прамаўляючы кожнае слова, тлумачыў мне, што ўсякія там «французскія могілкі» — гэта фальклорнае глупства, а на самай справе размова ідзе пра курганныя крывіцкія пахаванні X—XI стагоддзяў, дзе ў якасці пахавальнага інвентару сустракаюцца… Што на гарадзішчах жылі не нейкія там волаты, а носьбіты днепра-дзвінскай культуры, якая бытавала ў перыяд...

Карацей, я паціху млеў ад нечаканай лекцыі з дэманстрацыяй газетных выразак, энцыклапедычных артыкулаў і абсалютна не ведаў, як перавесці саматужна-навуковы фармат маналогу на нейкія жывыя словы пра свой край. Пачаў закідваць нейкія пытанні, але доўгі час яны эфекту не прыносілі, пакуль не прамільгнула слова «бацька».

Як толькі краязнаўца згадаў пра свайго бацьку, голас яго стаў больш цёплым, зніклі сцвярджальныя, катэгарычныя адценні і спасылкі на навуковыя кніжкі. Апусціліся наструненыя плечы, былі зняты і пакладзены на стол акуляры. За сталом сядзеў ужо не суворы настаўнік гісторыі, а звычайны вясковы дзед з ссівелай галавою, напрацаванымі рукамі, спавітымі вузлаватымі жылкамі вен і загадкавым бляскам у падслепаватых вачах.

Зачын «я ў гэта, канешне ж, не веру, але мой бацька казаў» стаў самым прадуктыўным у аповедах краязнаўцы. Бо за гэтымі словамі ішлі захапляльныя гісторыі пра чарцей і чараўнікоў, здані і заклятыя скарбы, пра жывых нябожчыкаў і святыя крыніцы.

Развіталіся мы вельмі цёпла, цалкам задаволеныя гутаркай: краяўзнаўца даўно не меў такога ўдзячнага слухача, а я даўно не слухаў такога таленавітага апавядальніка. Дарогаю чамусьці стаў прыгадваць гісторыі і розныя байкі, што пачуў ад свайго бацькі. Згадваў і збіўся з ліку. Пасміхнуўся задаволена: ніякая энцыклапедыя свету не параўнаецца з тым светам, што падарыў мне бацька.

*03.08.2008*

## Дзявочы калодзеж

На поўначы Падзвіння ёсць крыніцы, святасць якіх вымяраецца не прынагоджанасцю да якога-колечы царкоўнага свята, не ўрачыстымі службамі святара і не памерамі ды аздабленнем капліцы. «Бацюшкі да яе не хадзілі, яна святая сама па сабе. А людзі вадзічку бралі і цяпер бяруць. У святы спецыяльныя не хадзілі. Як у лес ідуць, так і да святой вады сходзяць. Ручнікі насілі, на дрэва вешалі. Там, каля калодзежа. І капеечкі кідалі. Вада ж гэтая — лячэбная. Вось мая бабуля, як сама ўжо хадзіць не магла, усё прасіла, каб ёй вадзічкі той прынеслі. Памыецца і гаворыць, што святлейшы свет стаў. Ужо што, значыць, вочы ёй палепшалі» — згадвае бабуля, а яе дачка, паказваючы на пластыкавыя бутэлькі з вадой, гаворыць, што і зараз Дзявочы калодзеж ніхто не абмінае, як бывае ў лесе.

Святы калодзеж, хоць ніякага зруба і няма, зачароўвае і без усялякіх аздоб. Вада, як дзіўнае цёмнае вока з тагасвету, прыцягвае да сябе, змушае глядзець «вочы ў вочы» і набліжацца, набліжацца, набліжацца, пакуль вусны не дакрануцца да сцюдзёнага адбітка яліны на чорным празрыстым срэбры.

Месца валодае асаблівай сілай, якая хаваецца не толькі ў сцюдзёнай вадзе, але і ў паветры, у дрэвах, сакавітых лапках папараці. І хаця нікога побач няма, імкнешся глушыць крокі мохам, вітаешся, гаворыш і развітваешся з вадой шэптам. Нават медзяная манетка знікае ў святым віры бязгучна.

Вяртаюся лясной дарогай, у пляцаку нясу ваду сваім блізкім. Крапае дробны дожджык, а я ківаю галавой у знак згоды, успомніўшы словы бабулі: «Святлейшы свет стаў». Шчырая праўда.

*12.09.2008*

## Пчолы і гаспадар

У 1997 годзе, падчас этнаграфічнай экспедыцыі на Мёршчыне, маю ўвагу прыцягнула адна вясковая сядзіба. Дакладней, вялікая колькасць вуллёў, расстаўленых па ўсім гародзе — пад яблынямі і ля кустоў з агрэстам, парэчкай ды малінамі. Аднак здзівіла мяне не мноства featureснакаляровых пчаліных дамкоў, акуратных і дагледжаных, але поўная адсутнасць у іх пчалінага жыцця. Усе вуллі стаялі мёртвыя. Мярцвяная ціша ў садзе, шчодра залітым ліпеньскім сонцам, дзе сінія, чырвоныя, жоўтыя вуллі глядзеліся пахавальнымі помнікамі, мяне моцна ўразіла. Я зайшоў у хату і напрыканцы сваёй этнаграфічнай цікаўнасці задаў пытанне, што ўсхвалявала па-чалавечы як унука і сына пчаляра. Сухенькая акуратная бабулька нечакана праслязілася і, выціраючы вочы краёчкам хусткі, адказала мне простымі словамі: « Ай, унучак, дужа добра пчолкі вяліся. А ў тую зіму гаспадар мой памёр. Ён жа пчоламі займаўся… А я не зрабіла, не зрабіла, а ведала… Ён жа як памёр, а мне ж трэба было ісці да пчол. Сказаць ім. У кожны домік прыйсці, пастукаць і сказаць: «Ваш гаспадар памёр». Тады б і ў мяне былі пчолы. А не зрабіла, не сказала — за год усе пчолы прапалі. Што клешч паеў, што самі зляцелі. А я ж ведала…»

Пайшоў я з тае сядзібы дужа ўражаны. І доўга думаў пра невытлумачальную вернасць і адданасць пчол свайму гаспадару і пра тое, што цяпер ён мае сваю пасеку на Небе.

*10.02.2008*

## Святло невідушчых

Калі маеш многа, то на многае і не звяртаеш увагі, прымаеш, як штодзённую норму, як зямлю пад нагамі, як неба над галавой. А калі вочы не бачаць неба і зорак, і твараў блізкіх людзей, і сонца, што грае на Вялікдзень, а вельмі-вельмі хочацца…

Дзве бабулі з глыбоцкай вёскі Сарокі — родныя сёстры. Арцемія і Кацярына. І абедзве не бачаць. Зусім. Жывуць разам, у адной хаце, бо так лягчэй і прасцей спраўляцца з будзённымі клопатамі. Суседка дапамагае. Здавалася б, павінны быць тыя бабулі злосныя і непрыветныя, пакрыўджаныя на ўсіх праз сваю невідушчасць. Але старыя жанчыны надзвычай гасцінныя і гаваркія, бо ўвесь свет, з яго фарбамі пачуццяў і святлаценямі перажыванняў, жыве толькі ва ўяўленнях і вобразах памяці. Яшчэ свет жыве для іх у гуках, а болей — у словах. Сёстры вельмі шмат расказвалі, падрабязна, у самых драбнюткіх і сакавітых дэталях. Гаварылі і з радасцю малявалі нанова сваё жыццё. Не столькі для залётнага чалавека, колькі для сябе. Калі яны пачулі, што іх будуць фатаграфаваць, то ўзрадаваліся неверагодна. Прыбіраліся, прыхарошваліся, прасілі паправіць іх святочныя хусты, «каб красіва было». Пра сляпых сясцёр мне расказала фальклярыстка Таццяна…

Фотаздымкі розных бабуль, што сустракаліся на экспедыцыйных шляхах, яна разаслала ім на Каляды. Але зваротная паштоўка з падзякай прыйшла толькі ад сляпых сясцёр. Яны шчыра дзякавалі, запрашалі ў госці і… паклалі 10-тысячную паперку проста між бачынак святочнай кардонкі.

Напэўна, сляпыя бачаць больш за відушчых і, дакладна, ведаюць і адчуваюць лепей, што такое ўдзячнасць у чорным, непраглядным свеце.

*01.04.2008*

## Фоткі і фотакарткі

Даўно прайшлі тыя часы, калі працаваць даводзілася з «Зенітам» і ашчаджаць кожны кадр. А колькі потым было клопату, каб тыя фотаздымкі зрабіць! Цяпер усё інашай. Экспедыцыянеры напакаваны лічбавымі фоцікамі ўсіх масцей. Толькі і ведай, што пстрыкай. Колькасць пстрыкаў вымяраецца сотнямі. Што спадабалася — пакінуў сабе, што не спадабалася — сцёр ды забыўся. Зразумела, што гэткі тэхнічны прагрэс прывёў да дэвальвацыі фотапрадукцыі: «фотаздымкі» сталі «фоткамі».

Тым часам у кожнай вясковай хаце ты бачыш зусім іншую карціну. На сценах, як правіла, абапал абразоў вісяць іншыя «абразы», дзе замест суворых і непадступных багоў — родныя, блізкія твары. Што праўда, не менш святыя і шанаваныя. Асабліва калі на цябе глядзяць тыя, што даўно спачываюць у зямлі. Язык не павернецца назваць такую выяву фоткай. Вяскоўцы і не называюць. Фотакартачка ці проста картачка. Апошняе, як пашпарт, як важны дакумент, гучыць сур'ёзна.

Сядзім гамонім з бабцяй. Прысела адпачыць у цяньку, а тут і мы падаспелі. Напэўна, завіхалася па гаспадарцы. Гаманілі добра. Запісалі шмат цікавага. На развітанне вырашылі сфатаграфаваць, але як толькі аказаўся ў руках фотаапарат, ціхмяная і спакойная бабуля падскочыла, быццам маладзіца. Загаласіла на прамілы бог, што і спадніца брудная, і валасы спутаныя, і хуста не тая. Паляцела ў хату прыбірацца. Праз хвілін колькі бабцю было не пазнаць: кофта новая (нявестка падарыла), хуста квяцістая, валасы зачасаныя, і твар ажно памаладзеў. Прыгожая! Бо фотакартачка — гэта падзея!

Вось бачыш, а ты кажаш — «фотка».

## Чортавы вароты

Дрысеншчына. Вёска Цясты. Мне гадоў пяць, і я некуды іду з бабуляй Ксеняй. Сцежка вузкая, але я на яе і не прэтэндую: гарцую побач, мужна змагаюся дубцом з лапухамі і шчасліва смяюся, сцінаючы варожыя галовы. Наперадзе перагорнутай рагуляй чарнее стары тэлеграфны слуп. Бягу, каб праскочыць у самотную браму, але заміраю на месцы, пачуўшы рэзкае і катэгарычнае «Ату!». Бабуля Ксеня хапае мяне за руку, і сцяжынкаю мы абыходзім смаляны тэлеграфны слуп. Я торгаюся і спрабую вырвацца, але бабуля трымае надзейна і, каб маё жаданне прабегчы пад рагулькай знікла канчаткова, шэптам дадае: «Нельга там бегаць. Гэта чортавы вароты. Прабяжыш — і цябе чорт схопіць». Бясконца аглядаюся на той драўляны слуп і не магу зразумець, дзе той чорт там хаваецца. Але і бегаць там ужо не хочацца…

Толькі нядаўна зразумеў тое, ад чаго засцерагала бабуля Ксеня: вароты, за якімі няма чалавечай сядзібы, вароты з ніадкуль і ў нікуды — гэта чортавы вароты, увайшоўшы ў якія, чалавек незваротна трапляе ў іншасвет. Чортавы вароты для людзей адчыняюцца толькі ў адзін бок.

*27.12.2007*

## Яблыкі

*Дзядам маім Івану, Мацвею і бабулям Марыі і Ксеніі ахвярую.*

Я люблю яблыкі. І ўсе мае родныя і блізкія людзі любяць яблыкі. Ранеткі і бель, папяроўкі і папінкі, антоны і каштэлі — каму якія да густу. Вядома, іспанскія ці польскія яблыкі, што ляжаць на кірмашовых латках, — глянцава-прыгожыя і роўнакаліберна налітыя сокам заморскай зямлі, ды няма ў іх тонкага, але выразнага прысмаку ранніх жніўеньскіх туманаў, халоднай вераснёвай расы і жывых драпінак на бачках, якія пакінулі шалёныя зоркі. Няма ў замежных яблыках жыцця, няма за імі ніякай гісторыі — толькі набор нясвежых вітамінаў і хімікатаў. Заўважыў, што яблыкі гэтыя чамусьці прынята рэзаць, а нашы — спажываць цалкам, салодка прымружваючы вочы, калі сакавітым хрумстам распадаецца ў роце яблычная плоць.

Яблыня ў беларусаў — асаблівае дрэва. Як цвіце, то гукае пра дзявоцкую долю, як плоданосіць — шапоча пра малых дзетак. Але саджаюць яблыні мужчыны — гаспадары, дзяды. І мой дзед Іван, і дзед Мацвей ужо пайшлі на той свет, але пакінулі дзецям, унукам і праўнукам яблыневыя сады. Гулкім напамінам пра іх падаюць у аціхлым восеньскім садзе важкія антоны: «Хутка Дзя-ды». Яблыкі любяць жывыя і мёртвыя.

Ля самых вясковых могілак мы сустрэлі сухенькую бабулю, што несла ладную торбу яблыкаў. На твары старой жанчыны не было ні болю, ні скрухі, ні жалобы — толькі светлая, спакойная радасць ад таго, што яна выбралася праведаць сваіх блізкіх людзей са смачным і дужа патрэбным гасцінцам.

— Да Спаса яблыкі есці нельга. Тады, як вось дзеткі памерлі ці бацькі, на тым свеце будуць усім яблыкі на свята раздаваць, а ім не дадуць. А так, во ім занясу — яны і парадуюцца там.

Мы разам зайшлі на старадаўнія могілкі: яблыкі ляжалі скрозь. Ля свежых і нядаўніх магіл, пад сучаснымі помнікамі, кавaнымі і каменнымі крыжамі, ля надмагільных камянёў, што не мелі ні дат, ні надпісаў. Бабуля тым часам паклала яблыкі свайму мужу, сыну, блізкім і далёкім сваякам. Але яблыкаў у торбе было столькі, што яна паменшала хіба на палову. Я ўсё чакаў, што жанчына не вытрымае, расчуліцца, заплача, але калі яна зноў падышла да нас, твар яе быў лагодны і ўсцешаны. Мы доўга гаварылі з ёю, і больш шчырай размовы за тую, што адбылася сёння на могілках, я не прыпомню. На развітанне бабуля працягнула нам яблыкі. Я на імгненне зніякавеў, бо ведаў, КАМУ яны пачаткова прызначаліся, але амаль адразу працягнуў руку насустрач дару, бо ведаў, ХТО на нас глядзіць, прызнаючы за сваіх.

*19.08.2008*



*Віктар Чараўко выкладае палеаграфію, археалогію, філасофію, гісторыю Беларусі, а таксама камп'ютарныя тэхналогіі навучання гісторыі. Разам са студэнтамі-гісторыкамі праводзіць палявыя археалагічныя даследаванні на тэрыторыі Беларускага Падзвіння.*

**Віктар Чараўко**

## Альтэрнатыўныя гісторыі

Памылкі, апіскі, агаворкі… Свае і чужыя. Мы сутыкаемся з імі ўвесь час. Шукаем, выпраўляем, робім новыя. Пазбегнуць іх немагчыма. Кажуць, у кнігавыдавецкай справе нават ёсць стандарт, у адпаведнасці з якім на сорак тысяч знакаў дапускаецца адна памылка.

Пераважная большасць памылак — нецікавыя і стандартныя. Сустракаюцца, аднак, памылкі, якія непазнавальна скажаюць тэкст, ствараючы камічны эфект. Да іх адносяцца студэнцкія «перлы». Калі смех працягвае жыццё, дык яны з'яўляюцца сапраўдным бонусам для выкладчыка.

Студэнцкія «перлы» — не шараговыя апіскі ці агаворкі. Гэта такія памылкі, якія надаюць тэксту новыя сэнсавыя адценні, спараджаюць нечаканыя асацыяцыі, малюючы цэлы ўяўны сусвет. У выпадку са студэнтам-гісторыкам — альтэрнатыўную гістарычную рэальнасць.

Запісваць памылковыя смешныя адказы я пачаў ці не з першага дня працы. Навошта? «Сказила бы всякие речы с часом старость, коли бы учинки людские через листы не были увечнены», — сказалі б нашы продкі. То бок, проста, каб не забыць. Гэта па-першае. Па-другое, нягледзячы на знешнюю несур'ёзнасць такой справы, яна вартая ўвагі. Нестандартныя памылкі, апіскі і агаворкі дазваляюць выкладчыку прыцягнуць увагу да недастаткова засвоенай тэмы. Інфармацыя, эмацыйна афарбаваная, засвойваецца лепш. «Перлы» дапамагаюць убачыць логіку разважанняў студэнта і дакладней зразумець прычыну памылкі, якая не заўсёды зводзіцца да банальнага «не вывучыў».

«Навошта вы гэта запісваеце?» — неаднаразова здзіўляліся студэнты. «Збяру паболей — надрукую кніжку!» — адказваў я. Да смешных адказаў з часам дадаліся камічныя сітуацыі і здарэнні. Жарты жартамі, але калекцыя назбіралася немалая. Прыйшоў час выконваць абяцанні і апублікаваць яе хаця б часткова. Матэрыял падзелены на тры часткі. Першую — «Дыялогі» — склалі вусныя адказы на пытанні або гутарка студэнтаў паміж сабой. Другая — «Цытаты» — пераважна ўтрымлівае цытаты з праверачных і кантрольных работ, часам з маімі каментарыямі (пазначанымі курсівам). Трэцяя — «Думкі» — гэта апісанне розных камічных сітуацый, якія здараюцца ў жыцці выкладчыка, і мае разважанні з гэтай нагоды.

### Частка першая. Дыялогі

Падслухана ў аўтобусе:

— А якія ў нас яшчэ залікі?

— Яшчэ логіка.

— Логіка? Я думала, лагістыка. А як правільна казаць?

— Логіка.

— Кім паводле сваёй, так бы мовіць, прафесіі, была жонка Кейстута?

— ...А прафесія старажытная?

— Так, можна сказаць, вельмі старажытная...

— !!!

— Не, гэта не тая прафесія...

— Якія творы Васіля Быкава вы ведаеце?

— Альпінісцкая балада.

На заліку:

— Што такое аніматызм?

— Аніматызм — гэта... Зараз... Анімізм... Ананізм... Ананізм — гэта...

— Стоп-стоп-стоп...

— Хто быў галоўным апекуном кальвіністаў у ВКЛ?

— Чорны!

— А звалі яго як?

— Кузьма. Кузьма Чорны.

— ???

— Ой, напэўна, я з беларускай літаратурай пераблытала.

— Да якога біялагічнага віду вы адносіцеся?

— Я не ведаю...

— Перуна прывязалі да бізуна.

— Да чаго?

— Да бізуна! А потым павалаклі яго і скінулі ў ваду.

— Якія вы ведаеце карціны Марка Шагала?

— «Над Віцебскам». Там хлопец цягне дзяўчыну.

— Што такое «Юнона і Авось»?

— «Юнона» і «Авось» — гэта два караблі.

— Падказваю, гэта гісторыя кахання... Каго?

— «Юноны» і «Авось»...

— З чаго выраблялі бамбіцыну[1]?

— Я памятаю, што не з анучак...

— Так, гэта прадукт расліннага паходжання.

— З лёну?

— Не. Але, як і лён, гэтая расліна выкарыстоўваецца для вырабу тканін, з яе шыюць адзенне...

— Можа, з латэксу?

— Што такое пакт Молатава-Рыбентропа?

— ...?

— А хто такія Молатаў і Рыбентроп?

— Ха, гэта адзін чалавек!

[1] Бамбіцына — старажытная папера, як мяркуецца, з баваўняных валокнаў.

— Пераходзім да наступнага пытання: «Аляксандр…

— Я сёння не падрыхтаваны.

— Аляксандр, я не выклікаў вас. Пытанне гучыць так: «Аляксандр Неўскі і бітва на Чудскім возеры». Але шкада.

— А ты ведала, што Уга Чавес — індзеец?

— А я ў палітыцы не разбіраюся.

## Частка другая. Цытаты

Многія тэрміны, у тым ліку навуковыя, маюць грэчаскае паходжанне. Напрыклад, імя Сяргей.

Трагедыя — гэта калі людзі пераапраналіся ў вопратку казлоў... Карацей, у адзенне, у якім яны былі падобныя да казлоў.

Малпа паходзіць ад чалавека праз агульнага гуманоіднага продка.

Падсечна-агнявое земляробства: лес рубілі, спальвалі і вырошчвалі новы.

Натуральная гаспадарка — гаспадарка, заснаваная на вытворчасці прадуктаў жыццядзейнасці. Яны выкарыстоўваюцца ў межах нейкай мясцовасці яе вытворцамі і не ідуць на рынак.

Зямлю апрацоўвалі з дапамогай сахі, якую ўпрагалі ў быка.

І паслаў Уладзімір да Рагвалода, кажучы: «Хачу ўзяць цябе за жонку».

Уладзімір саслаў Рагнеду ў Ізяслаўль, дзе яна пастрыглася пад манашку.

І тады яны вырашылі, што Рагнеду трэба некуды паслаць.

Пахаждзенія Ефрасінні Полацкай.

*Гэта аб яе паломніцтве ў Ерусалім.*

Кірыла Тураўскі быў прыхільнікам Баяна.

З каровы здымалі скуру і ачышчалі яе ад меха.

*Шкада, з каровінага меха такое файнае футра можна было б пашыць.*

Найлепшае пяро атрымлівалася з трэцяга ці чацвёртага гусінага крыла злева.

*Гэта не гусь! І нават не серафім!*

Смута — гэта калі тварыўся такі разлад, што проста жах!

Сяляне збягалі ад сваіх паноў і забіралі землі.

*Лёг памешчык спаць. Прачнуўся: трох сялян ужо няма. І пары валок маёнтка не хапае.*

Святаполк — сын Уладзіміра ад Яраполка.

З саломы рабілі такія тапачкі, лапці, а знізу падкладалі кляёнку.

*Лайфхак!*

Польскі кароль памёр, і польскія феадалы абралі каралевай яго маленькую дачку — Ягайлу.

*Польскія феадалы не адразу зразумелі, як моцна памыліліся.*

І яшчэ я магу паказаць фотаздымак Ягайлы.

*На пашпарт.*

Вітаўт быў жанаты з віцебскім князем. Ой, не з князем, а з Віцебскім княствам.

Малочны сын Ягайлы Казімір.

Ва ўніяцкай царкве выкарыстоўваліся зразумелыя простым сялянам польская і лацінская мовы.

Каліноўскі быў арыштаваны ў турме.

Пётр І сустрэўся з Ньютонам, які ў той час узначальваў кансерваторыю.

Ганна Іаанаўна на чале Праабражэнскага палка прыехала на пахаванне Пятра І і сказала, ціпа яна палкаводзец.

Гэты твор прысвечаны прыгоннаму юнаку, які памёр ад запрыгоньвання.

Нехта займаўся плоцкай дзейнасцю.

*Гэта аб Вялікім пасольстве Пятра І у Еўропу і навучанні яго плотніцкай справе.*

Вечны агонь адправіўся ў Хатынь на браняносцы ў суправаджэнні эскорта.

*З фрэгата і мінаносцаў.*

Яшчэ пры жыцці ён напісаў ліст Гогалю.

*Што дзіўна, бо звычайна лісты Гогалю пісалі пасля смерці.*

Дзякуючы сваёй прыгажосці памешчык запрыкмеціў дзяўчыну.

З усіх пералічаных дзекабрыстаў, народнікаў і марксістаў мне больш за ўсё сімпатызуюць дзекабрысты.

Партмакулатура.

*А за гэта ў свой час маглі і пасадзіць.*

Палацава-замкавыя гімназіі.

Сяляне патрабавалі, каб у мястэчках былі пабудаваны школы, бальніцы і ветлячэбніцы, якія б абслугоўвалі насельніцтва.

*— Што, рыла баліць? — спачувальна спытала Ганна Васіля. — Мо ветэрынара паклікаць?*

Тайныя таварыствы вучнёўскай моладзі: таварыства «Праменьчык».

*Ну што за назва — «Таварыства прамяністых»? Не гучыць... А вось таварыства «Праменьчык» — так гламурненька.*

Генетычныя сувязі тайных таварыстваў вучнёўскай моладзі з масонскімі арганізацыямі: нярэдка члены былі двучленныя — былі і членамі масонаў, і тайных таварыстваў.

Беларуская паэтка Ларыса Гюнеш.

*Дык яна яшчэ і паэтка?*

## Частка трэцяя. Думкі

Той нязручны момант, калі ідзеш на занятак, прысвечаны Вялікай Айчыннай вайне, а тваю аўдыторыю занялі немцы (філолагі). У іх канферэнцыя. А ты займаеш суседнюю аўдыторыю і ставіш гісторыкам «Свяшчэнную вайну».

***

Той нязручны момант, калі ў залікоцай кніжцы студэнта-завочніка бачыш намаляваны домік.

***

Той нязручны момант, калі адказ студэнта-завочніка надрукаваны на адваротным баку меню мясцовай кавярні з пералікам алкагольных напояў.

***

Той нязручны момант, калі ў тэксце напісана «Іаан Прадцеча», а студэнт на палеаграфіі чытае «Іаан Прычындал».

***

Той нязручны момант, калі ты паказаў на дошцы, як выглядалі кірылічныя літары часоў ВКЛ і тыповыя скарачэнні. А дзяўчаты-гісторыкі на перапынку дамалявалі літарам вочкі, лапкі, крылы, ператварылі іх у птушачак, дракончыкаў, змеек і стварылі сапраўдны комікс (глядзі фота).

***

Калі б праводзіўся конкурс на самую арыгінальную падставу не пісаць кантрольную, то першае месца заняла б гэтая. Напалову спісаны аркуш паперы. Чарнілы святлеюць. Адказ абрываецца на сярэдзіне. І пад ім надпіс: выбачайце, у мяне скончылася ручка.




***

Сёння прымаў экзамен па палеаграфіі. Даведаўся, што старасвецкія беларускія кніжнікі пісалі «калашом», а пёры бралі з левага боку птушкі. Пергамен для пісараў рабілі са скуры коней, а паперу — з іржавых жалезных цвікоў.

***

Крыніцазнаўства гісторыі Беларусі. Чытаем урывак з мемуараў Мазурава. Па вушах б'е выраз «активация партизанской борьбы».

— Можа, «актывізацыя», а не «актывацыя»?

— А, так, актывізацыя.

У складаныя камп'ютарныя гульні ніколі не гуляў, але адразу ўяўляецца манітор з картай Беларусі. І нібы чую, як з калонак гучыць металічны голас:

— Партызанская вайна актывавана. Усталяваны Беларускі штаб партызанскага руху. Да пачатку аперацыі «Рэйкавая вайна» засталося 5 хвілін.

***

Зайшоў ва ўніверсітэцкую сталоўку і ўбачыў піроржнае «Бонапард». Вырашыў, што гэта нейкая мутацыя «Напалеона». Пакаштаваць не адважыўся.

***

Ва ўніверсітэце свята. Каля будынкаў усё чыста, прыгожа, шарыкі паветраныя, ладзіцца анімацыйная праграма. У альтанцы хлопцы, апранутыя на манер сярэднявечных студэнтаў, — як сімвал езуіцкага калегіума. Каля варот — даніна часам Кацярыны II: студэнткі ў прыгожых пышных сукенках. Стаяць і вядуць свецкія размовы:

— В этом платье я не на фрейлину похожа, а на служанку, б...ь!

Усё ж прыемна разумець, што Alma Mater — культурны і адукацыйны цэнтр Полаччыны. Інačай адкуль бы дзяўчына ведала слова «фрэйліна»?

***

Цікава, толькі мяне абурае выраз «Слоўнік Ажогава», пачуты ад студэнта-філолага?

***

На «дужа навуковай мове» пошук патрэбнай інфармацыі ў кніжках ды часопісах, а таксама пошук гэтых самых кніг і часопісаў завецца мудрагеліста — бібліяграфічнай эўрыстыкай. Выглядае гэта зараз прыкладна так.

У час семінара ў студэнтаў-інфарматыкаў высвятляецца, што ніхто ў групе не ведае значэння загадкавага слова «анексія», непрадбачліва ўжытага дакладчыкам. Прапаную наступныя варыянты: сучасны і класічны. Сучасны варыянт: той, хто можа выйсці ў інтэрнэт з мабільніка, шукае азначэнне там. Класічны варыянт: нехта ідзе ў бібліятэку і там шукае тэрмін у слоўніку.

Раптам аказваецца — нечуваная рэч для інфарматыкаў! — што ў ніводнага з прысутных няма доступу ў сеціва ні з мабільніка, ні з ноўтбука. Семінар апошні, магчымасць атрымаць адзнаку таксама апошняя, таму ісці ў бібліятэку выклікаюцца ажно трое. Я не супраць здаровай канкурэнцыі. Хвілін праз 5 студэнты вяртаюцца расчараваныя і паведамляюць: у бібліятэцы такой інфармацыі няма. Распытваю. Аказваецца, небаракі пайшлі не гартаць слоўнікі, а на абанемент — мучыць нечаканымі пытаннямі супрацоўніцу. Паведамляю, што ў нашай бібліятэцы ёсць яшчэ чытальная зала, тлумачу, дзе яна, і адпраўляю дуэт, што застаўся ад трыа, за інфармацыяй зноўку. Праз хвіліну з мабільнікам у руцэ ўбягае хлопец і агучвае доўгачаканае азначэнне. І просіцца назад — вярнуць тэлефон гаспадыні:

— Я зараз, толькі тэлефон ёй вярну!

Па вяртанні пытаюся:

— Дык дзе вы ўзялі мабільнік з доступам у інтэрнэт?

— У дзяўчыны на калідоры запытаўся, яна і дазволіла ўзяць тэлефон.

— У незнаёмай?

— Так! Вось жа якія добрыя людзі ёсць!

— Ну, дык пазнаёміліся хаця б?

— Не, калі? Падзякаваў ды адразу сюды пабег.

— А, ну да, семінар...

***

«Я так лічу» і «гэта маё меркаванне» — цудоўныя фразы. Але для тых, хто верыць у магію слова, «ятаклічу» і «гэтамаёмеркаванне», а яшчэ «тамтакнапісана» — проста чарадзейныя закляцці. Любая лухта, калі іх вымавіць, хаваецца за флёрам уяўнай глыбокадумнасці.

— У вас памылка.

— Тамтакнапісана!

— Што гэта за глупства?

— Гэтамаёмеркаванне!

— А чаму аформлена няправільна?

— Ятаклічу, што правільна!

І на твары ў суразмоўцы — адбітак трагізму і непахіснай ўпэўненасці чалавека, што ідзе за свае перакананні на эшафот. У вачах — туга дысідэнта, які церпіць з-за прынцыпаў. Спачатку нават нязручна можа стаць. Я ж думаў, гэта страшэнная непісьменнасць — але не! Гэта — народжанае ў інтэлектуальных пакутах Меркаванне. Менавіта Меркаванне, з вялікай літары.

— Чаму вы напісалі, што Кірыла Тураўскі — аўтар «Евангелля»?

— Тамтакнапісана!

(Па ўсім свеце спалохана ўздрыгануліся часцінкі мошчаў Іаана, Мацвея, Марка і Лукі).

— Вы напісалі, што навейшы час — гэта перыяд 50—80-х гадоў XX стагоддзя!

— Гэтамаёмеркаванне!

(Кліо і Хронас параздзіралі на сабе вопратку і пачалі пасыпаць галовы попелам).

— Чаму курсавая работа аформлена няправільна?

— Я лічу, што правільна!

(Цай Лунь перавярнуўся ў магіле і пракляў той дзень, калі вынайшаў паперу).

На шчасце, магія гэта слабенькая і ўздзейнічае толькі на тых, хто вымаўляе падобныя закляцці.





*Ірына Андрэева — кандыдат псіхалагічных навук, дацэнт кафедры тэхналогіі і методыкі выкладання. Акрамя агульнай і сацыяльнай псіхалогіі, выкладае псіхалогію і сацыялогію кіравання, вядзе трэнінг кіравання эмоцыямі. Як навукоўца цікавіцца эмацыйным інтэлектам.*

## Ірына Андрэева

## Нататкі выкладчыка псіхалогіі

Я не чакаю ад іх закаханасці і захаплення. Не магу ім даць любоў — гэта для блізкіх. Я абяцаю ім прынацце і разуменне — і ад іх чакаю таго ж.

А яшчэ яны цікавыя для мяне. Са сваімі мабільнымі і планшэтамі — не такія, якімі былі мы ў свой час. Са сваімі дзіўнымі захапленнямі («Ці збіраеш ты мемы?»). Са сваім нежаданнем чытаць нічога акрамя інтэрнэта. З прыхільнасцю да трылераў і танных любоўных гісторый. Са сваім шматведаннем («А вось у сеціве пішуць…») і інфантыльнасцю («Праз два месяцы працаваць? А я б яшчэ павучылася!»).

І яны такія, як я, — са сваімі марамі і жаданнямі, з сяброўствам і каханнем. Яны яшчэ адкрытыя свету і таму гатовы слухаць мяне. І вось што мне здаецца важным: я магу з Божага дазволу не толькі захапіць іх псіхалогіяй, але і дапамагчы разабрацца у чалавечым свеце, зрабіць іх трохі лепшымі. Веды патрэбныя, але не галоўныя, яны могуць забыцца. Светапогляд застанецца. Таму яны запамінаюць не правілы, а прыпавесці. «Аднойчы да Буды прыйшла жанчына…»

Яны гавораць, што паступілі сюды, каб дапамагаць людзям. Яшчэ не здагадваюцца, што, у першую чаргу, каб дапамагчы сабе.

Вы, пэўна, зразумелі, хто такія «яны»? Мае студэнты, будучыя псіхолагі. Бо менавіта псіхолаг — чалавек, які не заплюшчвае вочы на свае праблемы, а праз набыццё ведаў вырашае іх, намагаецца выправіць свае заганы і пераадолець абмежаванні.

*Панядзелак*. Я ўваходжу ў прахалодную аўдыторыю, але праз некалькі хвілін мне становіцца цёпла. Я ўжо не памятаю іх прозвішчы, але добра ведаю імёны, а яны ў сваю чаргу больш не блытаюцца, называючы мяне Ірынай Андрэеўнай, — мы збліжаемся. Яны ўважліва назіраюць за мной, быццам я на сцэне, але тут не трэба іграць нейкую ролю. Гэтага не люблю, іх гэта таксама не кранае. Але іх вельмі чапляе мой настрой. Сёння на вуліцы дождж, ды і я не нясу ім вяселле, а давяраю праўду, якая бывае горкай.

Але гумар ніколі не будзе лішнім. Асабліва калі смяешся з сябе.

*Аўторак*. Рыхтуюся да заняткаў. Каб яны захапіліся новай тэмай, гэты сухі матэрыял павінен спачатку стаць цікавым для мяне. Завязла ў кнігах (як зрабіць так, каб яны зразумелі?). Дзесьці побач ляжыць недапісаны навуковы артыкул, а яшчэ далей — недачытаны скандынаўскі дэтэктыў (бывае наадварот: мастацкая або навукова-папулярная проза бліжэй, а навуковыя працы — далей).

Вечарам у мяне — слухачы факультэта перападрыхтоўкі кадраў. Бухгалтары, інжынеры, настаўнікі і нават ваенныя — яны атрымліваюць другую адукацыю, псіхалагічную. Задумваюся: што іх штурхае пасля працы ісці не дадому, да сям'і, а на вучобу? Часам прычына — вытворчая неабходнасць: трэба «здабыць» больш высокую пасаду, аднак не хапае чалавеказнаўчых ведаў.

Бывае, што муж — бізнесмен, а жонка — вечная студэнтка ў пошуках сябе: «Я скончыла ўніверсітэт, школу ЕШКА, навучылася карыстацца фоташопам і вышываць крыжыкам, але ўсё гэта не маё. Паспрабую асвоіць псіхалогію».

Але бывае і так, што 15—20 гадоў чалавек займаўся нелюбімай справай, а тым часам у душы шчыра любіў псіхалогію. І вось зараз атрымалася здзейсніць мару, якая ўжо амаль зарасла мхом. Добра разумею гэтых людзей. Сама не адразу адчула сваё прызначэнне і дасюль маю парачку адкладзеных у дальнюю шуфляду запаветных мар. Чаму чалавек не стаў мастаком (пісьменнікам ці ўрэшце псіхолагам)? Таму, што… Самі ведаеце, як гэта бывае. Адгаворак шмат. Але добра, што нарэшце наважыўся распрасцерці крылы.

Адна слухачка задумалася: а чым яна будзе займацца, калі закончыць працаваць? І — паступіла ў магістратуру. Зараз разам з мужам, дзецьмі і ўнукамі марыць пра сваю кандыдацкую дысертацыю. Зразумела, не толькі марыць, але і працуе над ёй. Такія людзі натхняюць.

*Серада*. Сёння перада мной быў шэраг маладых і зацікаўленых, але больш сур'ёзных і сумных вачэй. Гэтых я ведаю ўжо чацвёрты год. Трэнінг. Вось студэнтка марыць пра бацьку, якога ў яе ніколі не было, а іншая пярэчыць, што трапляюцца такія бацькі, пра адсутнасць якіх не варта шкадаваць. Большасць з іх — будучыя «параненыя лекары» паводле А. Адлера. Атрымаўшы шмат ведаў па розных псіхалагічных дысцыплінах, яны да старэйшых курсаў зразумелі свае «дыягназы». Псіхалагічныя траўмы, разводы бацькоў, недахоп чалавечага цяпла — усё гэта пакідае шрамы. Ці паспеюць вылечыцца? А ці наша гэта справа? Мы — акадэмічныя псіхолагі, якія могуць толькі паказаць дарогу, а яны могуць пайсці па ёй або не. Гэта іх выбар: застацца з тым, што маеш, або змяніцца. Апошняе цяжка. Акрамя таго, ці заўсёды трэба імкнуцца да вядомай «нормы», калі яна пазбаўляе індывідуальнасці? Я не ведаю адказу.

Каб студэнты раскрыліся, распавядаю пра сябе — з дзяцінства, з юнацтва. Не аб тым, чым звычайна пахваляюцца, а пра тое, што хаваюць. Паказваю, што ў дарослым узросце такіх рэчаў не трэба саромецца, калі разумееш іх сэнс, іх месца на лініі жыцця, іх ролю ў логіцы лёсу. Тады гэтым недарэчным і быццам памылковым учынкам удзячны за рост сябе як асобы.

*Чацвер*. Сонная маршрутка. Еду ў Мінск размаўляць з навуковым кансультантам і экспертамі паводле сваёй дысертацыі. З павышэннем узроўню адукацыі пашыраецца асяроддзе цікавых і разумных людзей, і я ўдзячна свайму навуковаму лёсу за магчымасць рэгулярна камунікаваць з імі. Крытыка мне выпадае рэгулярна, але парады вопытных вучоных даюць магчымасць унесці паляпшэнні ў навуковую працу. Крытыкуюць таго, хто можа ўдасканаліцца. Гэта значыць, што ў мяне вераць: як у Мінску, так і ў Полацку. Тым саладзейшая рэдкая пахвала.

Але ж трэба ехаць дадому. Ведаеце, што я люблю? Кубачак кавы якраз на палове дарогі да Полацку, у Бягомлі. «Прыпынак — дзесяць хвілін!» Няшмат, каб абдумаць вынікі паездкі. І якраз тое, каб перавесці дыханне.

*Пятніца*. Пасля паездкі цяжка прачынацца на першую пару. Трошкі зарадкі і водных працэдур — і глядзіш на свет больш ясна. Зарадка, зразумела, не толькі па пятніцах. І ёсць яшчэ фітнес. А як жа інакш, каб быць у добрай форме (гэта датычыцца і мыслення).

Сёння на занятках нічога асабістага. Адна статыстыка. Дысцыпліна «Эксперыментальная псіхалогія і сістэмны аналіз дадзеных» прымушае другакурснікаў засумнявацца, што псіхалогія — навука гуманітарная: так шмат даводзіцца лічыць. Але камп'ютарнае пакаленне лёгка аваладвае праграмай. Зусім не тое, што я ў свой час. Інфарматыкі ў школе ў нас яшчэ не было, камп'ютар я асвоіла гадам к трыццаці, у час працы над кандыдацкай. Памятаю, што аперацыю «Paste — Copy» засвойвала каля тыдня. А колькі цудоўных думак было страчана таму, што я забывала захоўваць тэкст?

Праўда, і яны часта не ведаюць, як фармаціраваць старонкі. Калі пачынаюцца курсавыя, прыходзіцца іх вучыць і гэтаму. Адчуваеш тады ўласную перавагу.

*Субота (і нядзеля)*. Студэнты думаюць, што ў выкладчыкаў не бывае ўласнага жыцця. Напэўна, яны лічаць, што мы і начуем дзе-небудзь на канапе ва ўніверсітэце. Гэта не так! Ёсць і цікавыя кніжкі, і паходы ў тэатр, і шпацыры, і падарожжы, і нечаканыя адкрыцці… і канспекты лекцый, і прэзентацыі, і вучэбна-метадычныя комплексы — усе гэта мудрагеліста пераблытана на выхадных. Гэта наш лад жыцця. Гэта і ёсць наша сапраўднае жыццё.



*Дар'я Палынская завецца Даркай, мае 22 гады, вучыцца на 5 курсе гістфака. Цікавіцца этнаграфіяй, вядзе блог. У 2013-м «Маладосць» друкавала яе натхнёны пачаткам вучобы дзённік з этнаграфічнай практыкі. «Нічога, здаецца, не змянілася з таго часу: мы, як і раней, размаўляем з мужам па-беларуску, прымаем каўчсёрфераў і самі вандруем аўтастопам». Дадамо толькі, што муж Дар'і — калумніст «Маладосці» Ігар Палынскі.*

## Дар'я Палынская

# Урывак з дзённіка

Калі б мне прапанавалі напісаць нешта пра ўніверсітэт і мінулыя гады вучобы — мяне б апанаваў страх, я б завісла і не напісала б ні радочка. Не, мо і напісала б, але колькі б з іх было выдалена, перапісана і зноўку выдалена? Гэта тое, пра што пісаць публічна не хочацца. І думаць не хочацца. Іначай на вочы наварочваюцца слёзы шкадавання і тугі. Я не хачу, каб гэты час заканчваўся. **Гэта быў найлепшы перыяд майго жыцця, факт.**

Сёння мне выпала затрымацца ў калідоры: трэба пачакаць кансультацыі па дыпломе. Ужо пачалася пара. (На пятым курсе у нас увогуле было надзвычай мала пар, якія і так, змяшчаючыся ў тры дні на тыдні, паспявалі ператварацца ў форткі. Мы моцна пантаваліся гэтым перад філолагамі, якія вучыліся поўны тыдзень. Ха-ха!)

Ва ўніверсітэце — цішыня. Перада мной 103-я аўдыторыя, якую нейкі час таму зрабілі проста неймаверна цудоўнай (спецыяльна для гісторыкаў там паставілі круглы стол, зручныя крэслы). Неаднойчы мы там перапісвалі археалагічныя знаходкі, засцяліўшы цыратамі сталы і разваліўшы на іх чарапкі. З-за дзвярэй аўдыторый зрэдку даносяцца водгаласы размоў, смеху — там ідуць пары. А я чакаю. І мяне патроху накрывае.

Накрывае ўсведамленне нейкай безвыходнасці. Вучоба амаль скончылася, а гэта значыць — пар больш не будзе. Менавіта пар як заняткаў. Не трэба будзе прыходзіць ва ўнівер, раз-пораз рыхтаваць даклады, увогуле нешта рыхтаваць / чытаць / канспектаваць. Знікне неабходнасць пісаць ў агульны чат «Укантакце» аднагрупнікам. А што адбудзецца з гэтай нашай размовай, выніковая назва якой замацавалася на «12ГІС»? Будзем пісаць віншаванні на святы, раз-пораз скідваць карцінкі?

Мне не падабаецца думка, што больш можна будзе сюды не прыходзіць. Не разумею, як можна не захапляцца гэтым будынкам: шырокія калідоры, высачэзныя столі, агромныя падаконні, аркі, сучасны рамонт... Памятаю, яшчэ да майго паступлення сяброўка, што вучылася на эканамічным у Наваполацку, даслала мне фота актавай залы. Як жа яна мяне ўразіла!

Так, з-за гэтай прыгажосці мы часта мёрзлі, але найчасцей пагардліва — ну, прабачце! — глядзелі на навучэнцаў Наваполацка, якія штодзень хадзілі ў абсалютна стандартны (плюс заблытаны і шэры) корпус. Наш жа, будынак былога езуіцкага калегіума, змяшчае ў сабе столькі ўсяго таямнічага! Неяк, вяртаючыся позна ўвечары на першым курсе з рэпетыцыі «Варгана», мы з сяброўкай ледзь не сур'ёзна завіслі ў чаканні сустрэць прывід якога былога навучэнца.

Ледзь не на кожным кроку застаюцца жыць успаміны. Ох, колькі ж шмат усяго было! Ад перакanання маіх аднагрупнікаў, што я не ведаю рускую мову, і іх просьб сказаць хоць слова па-руску да адчайных дыспутаў пра суражскія вароты. Мы абмяркоўвалі ўсё на свеце, адкрывалі людзей і саміх сябе, сутыкнуліся, напэўна, з усім, з чым толькі можна. Проста як у кнігах Сцівена Кінга. Смешна згадваць, якія мы былі (і колькі нас было!) і якімі мы сталі.

Ганаруся, калі ўсведамляю, наколькі асабіста я змагла вырасці за гэты час. Гэтыя пяць гадоў не толькі сфарміравалі мяне як самастойную асобу, але і аб'яднала мноства найважнейшых падзей. Але самае галоўнае: нас навучылі думаць. Мы зразумелі, як у гэтым свеце ўсё працуе. Нам паказалі, як можна ставіцца да жыцця, да чаго імкнуцца і якімі шляхамі куды ісці. Не магу ды і не хачу сказаць, што ўсе нашы выкладчыкі былі касмічна цудоўныя. Але дрэнныя прыклады часам вучаць больш моцна і карысна, чым добрыя.

...З акна трошкі дзьме, часам туды-сюды праходзяць студэнты. У многіх з іх усё яшчэ толькі наперадзе — што ж, зайздрошчу і жадаю поспехаў. Я заўсёды, напэўна, буду радавацца таму, што лёс прывёў мяне сюды. Бо, паўтаруся, гэта былі найлепшыя пяць гадоў майго жыцця. Шмат дасягненняў, маленькіх перамог (асабліва над сабой), выбітных людзей і проста радасці.

Калі-небудзь я напішу пра ўсё гэта кнігу. Але цяпер час ісці: спазняюся.

Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання

праект

# «ВАРШТАТ»

**Стагоддзі:** XVIII—XXII

**Месца дзеяння:** Полацк

**Акалічнасці:**

- падручнік Эмануэля Альвара «De institutione grammatica lingvae latinae» (1794) і «Разважанні для ксяндзоў свецкіх аб павіннасцях хрысціянскіх» Жозэфа Шэвасу ў перакладзе з французскай мовы на польскую, выкананым магілёўскім каадзьютарам, біскупам Янам Беніслаўскім (1799).
- друкарні — езуітаў і Хаіма Клячко.

**У выпуску:**

- Вольга Філімонава. Кнігадрук у Полацку: ад сёння да часоў піяраў і езуітаў
- Сяргей Шыдлоўскі. Кніга з Полацка: да традыцыі полацкай метагістарычнай прозы



**бь тере ёо ушфафвзд**

Увага! Была дапушчана памылка! У № 3 трэба чытаць:

**бь уомёью ёо м уфаыюте**

**Вольга Філімонава**

# Кнігадрук у Полацку: ад сёння да часоў піяраў і езуітаў

Калі б у нас спыталі, чым так адметны Полацк, мы прапанавалі б адключыць логіку, крыху адысці ад збітых, добра вядомых усім фактаў і звярнуцца да сферы эмоцый і перажыванняў. Тады ўсё становіцца зразумелым.

Полацк вабіць перш за ўсё сваёй сапраўды ўнікальнай атмасферай. Гэта адзін з нямногіх беларускіх гарадоў, што маюць уласныя твар і характар. Адчуць гэта можа кожны, і вельмі лёгка — варта толькі ўявіць сабе, колькі пакаленняў людзей хадзіла па тых вулках, што ляжаць пад нагамі цяпер. Здаецца, тут нават паветра прасякнута духам гісторыі, і кожны каменьчык на шляху можа распавесці мноства дзівосных казанняў пра даўнія часы. Тут сутыкаешся з гісторыяй ледзь не на кожным кроку, і горад шчодра раскрывае свае таямніцы: звычайная справа — знайсці медны солід часоў Рэчы Паспалітай, проста выправіўшыся падыхаць паветрам у музейны дворык. І гэта не жарты, а рэальныя гісторыі гасцей і гаспадароў Музея беларускага кнігадрукавання ў Полацку.

Вядома, горад не існуе асобна ад людзей, і такой надзвычай моцнай энергетыкай Полацк абавязаны найперш тым людзям, якія працавалі на яго карысць, здзяйснялі тут слаўныя ўчынкі, рэалізоўвалі свой творчы патэнцыял. А нараджала полацкая зямля людзей неардынарных, выбітных, сапраўдных тытанаў: смелых ваяроў, выдатных палітыкаў, моцных жанчын, таленавітых вучоных і асветнікаў, чыя дзейнасць не толькі паўплывала на лёс горада, але і часта вызначала развіццё ўсяго ўсходнеславянскага свету. І менавіта адсюль, з Полацка, паходзіць чалавек, які пазнаёміў наш народ з друкаваным словам.

Францыск Скарына нарадзіўся ў Полацку, але кнігі свае друкаваў у Празе і Вільні, што цалкам зразумела і лагічна, бо на той момант Полацк, як і ўсе беларускія землі, перажываў не лепшыя часы. Першая палова XVI стагоддзя прайшла пад знакам шэрагу войнаў з Маскоўскай дзяржавай, якія літаральна спустошылі беларускія землі. На той час Полацк не меў ніякіх умоў для адкрыцця выдавецкага прадпрыемства. Сёння нават не вядома дакладна, ці вяртаўся Скарына ў Полацк пасля таго, як у 1504 годзе з'ехаў на вучобу ў Кракаў. Верагодна, вяртаўся, бо тут заставаліся сваякі. З гэтай жа прычыны можна меркаваць, што ён прывозіў сюды свае кнігі. Але дакументальнага пацверджання таму няма. Тым не менш Скарына заўсёды падкрэсліваў, адкуль ён родам. Ён вынес гэтыя звесткі на тытульны ліст друкаванай ім Бібліі, і інакш як слаўным свой родны горад ён не называў.

Таму, калі ў канцы 1980-х гадоў у працэсе падрыхтоўкі святкавання 500-годдзя з дня нараджэння Францыска Скарыны было прынята рашэнне аб стварэнні Музея беларускага кнігадрукавання і паўстала пытанне, дзе яго ствараць, Полацку аддалі перавагу нават перад Мінскам, нягледзячы на тое, што на той час музей ствараць не было з чаго. Тады Полацк валодаў толькі маленькай калекцыяй лаціна-польскіх старадрукаў, цяпер жа калекцыя друкаваных выданняў Нацыянальнага Полацкага гісторыка-

### Пра незразумелыя літаркі на вокладцы праекта «Варштат»

*З нумара ў нумар, ад студзеня да снежня 2017-га на вокладцы сур'ёзнага праекта, прысвечанага значнай даце, размяшчаецца абракадабра?!*

*Ніякая не абракадабра, а… арбадакарба. Бааракадрба. Аьматацаьма. F,hfrflf,hf. Бвсблбебвсб. Што мы выкарысталі для зашыфроўкі такога простага слова «абракадабра» — тарабарскую грамату, мудрую літарэю, шыфр пад назвай ROT1, іншыя перастановачныя ключы?*

*На вокладцы нашага праекта размяшчаецца не абракадабра, а зашыфраваная частка выказвання. Займець цэлы зашыфраваны выраз магчыма толькі пры чытанні ўсіх нумароў «Маладосці» за год. Сабраўшы часткі ў парадку, які супадае з нумарацыяй часопіса, знайшоўшы ключ і расшыфраваўшы выказванне, можна атрымаць ад «Маладосці» шыкоўны прыз!*

*Месца выдачы прызоў — рэдакцыя «Маладосці». Тэрмін выдачы: 25—31 снежня 2017 года.*



культурнага музея-запаведніка (філіялам якога і з'яўляецца Музей беларускага кнігадрукавання) налічвае больш за 10 тысяч кніг розных часоў і на розныя тэмы.

Дзякуючы намаганням вялікай колькасці спецыялістаў — навукоўцаў, рэстаўратараў, мастакоў, дызайнераў і проста неабыякавых людзей, дзякуючы супрацоўніцтву розных устаноў культуры як у Беларусі, так і за яе межамі ў Полацку ўзнік музей, які без сумненняў можна назваць унікальным. Гэта адзіны ў Беларусі музей, цалкам прысвечаны гісторыі беларускай кнігі і тэхналогіі кніжнай вытворчасці, музей, дзе можна ў дэталях прасачыць развіццё нацыянальнай кніжнай культуры, а таксама ўбачыць, якім чынам і ў якіх умовах у розныя гістарычныя перыяды ствaралася кніга, пачынаючы ад самых першых манускрыптаў і прыйшоўшы да найноўшых і найлепшых сваіх варыяцый — кніг-лаўрэатаў конкурсу «Мастацтва кнігі».

Асобе Францыска Скарыны адведзена ў Музеі пачэснае месца. Па дакументах і копіях яго кніг можна прасачыць яго жыццёвы шлях і дзейнасць. У музеі можна ўбачыць, як магла выглядаць друкарня Скарыны, бо тут рэканструяваны інтэр'ер друкарні XVI—XVIII стагоддзяў. Асобная зала Музея прысвечана так званай Скарыніяне — працам навукоўцаў і мастацкім творам пра Скарыну.

Асобнай гаворкі заслугоўвае кнігадрукаванне ў Полацку. Як мы ўжо высветлілі, Скарына не мог друкаваць свае кнігі ў Полацку праз адсутнасць належных умоў для пачатку тут кнігадрукавання. Калі ж у Полацку з'яўляецца першая друкарня? Для таго, каб адказаць на гэта пытанне, а таксама зразумець умовы, пры якіх распачынаецца кнігадрук у Полацку, нам трэба ажыццявіць падарожжа ў гісторыю.

У канцы XVIII стагоддзя скончыла сваё існаванне Рэч Паспалітая — дзяржава, у якую ўваходзілі беларускія землі на працягу больш як двух стагоддзяў. Згодна з першыму падзелам Рэчы Паспалітай, што адбыўся ў 1772 годзе, правабярэжная частка Полацка адышла да Расійскай імперыі, і па Заходняй Дзвіне прайшла дзяржаўная мяжа. Полацкі езуіцкі калегіум, навучальная ўстанова каталіцкага Ордэна езуітаў, больш не мог карыстацца паслугамі друкарні Віленскай езуіцкай акадэміі, якая раней задавальняла патрэбы палачан у друкаванай прадукцыі, а з гэтага часу апынулася за мяжой. Крыху пазней, у ліпені 1773 года, Папа Рымскі Клімент XIV пад націскам некаторых еўрапейскіх краін з прычыны таго, што Ордэн езуітаў дыскрэдытаваў сябе актыўным умяшаннем у іх унутраную палітыку, аб'явіў аб ліквідацыі Таварыства Ісуса ва ўсім свеце. Аднак расійскія ўлады палічылі, што падпарадкаванне папскаму загаду на ўласных тэрыторыях дыскрэдытуе ў сваю чаргу інстытут самаўладдзя, і выконваць яго забаранілі. На гэты момант на далучаных да Расійскай імперыі беларускіх землях знаходзіўся 201 сябар Ордэна, з іх 97 працавалі ў Полацкім калегіуме. Такім чынам, Полацк раптам аказаўся буйнейшым цэнтрам Таварыства Ісуса не толькі на беларускіх землях, але і ва ўсім свеце. Сюды пачынаюць прыязджаць прадстаўнікі гэтай арганізацыі з усёй Еўропы — тыя, хто не пажадаў пакідаць Ордэн. Жыццё Полацкага калегіума працягваецца, а навучэнцам патрэбны кнігі.



Будынак Музея беларускага кнігадрукавання.

У 1780 годзе, аб'язджаючы новадалучаныя землі, у Полацк завітала Кацярына II. Наведала яна і полацкіх езуітаў, аб чым пісала пасля ў сваіх дзённіках: «Я была у них нынче утром, слушала «Тебе Бога хвалим» и посетила их дома. Там полное веселье. Вчера, въезжая сюда, я была поражена великолепием их представительности…» А таксама: «Надо признать, что эти мошенники — отличные люди. Нигде нет ничего подобного их школам». З яе дазволу ў Полацку быў створаны навіцыят для падрыхтоўкі кандыдатаў у езуіты, яна ж выдала прывілей на адкрыццё друкарні пры Полацкай калегіі Таварыства Ісуса. Так у 1787 годзе ўпершыню ў Полацку з'явілася свая друкарня.




Гарацый «Сачыненні». Полацк, друкарня езуіцкага калегіума, 1803 год.




«Імшал рымскі». Полацк, друкарня полацкіх піяраў, 1826 год.

І ад пачатку свайго існавання Полацкая друкарня стала даволі буйным выдавецкім прадпрыемствам. Перш за ўсё яна абслугоўвала патрэбы навучальнага працэсу ў калегіуме, таму друкавалася тут шмат падручнікаў і іншых вучэбнадапаможных матэрыялаў. Акрамя таго, друкарня выпускала кнігі шырокага ўжытку — з улікам патрэбы мясцовай грамадскасці: катэхізісы, малітоўнікі і духоўныя практыкаванні. Тут жа пачаў друкавацца першы на беларускіх землях часопіс — «Miesięcznik Połocki».

Музей беларускага кнігадрукавання ганарыцца тым, што мае ў сваёй калекцыі тры арыгінальныя выданні Полацкай езуіцкай друкарні. Першае з іх — славуты падручнік Эмануэля Альвара «De institutione grammatica lingvae latinae» («Аб вывучэнні граматыкі лацінскай мовы») (1794).

Лацінская мова з'яўлялася мовай заходнееўрапейскай навукі і адукацыі, каталіцкай царквы, міжнародных зносін. Веданне і свабоднае валоданне лацінай было неад'емным атрыбутам адукаванага чалавека.

Вывучэнне лацінскай мовы складала аснову гуманітарнай адукацыі Ордэна езуітаў. У той час адукацыя была строга рэгламентавана, як кажа польскі даследчык С. Кот, ад Ціхага акіяна і да Дняпра ў кожнай калегіі аднолькава вучылі: у адзін і той жа дзень і ў той жа час ва ўсіх калегіях у асноўным чыталася і абмяркоўвалася адно і тое ж… Настаўнікі карысталіся ўніфікаванымі метадычнымі распрацоўкамі, і падручнікі для навучання былі амаль ідэнтычныя. На працягу амаль трох стагоддзяў у езуіцкіх навучальных установах ва ўсёй Еўропе выкарыстоўваўся падручнік «Аб вывучэнні граматыкі лацінскай мовы» партугальца Эмануэля Альвара. Створаны ў XVI стагоддзі, толькі ў ВКЛ ён перавыдаваўся амаль два дзясяткі разоў. Сучаснікі казалі пра гэты падручнік: «Быў аўтар той вельмі спрактыкаваны ў лаціне, ды надта хочучы дакладным быць, зрабіў працу расцягнутай, заблытанай недарэчнымі вершамі, для навучання цяжкай, для забыцця лёгкай». Вучням прапаноўвалася завучваць на памяць пяць скланенняў лацінскіх назоўнікаў з выключэннямі, змяненні дзеясловаў у шасці часавых формах, чатырнаццаць асноўных сінтаксічных канструкцый.

Навучанне лацінскай мове замацоўвалася чытаннем і перакладам сачыненняў антычных аўтараў. Пасля заканчэння курса вучні павінны былі ведаць мову так, каб без цяжкасці чытаць і разумець Цыцэрона, Цэзара, Салюстыя, Вергілія, Гарацыя. З гэтай мэтай друкаваліся сачыненні антычных аўтараў, адаптаваныя для школьнага вывучэння, забяспечаныя каментарыямі. Яскравым прыкладам з'яўляецца выдадзены ў друкарні полацкіх езуітаў у 1803 годзе збор твораў Гарацыя з каментарыямі французскага езуіта Жозэфа дэ Жувансі.

Дастаткова вялікую частку друкаванай прадукцыі складалі рэлігійныя выданні, прызначаныя як для сябраў Ордэна і вучняў, так і для місіянерскай дзейнасці, «для люду». У фондах НПГКМЗ захоўваецца кніга «Разважанні для ксяндзоў свецкіх аб павіннасцях хрысціянскіх» (1799) — першая частка пяцітомнага выдання Жозэфа Шэвасу ў перакладзе з французскай мовы на польскую, выкананым магілёўскім каадзьютарам, біскупам Янам Беніслаўскім. Кніга змяшчае павучанні на кожны дзень тыдня, пачынаючы ад першага тыдня адвенту да тыдня запуснага.

Усяго ж за амаль 33 гады свайго існавання Полацкая езуіцкая друкарня выпусціла каля трох з паловай соцень найменняў друкаваных выданняў. Даследчыкі мяркуюць, што лічба гэтая можа даходзіць і да пяці соцень за кошт таго, што некаторыя з іх друкаваліся некалькімі асобнымі тамамі. Некаторыя выданні могуць быць невядомыя даследчыкам сёння або могуць быць атрыбутаваныя як полацкія ананімныя выданні. Аднак у сакавіку 1820 года з прычыны выдалення Ордэна езуітаў за межы Расійскай імперыі спыніла сваё існаванне навучальная ўстанова ў Полацку (якая да таго часу набыла статус акадэміі). Адпаведна, была зачынена і друкарня.

У 1822 годзе ўся рухомая і нерухомая маёмасць, што засталася ад полацкіх езуітаў, была перададзена пераведзенаму з Віцебска вучылішчу іншага каталіцкага ордэна — Ордэна піяраў. Піяры далей ажыццяўлялі кнігадрук на езуіцкім абсталяванні, але менш актыўна. Яны амаль не друкавалі падручнікі, за выключэннем бадай што адзінай працы Анёла Доўгірда «Логіка тэарэтычная і практычная» (1828). Увесь навучальны працэс грунтаваўся на вучэбных матэрыялах, дасланых з Вільні або Варшавы. Але тут друкаваліся, напрыклад, некаторыя богаслужэбныя кнігі. У экспазіцыі Музея беларускага кнігадрукавання прадстаўлены асобнік «Імшала рымскага» — літургічнай кнігі пра парадак вядзення імшы, надрукаваны полацкімі піярамі ў 1826 годзе.

«Путеводитель по городу Полоцку». Полацк, друкарня Хаіма Клячко, 1910 год.






«Разважанні для ксяндзоў свецкіх аб павіннасцях хрысціянскіх». Полацк, друкарня езуіцкага калегіума, 1799 год.

А ў 1830 годзе спыніла сваё існаванне і піярскае вучылішча. Падчас перадачы езуіцкіх будынкаў будучаму кадэцкаму корпусу было прынята рашэнне аб немэтазгоднасці існавання друкарні ў Полацку. Абсталяванне яе было адпраўлена ў Кіеў нядаўна створанаму ўніверсітэту святога Уладзіміра.

Кнігадрук у Полацку прыпыніўся на некаторы час, пакуль у 1874 годзе былы віленскі месціч Хаім Вульфавіч Клячко не атрымаў дазвол на адкрыццё ў горадзе прыватнай друкарні. Невялікая друкарня выпускала не толькі дробныя матэрыялы кшталту візітовак, афіш і брашур, але і кнігі ў пераплёце. Значную каштоўнасць уяўляе надрукаванае тут выданне «Путеводитель по городу Полоцку» (1910). «Путеводитель» быў падрыхтаваны Полацкім царкоўным брацтвам спецыяльна да надзвычай важнай для горада падзеі — перанясення мошчаў Ефрасінні Полацкай з Кіева ў Полацк. Выданне мае ўсяго 24 старонкі, аднак змяшчае мноства інфармацыі, карыснай сучасніку падзей і цікавай сёння краязнаўцам і гісторыкам. Спачатку змешчаны «Краткій очеркъ г. Полоцка» — яго геаграфічнае і адміністрацыйнае становішча і гістарычны агляд. А затым ідуць звесткі пра манастыры і храмы горада, гасцініцы і заезджыя дамы, сталовыя і чайныя, булачныя і пякарні, навучальныя ўстановы, кнігарні, урадавыя і грамадскія ўстановы, натарыяльныя канторы, фатаграфіі, бальніцы і аптэкі, гандаль, лазні і цырульні, вакзалы і паштовыя станцыі (у т.л. пра час прыбыцця і адпраўлення цягнікоў і параходаў), а таксама цэны на харчовыя прадукты, на праезд і кошт нумароў у гасцініцах. У дадатак да ўсяго змяшчаецца план горада Полацка.

У Першую сусветную вайну друкарня Клячко арганізавала выпуск ваенных зводак, з якіх палачане даведваліся пра навіны з фронту раней, чым з газет. Пра лёс друкарні пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі дакладных звестак мы не маем. Ёсць сведчанні, што яна была нацыяналізавана ў 1920 годзе, а Хаім Клячко быў расстраляны як уласнік у 1922 годзе (па іншых звестках, памёр у 1916 годзе).

Як бачым, Полацк узгадаваў вартых спадкаемцаў Скарынавай справы. Такімі былі старонкі гісторыі кнігадруку ў Полацку, такімі іх можна ўбачыць у Музеі беларускага кнігадрукавання. Якімі яны будуць заўтра, вызначаць нашы сучаснікі і нашчадкі, бо кім, як не намі, і калі, як не сёння, ствараецца гісторыя? Вядома, адпавядаць Скарыну надзвычай цяжка, аднак і не імкнуцца да гэтага немагчыма. Бо геніі заўсёды вабяць і цікавяць. Яны натхняюць дзейнічаць і ствараць. Калі змог аднойчы адзін чалавек, чаму не атрымаецца і ў нас з вамі?

**Сяргей Шыдлоўскі**

# Кніга з Полацка: да традыцыі полацкай метагістарычнай прозы

Першым вялікім мясцовым наратывам быў полацкі летапіс. Ён працягвае ўплываць на айчынны літаратурны працэс нават праз сваю адсутнасць. Гэтую адсутнасць і намагаюцца кампенсаваць нашы творцы, свядома ці падсвядома. Верагодна, адсюль вынікае адзін з вытокаў пільнай цікавасці да гістарычнай тэмы аўтараў з Полацка. Варта адразу ўдакладніць: традыцыя полацкай прозы стваралася і ствараецца не толькі людзьмі з мясцовай прапіскай. «Палачанін», калі размова ідзе аб сферы творчасці, дасюль азначае тое ж самае, што і ў часы Ўсяслава: духоўная гравітацыя Полацка дзейнічае далёка за межамі горада. Так, «Лабірынты» Вацлава Ластоўскага, безумоўна, належаць полацкай традыцыі і ў многіх рысах фарміруюць яе. З іншага боку, аўтар можа пісаць аб гістарычных постацях мінулага Полацка і заставацца аднак па-за межамі вышэйазначанай традыцыі, працуючы, напрыклад, паводле канонаў беларускага адраджэнскага асветніцтва. Што з'яўляецца ў гэтым выпадку маркерам прыналежнасці да полацкага наратыва? Безумоўна, гэта наяўнасць полацкай тэмы, якая ў большасці сваёй уключае гістарычную фабулу, але пераадольвае яе і выходзіць да метагісторыі, да гістарыясофскай рэфлексіі.

У адсутнасць летапісу любое мясцовае дакументальнае слова з мінулага — ад надпісаў на Барысавых камянях і крыжы Ефрасінні да выдзеўбаных на кроквах езуіцкага гарышча імён кадэтаў — лёгка камбінуецца з фантастычнай фабулай і адгукаецца ў міфе. Не са старонак полацкага летапісу мы ведаем, напрыклад, пра Усяслава Брачыславіча, а са «Слова пра паход Ігараў». Полацкім аўтарам-літаратарам прыходзіцца кампенсаваць хібы гістарычных крыніц павышанай міфатворчай актыўнасцю. Прастора полацкай мінуўшчыны займела таму моцны міфапаэтычны бэкграўнд. Метагісторыя пазнаецца часта праз азарэнні і сны. Адсюль распаўсюджаны матыў снаснення, які мы знаходзім у знакавых творах, што належаць полацкай традыцыі.

Такім чынам, полацкая празаічная традыцыя — з'ява пераважна метагістарычная. Метагісторыя ў дадзеным кантэксце разумеецца як метад рэканструкцыі гістарычнага працэсу сродкамі міфапаэтычнага наратыва пры недахопе гістарычнай (навуковай) факталогіі. Метагісторыя адлюстроўвае гістарычны працэс, але не прэтэндуе на ісціну ў апошняй інстанцыі. Падобны творчы падыход нечым роднасны практыкам «наратыўнай гістарыяграфіі» XIX стагоддзя, у якіх, паводле Х. Уайта, паэтычнае натхненне і майстэрства валодання словам звычайна разглядаліся як пажаданыя кампаненты [14, с. 12].

***

Да найбольш важных тэкстаў, якія ў многіх аспектах прадвызначаюць развіццё традыцыі полацкай метагістарычнай прозы, варта аднесці творы Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» (1844—1846), а таксама «Драўляны дзядок і кабета Інсекта» (1844—1847) [4].

Гісторыя засваення творчай спадчыны пісьменніка не насіла характару лінейнаузыходзячага працэсу. Былі часы, калі творчасць Яна Баршчэўскага здавалася надзейна забытай. Сапраўдны водбліск поспеху пісьменнік усё ж заспеў яшчэ пры жыцці, калі яго беларускамоўныя паэтычныя творы зрабіліся часткай мясцовага фальклору. Новае вяртанне з забыцця прыйшлося на пачатак XX стагоддзя: у 1911 годзе выйшаў біяграфічны нарыс Рамуальда Зямкевіча «Ян Баршчэўскі: Першы беларускі пісьменьнік XIX сталецьця» [9]. Пэўныя апавяданні з кнігі «Шляхціц Завальня» перакладаліся на беларускую мову і выдаваліся ў 1917 годзе Я. Станкевічам. Вацлаў Ластоўскі мусіў ведаць творчасць Яна Баршчэўскага, калі ствараў свае «Лабірынты». У савецкі час «Шляхціц Завальня» быў высока ацэнены айчыннай этналагічнай навукай. Аднак умовы для сістэмнага ўплыву твораў Баршчэўскага на развіццё беларускай літаратуры ўзніклі толькі пасля 1990 года, калі «Шляхціц Завальня» выйшаў на беларускай мове ў перакладзе М. Хаўстовіча. Спатрэбіўся пэўны час для творчага засваення і навуковага пераасэнсавання спадчыны Яна Баршчэўскага. Урэшце, на мяжы XX і XXI стагоддзяў творчасць яго атрымала



шырокі грамадскі рэзананс: з'явілася як навуковая, так і чытацкая рэфлексія, паводле твораў пісьменніка ставіліся спектаклі, здымаліся фільмы [3, 5, 7, 8, 10, 12, 15, 16, 17, 18].

«Шляхціці Завальня» — выдатная ілюстрацыя тэзіса постструктуралістаў пра тэкст, не роўны самому сабе ў розныя гістарычныя эпохі. Мы з'яўляемся сведкамі, як твор Яна Баршчэўскага набывае новыя сэнсы (напрыклад, інтэрпрэтацыя вобраза Плачкі). Ідзе інтэнсіўнае «учытванне» нашай эпохі — з яе надзеямі, ілюзіямі, фобіямі, спадзяваннямі — у тэкст стагадовай даўніны. Адкрытасць і адаптыўнасць, здольнасць рэзаніраваць з вібрацыямі новага часу з'яўляюцца якраз характарыстыкамі метагістарычнага наратыву.

***

Вектар развіцця традыцыі полацкай метагістарычнай прозы ў ХХ стагоддзі працягвае Вацлаў Ластоўскі ў творы «Лабірынты» (1923) [11]. Ён быў хіба першым, хто паспрабаваў спалучыць полацкі метагістарычны дыскурс з патрэбай разбудовы беларускай нацыянальнай культуры. Аднак сама беларуская нацыянальная культура ў інтэрпрэтацыі Ластоўскага выглядала атрыбутам Крыўі. Таму можна прывесці і адваротнае дапушчэнне: беларускі нацыянальны дыскурс выкарыстоўваўся пісьменнікам для актуалізацыі полацкай мінуўшчыны. Як бы там ні было, ідэалагічны парытэт быў вытрыманы: Вацлаў Ластоўскі праз удалы вобраз-метафару лабірынта пазнаў і выявіў скрыты ток полацкай метагісторыі і адначасова першым аформіў пераканаўчую заяўку ад імя маладога беларускага нацыяналізму на тысячагадовую гістарычную спадчыну Полацка.

Галоўная міфалагема, вакол якой выбудоўваецца твор, — лабірынт — гэта спалучэнне мясцовых летуценняў аб схаваных скарбах: каштоўнасцях цалкам матэрыяльных, з марамі нацыянальнай інтэлігенцыі аб вяртанні і засваенні духоўных здабыткаў народа, скрадзеных, занядбаных. З апорай на метадалагічныя падыходы П. Бурдзье падобныя намеры інтэлектуалаў можна кваліфікаваць як змаганне за сімвалічны капітал — імкненне ўступіць у фактычнае валоданне тысячагадовай гістарычнай спадчынай Полацка. Лабірынты — удалы вобраз, ён вярэдзіць фантазію і паспольства, і інтэлігенцыі.

Максім Багдановіч у пачатку ХХ стагоддзя ўгледзеў «цвяток радзімы» на шыкоўных паясах літоўскіх паноў. Власт жа мусіў цяпер адшукаць на крывіцкіх курганах «папараць-кветку». Больш ранняя спроба ў гэтым кірунку Канстанцыі Буйло бачыцца не зусім удалай. Усё ж Буйлянка была не мясцовай, хоць і пражыла ў Полацку колькі часу. Падземны чалавек ёй сваіх сакрэтаў не даверыў… Максім Багдановіч уводзіў у склад беларускага культурнага канона ліцвінскія коды, Вацлаў Ластоўскі мусіў дадаць у гэты плавільны тыгель крывіцкі інгрэдыент — такі сапраўдны рэцэпт беларускага цуду, алхіміі Адраджэння.

Власт застаўся ў памяці горада і праз яшчэ адзін свой учынак. Варта нагадаць, Ластоўскі як сябра «Камісіі па ахове помнікаў старасветчыны ў БССР» меў паўнамоцтвы, якія адкрывалі перад ім не толькі сакрэты мясцовай метагісторыі, але і рэальныя царкоўныя скарбніцы, дзякуючы чаму ён меў дачыненне да выяўлення шэрагу гістарычных рарытэтаў, у тым ліку крыжа Ефрасінні. «Нязменны сакратар Адраджэння» не збаяўся праклёну полацкай ігуменні — крыж быў вывезены са Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра.

***

Пантэон полацкіх герояў і мясцовых сюжэтаў быў значна пашыраны ўжо ў 80-х гадах ХХ стагоддзя дзякуючы творчасці прафесійнага літаратара, гісторыка па спецыяльнасці Ул. Арлова [2]. Пісьменнік спрыяў актуалізацыі полацкіх гістарычных постацей у агульнабеларускім патрыятычным дыскурсе, аднак, у адрозненне ад В. Ластоўскага, пераважаюць у гістарычных творах Ул. Арлова дыдактычныя аспекты адраджэнскай ідэалогіі.

У той жа час полацкія гістарычныя фрэскі ахвотна выкарыстоўваліся для аздобы гмаху нанова адроджанага беларускага патрыятызму. Аднак ужо на пераломе 80—90-х у адраджэнскіх інтэлектуальных колах адчувалася пэўная «стома» ад полацкай тэмы. Ул. Арлоў у гэты перыяд не стаў пісаць і пачаў друкавацца менш, аднак гістарычная тэматыка яго твораў няўхільна рэдукавалася і саступала месца… метагісторыі. Сапраўды, прарыў пісьменніка да полацкай

метагісторыі адбыўся не на старонках зборніка гістарычных аповесцей і апавяданняў «Дзень, калі ўпала страла» (1988), а ў эсэістыцы першай паловы 90-ых. На метагістарычным календары пісьменніка — доўгія 60-я, якія плаўна перацякаюць у застой — час легендарных людзей і знакавых учынкаў, час, калі партвейн быў саладзейшы. Ад гэтай эпохі вядуць свой радавод каларытныя полацкія двайнікі і цені. Менавіта тады адбылася знаная сустрэча са «стишатами» М. Багдановіча наваполацкага хлопчыка Віці, які стане ў будучым сапраўдным беларусам і неблагім пісьменнікам Вінцэсем Мудровым.

***

Ёсць спакуса паставіць знак роўнасці паміж метагісторыяй і казкай. Аднак разгортванне метагістарычнага дыскурсу ў межах казачнага жанру патрабуе адмысловага майстэрства. Спрабавалі многія, атрымалася ў адзінак кшталту Дж. Р. Р. Толкіна, Яна Баршчэўскага і хіба Пятра Васючэнкі [6]. Удалая казка не мае ўзроставых абмежаванняў: у цыкле аповесцей аб Кубліцкім і Заблоцкім для кожнага знойдзецца нешта сваё, у тым ліку для аматараў полацкай метагісторыі. Чытаючы казкі Пятра Васючэнкі, трапляеш у свет незвычайны, аднак пазнавальны. Ты дакладна ведаеш, што ніколі дагэтуль не сустракаўся з панам Заблоцкім, як і з Кубліцкім, тым не менш яны не чужынцы: тое-сёе пра іх ты ўжо чуў. Можа, ад бабулі? Ці нават раней бачыў іх партрэты ў старых без вокладак кніжках, што ляжалі на гарышчы? Гэта амаль што твае суседзі, якіх даўно не сустракаў, — адным словам, землякі.

***

У ХХІ стагоддзі развіццё традыцыі полацкай метагістарычнай прозы прынесла новы значны плён: з'явіўся першы раман пра Полацк — «Захоп Беларусі марсіянамі» Алеся Аркуша [1]. На пытанне аб паходжанні ідэі новай кнігі пісьменнік адказвае, што прапанову напісаць раман з такой назвай ён атрымаў у сне ад Вацлава Ластоўскага. Некаму гэта тлумачэнне можа падацца спробай літаратурнай містыфікацыі, некаму — метафарай, хтосьці ацэніць яго як дасціпны рэкламны крок, але, мяркую, варта словы аўтара кнігі ўспрымаць літаральна. У старых, па-сапраўднаму старых ганрадах тканіна явы і сну ўзаемазвязана па прынцыпе сазлучаных сасудаў, аб чым ведаюць пісьменнікі.

Чытача інтрыгуе пытанне, хто тыя марсіяне, што вядуць падступныя дзеянні ў Полацку. Варыянтаў адказу на гэтую загадку ў айчыннай літаратурна-мастацкай прэсе прагучала ўжо багата, няма патрэбы іх паўтараць. Дадамо ўласную версію, як на капыл палачаніна, Алесь Дудар, галоўны герой рамана А. Аркуша, у пэўным сэнсе таксама той яшчэ марсіянін, толькі не вельмі ўдалы. Зваліўся ён аднекуль амаль што з неба — са сталічнага горада Менска — пакруціўся, пашыхтаваў трохі тубыльцаў і знік, як сон. Разабрацца ў дзеяннях марсіян у наш час стала не проста. Іх ужо настолькі многа, што яны вядуць вайну за жыццёвую прастору паміж сабой, пакінуўшы да часу тубыльцаў у спакоі.

У цэлым бачыцца заканамерным з'яўленне ў творчым набытку А. Аркуша гэтай кнігі. Мяркую, у чыннасці полацкай філіі Маладняка і асабіста Алеся Дудара ён бачыць пэўныя паралелі са сваёй дзейнасцю як арганізатара літаратурнага працэсу. Пісьменнік здаўна цікавіцца гісторыяй полацкіх маладнякоўцаў. З'яўленню рамана папярэднічала публікацыя шэрагу яго артыкулаў, прысвечаных дадзенай тэме. А. Аркуш выдаў зборнік вершаў Г. Брэсцкай, якая мела дачыненне да полацкага творчага асяродка 20-х гадоў мінулага стагоддзя. Гэты інтарэс за апошнія два дзесяцігоддзі, мяркую, набыў ужо якасць прафесійных ведаў. Падобная апантанасць тэмай мусіла мець вынік.

***

Варта згадаць яшчэ адну полацкую кнігу — зборнік выбранага Алены Ніякоўскай «Там, дзе буяла жыта» (2016) [13]. Фармат выбранага — звычайная з'ява ў бібліяграфіі амаль любога літаратара. Дзякуючы ўдумліваму адбору тэкстаў для зборніка пісьменнік паўстае перад чытачом у найбольш прывабным выглядзе: святочна ды імпазантна. Выбранае дае магчымасць прадэманстраваць лепшае з творчага набытку. Выбранае як візітоўка... Зборнік Алены Ніякоўскай здаецца, адрозніваецца ад гэтай схемы. «Там, дзе буяла жыта» — гэта кніга, якая прэзентуе творчы досвед... чытача, — ідэальнага, інтэлігентнага, дас-

ведчанага, неабыякавага. Чытача-суразмоўцы, кангеніяльнага творам Я. Брыля і У. Караткевіча. Алена Ніякоўская рэалізавалася як педагог і даследчык, але перш за ўсё як незвычайны чытач, што можа канцэптуалізаваць свае ўражанні ды інспіраваць з'яўленне новых твораў і нават літаратурных кірункаў, як гэта сталася з «пострамантызмам» у творчасці сяброў ТВЛ 90-х гадоў мінулага стагоддзя.

Вышэйпералічаныя імёны літаратараў і назвы кніг, на маю думку, найістотнейшыя на шляху развіцця традыцыі полацкай метагістарычнай прозы, аднак апошняя ўключае ўсё ж значна больш шырокае кола творцаў. Гэта невядомы аўтар «Жыція прападобнай Ефрасінні Полацкай»; бытаапісальнікі XIX стагоддзя (польскамоўны В. К. Савіч-Заблоцкі і рускамоўны А. Р. Пшчолка); стваральнікі краязнаўчага дыскурсу, пачынаючы з К. А. Гаворскага і не заканчваючы І. П. Дэйнісам. Гэта аўтар першага і пакуль адзінага рамана пра Наваполацк Т. Хадкевіч; дзясяткі суаўтараў вуснай народнай прозы, якая была выдадзена ў этнаграфічных зборніках У. Лобача і У. Філіпенкі; гэта «полацкія» артыкулы В. Галубовіча, у якіх дакладная фактаграфія і метадалагічная дасканаласць спалучаюцца з бліскучай інтуіцыяй... Традыцыя полацкай метагістарычнай прозы працягвае даваць плён.

## Літаратура


1. Аркуш, А. Захоп Беларусі марсіянамі / А. Аркуш. — Полацк: Выдавецкая ініцыятыва «Полацкае ляда», 2016. — 140 с.

2. Арлоў, Ул. Дзень, калі ўпала страла: аповесці і апавяданні / Ул. Арлоў. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1988. — 233 с.

3. Балахонаў, С. Кліч у вечнасць, альбо Колькі разваг над «беларускім Улісам» / С. Балахонаў // Наша слова. — 1999. — 27 студ. — С. 4—8.

4. Баршчэўскі, Я. Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях / Я. Баршчэўскі ; Уклад, пер. с пол. і камент. М. Хаўстовіча. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1990. — 383 с.

5. Бахарэвіч, А. Курсіў чарнакніжніка (Ян Баршчэўскі) / А. Бахарэвіч // Гамбурскі рахунак Бахарэвіча. — Мінск: Выдавец І. П. Логвінаў, 2012. — С. 70—77.

6. Васючэнка, П. Жылі-былі паны Кубліцкі ды Заблоцкі / П. Васючэнка. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2003. — 104 с.

7. Васючэнка, П. Крыўскі слоўнік паводле Яна Баршчэўскага / П. Васючэнка // Крыніца. — 1999. — № 7—8. — С. 18—25.

8. Вінаходаў, Д., Нікалаеў, М. Пецярбургскія адрасы Яна Баршчэўскага / Д. Вінаходаў, М. Нікалаеў // Літаратура і мастацтва. — 2009. — № 10. — С. 14.

9. Зямкевіч, Р.А. Ян Баршчэўскі: Першы беларускі пісьменьнік XIX сталецьця (успамін у 60-летнюю гадаўшчыну сьмерці) / Р.А. Зямкевіч. — Вільня: Друкарня Марціна Кухты, 1911. — 12 с.

10. Кавалёў, С. Звар'яцелы Альберт або Прароцтвы Шляхціца Завальні: П'еса-містыфікацыя ў 2-х дзеях па матывах твораў Яна Баршчэўскага / С. Кавалёў // Тэатральная Беларусь. — 1992. — № 2. — С. 2—19.

11. Ластоўскі, В. Лабірынты / В. Ластоўскі // Выбраныя творы. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 1997. — С. 47—72.

12. Лобач, У. А. «Поле культуры» у традыцыйным светапоглядзе беларусаў Падзвіння (паводле твораў Яна Баршчэўскага) / У. А. Лобач // Вестник Полоцкого гос. ун-та. Серия А. Гуманитарные науки. — 2008. — № 7. — С. 2—12.

13. Ніякоўская, А. Там, дзе буяла жыта / А. Ніякоўская. — Полацк: Выдавецкая ініцыятыва «Полацкае ляда», 2016. — 164 с.

14. Уайт, Х. Метаистория: Историческое воображение в Европе XIX века / Х. Уайт ; Пер. с англ. под ред. Е.Г. Трубиной и В.В. Харитонова. — Екатеринбург: Издательство Уральского университета, 2002. — 528 с.

15. Хаустовіч, М. В. На парозе забытае святыні: Творчасць Яна Баршчэўскага / М. В. Хаустовіч. — Мінск: Права і эканоміка, 2002. — 186 с.

16. Шыдлоўскі, С. А. Шляхецкі саслоўны ідэал у творах Яна Баршчэўскага / С. А. Шыдлоўскі // Вестник Полоцкого государственного университета: Серия А (гуманитарные науки). — 2005. — № 7. — С. 128—134.

17. Шыдлоўскі, С.А. Шляхецкі этас у творах А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш» і Я. Баршчэўскага «Шляхціц Завальня» / С.А. Шыдлоўскі // Acta albaruthenica: Нав. зборнік / пад агул. рэд. М. Хаўстовіча [і інш.]. — Выпуск пяты. — Мінск: Права і эканоміка, 2005. — С. 177—181.

18. Шыдлоўскі, С.А. Уласныя імёны ў кнізе Я. Баршчэўскага «Шляхціц Завальня», як крыніца рэканструкцыі этнічнай карціны свету прывілеяванага саслоўя беларускага Падзвіння ў першай палове XIX ст. / С.А. Шыдлоўскі // Беларускае Падзвінне: вопыт, методыка і вынікі палявых даследаванняў (да 80-годдзя пачатку археалагічных раскопак у г. Полацку): зб. навук. прац рэсп. навук.-практ. семінара, Полацк, 20—21 лістап. 2008 г. / пад агул. рэд. Д.У. Дука, У.А. Лобача. — Наваполацк: ПДУ, 2009. — С. 287—290.

# Досціны будні #7:

## Сталасць прыходзіць незаўважна













На папярэдняй старонцы:
**«Нашы Руіны»**
**Аўтарскі праект Уладзіміра Цвіркі**

Брэсцкая вобласць, Бярозаўскі раён, вёска Старыя Пяскі.
Брама сядзібы Пуслоўскіх. 1848 год.

У кожным нумары часопісаў «Маладосць» і «Бярозка».
Поўны камплект выяў будзе мець той, хто чытае абодва выданні.


ISSN 0131-2308





